# ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ

ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ



1933

ЛЮТЫ—САКАВІК



КНІГА ДРУГАЯ-ТРЭЦЯЯ



# ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ

ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА
І МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ
І КРЫТЫКІ

ОРГАН АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТУ
САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ Б. С. С. Р.



**КНІГА ДРУГАЯ І ТРЭЦЯЯ**

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ЛіМ

МЕНСК 1933

Якуб Колас

# НА ШЛЯХОХ ВОЛІ

## У шпіталі

### XIX

Палошча лісьце стромкі топаль
У хвалях сонечных глыбінь.
Глядзіць у вокны неба сінь,
Зіхціць-струменіць зьяньне кропель
У ясна-багрыстым патопе,
Што наступае на Валынь.
Усьмешка сонечнага раньня
Дрыжыць, іскрыцца за акном.
Шпіталь яшчэ абняты сном.
Прывідны страх крывавых зданьняў,
Як хваравітае насланьне,
Складае вычварны разлом.
І часта той ці іншы хворы
У забыцьці ці проста ў сьне,
З гарачкі гутарку пачне,
Падасьць каманду, а каторы
Пад стогны, крыкі, разгаворы
Зубамі злосна скрыгане.
Дзяжа прачнуўся рана-рана
Чуць дзень займацца стаў на сьвет.
Глядзіць—палатка-лазарэт,
Бальнічны пах б'е ў нос пагана.
Навокал з сорак душ сабрана—
Краса ваяцкая і цьвет.
Барыс палатку азірае,
Калег-суседзяй з двух старон.
Але ў якой-жа ролі ён?
І мысьль пякучая, старая
Яго зноў моцна забірае.
Да можа гэта толькі сон?
На жаль ня сон! І востра ўсталі,
Мут разганяючы, як дым,

І чэх і Насьця перад ім,
І гром гармат, і скогат сталі,
І ўсё, што здарылася далей,
І ўсё, што сталася прад тым.
І гэта злучнасьць зьяў-здарэньняў.
Крушэньне мар яго і кроз,
Што так нядаўна перанёс,
Знайшлі сваё і выраженьне
У горкім слове „паражэньне"...
Ну, што-ж? відаць такі ўжо лёс,
Суняць ён хоча горыч здрады,
Забыць той выпадак благі.
Настроіцца на лад другі,
А думкі—ў іх свае загады—
Яго нясуць у сад, прысады
На крыльлях смутку і тугі.
Але сьціраецца памалу
Сардэчных боляў вастрата...
Цяпер адзін ён, сірата.
Адной ілюзіяй менш стала.
Надзеі-мары растаптала
Чыясь варожая пята...
А дзень ідзе сваёй чаргою,
Гучней бярэ свае правы,
А сонца з багны-сінявы
Жычліва матчынай рукою
Чароты песьціць над ракою,
Лясы, палі і паплывы.

Лагодны ветрык, бы той дбалы,
Руплівы хлопчык-пастушок,
Іграе ў срэбраны ражок
Ды гоніць хмаркі на прагалы
Бязьмежных далеч гонам сталым
На аксамітны муражок.

Пачаўся рух і за сьцяною
На мірных плошчах гарадка
Пад сьвіст залівісты гудка
Дзесь ціха, глуха стараною
У той з санлівай цішынёю
Гурчыць павозка яздака.

Зьвініць напэўная гаворка
Жанчын вясковых і дзяўчат
На свой валынскі толк і лад,
А ў прыадчыненую створку,
Як срэбра сыплецца з надворку
Вясёлы шчэбет птушанят.

Акорды гамы, колісь чутай—
Цяпер яно дзесь на той бок—
Плывуць, даносяцца здалёк,
І перажытыя мінуты
З налётам ціхае пакуты
У сэрца мкнуць паўторны крок.
А тым-жа часам і палатка
Патроху стала ажываць,
І сям-там гутарка чуваць,
Заўвага крэпкая, нататка
З таго ці з іншага выпадку
Каб боляй форсу захаваць.
Сям там струменем кучаравым
Дымок расходзіцца ўгары.
Знаёмства, прыяцель стары,
Сустрэча, выпадак цікавы,
І разгаворы пра забавы
Шчасьлівай колішняй пары.
Зьмест іншых тэм—баі, раненьне,
Спачынак, доктарскі агляд,
Эвакуацыя назад,
Чыны, па службе павышэньне,
Надзеі тайныя, сумненьні.
На думцы-ж далей ад гармат.
Ну, словам—тыл—іх прывілея—
Ніхто сабе ня мысьліць зла...
Увага, ша! сястра ўвайшла!
Сястрыца, белая лілея!
Палатка разам весялее,
Як вулей, дружна загула.
І вочы ўсе, як па загаду,
Як па камандзе—раз, два, тры!
Абарачаюцца к сястры—
Такую мае яна ўладу!
Сьмяецца ўсім, і ўсе ёй рады—
Дзяўчына—што ні гавары!
К таму-ж і стройна і прыгожа,
А разам з тым і малада,
А стрэльне вочкамі—бяда:
Яшчэ раз ранных раніць можа
І сівавусых—крый іх божа—
Зьвядзе з пуціны бяз труда.
З усіх куткоў ёй на сустрэчу
З лахматых, стрыжаных галоў
Бягуць, ляцяць патокі слоў,
І што ні слова, то да рэчы,
Адна ўжо постаць яе лечыць
І лепш за ўсякіх дактароў.

Адзін

Сястрыца, радасьць наша!

Другі

О, фэя добрая, ура!

Трэці

Благаславенна боляў чаша:
У ёй крыніцы ёсьць дабра—
Вы, мілая сястра!

Чацьверты

Што новага, сястрыца?
Як доўга быць тут нам?

Пяты

Мой рай—бальніца,
І век я быў-бы там,
Дзе ёсьць такая чараўніца.

А ёй ня нова гэта зьява,
І гэта стрэча, і парад,
І той вясёласьці зарад.
Яна глядзіць на ўсіх ласкава:
Хіба-ж пабачыць ня цікава,
Як кожны ранены ёй рад?
І проста, ветла і адкрыта
Пытае, хто прыбыў пазьней,
Ці быў у доктара ці не
І піша сьпісак дзелавіта,
А ў мысьлях тоіць штось нібыта,
Бы плян, надуманы раней.
Ды сэрца як пазнаць дзявоча
І тайны пульс яго згадаць,
Каб дзеўчай тайнай ўладаць?
Яна сама ідзе ахвоча
Да гэтых хворых, бо ня хоча
Іх непакоіць, турбаваць.
Падыдзе, спыніцца, спытае
Імя і прозьвішча і часьць,
Жычлівым поглядам абдасьць.
І гэты погляд, яснасьць мая,
Даўжэй, карочай затрымае,
А хворым—козыры пад масьць.
Дзяжа настроены варожа
Па раду цэламу прычын
Супроць нявернасьці жанчын,
Глядзеў сурова з свайго ложа

І думаў—хоць ты і прыгожа,
Ды не кранеш мяне—амін!
І абмяркоўваў нават пляны,
Які павінен выгляд мець,
Каб халадней яе сустрэць.
А ж тут яна нейк нечакана!
Зірнула хораша, аддана,
Як можа дзеўчына глядзець.
Спытала прозьвішча, зірнула.

Сястра

Барыс Міхайлавіч вы? Так?—
І на яе зірнуў юнак.
Усьмешка дзеўча прамільгнула
І сэрца жорсткае кранула,
І абязброен мой ваяк.

Дзяжа

А скуль вядома вам
Імя маё, сястрыца?

Сястра

Адказу я ня дам,
Бо гэта—таямніца.

Дзяжа

Мне-ж так і не дано
Вайсьці ў сьвятых сьвятое?

Сястра

Вы мысьліце адно,
А вынікне ня тое.

Дзяжа

Вы—піфія, даруйце мне, сястрычка:
Патрэбны тлумачы,
Каб мне тут памагчы,
Хоць кончык нітачкі убачыць невялічкі
І даць парады,
Як разгадаць загадкі і шарады.

Сястра

Прыду вам на падмогу:
Ня будзьце злы
І выйдзеце з імглы
На верную дарогу.

Дзяжа

А каб поўная гармонія была,
Спакой душы і сэрцу мір,
То дайце за адно ўжо і псалтыр,
Як шчыт, гарантыю ад зла.

Сястра

Вы ў настрою,
І гэта—добры знак,
Ды помніце аднак—
Было калісьці штось такое...
Зірнула хітра, пранікліва,
Кіўнула—ёй ісьці пара...
Што значыць гэта ўся ігра?
Інтрыжка? жарцік дурасьлівы?
І ён раздумвае маўкліва,
На што ківала тут сястра?
Сусед—паручык павайдросьціў:
Аб чым-жа гэта наш герой
Шаптаўся доўга так з сястрой?
Няўжо пра любасьці-мілосьці?
І трошкі мучыўся ад злосьці,
Ну, проста зьнізіўся настрой.

Паручык

Знаёмая?

Дзяжа

Ня больш, як і вам.

Паручык

Аднак-жа час яе візыту,
Ды шапатком яшчэ прыкрыты
Гм!.. за сябе гаворыць сам.

Маргнуў паручык хітравата,
Як-бы раскрыўшы тайну змоў—
Без тлумачэньня ясна, моў,
Але Барыс маўчаў зацята,
Сваімі мысьлямі заняты,
Каб сэнс уцяміць яе слоў.
І раптам думка, як зарніца
Узьлётам крыльляў агнявых
Расьсекла мрок у адзін міг,
І стала яснай таямніца:
Была-ж яшчэ адна „сястрыца“—
Аб ім была гаворка ў іх!..

І як-жа гэта магло стацца—
Тут сам сябе ён пажурыў
За гэты памяці прарыў—
Забыць „сястрыцу“? забыць „брацца“,
Якім ня грэх пацалавацца?
Ну як, пра Галю ён забыў?
Другою сьцежкай пуцявінай
На украінскія палі
Яго развагі паплылі.
У сэрцы туляцца ўспаміны
Пра тыя слаўныя хвіліны,
Што разам з Галяй правялі.
І сама Галя, як жывая,
Яе даверлівасьць і страх
І шчырасьць ясная ў вачах,
Што гэтак хіліць, зазывае.
Цяпер у памяці ўсплывае
І гоіць боль яго зьняваг.
Успомніў ён і абяцаньне
Падаць ёй вестку аб сабе...
Вось дзе разгон яго журбе!
І ён, як нейкае літаньне
Складае ў мысьлях ёй пасланьне
Пра свой замкнуты кругабег.
Прыблізна вось у якім тоне
Плыве, цячэ з душы само
Яго журботнае пісьмо,
Граніц ня знаючы ў разгоне:
„Мой любы друг, сястрычка Галя!
Я так пакінут, адзінок!..
Маё пісьмо—жальбы вянок,
Пакут суцэльныя скрыжалі,
І я цяпер гляджу бяз жалю,
Куды прычаліць мой чаўнок.
Быць можа мне і не да твару
Такім пісьмом вам дакучаць,
Ды цяжка, Галя, мне маўчаць,
Насіць, таіць атруты чару,
І я вас выбраў, як ахвяру,
Каб зьняць маўклівасьці пячаць.
Калі я ў мысьлях кіну вокам
На ўсе падзеі гэтых дзён,
Яны ўстаюць, як цяжкі сон,
Працяты жудасьцю і мрокам...
Як сьвежа ўсё, а як далёка
Гучыць прыглушаны іх звон!..
Але ў разгар натхненнай плыні
Пачуцьцяў, вобразаў і слоў

Сястра ідзе сюды ізноў
І бег лірычных думак пыніць,
Чытае сьпісак з важнай мінай,
Не прапускаючы чыноў.
Чыны і прозьвішчы, імёны...
У сьпіску тым і мой герой.
Лірызм прапаў. Другі настрой.
Другая песьня ў іншых тонах.
Асоб, у сьпіску памянёных,
Чакае доктарскі пакой.
Дзяжа крыху усхваляваны
Надзеў свой больнічны халат
Ды йдзе на доктарскі агляд,
Нясе кантузіі і раны,
А-ж тут выпадак нечаканы—
Сястра... заве яго у сад!
Ну, якой такой сястры пярэчыць?
І ня мужчына быў-бы той,
Калі-б ёй раптам даў адбой.
К таму-ж яшчэ, сказаць да рэчы,
Якраз аб гэтакай сустрэчы
У думках марыў мой герой.
І ён забыў настрой самотны,
Лірычны тон і дактароў,
Пачуўся нават, што здароў.
З сястрой у сад ідзе ахвотна
Прыгодам сэрца мімалётным
Аддаць падатак ён гатоў.
Сястра-ж спытала мімаходам

Сястра

Скажэце праўду: што цяпер
У вас на мысьлях, кавалер?

Дзяжа

Я думаю—прыемная прыгода,
Але жанчынам
Ня вер ніякім чынам
Сястры—і то ня вер!

Сястра

Ня надта мілае сьцьвярджэньне...
На чым заснована такое заключэньне?
І погляд гэтакі пануры?

Дзяжа

На хісткасьці жаночае натуры.

Сястра

Ну, песенька старая!
На тысячы сьпявалася ладоў.
Як людзям, ёй гадоў.
Ці стойкая-ж сама натура тая,
Што песеньку старую паўтарае?
Яна закінула галоўку
Ды зазірнула ў вочы тая,
Што мой герой зусім адмяк,
Забыць гатовы забастоўку
І тон свой строгі, устаноўку,
Ды ў рукі ўзяў сябе аднак.

Дзяжа

Ня так багаты гэтым дарам,
Каб мог прышывіцца я вашым чарам.

Сястра

Каторы-ж раз
Сьпяваеце на гэтыя матывы?

Дзяжа

Сястрыца! скептык вы на дзіва
Не разгадаю вас.
Адно магу сказаць:

Сястра

На язычок вастра,
Вузельчыкі-ж яе ня лёгка разьвязаць,
Каб разгадаць яе сакрэты і намёкі.

Сястра

Разгадка-ж ім зусім тут не далёка.

Дзяжа

Час з часу не лягчэй—
Канца няма палону!..
Рассуньце-жа хутчэй
Таемнасьці заслону!

Сястра

Даруйце мне, што я вас інтрыгую,
Але ня вінна ў гэтым я—
Такая місія мая.
Ідзеце-ж унь туды—убачыце, другую:
Яна разгадка недаказу
І ясна ўсё вам стане зразу—
І на альтанук паказала.

Там, у цяні купчастых ліп,
Туліўся круглы стол, як грыб.
Бародка зелені прыўдала
Наўскруг вілася ўскрай прагалу,
Прыгожа тулячы агіб.
Зірнуў пад шаты лісьцяныя,
І бачыць зьдзіўлены Барыс
Дзявочай постаці абрыс,
І сэрца ў нейкім смутку ные
Ды мкне яго пад сховы тыя,
Дзе спушчан зелені карніз.
Ступае крок, ідзе нясьмела.
Ён тут адзін, няма сястры—
Сястра дзесь зьнікла ў гушчары.
Глядзіць, спыняецца зьнямелы:
Яна ці здань ў адзеньні белым?
Прывід мінулае пары?

Дзяжа

Насьця, ты?

Насьця

Барыс, мой любы, залаты!
І больш чакаць яна ня ўсіле,
Стрымаць ня можа свой парыў,
Сама бяжыць на той прызыў,
Усё забыўшы ў гэтай хвілі,
І да яго яе ўсю хіліць
Бяздумнай радасьці прыліў.
Падбегла, рукі палажыла
Яму на плечы згарача,
Упаўшы тварам да пляча.
Хіба ж таго не заслужыла,
Каб ён зірнуў ласкава, міла
З даўнейшай прыязьню ў вачох?
А ён адводзіць яе рукі
І адступае крок назад.

Насьця

Ты мне ня рад?
Зьнімі ж з мяне хоць мае мукі
Ды дай пачуць мне тваё слова
І ня судзі мяне сурова!

Дзяжа

Судзіць? а за што, Насьця?
За тое, што другі,

Табе больш блізкі, дарагі?
Хто-ж можа сэрцу прыказаць
Да мілага пуціны завязаць,
Праграму сэрцу скласьці?
Ты вольна ў выбары сваім...
Канец ілюзіям пустым!
А тое, што было
Травою зарасло,
Разьвеяна, як дым...
Я крыж паставіў над былым,
І да яго няма звароту!

Насьця

Няма?... І гэта ўсё? і больш нічога
Не засталося ад былога?
Яго ты кінуў, як дуроту?

Дзяжа

Не: ў спадчыну пакінуты руіны
Разьбітых мар у выцьвіўшай красе,
І іх вятруга растрасе,
І будзе цень адна—ўспаміны.

Насьця

І ня спытаеш ты мяне,
Чым я жыла, чым я жыву?
Які цяжар мне паў на галаву?
І смутак мой цябе ўжо не кране?

Дзяжа

Я верыў, Насьця, твайму смутку,
І гэты смутак мяне вёў
Між сьмерці, трупаў і дратоў.
Каго-ж знайшоў я? баламутку
Каб не сказаць яшчэ і горай,
Ды каханка яе ў шпорах.

Насьця

Ну, што-ж? хай буду вінавата,
Але ці зьмерыў ты маю віну?
У сэрца мне ці зазірнуў
Вачамі друга, брата?
Ды не апраўдвацца прышла я,
Не для таго, каб зноў цябе вярнуць,
Бо сэрца не крануць,
Калі яно каханьнем не палае.
Адно мяне таміла

І мучыла бяскрайняю журбою—
Няведаньне, што сталася з табою,
Ты зьнік, як немая магіла.
Цяпер-жа я шчасьліва ўжо і тым,
Што я цябе знайшла і цэлым і жывым.
Што больш казаць?... Бывай
І ліхам ты мяне не памінай
Ды аба мне ня думай ты фальшыва.

Дзяжа

Ідзеш?

Насьця

Іду. Бывай шчасьлівы!

Дзяжа

І гэта ўжо—канец,
Трагічны міг разьвязкі?

Насьця

Ня трэба вымучанай ласкі:
Яна—цярновы мне вянец
І чарка горычы, налітая праз край.

Дзяжа

Мяне ты пакідаеш?

Насьця

Ты гэтага жадаеш.
Бывай!

І борзда цьвёрдаю ступою
Пашла Настуся між прысад,
Не азірнуўшыся назад,
А ён з зацятасьцю тупою
Стаяў з паніклай галавою
І разважаў, хто вінават.

Кастрычнік 1932 г.

Міхась Лынькоў

# НА ЧЫРВОНЫХ ЛЯДАХ

(аповесьць)

## I. ЦІХІЯ СЯЛІБЫ

Павісла сонца над крутой гарой.

Яно ўсё ніжэй і ніжэй апускаецца над зямлёй, вось уселася ўжо на сук вілаватага дуба—на гары, па-над кручай. Здаецца, угінаецца сук пад сонцам і вось-вось скоціцца яно, бразьнецца на зямлю, расколецца на бліскучыя аскалёпкі.

Але сонца цэлае, толькі робіцца ўсё большым і большым, абліваючы чырваньню верхавіны дубоў, ветраковыя махі і статак курганоў. Чырваньню гарыць неба, і ў гэтай чырвані губляе сонца сваю залатую празрыстасьць—можаш сьмела глядзець у векавечнае сонцава вока, гатовае замружыць свае касьнікі-расьніцы на адпачын, на ноч, на сонечны сон. І, здаецца, пераплятаюцца празрыстыя праменьні з нябачнымі струменямі цішыні, з крышталёвым спакоем вечару, з ледзь чутнымі подыхамі вячэрняга ветрыку. Ён нясе з паплавоў пах росных красак, пах травы мядуніцы, пах соннага чабару з па-над кручы. Сіратой праляціць пчала, дзынкнуў і спалохана змоўк, выцяўшыся аб сьцябліну, шмель, сьпяшаючыся на радзімую купіну. Дзесьці ля балота заблеяў баранчык, яму адгукнулася над Дняпром кнігаўка, і адразу пачалі цямнець і прыбярэжныя кусты і вілаватыя дубы над крутою гарою і ў кудзеркі туману пачалі спавівацца вадзяныя струмені. Дняпро дыхнуў халадком, вільгацьцю ды пахам прыбярэжнае цьвілі, гнілога багавіньня і рыбнае мялюзгі, павыкіданай за дзень рыбалкамі.

У недасяжнай вышыні засьвяціліся першыя, яшчэ бледыя, дрыготкія зоры, якія і можа заўважыць хіба толькі спрактыкаванае Лаўрэнава вока.

— Ужо, запаліліся... Ну што-ж... На тое ўжо воля боская, каб кожная гэта ды на сваім месцы... Днём вось сонца, а нанач месік выходзіць... Ды дзе яму аднаму. Таму і паліць бог свае няўміручыя ліхтары... І кожнай душы чалавечай па зорцы—як каму талент, як каму боская міласьць: аднаму меншая, другому большая. А загіне душа—згасьне ліхтарык... І паляціць небам, а куды—невядома... Грахі нашы, няйначай... А паліць ужо час...

Лаўрэн падцягвае плячмі ад вячэрняга холаду, зашлікае на ўсе гузікі ватоўку, і, дастаўшы з пад куста вясло і ліхтар, спускаецца да самай вады. З ціхім, ціхім, ледзь чутным для вуха шорхатам ліжа яна шурпатыя берагі—вільготныя, росныя. Лаўрэн доўга і марудна адвязвае човен, прымайстроўвае ў ім абярэмак сухога сена, палішь ліхтар, асьцярожна ставіць яго на дошчачку, дзе стаіць некалькі пляшак з газай, ляжыць шматок пакульля. Адштурхнуўшыся ад берагу, Лаўрэн едзе ўгору па Дняпры, да самага дальняга сэмафору свайго вучастку. Адну за другою запальвае сэмафорныя лямпы і ўсьцягвае іх на самы верх мачтаў. Дзе газы падальле, дзе старанна пратрэ (каб параход бачыў) закуранае шкло, падрэжа і падчысьціць кнот. І калі запаліцца апошняя лямпа, едзе Лаўрэн да невялічкае выспачкі, зараслай лазьняком і алешнікам, выцягвае човен, раскладвае цяпельца, назьбіраўшы ўсякага сушняку з ламачча, павыкіданага вадою. Тут і алешкавы цюльпах і яловае бервянцо адбіліся ад плытоў, тут і павыкіданыя вадою бярозавыя пярэвіткі і ўсякая іншая драбяза.

Лаўрэн грэе над цяпельцам старэчыя рукі і, уладзіўшыся на ўзятым з чоўна сене, пазірае ўздоўж рачных берагоў, углядаецца ў запаленыя сэмафоры. Чырвоныя і белыя, мільгацяць яны ў згусьцелай цемені ночы і адсьвечваюцца то пырскамі, то дрыготкімі кругелкамі на цёмнай вадзе. Лаўрэн глядзіць і ўздыхае. Прывычаіўся ўжо так. Гляне на што—уздыхне, падумае—уздыхне.

— Аб чым гэта ты?—запытае часам жонка ў хаце.

— Што?

— Ды страціў хіба што? Згубіў? Уздыхаеш так цяжка...

— А ты сабе шкрабі бульбу, от і ўсё...

— Я от шкрабу!

— Ну й шкрабі...

— Гэта ён, мамка, панікадзілы ўспомніў... Не маліўся два дні, от і ўздыхае... Або пратасэі... Бач-жа, папу прыслужвае...

— А ты, лузан, змоўчы... Бач ты яго, папругі захацеў адведаць... Калі парасьлі шэрсні на сьпіне, дык пазганяю...

— ... І трэба такі даць,— думае Лаўрэн.— Ня ў людзей пашлі хлопцы. Басота, а ня сыны... І каб у каго, а то ў яго... Сам бацюшка паважае нават. Праўда, бацюшка і сам не абы там што якое, але-ж як ніяк, ніхто як не ад бога....

Лаўрэн падкідае ў цяпельца ламачча, трэскі, жмак сухое травы, якія ахінаецца густым жаўтавата-белым дымам. Праз дым вылятае некалькі іскраў, потым яго праразаюць зыркія языкі полымя. І дым тады робіцца чорны і празрысты. Цяпельца робіцца большым, сцягвае ноч з усіх бакоў, і таму здаецца яна яшчэ цямнейшай і вышэй адлятаюць зоры, бліжэй насуваюцца алешкавыя кусты.

Лаўрэн ляжыць на сьпіне, узіраецца ў нябесныя глыбіны, прыслухоўваецца да начных гукаў. То трэсьне галінка ў цяпельцы, зашуршыць асакой узбуджаная вадзяная хваля, дзесьці на вёсцы прапяе певень. І зноў усё ціха. Толькі чуваць, як сіпіць у цяпельцы

мокрая сьцяблінка. А за крутою гарою, абуджаючы берагі і поле, пранясецца прыглушаны рэхам гудок.

— Мусіць пасажырскі пашоў ужо. Ды й час яму.

І Лаўрэн уздыхне.

— Мудрасьць на ўсё, мудрасьць боская. Без яе а ні кроку. І паравоз і параход—і кожны з іх з ліхтарамі... І зоры сьвецяць. а хіба-ж іх паляць? Ды што зоры... Заўтра вунь фашыны прыдзецца ставіць на быстраку, прыкрая праца. Хіба Сяргею вось прапанаваць, а мо' пагаліўся-б ён на якую капейку. Наўрад хіба. Пракавешны лодыр, яму абы толькі міронаў лавін, то-ж стварэньне людзкое.

Лаўрэн уздыхае і пачынае дрымаць.

— Ніхто як бог...—засынае ён.—Так, бог... А фашыны—яны нішто. Добра ставіць іх у зацішным месцы. А паспрабуй на быстраку: ручок уваб'еш, пакуль за цярэвіткай сходзіш, друк і паплыў па вадзе, падмывае... Толькі турботы тыя... А як прыпадзе пара-ходу на мялізну стаць—стане, і хоць ты яго друкам—уліпне, ні з месца... І сэмадобры вот гэтыя—сьвецяць, мігцяць. Сьвецяць ліхтарыкі... Вун аднойчы і Лаўрэну так засьвяціў начальнік дыстанцыі, аж твар успух. Пад самае вока патрапіў-быў тады сэмафор недагледжаны. Што-ж... Нішто як не ад бога...

Яны глядзяць адзін на аднаго і кожны думае:

— Ну, хопіць ужо... Бач ты яго, буркалы вылупіў...

І неяк не разыйдуцца. У аднаго асядзісты карчакаваты выгляд. На бязбровым пухнатым твары плюсьнявыя шчылінкі воч. Глядзяць, здаецца, зусім у іншы бок—вунь на тую алешыну, на сьцябло конскага шчавелю. Глядзяць у бок, але ўсё бачаць: кожны рух, кожны мірг, кожную нават аплешыну на Сяргеевай шапцы-кучомцы.

— Ну, дык што-ж гэ-э-та, бра-а-це, пане Сяргей... Ну, дык як-жа гэ-э-та?

Словы выціскаюцца паволі, з націскам, і ў такт гэтым словам нібы скача падбародак і тапырычацца рудыя валасіны на ім. І валасін тых—ат, на развод хіба, як тых каласоў на неўрадлівым полі.

Сяргей углядаецца ў гэтыя валасіны і ўсьміхаецца сваёй думцы:

— Ну й безьлюдзь, лескі і тае ня скруціў-бы,—і зірнуўшы на свае вудзіліны, кінуўшы вокам на рэчку, адказвае чалавеку. Адказвае з прыскокам, з захапленьнем, адразу кідаючы поўную жменю слоў, аб якіх ён, бадай, і ня думае.

— Што—як-жа? І чаму—як-жа? Аб чым гэта вы? І чаго гэта вас, дзядзька Іван, узьнясло гэтак рана? Хіба-ж то справы якія?

І Сяргей аж адступіў на два крокі, каб стрэсьці аб мокрую траву пясок з сваіх бліскучых ад расы атопкаў.

— Да ты, пане Сяргей... да ты пастой... Я вось пытаю, бачыш, пытаюся ў цябе: чаму ты на рэчку ідзеш, ці ў цябе-ж няма другога клопату, ці ў цябе дзяцей, скажам, нямашака?

— Дзяцей? Шчэ колькі на маю галаву гэтай затумы.







— Дык от я й кажу: дзяцей у цябе, можна сказаць, плойма— поўна хата пуплоў. І пакарміць яно кожнага, канешне, трэба. Ды й адзежу, ды й абутак сякі-такі згараць... А там зіма неўзабаве... А хіба-ж яно гэта ў цябе як у людзей... Вунь людзі на касавіцу пашлі... Вунь я калі яшчэ ўстаў, але дай, думаю, прайдуся на тыя беражкі гнілыя, бо, крый божа, і выжнуць табе. Скасіць—ня скосяць, а бабы ношкамі павыносяць, вытапчуць больш... Панадзіліся вунь караўчанскія бабы, ды ўсё ў мой лог... Дык я сабе іду ды й аб справе думаю... А куды яно табе патрэбна, тым часам... Узяў бы касу—гэтакі-ж ты нязломак—ды ў рад да ўсіх, як і ўсе добрыя людзі. І ў цябе-ж не абы што, а сякі-такі шнур ёсьцека... А з сваім управіўся—да людзей. А хіба, скажам, у мяне не знайшлося-б працы табе? Вось хоць зараз—пашоў-бы ды папакошваў трохі—ці мне-ж з Напрэям аднаму ўправіцца...

— І-і... дзядзька Іван! На ліха-ж яна здалася мне касавіца тая? Ці ў мяне коні, ці каровы, авечкі? Ды й пажанька ў мяне ат, пуп прыкрыць камарыны, і ўзяў бы касу, да суседу ногі падрэжаш.

— А дзеці?

— Прычым тут дзеці?

— Аб зіме, чалавеча, дбаць трэба. Вось чуў-жа я—і не асеяўся ты...

— Уга! Толькі й бяды... Абы ў людзей было.

— Хоць-бы бульбіну якую ўкінуў...

— Уга! А ў людзей капцы навошта? Будзе ў людзей—будзе і ў мяне.

Дзядзька Іван маўчыць. Ён ня ведае, што сказаць, аб чым запытаць болей. «І ня зломак, здаецца, але-ж бачыш-жа, такая ўжо людзіна няўдалая... А 'шчэ жаніўся чалавек, можна сказаць, жонку ўзяў... Дзіцяняты гэтыя самыя... Ні андарачка табе, ні каб жонцы хвартух на сьвята, ат, грэюць сьвет пузам... Людзі, каб на вас нарад»... Іван узіраецца ў дзіравыя Сяргеевы лахманы, на штаніну, дзе скача дзірка на дзірцы—вунь зусім калена голае.

— Ну, дык мо' які дзень і папрацуеш у мяне... з касой... Гэта я, так ужо кажучы, да слова, бо ўчора трапілася жонку тваю пабачыць...

— Ага...—адказвае неўпапад Сяргей, які думае зусім аб іншых справах.—Вось прычапіўся, смала... І чаго яму трэба. Нашоў дурніцу... Уга, гэта табе не караўчанскія бабы, што за пазадзьдзе жалі. Але-ж і на рэчку час. Мо' што і трапіла за ноч.

І ў голас адказвае:

— Не, дзядзька Іван, ня зручна мне, бачыш... Ды й не паласа... Пашукайце ўжо іншага якога чалавека...

— Дык ня пойдзеш?

— Да ўжо-ж так, дзядзька Іван, не прыпадае мне на працу ісьці. Вось я на рэчку зараз, а там, дзівіся, за нач і трапілася часам на шнур што-небудзь: ці шчупак, а то і Мірон часам. Што ні што, а хунтаў на дзесяць павінна быць, няхай я з месца не крануся... А будзе што, адразу да Ёселя—дачнікаў цяпер панаехала... вунь у хвойніку дык

пад кожным дрэвам аж плоймы. Абы лавілася рыба, дык будзе і хлеб...

— Дык ты-б хаця паспытаць калі рыбіну-б якую прынёс.

— Паспытаць? Уга! Чаму не... Вось я зімою вуюноў раз насмыгаў, дык жонка поўныя начоўкі набэхала, ды 'шчэ ў дзежачку... Ну, крыху пасмажылі, пасушылі і вунь колькі елі-ж, елі, можна сказаць, не ўжадобку елі. Ды 'шчэ людзям колькі ў пілпаўку параздаў... Чаму-б і не паспытаць, уга...

— От боўціла!—думае дзядзька Іван, думае маўклівыя думы. Абодвы маўчаць і неяк нязручна разыйсьціся. Разыйсьціся не дагаварыўшыся.

З маўклівасьці выводзіць Лаўрэн. Ён варочаецца да хаты з свайго рачнога логава, дзе пільнуе ён сэмафоры ды разам ужо і сялянскія паплавы.

— Ну, а ты што думаў, каб я гэта ды на праваслаўнага чалавека яшчэ раньнем! Расіцу, бач, бог паслаў, вастры касу да не давай спуску. Надвор'е, мае вы браткі, толькі на сена, прайдзі разок, варухні грабелькай ды на воз кладзі. Бачыш, сонца якое ўзышло... А ты, браце Сяргей, сьпяшайся, сьпяшайся, браце... Еду я каля зялёнага каменьня, дзе ты ўчора шнуры ставіў, дык, браток мой, як цялепнецца нешта, няйначай сом... Сом ня сом, але-ж нешта табе прыдбала...

— Ты папраўду, дзядзька?

— Ну, а ты што думаў, каб я гэта ды на праваслаўнага чалавека чмуту наводзіў. Кажу-ж табе праўду.

— Ну, дык я еду... Я ўжо твайго чоўна, дзядзька Лаўрэн, вазьму, бо мой, каб ён згарэў, прарашэціў крыху, засмаліць трэба...

— Ды ўжо-ж, вазьмі... Вясла ня згубі толькі, ды потым схаваеш у лажку, туды, дзе я кладу заўсёды. Ды што я хацеў сказаць табе? Ага-а... Ці ня ўзяўся-б ты сёньня фашыны папраўляць? Бачыш, размыла крыху, на быстраку.

— Няма часу, нямашака, дзядзька Лаўрэн, мо' другім часам... І Сяргей завіхаецца ля чоўна, бразкае сваімі бляшанкамі ды іншым якім начыньнем рыбалкавым.

— Ну, дык хіба пойдам, пане Іване, у адну дарогу.

— Да яно ў адну...

Іван Цыбан ідзе ўперадзе па вузенькай сьцежцы і старанна абыходзіць высокія сьцяблінны травы, каб залішне не ўмачыць адзежы. Лаўрэн не адстае і стараецца ісьці ў ногу, пасьпяваць разам з павольнаю, але цяжкою ступою.

— Дзівак!

— Гэта вы пра каго, пане Іване?

— Да пра Сяргея... Ня людзкі ён...

— Чаму?

— Да так... Ну, хто гэта бачыў, каб у такі час, у т-а-а-кі час ды цягацца вось з вудзілінамі. Можна сказаць, гібее чалавек!

— От, гэта вы правільна сказалі: гібее чалавек і сям'я гібее.



— Дык вось я к таму і кажу... А тут я працу яму даваў... Пакасі, кажу, дзень які, усё-ж сёе-тое і заробіш, да хаты прыдбаеш.

— Ну?..

— І дзе там, з працай да яго і ня прыступу. Ні сабе карысьці, ні людзям... А пасаромеўся-б хаця...

— Нішто як не ад бога... Такая, пане Іване, планіда ўжо ў яго, такі ўжо ён урадзіўся. Мне анодысь бацюшка сказаў. Бач, я на сыноў сваіх скардзіўся... Дык ён і кажа: «Грэх, чалавеча, на жыцьцё крыўдаваць. Калі бог захацеў так, нічога ня зробіш, цярпі, цярпі і на бога думай, ён табе ўсё гэта ў свой час прыгадае».

— Ну-у...—Нельга было зразумець: ці згаджаецца дзядзька Іван з Лаўрэнавымі думкамі, ці от проста так, каб не маўчаць, выціснуў з сябе гэтае слова. І ўжо калі падышлі да загуменьня, Іван павярнуўся на хвілінку якую да Лаўрэна, каб выказаць некаторыя свае думкі, якія ніяк ня месьціліся ў галаве, чакалі выйсьця.

— А я і кажу яму папакашвай вось дзён колькі, усё-ж сёе-тое ты і заробіш...

— Да ўжо-ж...—кінуў у сваю чаргу Лаўрэн і накіраваўся ў бок на свае агароды. І калі пералез цераз плот і спужаў з канапель вераб'іны статак, тады толькі працяг сваю думку:

— Бач ты яго, міласэрны які знайшоўся—папрацуй у яго дзён колькі... А запытаць бы ў цябе, а колькі ты плаціць будзеш, ды й ці выскрабеш з цябе плату тую...

Людзі жыліліся, аж пот цурчэў з спацелых твараў. Узьнімалі за рукі і ногі і ўскладвалі гэта зьмякчэлае і такое падаткое цела і, як па камандзе, кідалі ўніз на бярвеньні. І быў прыглушаным і, здаецца, нейкім шурпатым гук, калі падала цела на шурпаціны хваёвай кары, і зьлёгку, зьлёгку гудзела бярвеньне. Людзі змарыліся і па ўсім відаць было, што пачалі яны даўно.

— Дыхае яшчэ гад...

— Дыхае! А вы яго бокам, бокам, ды на сукі тыя...

— Білі бокам. Апускалі грудзьмі. Давалі высьпячча, каб-жа быў весялейшы. Білі і прыгаварывалі:

— Гэта табе за крупы, за Ганьніны...

— Гэта табе—курэй красьці...

— А гэта—ведай нашых...

— А вось табе і авечак скубсьці... Бач, ірад, унадзіўся красьці.

— І дзе гэта відана...

— Каб у сваіх?

— У вёсцы сваёй? І пуця яму нямашака. Каб гэта ўжо на старане дзе бадзяўся ці па ярмарках самапрадкі пёр. Дык-жа не...

Навакол стаялі старыя і, скоса пазіраючы на бярвеньні, ні то спачувальна, ні то шкадуючы, ківалі галавой. Перашэптваліся маладзіцы, віхляліся пад нагамі дзеці. Уся ў саламянай трусе цёрлася бокам аб плот сонная сьвіньня. Цёрлася і рохкала з вялікім зада-

вальненьнем, тыкаючы ружовым лычам у стыжнелую алешкавую жардзінку, канец якой абламалі людзі для сваіх зусім для сьвіньні ня цікавых спраў.

А людзі ўрэшце змарыліся, зьнясілелі. Выцершы рукавамі спацелыя твары, кінулі кій, адышлі воддаль, падаставалі капшукі, і ядраны, дым зьмяшаўся з пахам гною, густых канапель і ворыва. І нібыта саромеліся сваёй справы, нібы нехацця, от так, пазіралі часам на бярвеньні, але гаварылі ўжо зусім аб іншым. Аб надвор'і, аб тым што ячмені пашлі ў гору, аб аўстрыйцу, аб далёкіх лядах—проса нішто ў гэтым годзе, не абярэшся кашы,—аб вайне, аб страшэнным ярманцы.

— І салдаткі, каб на іх ліха, распуста на іх пашла, зусім выбіліся з рук... Вунь у Ляхаўцы хлапчука бабы спаймалі ў лесе, салдаткі... Дык што-б вы думалі, каб не насьпеў лясьнік, была-б мальцу пакута... Уга, яшчэ як...

— Ну, гэта ты, пане Лявон, ужо так сабе...

— От-жа крыж часны... Зьмітракова Кузьмы хлапец... Да душы-ж, бабы казалі...

— Ну, ты ім і вер, яны табе нагавораць. Вунь у падлесьсі ярманца, кажуць, бачылі. Таксама-ж бабы. У нядзелю па ягады хадзілі. Ды 'шчэ як напалохаліся. А то й не ярманец, а Мікіта Саласюк. Вугаль там паліць. Ну, дык ён і пужнуў іх...

— Пужнуць, 'шчэ, пужнуць...

— Каго? Што?

— Даведаецеся майго ўжо слова, тады скажаце, што Лявон праўду казаў!

— Ды якую праўду?

— А чалавека біць, гэта вам што? Быдла тая здалася?

— Ну, ты там... Блыха, можна сказаць, а лезе яшчэ...

— І палезу, нечага чалавека біць...

— Ты ўжо зачыні сваё зяпала, бач гаварок знайшоўся. Тут аб чым кажуць? А ён аб сваім... Адыйдзі, табе кажуць... Ідзі, ідзі, ня сунь носа не ў сваё проса...

І Лявон Ражок, які спазьніўся на ўсю справу, адышоў ад купкі людзей, абышоў моўчкі бярвеньні, падышоў да таго нярухомага, што ляжала цяпер у брудзе, у трэсках ля пахучых бярвеньняў, і стаў моўчкі ўглядацца на гэты палаплены сьпінжак, на адарваны каўнер, на забарсьню, якая заблыталася ў бервяне і таму й нага павісла ў паветры, вышчарыўшы праз падраныя лапці брудныя пальцы, і на пальцы—кіпець, зьбіты даўно, счарнелы.

— Ну, ты там, шолудзь, ня кратай, без цябе абышліся...

Ражок прысеў на бервяне, зьняў для нечага шапку, ізноў надзеў яе. Нешта заказытала ў горле, у павеках воч. І таму ўстаў Лявон, высмаркаўся, выцер аб замусьленную калашыну рукі і пашоў паволі да свае хаты.

Захадзіліся дзеці, сьпявалі дражнёлку яму ўздагон:

— Ражок, Ражок,

Бульбяны піражок...

Сыпвалі і разьбягаліся па ўсіх вуліцах мястэчка, па яго сялянскай частцы, што падабралася да самай рэчкі з сваімі агародамі і паплаўцамі. Разьбягаліся і па галоўнай вуліцы, дзе базар, дзе крамы, дзе стаіць манаполька і «банк», дзе жыве сам панураднік.

Разьбягаліся і разносілі навіну:

— А сёньня Хведара білі, Жарнакова... От-жа-ж білі, от-жа-ж якатаў, якатаў, а потым і змоўк. Авечку ў Панкрата сьпёр, а Панкрат за яго і вазьміся з братамі. Авечку ў кубле знайшлі, а аўчыну аж пад самым вільчыкам у хляве... От-жа-ж якатаў, ат-жа далі злодзею...

А ля бярвеньня стала цішэй. Разышліся і апошнія дзьве маладзіцы. І толькі тады з-за струхлелае шулы варот высунулася хустка, а за ёю другая. Хустачкі з старой палатанай спадніцы, даўно зьлінялай і парванай, бы выбіваліся косы з-пад дзірак. І пад хусткамі віднеліся напалоханыя і зарумзаныя твары. Азіраючыся, дзяўчынкі падышлі да бярвеньняў і, засопшыся, пачалі ўвіхацца ля нярухомага тулава.

— Татка, а татка!

— Ну, устань-жа...

І меншая пачала румзаць, аднэю рукою ўціраючыся падалом запэцканае спаднічкі, другой—штурхаючы за рукаў сьпінжака.

Тады старэйшая дала ёй кухталя ў сьпіну. «Ты ўжо ў мяне змоўчыш... вось паспрабуй яшчэ! Ну, цішэй-жа...» Але й сама ня ведала што рабіць і цяжка было-б распазнаць, аб чым думае гэтае дзіцянё, і ці думае яно што, ці не. Ня даўшы ніякай рады, глядзела дзяўчынка спалохана на вуліцу, на шаты кляноў, што ля Мялавай хаты—дужа-ж там вароты прыгожыя, і новыя яшчэ—сёлета станавіліся. Глядзела на агароды, дзе расьцьвітаў прыгожы мак. Але чужы мак. А таму мо' яшчэ прыгажэйшы. А ў Панкратавых у садзе гудзелі пчолы ля вульлёў. І кветак колькі гэтых самых у садку: і панічы, і вярыгі, і агнёвыя настуркі. А прыгажэй за ўсё—панічы пад сонцам...

А сонца лезла сьляпіцаю ў вочы, у рваныя лахманы спадніцы, лашчылася аб падзёртыя каросьлівыя ногі. Лашчылася і грэла. І таму на змардаваным дзяцінным твары зьяўляюцца глыбокія маршчынкі, а самі рукі разам з сонцам лезьлі ў дзіравыя лахманы спаднічкі і шкраблі здратаванае каростай цела, самі сабою пацінаюся пад сонцам плечы, каб соладка пацерціся аб жорсткія рубцы сарочкі. Рысы твару скрыўляліся ні то ўсьмешкаю радасьці, ні то пякучым болем. І ў гэтай радасьці і ў болю гэтым былі—вясна, што ўпрагожылася панічамі і пчаліным гудам, сонца, што аднолькава лашчыла панічы і пазьяданыя прусамі і каростаю рукі, і забруджаныя лахманы і жорсткія, склізотныя, разучыя, як асака, рубцы сарочкі.

Таму й не пазнаць было: ці то радасьць ці боль пануе на маршчакаватым твары, у вачох якога была чыстая, бяз хмурынкі і плямінкі небавая сінь.

— А мы вашу дамачку—валетцам, валетцам яе і прыкрыем, валецікам казырным... не хадзі, дамачка, ня сумуй...— І айцец Панфіл старанна з прыціскам прыкрываў карту, пачынаў новы ход. Ён сугорбіўся на зэдліку і настарожана сачыў за кожным ходам свае супраціўніцы, стараўся падгледзіць, якая будзе карта ў калодзе, з нецярплівасьцю чакаў казыроў, калі прыпадала яму на рукі ўсякая драбяза, сядзеў пакрыўджаны, спахмурнелы.

Ды рабіўся на печанага рака, калі пальцы Зіначкі нечакана датыркаліся яго рукі. Уздрыгваў на зэдліку, апускаў вочы і потнымі пальцамі кідаў неўпапад карты.

— Што гэта вы, бацюшка, глядзеце, з чаго ходзіце!

— А гэта я здуру, мой анёлак, здуру ўсё.—І пёкся яшчэ болей, а вочы, лыпаючы, коўзаліся неўзаметку па Зінчыным твары, па гэтых ружовых і прагных вуснах—маліна на іх, ягада лясная, сьпелая.

— Эх, божухна, і стварыў-жа ты спакусы на сьвеце гэткія... Ды яшчэ ўдасца якая—ты да яе і не дакранішся. І падумаеш, краля якая, вучыцелькай вось, а форсу таго—на два лапці не падходзь... Але што казаць, калі абаронца мае... Не пацягнешся з ім,— думае айцец Панфіл і закасаным рукавом расы выцірае спацелы лоб.

Зіначка моўчкі пазірае за бацюшкам і падсыпае бедалагу ўсё новыя і новыя траякі і пяцёркі.

— Ну, што, дурнем вы, ды ўжо пятым, здаецца?

— Пакорлівасьць, пакорлівасьць, мой анёл...

І раптам, зірнуўшы ў акно, айцец Панфіл робіцца заклапочаны, напалоханы.

— Ізноў гэтая пячора мая прэцца. Ты ўжо, Зіначка, скажы гэтай торбе, што майго і сьледу тут ня было. Барані ад яе божа, скогату таго не абярэшся.

І айцец Панфіл, узяўшы свой саламяны капялюш і сукаваты кій, хуценька хаваецца ў задні пакойчык. Неўзабаве рыпаюць дзьверы і на парозе зьяўляецца сама пападзьдзя. Яна азірае пакой і толькі заўважыўшы, што Зінаіда адна, кажа дзень добры і мнецца ля парогу.

— Да вы сядайце, матушка!

— Нішто, нішто, не клапацїся, я і тут пастаю. А ці ня было майго тут?.. Не?.. А мне-ж казалі, што сюды нібыта пашоў. Вось кара гасподня, вось няма да мяне боскае літасьці...—І пападзьдзя падазронна аглядае яшчэ раз пакой, кінуўшы позірк у самыя далёкія куткі, і сумна ківае галавою. І ва ўсім выглядзе пападзьдзі, у гэтым недарэчным убёры, у гэтых старых, даўно зношаных шлёпанцах, накінутых на босую нагу, у гэтай палапленай скацерцы, якой абкручана галава, у гэтай спадніцы, што даўно страціла ўсякі колер,— праглядае нейкае ўбоства. І ня звычайнае ўбоства, убоства беднага чалавека, а ўбоства жадзёны, скнары, убоства страціўшага розум чалавека.

У пападзьдзі трасецца галава і разам з ёй скачуць матузы скацёркі. І толькі піскліявы голас, які сусолкай ледзяной кладзецца на сэрца, гэты голас разьлягаецца ў пакоі.

— Эх, даражэнькая, каб-жа вы ведалі... Вы вось яшчэ нядаўна жывяце тут. Гэта-ж такі брахель, такі брахель, сьвет прайдзі, такога ня знойдзеш. І да чаго да маладзіц ласы... Мо' й да вас чапіўся ўжо? Вун у Кандрацішкі сын, дык вы думаеце, што гэта Кандрацішчын сын? Не! Гэта-ж майго работа. І ці-ж гэта адзін... Эх, ня ведаеце...

— Матушка, навошта-ж гэта вам ды расказваць усё...

— А чаму й не расказваць... Падла ён, вялікая падла... Дык кажэце, няма яго? А я шукаю, шафу з цукрам замкнуў, шкадуе, каб я не ўзяла, што пра чорны дзень... А ведаеце, што я сказаць вам хацела? Куды гэта вы шалупайкі дзеяце? Я-б ужо заходзіла да вас, бачыце, подсьвінкі ў мяне... Ну, дык дзякаваць...

— І гэта пападзьдзя... І гэта тая, якая трымае на ключы досыць вялікую бібліятэку, якая добра ведае Тургенева, Пушкіна, якая чытае Дастаеўскага, якая ведае французскую мову...—думае Зіначка і так, каб не маўчаць, пытае:

— А ці нельга-б у вас кніжок часам дастаць?

— Ну я й кажу, подсьвінкі ў мяне, а хіба тут субару купіш, ці чыстым цестам карміць будзеш. Дык я ўжо абавязкова да вас па шалупайкі буду заходзіць. А ведаеце што, дужа гэта я ня люблю, каб чужую кніжку трымаць. І згубіш яшчэ часам, да закапаеш яе чым, да ці мала чаго можа здарыцца... Дык кажаце, ня было яго... І дзе толькі дзеўся? Вось прыедуць часам хрысьціць, ці да хворай там, дык дзе ты тут яго знойдзеш!?

І, заверчаная ў рызьзё, пападзьдзя пашкрэбала шлёпанцамі за парог. Вышаў поп з баковушкі. Падышоў на дыбачках да вакна і доўга ўглядаўся з-за фіранкі на свой двор, што стаяў на другім баку вуліцы. Пападзьдзя зьнімала гладышы з паркалін, доўга соўдалася з імі па двары і ўрэшце зьнікла ў баковачцы папоўскага дому.

Поп уздыхнуў.

— І ачысьці мяне ад скверны... Бачылі? І вы думаеце, ёй адны толькі шалупайкі патрэбны. Рэўнасьць ёсьць, заядае...

Нешта мутарна стала на Зіначчыным сэрцы. Ці то ад папа—пахлі воскам і табакай запэцканыя яго рукавы—вунь, аж бліскацяць на сонцы, іграюць шматлікавымі пляминкамі. Ці та ад пападзьдзі з яе подсьвінкамі і шалупайкамі. Ці так ад чаго? «Ад скверны... Так, скверны...

— Дык мо' згуляеш яшчэ?

— Не, даволі... і так галава нешта баліць...

— Галава? Уга... Гэта 'шчэ невялікі клопат, абы ногі былі здаровыя... Вось прайшліся-б крыху, праветрыліся, ды й надвор'е-ж такое, мой парабак мо' ўжо пожню скасіў... Дык прашлі-б крыху...

— Не, бацюшка, адпачыць вось крышачку хачу, прылегчы...

— Ну, калі так, дык бывайце, мой анёл, адпачывайце...

І трасучы сівізною шчок, прыліп да Зінінай рукі, як той прус да чырвонага яблыка.

— Ну, бывайце!

І ў пакоіку ціха, гудзіць за вакном шаршэнь. Чуваць, як перацьна рэчцы бабы бялізну, а з агародаў, з прыгуменьняў ляцяць выразныя і вясёлыя гукі—клеплюць косы, стукаюць спрытныя малаткі ды раз-пэ-раз пераліваюцца косы срэбным шорхатам мянташак—гэта наводзіцца косавае лязо, выганяюцца лапатушкі.

Шорхат мянташак цісьне Зініна сэрца, нібы шкрабуць па ім тупым нажом, шкрабуць і ціснуць сумам, гэтым прызвычаеным ужо непакоем. І ні завошта ня хочацца брацца, ні аб чым ня хочацца думаць. Усё навакол так прыкра, шэра і няпрытульна. І гэтае мястэчка з яго бруднымі вуліцамі, з яго ўбогімі хаткамі, з яго жыхарамі, якія й думаюць хіба толькі аб каросьце, аб бульбе, аб дняпроўскіх плытох. Праўда, ня ўсіх жыхароў і ведае Зіна, да й навошта ёй, пані вучыцельшы, і ведаць усіх. Хапае з яе Чырвонца, які акуратна прыходзіць па пятніцах, доўга мнецца на кухні, нарэшце адважваецца адчыніць на адну толькі шчыліну дзьверы і, прасунуўшы туды адзін толькі нос, акуратна дакладвае:

— А ці ня хоча паненка адведаць мяса? А ці ня хоча пані вучыцельша паглядзець гэты цялячы задок? Ды яшчэ які задок! Спэцыяльна малаком паілі бычка. Ды яшчэ якога бычка! Ад самай рабінавай каровы, той самай, што набыў рабін перад вайною. Уга, гэта ня бычок. а цэлая гара мяса. Ды яшчэ якога, сам пан вураднік адкупіў палавіну... Праўда, няхай яму пану вурадніку тры скулы сядзе за тую плату... Але што-ж я кажу?.. Ці пан вураднік ня мае права есьці цяляціну? Няхай сабе на здароўе есьць, вялікі мне клопат... Дык кажаце адважыць... Багата? Ды што вы? Хіба ў паненкі ня бывае гасьцей, абы здароўе... Дык я пакіну ўжо вам задок... Ну, дык бывайце...

І, калі ўладжана справа з бычком, тады Чырвонец, пасуляўшы мех здароўя, адразу робіцца нейкім няруханым і, гледзячы кудысьці ў бок, гаворыць паціху:

— А ці не пазычылі-б вы мне часам траяка, альбо чырвонца?

І, не дачакаўшыся адказу, трапна надзяе свой палаплены картуз і бокам выходзіць з дзьвярэй.

— Дык бывайце, спажывайце сабе на здаровейка...

Каго ні сустрэне Чырвонец, ён абавязкова спытае аб чырвонцы. І гэтаму ніхто ня дзівіцца—прызвычаіліся, даўно забыліся на чырвонцава імя, на чырвонцава прозьвішча—Чырвонец ды й годзе.

А яшчэ Янкель Пагода. Той прыходзіць радчэй. І не пачынае адразу з мукі і абаранкаў, на якія ён вялікі спэц. Ён пачынае звычайна з палітыкі. Запытае пра апошнія навіны, пра апошнія падзеі на фронце, выкажа свае ўласныя меркаваньні аб нямецкім войску і толькі тады ўжо прыступае да справы:

— Дужа-ж удалыя вышлі сёньня ў маёй жонкі баранкі. Ну, проста растаюць у роце, дык як-жа тут не ўшанаваць пані вучыцельшы і ня прынесьці ёй нізку, другую...

— Хіба яшчэ Мотэль—шавец, ды Руды Абрум—самая багацейшая крама ў яго... А то ўсё—звычайныя людзі, няцікавыя людзі. Толькі й ведаюць—лазу круціць, балагольнічаць, курэй скупляць, на караўкі езьдзіць, абіваць у садох яблыкі... Хіба толькі рэб Нохім яшчэ, яго-ж паважае сам пан упраўляючы... Ды Альтэр француз—той сам сабе пан, адных плытоў пускае сотні...

А пра сялянства і казаць нечага—мяхі мякінныя... От толькі й ведалі-б: бульба да грэчка, грэчка да бульба... А Спас надыйдзе, ці Мікола там часам—і пашло гружацець мястэчка... Аднэй гарэлкі—дык затлуміся, а колькі галоў паб'юць ды бакоў памнуць... І якія людзі, такія й дзеці—вучы іх тут, марнуй сваю маладосьць... І для каго?

— ... Ня сумуй, Зінуся! Прыдзе і вайне канец і зноў мы будам разам...

— Разам, разам...—з сэрцам кідае Зіна, чытаючы ліст ад мужа.—Знашоўся дурань. Разам... Людзі і на вайну не пашлі і дамы вун будуюць. Аб'ездчык і той выкруціўся, цяпер вун цэлы маёнтак зграў...

— ... Галоўнае, ня турбуйся, усё будзе ладна. Цяпер я ў тылу, адпачываем. А там што бог дасьць, ізноў у наступленьне... Дык ты каб не забылася: перадавай прывітаньне лясьнічаму, няхай не забываецца на свайго памоцніка.

— Памоцнік... Праз дурасьць тваю і мне пакутваць цяпер даводзіцца ў гэтым кутку мядзьведжым... І хапіла-ж дурасьці пайсьці за гэтага чалавека... То-ж няўклюда... І цяпер жыла-б сабе ў бацькі, што яму пісару валасному робіцца—у пашане заўсёды чалавек, у спакоі...

Сумныя развагі пані вучыцельшы раптам абарваліся. Дзьверы пакою нясьмела адчыніліся, увайшлі дзьве кабеціны. Абедзьве нізка пакланіліся, прывіталі днём добрым і стаялі нерашуча, падбіраючы, з чаго-б пачаць гутарку.

— Дык што-ж вы скажаце?

— А гэта я вось з Сынклетай... Дай, думаем, зойдзем па дарозе... Вядома, доля салдацкая—параіцца аб сім аб тым. Цяжка і чалавека знайсьці, у кожнага свой клопат, стане хіба хто тваю сьлязу ўціраць... Ну, а вы-ж як ніяк, выходзіць гэта яно, што нашае долі... Мужык-жа ў вас на вайне...

Пры слове вайна старая доўга выцірала вочы рогам хусьцінкі.

— Дык вось, паненка, яечак мы тут прынесьлі, сьвежанькія—ураз на базар хіба. Дык ці не напісалі-б вы часам лістоў нам, нешта сын вось ня піша нічога, а ў яе мужык у шпіталі... Дык лістоў гэта вы ці не напісалі-б часам... Касавіца цяпер, дзе тут пісьменнага чалавека дазавешся, дык мы думаем—дай да настаўніцы часам, а мо' і паслухае... І зноў-жа, сын, як ніяк, а я-ж матка...

І ўдава Барташыха доўга паказвае як пісаць ліст:

— І прапішы ты яму, мусіць ты, дарагі сынок, забыўся на матку і ня бачыш, як п'юць з яе кроў крывасмокі... Ня бачыш, як абдзяліў яе стараста пожняй, выдзяліў адно куп'ё—толькі касу малы зламаў, выскубаючы гэтае куп'ё... ды ці з яго-ж гэта сіламі... І прапішы яшчэ—калі гэта вайна скончыцца, бо ці мне-ж маімі рукамі з гаспадаркаю ўпраўляцца... Вун і конь недагледжаны і шулы валяцца, ці мне-ж гэтае ўсё пад сілу, а малыя яшчэ—што з іх, ім абы хлеба кавалак—вялікі то ім клопат. І яшчэ стараста—няхай яго бог пакарае—спасобіе і тое вун круціць-муціць, ніколі ў час яго не атрымаеш...

Яшчэ думала старая прапісаць, што ўзяў сусед хамут новы—от нібыта пазычыў—але-ж ясна, назаўсёды, пасобіў-жа і бульбіну ўкінуць... Думала напісаць і не адважылася.

— Хопіць ужо, а то 'шчэ рознымі глупствамі сыну галаву забіваць там...

Маладзейшая дыктавала свой ліст хуценька, сьпяшаючыся. Часам яе загарэлы твар чырванеў, і тады яна сарамяжліва прыкрывалася хустай.

— А ты, Сынклета, не саромейся, яна-ж таксама кабета і нашыя справы добра ведае, дык чаго ўжо там... Гэта яна, пані-вучыцельша, дужа па мужыку сумуе. Толькі-ж пабраліся, а тут і ўзялі... яго... Ну, дык бывайце, няхай-жа вам, паненачка, ды добрыя кавалеры, ах, божачка, што-ж я кажу, і ў вас-жа мужык... Даруйце мне ўжо старой, з памяці зьбілася праз вайну гэтую... Трасцы-б ёй у бок...

Напрэю дзевятнаццаць год. Але і ў гэтыя годы ў яго ўжо задужа сутуленая постаць і ўвесь ён нейкі нязграбны, «нехлямяжанькі наш», як кажуць дзяўчаты І ўсе яны дужа шкадуюць хлапца: як-жа—бежанец, колькі тае бядоты набраўся, але каб бліжэй да хлапца, дык не...

— Трохі з прыдурам,—кажа пра свайго парабка дзядзька Іван.

Хіба ня з прыдурам, калі вось углядзіцца часам у што і глядзіць. Глядзіць, здаецца, і не зварухнецца, а запытай яго, што ён там бача—хіба адкажа. Лыпне вось так вачмі бялёсаватымі, і нібы ўглядаюцца гэтыя вочы не на сьвет божы, а ў нутро сваё, і толькі потым ужо спытае:

— Аб чым гэта вы?

Спытае і ўглядаецца зьдзіўлена.

— Зрок у яго нутраны...—кажуць бабы-суседкі. А які гэты зрок, запытай іх, і не адкажуць.

— Такія ўжо людзі бываюць, глядзяць, глядзяць на сьвет божы, а калі ў гэтым сьвеце да багата той прыкрасьці, дык і пачынаюць вочы глядзець навыварат, усё ў сябе, да ў сябе...

— Дзіва з таго... У цыбала 'шчэ ня так паглядзіш... сядзіць-жа вось хлопец на адных гурках леташніх...

І цураюцца дзяўчаты Напрэя—неяк няёмка з ім, задужа-ж хлапец занудны. Ня тое, вунь, што папоўскі парабак Андрэй... у таго

вочкі так і бегаюць, так і шныпарадь, як мышаняты тыя. А гаваркі... Да чаго Лёкса Козіха на язык спрытная, але-ж і тая не патрапіць. Праўда і Напрэй на слова не паддаецца, дзіва што ціхі, можа і адсекчы часам.

— Напрэйка, Напрэйка, ці ня час-жа ўжо коні паіць,—крычыць Цыбалава касавокая дачка Макрыда.

— Калі час, дык вазьмі і напой...

— Дык ты, Напрэйка, бяз жартаў, а то бацька вунь прыдзе, дык упчане лаянку.

— Вялікі мне клопат...

— Дзіва што татка гаворыць: лодыр, пракавешны лодыр...

— Жлукта ты касабокая, от я табе за лодыра прачышчу твае вочы нямытыя, бач, паганяцелька знайшлася...

— Бежанец ты, прэжанец...—дражніць Макрыда, ня ведаючы, чым найлепш упікнуць Напрэя.

— От я цябе аброцьцю як лузну за бежанца, дык перакруцішся.

— От-жа вытні толькі!

— І вытну.

У хату ўваходзіць сам Цыбал. Пад ім рыпяць масьціны, угінаецца ўслончык, калі садзіцца Іван ля стала.

— Дык гэта вы зноў, ліха вашай матары... Няма на вас ніколі ўгамонку. То-б як добрыя людзі, а яны хіба толькі языкі часаць... Ну, ты чаго разявілася? Айда на гарод... А ты, Напрэй, запрагай коні, ды трэба хіба на млын, бо бяз хлеба глядзі застаномся... Да ня баўся глядзі... Даназірай там за коньмі, ня стаў ля мяхоў блізка... Ды сачы за мяшкамі, бо зноў які злыдзень памяняе табе там, калі будзеш абібокам. Ды глядзі, гарцы давай з таго мяшка, што паляплены, нечага там, і так з іх хопіць. Ды не ляпнуўся і глядзі, каб добра быў камень падпраўлены, а то ізноў, барані божа, дабро ,перамелем на субар. Ізноў-жа, каб не перапаліў занадта. Ды скажы млынару, каб задужа з гарцамі не раскідаўся, бо ў мінулы раз цэлага паўмяха растала, як яго й ня было... Дзіва тое—скуль яно ў млынара гэта што й бярэцца—адзін вятрак, а чабаты заўсёды новыя...

— Усё, дзядзька Іван?

— А ты слухай, нечага там усёкаць. Коням возьмеш сена, аўса-ж не бяры, бо прыдзе 'шчэ час... Ну ды сабе хлеба вазьмі, вунь ад тэй буханкі, пачатае... Хіба там яшчэ Макрыдзе скажаш, няхай які скрылёк сала дасьць. Вунь яна на дварэ, дык гукні хіба, няхай у клець сходзіць... Ды пастой-жа, я сам ужо схаджу, а то пачне кожны ў клець валэндацца, дык гэта самае... Дык ты запрагай тым часам... Ня паелы яшчэ? От каб на вас пранцы... Калі сам не дагледзіш, дык яно ўсё й стаіць. Дык ты ўжо ня стой, ня стой, хлопец мой, ды будзь больш рахманым...

Іван ідзе ў клець, доўга поркаецца з цэлым дзясяткам засавак і замкоў, што павісьлі на дубовых дзьвярох. Унізе дзьвярэй невялікая дзірачка—ат, каб кату пралезьць.

— Мяне злодзей ня возьме, не... сам усё ўдасканаліў, сваім надумам... Каб засаўку адсунуць, дабярыся да замка раней, а замочак шурубавы, падбяры, паспрабуй, ключ да яго... Уга...

У клеці змрочна. Але праз адчыненыя дзьверы відаць вялікія— пад самы вільчык—сусекі, ды яшчэ дзежкі з просам, з грэчкаю, кублы з розным рызьзём. Тут-жа невялічкая Напрэява скрыня: зялёная, з бліскучым замком фабрычным.

— Важнецкая, ліха на яго, скрыня. У нас дык ня ўмеюць вырабляць такіх. І замок важнецкі, от-бы ў самы раз на стопку.

Але больш за ўсё цікавіць Івана Напрэяў ліхтар: круглы, з такім-жа круглым тоўстым шклом, і на шкле тым—кажан. Усё багацьце Напрэява, усё, што засталася ад бежанства.

— Дужа-ж малаціць з ім зручна, ня тое, што з смалякамі. Але-ж і прадаць ня хоча... І навошта, падумаеш, яму?

Дастаўшы з пад столі бабку, малаток і косы і, адрэзаўшы скрылёк сала, Іван праводзіць Напрэя за вароты, а сам садзіцца пад старую грушу на дварэ і клепле косы. На дварэ сонечна. Пад павецьцем весела кудахаюць куры. На высокім плоце, закіданым сьвежымі хваёвымі бярвеньнямі, паважна пахаджае певень і раз-по-раз, гучна шлёпаючы крыльлямі і выцягваючы дугою шыю, соладка заплющвае вочы і кукарэкае так важна, так гучна, што аж гірчыць суседаў сабака Жоўцік.

— Каму, каму—майму гаспадару-ру-ру,—заліваецца, здаецца певень. І ў адказ яму кудахчуць пад павецьцю куры:

— Ко-ко-ко-ко...

— Бач ты іх, раскудахталіся,—думае Іван, мацаючы пальцам лязо касы—птушка бяз розуму, а і тая сонца чуе, яечку радуецца. Прадаць хіба вось у нядзелю, глядзі з сотню сабралася. Ды й жыта мяхі са тры, ізноў-жа там сяго таго пакрысе—можна і ў банку аднесьці на проценты. Ізноў-жа за малатарню трэба яшчэ рэшту заплаціць, ахвота потым пеню плаціць у земства.

Ну, ды на малатарню можна й так грошы сабраць... Салдатак цяпер плойма. І ў кожнай-жа шнур сякі-такі ёсьць. Можна й Напрэя паслаць папакошваць, да й 'шчэ дагаварыць таго другога. Вось табе й грошы. Альбо на адработ—і яшчэ лепей жывая капейчына потым. З Напрэям трохі не вязе, не падаецца хлопец, агрызацца часам любіць...

Даўно вярэдзіць думка адна Іванаву галаву. Ня шэньціць нешта з сям'ёю. Жонка хваравітая. Як радзіла сына Міколу, дык от і пачалося, усё на жывот тыя крыўды, няйначай немач якая. Сын-жа яшчэ малы. Дачка і нішто сабе, але-ж мечаная, як тыя людзі кажуць. Касавокая—бяльмо гэта самае. А сама ўжо на выданьні. Яно, канешне, жаніха заўсёды можна знайсьці, бо сусекі-ж поўныя, ёсьць што і на пасаг даць. Ды каму-ж ахвота гэткую-ж гаспадарку ды ў разрад пускаць. Ты, можна сказаць, петаваўся—круціўся, дзе мазалём, дзе галавою выкручваў, а тут і аддай якому чорту лысаму. Каб яна дзяўчына гэтая самая да была-б без заганы, тады, канешне,

невялікі і клопат, даў якую цёлку, ды кубла там, і гара з плеч далоў. А тут на касавокую хто пагаліцца. Тут ужо і каня трэба ў пасаг, да яшчэ і зямлі прырэж, адным словам, пусьціся ў разор, вось так па ветру і пусьці гаспадарку... Канешне, прымака трэба... А дзе ты яго возьмеш, каб гэта ды паслухмяны, ды набытлівы, ды каб усё гэта капейка да капейкі, як кажуць добрыя людзі. Хіба вот Напрэй, але-ж ты да яго падыйдзеш, справа-ж гэта—ня шулу абчасаць, тонкая справа. А яно-б нішто, як раз да двара падышоў-бы, бо хоць і дзёрзкі крыху хлапец, але-ж ля гаспадаркі спрыт мае і не абы што—працавіты хлапец, жылаваты... Хваткі хлопец... І да касы, і да плужка... Ня зломак...

І Іван аж кінуў кляпаць, усё думаў і раздумваў, што-б вышла, калі-б гэта да ўзяць за прымака парабка Напрэя. І толькі тады ўзяўся зноў за касу, калі пачала завіхацца пчала ля носу—заляцела з суседавага вульля.

— То-ж стварэньне! І ўсяе яе з кіпець, а 'шчэ лезе кусацца... Вот-жа й людзі часам—сам з выжлу, а вэрхалу наробіць такога, што пранясі ты божа...

Параходам ехалі разам: Іван-каваль, канавал Зьміцер, Лозар Бух, Мотэль-шавец ды паважаны рэб Нохім. Рэб Нохім трымаўся трохі паводдаль, бо як ні як, на ім белая манішка і такія-ж манжэты, а на галаве не абы што, а самы сапраўдны, хоць крышачку і памяты капялюш.

— Ні то брыль, ні то капялюш, от у бабы мае палонік такі... Выдумаюць-жа людзі перці на галаву ўсякую заразу,— гаварыў аб гэтым капялюшы стары паромшчык Амяльлян. І ня толькі людзям, але й самому Нохіму часам казаў, калі перавозіў яго цераз Дняпро:

— Скінуў-бы ты, пане Нохім, брыду гэтую з галавы... І чалавек-жа ты паважаны... От надзеў бы такі капялюш, як у пана ўпраўляючага. Гэта дык капялюш...

Нохім ня крыўдзіўся. Маўчаў з хвіліну і паважна адказваў:

— Стары вы чалавек, пане Амяльляне, а ведаць каб усё—дык ня ведаеце.

— Чаму?

— А вось так: пан упраўляючы, дык ён і ёсьць упраўляючы. А я хто? Я толькі арандатар, і то—адных кароў арандатар. Таму павінен арандатар і сваю шапку мець, не якую-небудзь там, а вось гэтую арандатарскую. Трэба-ж і пану ўпраўляючаму належную павагу аддаць.

— Хіба што...

Рэб Нохім паважна раскланяўся са сваімі местачкоўцамі, запытаў сёе-тое для прылiку.

— Як справы? А што рабіў паважаны Іван? Як адчувае сябе жонка Мотэля?

— Ды яно як казаць... Усё нішто... Выцяжкі хіба, дык тыя ўгору лезуць, а каб падэшвы тае добрае, дык з ліхтаром ня знойдзеш.

— А як вы сабе думалі, каб выцяжкі ды вас, шаўцоў, шукалі... Ня той час... Ці ў нас няма хіба вайны? Дай божа кожнаму столькі здароўя—набор за наборам, вунь ізноў, кажуць, хутка будзе мабілізацыя. Дзе-ж тут набярэшся гэтых самых падэшваў.

— Ота-ж, вайна...— паўтарае ў задуменьні Лозар Бух і думае аб сваім сыне Лейбу, які ўжо другі год недзе там пад ярманцам.

— І пры чым тут падэшвы?—думае ўжо ён пра сябе.—І якая яму справа да падэшваў... Ці ў адных толькі іх клопат той. Тут пасправуй вот пракарміць цэлую плойму, аднэй бульбы колькі, дык воза на тыдзень... ды й па аднэй бульбіне жыць ня будзе...

— Так, вайна,—кажа ў сваю чаргу каваль Іван.—Яна-ж усё прыбярэ, падмяце начыста. Чаго, чаго, вухналёў было заўсёды—хоць засыпся, а цяпер от дастаў колькі тых хунтаў, і то па знаёмству. А ўжо там пра волава, ці, скажам, пра добрае жалеза—і не гавары. Насілу вось нашатыру дастаў...

— Уга! Нашатыру... Ты вось скажы, дзе жарабяты падзеліся? Хадзіў, хадзіў месяцы са два, дарэмна толькі ногі пазьбіў, а карысьці тае, як кот наплакаў, нібы і гаспадары—не гаспадары, аб гаспадарцы ня дбаюць, насы паапускалі.

— Апусьціш тутака... Глядзі, на базары і то ўжо гола становіцца. Хаім Штоцкель дык сваю харчэўню чамусьці зачыніў. Раней гэта прыедзеш на базар, ды к Хаіму, а ў яго і вадзіцы той цёплай папапіваеш, а хочаш—і пляшка табе на стол. А рыба, рыба... Тут табе і платанка, тут і маласолка... Ды як падсмажаць на муцэ пшанічнай... Ну й ліха на яго, здольны быў гатаваць Хаім...

— Што вы гаворыце—перабівае Мотэль,—рыба? Хіба ў Хаіма была рыба? Гэта ня рыба, а сьмех. Вось вы паспрабавалі-б рыбы ў Карме ў рудага Абрума зяця, от бы вы тады сказалі, што гэта рыба. Паехаў я паўгода таму назад у Карму па выцяжкі. Ну, добра... Заехаў да Абрумавага зяця. Дык што-б вы думалі? Запрашаюць мяне за стол. А чаму-б мне ня сесьці за стол, ды калі ў добрых людзей. Ну, добра... Я сабе саджуся. І пасьцілаюць мне белую скацерку, бе-е-лую... Потым падаюць мне чыстую талерку, чы-ы-стую... А потым прыносяць гэтую самую рыбу, самую... І што вы думаеце? Ня рыба, а проста шчупак... Дык я сабе ўзяў гэта далікатна кавалачак рыбы, ем і маўчу сабе—нібыта то звычайная рыба, нібыта от яна кожнага дню ў мяне на талерцы. А сам між тым думаю: от маёй Хане-Лібе ды кавалачак гэтае рыбы, адразу-б ачуняла, адразу-б перастала хварэць.

— А што вы думаеце,—перабіў Лозыр Бух, захоплены гутаркаю аб такіх важнецкіх прысмаках.—Справа тут і не ў шчупаку. Бо што сам па сабе шчупак—от рыба тая звычайная, і ўсё. Але ты яго прыгатуй як сьлед, асабліва калі з фаршам. Але, я, бачыце, не аб рыбе. Быў я ў мінулым годзе ў брата ў Харкаве. Дык у іх горадзе ўсё на

другі капыл. Прыехаў гэта я раніцою да Еселя. Ну, канешне, як госьць: ня ведаюць, дзе пасадзіць цябе, чым частаваць. От мне жонка Еселя й кажа: «а сёньня ў нас мяса з пюрэ». Няхай сабе й пюрэ, чаму мне не паспрабаваць пюрэ? Думаю, а ёй адказваю:

— Ну што-ж, няхай вам бог дапаможа з пюрэ...

От селі за стол. Падалі мне суп там нейкі, а потым мяса даюць, ну, крышачку і бульбы тае цёртай. Я сабе й ем. От, думаю, і да пюрэ таго дабяруся. Але-ж хутка і талеркі прыбралі, вылезьлі ўсе з-за стала, а пюра таго ні слуху ні духу. Ня вытрымаў я.

— А калі гэта самае ваша пюрэ будзе?

І што вы думаеце? От стаяць яны і глядзяць адзін на аднаго. Глядзелі, глядзелі, а потым як зарагочуць. Тут і я ўжо крыху пакрыўдзіўся.

— Хоць ты, кажу, мне і братам даводзішся, але-ж скажу я табе праўду ў вочы: не маладзей я, каб нада мною ды кепікі строіць. Да ў каго? У братавай сям'і...

Ну тут яны й пачалі: да што ты, хіба хто думаў... Ну еў-жа ты з мясам пюрэ і чаго тут крыўдаваць...

Вось вам і пюрэ. Падумаеш... Жонка мая вун адваліць цэлы чыгун бульбы... Ды што бульбы—яшчэ і гуркоў талерку... Дык то-ж бульба, і ясі як бульбу. А то... пюрэ. Падумаеш, такі прысмак... Пю-ю-рэ-э...

— Та-а-к...—у тон адказваюць слухачы. І не разьбярэш, ці спачуваюць яны Лозару ў яго прыгодах, ці думаюць зусім іншае, кожны аб сваім, аб набалелым.

— А вось мы і прыехалі,—заўважыў урэшце Мотэле, калі параход, даўшы задняга ходу, ціха і асьцярожна падабраўся да хліпкай местачковай прыстані.—А добрая справа—параход. Гадзіна якая—ты з гораду проста да хаты. А ня будзь яго—ідзі пашукай фурманку. І хто табе паедзе цяпер, а калі й паедзе, дык без кашалька застанешся.

На маленькай прыстані варушыліся людзі... Тут было сваё, хоць і невялічкае, але-ж гэткае сьвятошнае ажыўленьне. Прыход кожнага парахода быў цэлаю зьяваю ў жыцьці мястэчка і сюды сабіраліся кожнага разу ўсе, хто меў вольную хвіліну, хто чакаў сваякоў з гораду ці знаёмых, ці проста людзей, па той ці іншай справе. Зьбягаліся і дзеці з усяго мястэчка. Для іх лепшай забаўкай былоназіраць, як падыходзіць параход, як спрытныя матросы падганяюць яго баграмі ды канатамі да самага берагу, перакідаюць на прыстань рыпучыя дошкі, па якіх сыходзяць на бераг людзі. Потым параход грузяць дрыўмі, і ўрэшце, пусьціўшы пару ў сваё мядзянае горла, адыходзіць параход ад берагу, узьняўшы цэлыя хвалі. Хвалі бягуць і з такім прыемным шолахам ліжуць глiністыя берагі, шархацяць асакою, муцяць прыбярэжную ваду. Параход лапаціць коламі і ўсьлед за ім бягуць па беразе навыперадкі дзеці, аж да таго месца, дзе паварачвае Дняпро і адыходзіць далёка, далёка... Туды, дзе зьліваецца неба з зямлёю, дзе сінее бор, дзе пячэ Амяльлян на беразе бульбу і пільнуе паром, дзе ў бары над кручай капліца стаіць і з пад яе кры-

ніца цячэ. Ля крыніцы людзі жывуць, сьвятыя. Кажуць-жа то—манашкі. Чо-о-рныя, чорненькія, от-бы той поп местачковы.

— Стра-а-шка туды ходзіць. Каб назад хутчэй...

Пахла потам і гаркацінынем лазы. Прыгравала сонца і соладка пацягваліся хударлявыя плечы, у балючай стоме ныла ўсё цела, падгіналіся калені, выпросталіся, нібы не маглі знайсьці сабе сталага месца. У заняпаўшых вачах была муць, у ёй хаваўся смутак. І смутак гэты быў падобны на халодную імглу восенскага вечару. А сонца сьвяціла зырка, сыпала шчодрай рукой пяшчотныя праменьні на Дняпро, на сыпучыя, пяшчотныя берагі, на блізкія местачковыя хаткі, на бліскучыя сьпіны панурых лазакрутаў, на нямеаш бліскучыя чабаты Алтэра Француза.

— Ну, што яму зробіцца... От сам-жа дурань... От-жа ня ўмее працаваць... Хіба так людзі працуюць...—І Алтар Француз ня раз падыходзіў да скруткаў лазы, на якіх ляжаў, скруціўшыся абаранкам, Янкель Зохе.

— Ну, слухай, ты, чалавеча! І дзе твой розум? Ты думаў—лазу круціць, дык гэта так сабе, пагулянка табе... От-жа, дурань... Ты думаеш ляжыш, дык яно ўсё й добра... Калі-б у цябе розум, ды калі-б у цябе галава...

— От такая, як у вас, пане Алтэр...—заўважае з ледзь прыкметнай гіроніяй самы стары лазакрут Файбус.

— А што ты думаеш, няхай бог дае кожнаму такую галаву... Дык слухай, ты, каб ты быў з розумам, дык ні ў якім разе ня клаўся-б на гэтую лазу...

— А што яму, на пярыну легчы? У яго-ж, пане Алтар, і ўсіх тых бэбахаў, што пад ім... І пальцы ў яго ня золатам блішчаць...

— Слухайце...—перабівае Файбуса пакрыўджаны крыху Алтэр.— Як ніяк, а вы стары чалавек і паважаны чалавек... І пры чым тут пярына? І пры чым тут... ну... няхай сабе золата? І якое? І якая вам справа? І чаму вам баліць аб ім галава, пане Файбус? І наогул, паважаны, нашто тыркаць носа не ў свае справы? Дык слухай ты, Янкель! Навошта табе ляжаць, навошта табе слухаць хваробы?

— Яна можа паслухае вас, пане Алтэр,—кідаюць з боку маладыя лазакруты,—Шолам і Беня.

— Слухайце, вы галовы кручаныя! Ваша справа—круціць, і годзе... Ша, каму якая справа, каму які клопат... А вам... глядзі каб гужба выходзіла добрая... Калі-б ня было Алтэра...

— Дык ня было-б і Алтэрыхі,—чуецца дзесьці ззаду.

— Ну й разумцы, каб вам скулу на сэрца. Алтэр дай ім работу— дык ім Алтэр ня добры... Алтэр дай грошы—дык ім Алтэр хвароба ў бок... Алтэр клапаціся аб лазе—дык ім Алтэр мазоль на вока. Алтэр, калі што, ідзі да ўраднiка—дык ім Алтэр смала на сэрца. Алтэр дай мукі, Алтэр пазыч рубля, Алтэр накармі мястэчка. І ўсё

Алтэр, дык ім Алтэр яшчэ—паганы чалавек, дык ім Алтэр—разбойнік, Алтэр—душагубец...

Алтэр увесь зачырванеў і ходзіць узад і ўперад па невялічкай пляцоўцы, на якой панатырканы лазакруцкія калы, ходзіць і спатыкаецца на скруткі лазы, на гатовую гужбу, на бярозавыя пярэвіткі.

— Вы, пане Алтэр, не хвалюйцеся... дарма...—падыходзяць да яго старыя лазакруты пейсах Фарбер і Іцэль Шуб.—Мала што яны нагавораць, гэтыя гіцалі.

— Пацалуйце Алтэра ў гузік,—чуецца нейдзе з боку.

— Годзе вам, басякі... Дык вы, пане Алтэр... Чаго там... Глупства ўсё... Ня было-б вас, дык ня было-б і заработкаў... Што і казаць, цяжка тут, але-ж бокам ня вылежыш і печанага яблыка... Маладым яно што, галава ў іх як вецер той, абы зубы тачыць... А што Янкель хворы, дык не бяда, ці мала што з чалавекам можа стацца. Малады—дурны. Трэба было яму ваду піць успацеламу? Ну і трасе цяпер крыху. Але-ж паляжыць, адлежыцца, ня дзе будзе....

— Хіба я ўжо яго поедам ем, што ён ляжыць? Няхай сабе на здароўе ляжыць, вялікі мне клопат. Другая справа, што хваробу так ня выляжыш, калі цябе круціць, вазьмі лазіну ды наляж на яе яшчэ ямчэй, пакруці як сьлед—каб у пот добра ўкінула—і хвароба ад цябе і пабяжыць адразу. А будзеш ляжаць—будзе ляжаць і хвароба...

— Яно так, пане Алтэр, але-ж бачыце, хлапца сапраўды скруціла ўжо задужа, і дзе яму тут аб лазіне думаць...

— Ну няхай сабе йдзе да хаты, няхай сабе наладзіць шабас.

— От мы так і думаем. Няхай сабе паляжыць, вось хлопцы панакідалі на яго рызьзя крыху. А пойдам палуднаваць—адвядзём да хаты.

— Няхай сабе й так.—І Алтэр Францўз, абышоўшы сьціrты гатовай гужбы і прыкінуўшы вокам, колькі-та вазоў будзе, ідзе да мястэчка. Ён ідзе з прыскокам, торапка, сьпяшаючыся. Ідзе і думае аб сваіх шматлікіх справах, шматлікіх гешэфтах, якія суджана яму праводзіць тут, сярод гэтых лясоў і балот, сярод гэтых от-жа дурных людзей, для якіх, здаецца, і дабро робіш, а яны ўсё пазіраюць на цябе косым вокам. На цябе, на твой дом, на акутыя жалезам вароты, на дубовыя клеці і крытыя гонтай павеці. Такія-ж павеці прасторныя, ёмкія, што злажыў-бы пад імі ўсё сена з лугоў дняпроўскіх, усе прыдняпроўскія мурагі...

— Вось ня шкодзіла-б млын паравы паставіць, дужа-ж тут месца прытачнае. Але-ж на ўсіх не разарвешся, дый ня ўсё разам...

Алтэру ўсе нізка кланяюцца, вітаюць яго, жадаюць добрага здароўя. Вун і каравачнік Іцка, заўважыўшы Алтэра, аж злазіць з высокага свайго возу і, прытрымаўшы на хвіліну каня і зьняўшы палепленую шапку, так ветліва і лісьліва гаворыць:

— І як ваша здароўе, рэб Алтэр?

У Іцкі агнём гарыць на сонцы і доўгая рудая барада, і космы валос, і пераліваецца ўсімі вясёлкавымі колерамі прамусоленае крысо залапленага, зашытага і перашытага адзеньня.

— Падай, Рохе, мае яноты,—звычайна гаворыць заўсёды аб гэтым адзеньні Іцка.

— І як табе ня сорам, падумаеш... Паліто... Каб нашым ворагам, дай божа, ды такія яноты...

— А што ты, думаеш, кепская пальціна? Уга! І ў дождж і ў сьпёку—і нічога яму ня робіцца...

— Табе ўсё сьмех, Іцка... Сівыя валасы, дзякаваць богу, а яму ўсё сьмех...

— А чаму мне плакаць?

І сапраўды, чаму яму плакаць? Сьвеціць сонца, гудзіць сьляпень над канём і конь весела хвастом махае. А на возе дабро: мыла, іголкі, запалкі, сінька, пернікі... усякага дабра па крысе. А прадасьць дабро, абмяняе, будзе табе: і шчаціна, і скураціна, і воск, і кароўкі дзіравыя, і жменька маку, і торба канапель... Уга, чаму-ж яму плакаць, калі сонца сьмяецца!

— Дык і пагодка-ж, рэбэ Алтэр, не пагодка, а смак!

І Алтэр, які і ня любіць асабліва гаварыць з каравашнікам, пытае ўсё-ж пра жонку, пра маленькага Боруха.

Іцка адразу нібы асядае і блекне, гасьне рудая барада.

— Ой, і не гаварыце пра Боруха. Толькі гэта брыс зрабілі—запрашаў я меелам Гіню—от і пачало пухнуць, пачало пухнуць дзіцё. І што-б вы думалі, я й фэршала зваў, фэршала Асроэла Мохэр... Як-жа, ён нават быў за сандукэ... Дык нічога не дапамагло, павёз у бальніцу... Ну, там нішто, агледзілі, зрабілі, што трэба... Толькі кажуць, калечкай будзе... Ну што-ж, ніхто як бог, хіба я сваму дзіцяці вораг?

— Яно, канешне, так...—адказвае рэб Алтэр і йдзе да сваё новае хаты. Ідзе і ціхая радасьць казыча Алтэрава сэрца—нішто яго ня турбуе, дзеці ўжо дарослыя, калі што, дык і самі аб сабе паклапоцяцца, не маленькія, дзякаваць богу...

А на скрутках лазы ляжыць Янкель Зохе і з-пад насунутай на лоб шапкі ўглядаецца ў далёкае і такое глыбокае-глыбокае неба. Па ім скача, здаецца, сонца. Паскача, паскача, потым зноў нібы застыгне на хвіліну якую, потым пачынае трымцець. Трымціць і пераліваецца срэбнымі істужкамі. Істужкі тыя нібы ціха струменяць у паветры, спавіваючы Янкелевы калені. Ад іх цёпла—сонечныя, срэбныя. Вось і матка, калі гаворыць аб людзях, дык у яе заўсёды срэбра і золата.

— Што, рэб Алтэр? Гэта-ж не чалавек, а дыямэнт... Уга!

— А рэб Нохім? Гэта-ж залатыя рукі...

— Што вы гаворыце? Наш рабін? Гэта ня розум, а проста срэбра...

— Мой сын Янкель? Уга—... Гэта-ж такі басяк, такі басяк... Ня дай божа нікому... На яго няма і вураднікa... Не чалавек, а проста...

— А сын Мойша? Гэта ня сын, а дыямэнт. Гандлюе вун сабе на здароўе і нішто гандлюе...

І Янкелю чамусьці ўспомніўся ўчарашні вечар, калі зайшоў ён з Лозарам—таварышам з далёкага мястэчка—да брата Мойшы купіць для яго, для Лодыра, хунт селядцоў. І як доўга ён угаварваў Мойшэ.

— Ты бачыш, з кім я прышоў? Гэта Лозар Бондар з-пад самых Азарычаў. Гэта-ж такі чэсны чалавек і мой таварыш. Дык ты-ж глядзі, выбірай кожнага селядца, ды каб з малаком быў. Ды не лажы ты гэтага, бачыш ён з іржою. Ды важ добра...

І ўсё-ж абдурыў трохі Мойшэ—падсунуў пад ніз такога сухога, такога сухарэбрага, ну не селядзец, а лаза тая сушаная... А добрыя селядцы і добра калі з бульбай. Толькі піць тады, піць...

— Ну дайце яму, хлопцы, піць, няхай-жа адыйдзе крыху душа... Сьпёкся-ж вун зусім, аж счарнеў...

І хлопцы пояць Янкеля вадою, пазіраюць у яго мутныя вочы і зноў становяцца за калы, бегаюць наўкруга іх, напружваюць спацелыя, бліскучыя пад сонцам сьпіны, напінаючы жалезныя мускулы рук.

— Круці, хлопцы, круці... Круці ды накручывай, каб сок пацёк. Хутка-ж пойдам палуднаваць...

— Слухай-ка, матка...

— Чаго ўжо табе!

— Ці няма чаго часам укусіць?

— От, падумаеш, занетаваўся за дзень, за касой нахадзіўся... Пацягаўся за плужком... Нішто, не прападзеш... Вось прыдзе бацька, разам і сербанеш, а то, бач ты яго, які пан знашоўся, есьці яму падавай... Мо' яешню спрэгчы загадаеш?

— Мо' і хлеба які кусок...

— Хлеба?! А чамярыцы ня хочаш? Набярэшся тут хлеба на вас... Нечага там... Ты от бязульстваў увесь дзень займаешся, а бацька нябось там у дзесяты пот укідваецца...

— Дык толькі кусочак...

— Адчапіся ўжо... У-у... выжла сухая, цярпеньня яму нямашака, так ужо закарцела. Глядзі, малыя—і тыя з розумам... А яму хлеба, хлеба яму... Сорам-бы меў.

У хаце змрочна. Праз невялічкае ваконца—дзірачку даносяцца ў хату галасы вуліцы, чыесьці сьпевы, перакліканьні начлежнікаў. У хаце ціха. Чуваць, як варушацца прусы за комінам, ды Агапа завіхаецца з дзецьмі, укладае спаць на палаці, на печы, на ўслонку ля стала, пасьцілае розныя рызманы і транты. Ад трантаў пыл, а трантаў дух—аж у горле пяршыць, чыхнуць хочацца.

— І халера-б вас пабяры, то-ж неўгамонныя. І калі гэта набярэшся на раты вашы, каб гэта да запоўніла,—ціха лемантуе ля печы Агапа.—У каго й паміраюць, а тут няма на іх зводу, сыплюцца ўсё на маю галаву, каб на вас немач. Змоўчы ты, зяпала, дзе я табе тут цыбулі дастану на печы, дала хлеба, дык і маўчы.

Яўхім сядзіць ля вакна, узіраецца ў забруджанае шкло і не зварухнецца. Нават думкі і тыя ня йдуць у галаву. І ў целе ва ўсім от

нейкая абыякавасьць, от нібы ўсё роўна на сьвеце: і сам ён кульгавы і сухарукі, і гэты самы бацька, і мачаха Агата, і кусок хлеба, якога яна шкадуе.

— Вядома шкадуе... Нябось лузаноў сваіх панакорміць, ім то яна не пашкадуе, апошняе аддасьць... Напладзіла, трубло...

Рыпнуўшы асьцярожна дзьвярмі, уваходзіць бацька, Мірон.

— Ну, дык як вы тут?

— Да ўжо-ж...—адказвае Агата і не эразумееш, што хаваецца ў гэтым «а ўжо-ж», ці то добрае што ў ім, ці то дрэннае.—От садзіся ўжо вячэраць будзем...

— Хіба 'шчэ не вячэралі?

Агата не адказвае і завіхаецца ля стала, вымае з прыскрынку акраец хлеба, рэжа яго на тоўстыя лусты, крышыць над міскай, улівае вады з бляшанага корца, сыпе солі і старанна разьмешвае палонікам. Чуваць, як шархаціць саляная жарства па дну міскі:

— Ну, дык ідзеце хаця... кідае яна і йдзе да печы.

— А ты?

— Ат... Я ўжо, можна сказаць, і павячэрала з дзецьмі... Ды й ці хопіць гэта... Двое-ж вас, ра-а-ботнікі... Бацька, можна сказаць, з сы-ы-нам.

— Ну, ты ўжо можа крыху і змоўчыш?

— Як-жа... На каленцы вот стану... Дзякаваць вот буду... Дзякую, маўляў, табе за тваю шчырую ласку, за гаспадарку тваю, за твайго ненаглядната сына... Выгадаваў вось... Васямнаццаць год хлапцу, сядзіць, штаны шуруе на лаве, работнічак, можна сказаць, уцеха бацьку...

— Змоўкні... Грэх, Агата... Калека тут ня пры чым... Нашто калеку крыўдзіць кажу, калі ён богам пакрыўджаны....

Яўхім чэрпае лажкай мурцы і стараецца патрапіць з бацькам у тахт, каб не перагнаць, не адстаць. Чэрствыя кавалкі хлеба ды з салёнаю вадою да таго-ж смашныя і, так-жа прыемна намацаць ложкай гэтыя кавалкі ў місцы. Нават не заўважыш, што ў самога даўно вочы мокрыя. Цякуць яны каб на іх нарад, коцяцца—салёныя, падаюць у лыжку. Сьлёзы гэтыя, сорам...

— Ну, ты чаго? Румзала знашлося... Жаніць пара, а ён сьлязьмі ўмываецца. Ці мала што матка скажа, на тое яна і матка.

— Шкадуй, шкадуй,— адзываецца ад печы Агата.

— От і пашкадую, на тое-ж бацька я, каб і пашкадаваць часам... Няхай сабе калека, але-ж сын мой...—І ўлагоджаны вячэрай Мірон вылазіць з-за стала, паважна хрысьціцца ў чорны кут і ў змрочнай цішыні чуваць ціхае і мірнае:

— Мяйца, сына, сьвятога духа...

Потым Мірон садзіцца на абрубак ля лавы і крэкчучы і кашляючы разбэрсвае стаптаныя лапці, распраўляе анучы.

— Кінь от у запечак, Агапа, няхай падсохнуць крыху...

— Ты-б от схадзіў да Мялавых, ды ўзяў-бы якую асьміну бульбы...

— Уга... Разумная ты ў мяне стала... А чым-жа аддасі ты гэтую асьміну, хіба на адработак? Дык выцягнеш-жа косьці з адработам гэтым... Ты думаеш, гэта табе жартачкі—асьміну? Ты от лепш пойдзеш заўтра са мною ў панскі сад. Казаў садоўнік, сякая такая праца знойдзецца, глядзі і заробіш якіх два злоты.

— Што злоты... Ты от працуеш у фальварку дзень пры дні каторы ўжо год, усё на злоты свае, а дзеці ў караўках ходзяць, ды сядзяць на аднэй бульбе. Ізноў вун мукі нямашака, прыдзецца зноў скавароднікі пячы, ды й колькі там мукі тае засталося... От папрасіў бы ў упраўляючага поўсьвінка якога, глядзі—калі нікалі і скварку-б зьелі...

— Якая-ж ты, аднак, ласая на скваркі... Ты мо' й малачка-б часам зьела?

— Зьясі з табою, каб цябе ўжо прансы паелі... Наеўся мае жыткі, болей ужо некуды... У людзей і кароўкі, і конікі тыя, у людзей і сала, і маселца, і авечкі ў людзей бегаюць... У людзей будзёнашнае і сьвятошнае—і людзей прыняць і ў людзі выйсьці, а тут мадзееш, гібееш немаведама за чые грахі...

— Цыц, Агата, годзе казалы казаць да пра грахі плесьці... Чые-ж грахі, калі да не твае? Праз свае і пакутваем. От-жа сама ведаеш, з чым я цябе ўзяў, з пасагам якім... Калі ў мяне двое было, дык у цябе чацьвёра, прывяла вун кут поўны... да сваіх, дзякаваць богу, прыдбалі... Што і казаць, не абыйдзены госпадам богам. Дык вось... А ты, Яўхім, таксама заўтра да саду пойдзеш. Папрашу ўжо можа ўпраўляючага, а мо' і дасьць сякую такую працу, сьцярагчы там што...

Агата хліпае носам на печы, туды-ж шкрабецца Мірон, і хутка ў душнай хатцы толькі й чутно, як шархацяць ля коміну прусы, да за печкай стрыкоча цвыркун, ды яшчэ неўзабаве—шэпты прыглушаныя на печы.

— Дурны-ж ты мой... Міронька...

— От ужо, памірыліся, ліха вашай матары... за дзялы ўзяліся...—з прыкрасьцю думае Яўхім і йдзе на двор, на вуліцу на нізенькую прызбу. На вуліцы цёпла. Дзесьці там ля царквы на самым цьвінтары сьпяваюць дзяўчаты, ды па мястэчку, па вуліцы местачковай дзе-ні-дзе мігацяць яшчэ вокны. То не ўгаманіліся яшчэ шаўцы, краўцы, сьлепяць вочы над сваім начыньнем. Ля цыбалавай хаты сядзіць Напрэй, пакурвае цыгарку, і чутно, як смачна цвыркае ён сьлінаю праз зубы.

— Схадзіць хіба...

Напрэй вялікі дружака Яўхімаў, не разальлеш вадою іх, калі ёсьць якая вольная хвіліна. І што іх злучала разам, што прымушала іх сядзець разам цэлыя гадзіны, абходжваць па сьвятошных днёх усе навакольныя лясы і палі,—яны і самі ня ведалі тае прычыны. Вось проста цягне чалавека да чалавека пагаварыць аб чым, параіцца ў сваіх невялікіх справах, падзяліцца думкамі хлапечымі, на жыцьцё паскардзіцца.

— Дык здароў, браце!—І Яўхім прымайстроўваецца на прызьбе.

— Вечар добры! Хіба ня высядзеў у хаце?

— Дзе там высядзіш? Душна ўжо задужа, ды й моташна, ведаеш, у гэтай самай хаце нашай...

— У хаце, кажаш, тваёй?

— Дзе там, у бацькавай хаце...

— У бацькавай... А ведаеш, што я табе скажу—добра гэта хату мець, ды каб сваю, ці хацяў бацькаўскую. Дужа добра. Вот я, скажам, сяджу вось тут, сяджу на чужыне, у сяле чужым, у чужым краі, на чужой, можна сказаць, прызьбе, у чужых, можна сказаць, людзях... Сяджу я... Ты вось сядзіш... Табе яшчэ можна і слова сказаць, бо разумееш ты... А паспрабуй, з імі пагавары. «Бежанец ты, на нашу зямлю галішся, а сваю немцу прадалі»—толькі й чуеш ад людзей часам. А ты-ж і бацькоў меў, і сялібу меў, і край свой... Свой край меў... Да-а-лёка... Колькі дзён адных па шашы ехалі, ды чыгункай яшчэ... І рэчка ў нас, глыбокая рэчка, рыбная... А па берагох лясы, бары...

— І такія-ж лясы як нашы?

— А чаму-б ім быць інакшымі? Вядома такія: хвоя табе тут, елка, і бяроза дзе ні дзе пракідаецца, дубняк, лём... і верасы, верасы па хвойніку, як зацьвітуць гэта падвосень... Ведаеш, дужа-б хацелася ізноў там пабыць, хатка там у нас старэнькая, старэнькая і садок невялічкі... А мо' і спалілі даўно яе казакі ці немцы. Казалі людзі, што мала вёсак засталося, усё больш папаленыя. Толькі-б чаго на нашу вёску галіцца, невялічкая яна, двароў тых з трыццаць... І гэтак у лагчыне стаіць, і пасярэдзіне ручай. Сьветлы такі ручай—каменчыкі там на дне, пяшчынка кожная, як на далоні ў цябе. Дужа-ж вада сьветлая. І студзёная... Вось тутака ў вас дык няма такой вады і ручаёў такіх нямашака. Вун у рэчцы дык чорнае дно. Нібыта рэчка бяздонная, а ўсяго й глыбіні ў яе—па пояс. І дно задужа тванiстае, бруднае дно. Ізноў-жа, балаты... А ў нас калі ня лес, дык пяскі, цэлыя горы пяску....

— Вялікая карысьць з таго пяску?!

— Ды я-ж не к таму кажу, што карысьць... От я гавару, што іначай у нас. На бацькаўшчыне на маёй... А цяпер мо' й не зьвярнуцца болей ніколі. Дзе там! Бацька памёр 'шчэ ў дарозе. А матка тут у суседняй воласьці ў фольварку служыць. Ды сястра яшчэ Марта. Аддала яе матка ў манастыр служыць, пад Быхавым дзесьці...

— У Варкалабаве мусіць...

— А хто яе ведае. А я вот тут... У Цыбала.

— А чаму табе канешне быць у Цыбала? Не знайшоў хіба ўжо другога чалавека.

— А што мне? Вялікі клопат. Дарма ніхто хлеба ня дасьць. Ці ў Цыбала, ці ў дурыбала, а працаваць усёроўна трэба.

— Ну, гледзячы, як працаваць...

— А як працаваць? Калі працаваць, дык працаваць. Хіба-ж у дурыкі гуляць! Ня звыклы я, каб гэта па цянькох...

— Ды яно вядома... Але-ж за працу павінна быць і плата добрая. А хіба-ж Цыбал табе плаціць добра, ці што? Хіба ты за гэты год знасіў добра, ці зьеў добра.

— А ліха яго бяры. Ня горш як у бацькі было. Сыт покуль што. Ну, калі ён там не дадасьць крыху, калі самі ўжываюць больш смачнейшае, дык вялікая з таго бяда, як-ніяк, але-ж гаспадары яны...

— А от ты дурань, Напрэй, і вялікі дурань. От табе ў салдаты трэба хутка пайсьці, а грошы і ні капейкі ў кішэні, і нічога ты ня прыдбаў. Я от і то часам псалтыр пачытаю па нябожчыку, глядзіш— і кавалак палатна на сарочку, ды яшчэ і злоты які. А то ў царкве вун па нядзелях на крыласе пасьпяваю крыху з дзяком—і тут якая капейчына набяжыць. Праўда, бацьку аддаю, а то і мачаха часам скрадзе, але, як-ніяк, усё-ж тыкі капейчына. А ты-ж, можна сказаць, у Цыбала поўны гаспадар, і каб гэта за нічога...

Над прызбай бразнула шыбка, адчынілася, і ў вакне высоўваецца касматая Цыбалава галава. Рысаў твару яго ня відаць, але па тым, як злосна сіпіць ён, выціскаючы слова за словам, чуваць, што дзядзька Іван дужа ўзрушаны, усхваляваны.

— Яўхімка, а Яўхімка! Ты от пасядзі яшчэ крыху тут...

— А хіба вам, дзядзька, прызбы шкода?

— Ты от пагавары мне яшчэ! От паспрабуй яшчэ слова другое, калі не пераб'ю табе другой нагі. Бач ты яго, супастата... Сухарукі гад, а туды-ж лезе, Цыбал яму перашкаджае. Цыбал мала плаціць. От я табе зараз заплачу, ліха тваёй галаве.... Пачакай яшчэ, от скажу бацьку, дык ён табе пачэша скуру. Іш, гадаўё...

— І чаго вы, дзядзька, узьеліся? Хіба я ў вас украў што, ці што?

— Гэтага яшчэ не хапала! Напрэй! І ты добры! Заўтра на пожню трэба ехаць, дык ён на прызьбе выседжвае, таварыша знайшоў... Пашоў спаць, даўно ўжо час, каторыя ўжо пеўні пелі...

— Ды яшчэ ніводныя!

— Ніводныя... Хіба табе яны ў знакі? Айда спаць!..

— Ды ня хочацца яшчэ спаць, задужа ня хочацца...

— Ці мала што ня хочацца... Вось прыдзе зіма, стане час вальнейшы, тады і гуляй сабе, дужа мне аб табе клопату... А цяпер айда... Яўхім, а ты ня стой, нечага хаты мае пільнаваць, ідзі пільнуй бацькаву, каб ня скралі часам бацьку з мачахай...

— Пра бацьку майго вам задужа малы клопат, дзядзька Іван.

— Ідзі, ідзі, чыкільдзей, дужа мне ахвота гаварыць з табою з дурніцаю.

— Цыбала ты сам дурное, мяла тое прожарнае...

— Ну, ну, пагавары яшчэ!

— Крывасмок ты, бач, чэрава распусьціў гнілое...

— Адыйдзі, кажу!

— Іш ты яго, законы знайшоў, каб другімі распараджацца. Прызбы яму шкода, мо' зьеў бы часам.

— Адыйдзі, крывы!

— А вось і не адыйду...

— Ну й не адыходзь, пранцы на цябе няхай сядуць, каб ты ўжо камянем стаў... Вось і зачыню вакно, шуядзь гэткая... Бач, ты яго, крывы, а фасон трымае.

Дзядзька Іван бразгае вакном, зачыняе. Злосьць у яго ціхая, часам зусім няпрыкметная. От і злуе часам на чалавека, але і выгляду таго не паказвае. Усё непакоіцца, каб гэта цішком, цішком, да абдурыць каго, да каб бяз гоману, бяз тлуму таго, бяз лішняга клопату. Нахрапам каб узяць ціхім, падыйсьці неўзаметку.

— Дык спаць хіба пойдам.

— А ўжо-ж... не дражніцца з дурным гэтым, целябукаватым... І каму толькі дабро гатуе? Сын той, дык званьне тое... А ўсё пнецца, усё пнецца, каб болей у гаспадарку, вун у колькіх салдатак пожні пазабіраў... І куды яно што дзенецца? Усё ў банку прэ... І каб сам што палюдзку спажыў, дык не. Вун ходзіць як бацька мой, аднымі трантамі трасе. Дзіва 'шчэ, як гэта на чабаты собіла ўзьбіцца, то-ж мусіць плакаў месяц цэлы, што скуру сырцовую загубіў...

— Дык ты прыходзь ужо вечарам....

— Да ўжо-ж прыду...

— А ты мяне спаймала?

— Трэба от яшчэ, каб я да лавіла яе. Дужа гэта мне патрэбна... А што з Рыгорам бачыла цябе каля Панасавага гумна, дык вядома бачыла. Няхай вот і Сьпіклета скажа, калі я маню...

— Ну няхай сабе й бачыла... Ну няхай сабе і з Рыгорам... Дык завідкі бяруць... Хто на цябе ўжо пагаліцца?

— А мо' хто й пагаліцца, мо' хто й лепшы ад якога-небудзь Рыгора...

— Хіба от сьвёкар твой, шула тое дуплінаватае...

— А скуль-жа гэта ты ведаеш, што яно дуплінаватае, ці не на сабе паспытала?

— А кіньце вы, бабанькі, языкі мяньціць... От калі што якое і вышла з каторай, дык от непраменна трэба на ўсю вуліцу пагалосіцу пускаць. Дзіва от людзі кажуць, што розуму ў нас, у баб, от на кінець той самы... Ну і прайшлася каторая, ну і з хлопцам прагулялася, ну і няхай сабе... Абы бяз клопату... А калі што, дык і не табе-ж па ёй клопат—прыдзе мужык з вайны, ён сам дабярэ тыя кончыкі, сам разьбярэцца, ня дзе дзенецца... Дык от толькі адна на адну: гаў-гаў-гаў... Дзе-б хто і ведаў, каб не языкі вашы...

— Ды хіба-ж я чапаю яе, цётачка?

— А ты маўчы, і памеле, памеле, ды й змоўкне...

На бярвеньнях ля старастavай хаты сядзелі салдаткі. Тут былі і старыя, удовы, з нярухомымі тварамі, на якіх застыгла, здаецца, пячаць векавечнай заклапочанасьці, на якіх сетка змаршчакоў даўно сагнала ўсякія адзнакі радасьці і смутку, на якіх тупа выглядалі вы-

цьвілыя вочы. Старыя зябка хуталіся ў свае хусты, у ватныя, пазалапленыя жакеткі. Маладзейшыя, тыя сядзелі наводдаль. Там чуваць быў сьмех, жарты, і толькі калі-ні-калі прарываліся тужлівыя словы:

— А божачка, от чулі-ж, парашчын мужык паранены... Кажуць абедзьве нагі адразаць будуць...

— Дзіва што адразаць...

— Не памёр каб!

— Вядома, дактары, ім-жа й ведаць...

— А то 'шчэ можа й хлусьня?

— Дзе там! З шпіталю вун пакет атрыманы, паперы прышлі. З крыжам яшчэ чырвоным. Сам стараста перадаў учора...

— Што-ж цяпер Парасцы рабіць?

— Што рабіць? Ня ў пролубку-ж кідацца... Выхадзяць можа, вось глядзі і вернуць чалавека кабеціне.

— Бяз ног?

— Трэба-ж думаць...

Бабы задумаліся. І ў кожнай у думках было: а мо' й мой паранены дзе... І не хацелася думаць, што можа ён і забіты, што можа ён даўно пахаваны, можа яго косьці даўно ўжо ў зямлі спарахнелі...

— А вось былі мы анодысь у фальварку—сена грэблі пад кокатам—дык казаў гэта ўпраўляючы, што зноў набор будзе, мабілізацыя, ізноў год будуць браць з маладзейшых... Казаў, мо' і з старых гадоў таксама возьмуць.

— Дзе ты іх ужо набярэшся?

— Ча-а-му? Зно-о-йдуць... Вун, калі гадавала, калі начэй не дасыпала, калі толькі й клопату таго было, як-бы хутчэй выгадаваць, на ногі падняць, каб ужо самі сваёй рукой хлеб елі, дык тады іх ня было... Ці сытыя яны, ці абутыя, а ці ўзімку адзетыя—дык ім тады малы быў клопат аб гэтым. Хоць ты задушыся з імі, хоць ты выйдзі на ростанькі, да раскрыжуйся на сырой зямлі, дык яны ня бачылі гэтага, ім ня трэба было гэтага бачыць... А цяпер—уга... зно-о-йдуць... Як-жа, выпеставала маці, крывёю сваёю выхадзіла... Дык возьмуць, возьмуць чорту лысаму служыць, няведама каго абараняць... Хіба хату сваю—рашато дзіравае, калеку—каня, або парабчанства сваё сіроцкае... Як-жа... Уга!.. Во-о-зьмуць... Вот даць каб, дык іх няма на гэта... А ўзяць, каб змаглі, дык і цябе ўзялі-б, не бяда, што старая...

— Куды ўжо цябе, цётка Барташыха, хіба лягушак ганяць з-пад пушак,—заўважае стараста Хвядос Мялаў, пагладжваючы рэдкую, чорную з сівізнаю бараду.—Ты, браце, там не патрэбна. Яшчэ-б маладзейшую каторую, дык хіба салдатам на забаўку, а табе ўжо куды, табе ўжо, галубка мая, белы білет вышаў...—І стараста падміргвае салдаткам шэрымі, як мышаняты тыя, вачмі.

— Ну, ты от скажаш яшчэ,—крыўдзяцца старыя бабы. А маладыя насы ў хусткі:

— Дзівіся, стары, а 'шчэ трасца на ўме, і дапяў-жа Барташыху...

— Дужа там... Дапяў... Чаму й не... Што-ж яму—кабану—робіцца... Толькі й клопату—нядоімкі зьбіраць, скуры зьдзіраць апошнія з людзей,—абзываецца Барташыха.

— Ну, годзе вам, базар разьвялі. Вось ідзеце хаця да хаты, спасобія выдаваць буду.

— А за які, дзядзька, месяц?

— От за які дам, за такі і будзе!

Стараста выклікае па сьпісу жанчын, доўга і марудна пералічвае жоўтыя рублі, слупкі медзякоў і, разоў з дзесяць зьверыўшы падлічаныя грошы са сьпісам, як бы з вялікай неахвотай перадае кабеціне. Тая беражна, натапырыўшы вусны, пералічвае грошы, уздыхае і асьцярожна заварачвае ў ражок хусткі.

— Дык дзякаваць ужо, дзядзька,.. Раней вун гэта пакуль у воласьць дапнеш, ды ногі саб'еш, а часам і не выдаюць—разы па два, па тры хадзілі... А цяпер нішто...

— Ото-ж бы й то...—паважна кажа Хвядос, і яго вочы—спрытныя мышаняты—старанна бегаюць па валаснову сьпісу ды і зрэдку даглядаюць у замусоленую кніжку, дзе ў яго вядзецца свая бухгальтэрыя: «Адар'я—пуд мукі ўзяла жытняе перад пятроўкамі, Сьцяпаніха—тры пуды ячменю на адработ у жніво, Ладымірыха—бульбы... А колькі тае бульбы, хто яго ведае, от-жа запісваў мусіць тады, як ад швагра прышоў. Шчэ казала жонка: пачакай ты з бульбай для маладзіцы—шчэ з п'яных воч дык і перасыплеш якога гарца».

— Настуля, а Настуля!

— Чаго, дзядька?

— Колькі ты от бульбы ў мяне брала?

— Бульбы? Асьміну брала,. усяго асьміну...

— Дык от давай палічымся... Колькі табе тут? Два рублі трыцаць... Ну от якраз. Хіба яшчэ там дзень які пажнеш...

— Дык, дзядзечка, а як мне цяперака... Калі там тое што будзе з поля, а тут-жа з дзецьмі, да не прыкупіся ні да чаго...

— А мне-ж якая да гэтага, мая галубка, справа? Хіба я ў карміцелі якія вам наймаўся: любіце браць, дык любіце-ж і аддаваць.

— Ды яно-ж...

— От то-ж, што і яно-ж—вынь да палож!

— Дык яно-ж, дзядзька... як-жа гэта так, каб без капейкі... І куды мне з дзецьмі падзецца... каб гэта 'шчэ сьвёкар быў, а то-ж самі ведаеце, 'шчэ вясной памёр. А тут-жа напасьць гэтая, нібы насланьнё якое, кароўка і тая ялаўкай ходзіць... І што-ж мне рабіць?.. А бо-о-жа-ж мо-о-о-й...

Прыгожая Настуля. Двое дзяцей у яе, але ўсё яшчэ крамяныя шчокі ў яе і гэткія-ж бучныя грудзі—вун так і захадзілі ходарам. І ня прыгожа, калі баба пускае сьлязу,.. Дужа-ж яно няпрыгожа, калі баба пры гэтым ды кроў з малаком. І ледзь прыкметна моршчыцца Хвядос. І думае Хвядос. І рашае.

— Слухай, ты! Настуля! Табе гавару, ці не? Ну, чаго дождж пусьціла, чаго? Тут людзям сена грэбсьці, а яна ваду пускае... Чаго ўжо там... Бяры хіба паўтара рубля, а там ужо разьлічымся пасьля.

Настуля выцірае рогам хусткі твар, бярэ ня гледзячы грошы, усхліпвае і, не разьвітаўшыся ні з гаспадаром, ні з бабамі, выходзіць з хаты.

— Слухай ты, стараста!

— Чаго там?

— А вот табе слова скажу,—паважана кажа, зайшоўшы ў хату Напрэй Казёл, за кожным словам шыхкаючы піпкай.—Я от табе кажу—людзей ты ня крыўдзь... Глядзі...

— Што глядзі?

— А от так, глядзі... Ты от зарышся на гэтыя грошы салдацкія, дык глядзі, каб яны табе...

— Што ты там плявузгаеш?

— Каб яны табе ня вышлі бокам. Ты от не глядзі, што ты стараста.—Гэта дармо...

— А ты што за ўказьнік, ды ў маёй уласнай, можна сказаць, хаце? Мо' хочаш, каб да ўрадніка паслаў?

— Ты гэта кінь... вурадніка, вурадніка... Пацалуй ты гэтаму вурадніку... Во што... А людзей крыўдзіць ня сьмей. Ты не глядзі, што на табе бляха. Бляха—гэта дзярмо...

Стараста дужа пакрыўджаны, ня столькі за сябе, колькі за бляху, за гасуда-а-рсьцьвенную бляху. За тую самую бляху, што дае яму столькі павагі, пашаны колькі на ўсім сяле, перад усім вобчаствам. Уга, бляху абразіць... Толькі што ты з ім зробіш, з гэтым Напрэям, які ня толькі яго не паважае, але-ж гэтакія словы адпускае і аб вурадніку. Дзіва што аб вурадніку, ён і пра папа можа нагаварыць... І што ты яму зробіш, охвота з такім чалавекам чапацца, з няпрыемным такім чалавекам. Толькі клапот табе наробіць, ня болей.

— Напрэйка! Ты пра бляху кінь. Ды кінь плявузгаць... Якая тут крыўда каму... Паслухаў вось гэтай жаночай зьвягі, дык і думае бог ведама што...

— Уга, цябе паслухай, ты гэта ў нас гаваркі...

А бабы перашэптваюцца, ківаюць галовамі, адна другой на вуха: «Бач, баіцца ўсё-ж Напрэя, гэта яму ня бабы... Усё-ж мужчына... Але-ж Напрэ-э-й... Гэтак-жа на старасту... Вось каб да нам гэта так...»

Ужо бабы пачалі разыходзіцца, як Хвядос успомніў аб лістох, што прывёз разам з грашмі з воласьці...

— Пастойце-ка, пачакайце крыху... А лісты-ж я вам і забыўся аддаць.

Усе насаражыліся, бо няпрыемна цяпер лісты атрымліваць: у таго паранены, там кантузія, а то зусім хто з жонкаю расстаўся.. Кепскія цяпер лісты, лепш-бы бяз іх... Але кожнаму карціць: каму-ж ліст, ад каго якая вестка, і што там дзеецца, пад тым далёкім ярманцам,

дзесьці там далёка, далёка, куды не дасягнеш вокам, не пабяжыш на праведку.

— Дык от і лісты... Арцёмісе тут ёсьць... На во... Ад сына мусіць... з пячаткай сюргучнай, уга, які важны пакет, з каронай царскай..

Арцёміха, сівая, згорбленая бабуля, доўга трымае ліст, баючыся дакрануцца да бліскучай пячаткі, і асьцярожна хавае яго за пазуху.

— А ты яго прачытай, што піша?

— Дзе мне чытаць, калі ня ўмею. Вось папрашу хіба Яўхіма крывога, няхай прачытае мне з Арцёмам.

А праз колькі часу безнадзейна пытала Арцёміха, пытала і ня ведала каго: ці сябе, ці крывога Яўхіма, ці мужыка свайго Арцёма, які як трымаў подплетку ў руцэ, так і застаўся з ёю сядзець.

— Дык што-ж гэта такое? Людцы, вас я пытаю? А ці-ж ён каму ліхое зрабіў? А божа-ж мой, бо-о-жа...

Старэнькія сьцены рабіліся яшчэ больш цьмянымі і маўклівымі, ды стары Арцём ня ведаў, дзе пакласьці недаплецены лапаць.

Сьмешныя ў багародзіцы вочы, як гузікі тыя павылупляліся... І глядзіць, усё ўніз глядзіць на дзіцёнка свайго. Бач, пузаценькае, раскінула ножкі, ручкамі матку за бараду хапае. Уга... пупок і той няпрыкрыты... Іх, дзі-і-цёначак... Цёпла цяпер, сонейка грэе, краскі, бач, распукнуліся, расьцьвітаюць—цьвітуць на палянцы смалянкі, дух ад хвоі ідзе і па кары цякуць-сьцякаюць бурштынавыя сьлёзы хваёвыя, ну нібыта вун тыя каменчыкі, што ў вянчыку багародзіцы пад сонцам бліскацяць. А зімой... У-у-х... Страшна зімой. Як-жа быць табе няпрыкрытаму, дзіцёначак мой, пузаценькі...

Гудуць, ці-і-ха ціха гудуць верхавінамі хвоі, ледзь учуеш іх сьпевы. Вун пчолы на палянцы тудуць так, да жоўтапузы шмель хоча сьпецца з імі, ды ўсё не ўдаецца. Толькі й выходзіць у яго: бом-бом-бом...

На суку вун дзяцел тутукае. Упёрся хвастом у кару і сядзіць вун паважна, толькі галавой гэтак верць-круць. Ну нібыта вураднік той, калі падносіць яму чарку гарэлкі сястра Аўдакія, пакруціць, пакруціць, ды дзюбаю ў дрэва ізноў—тук-тук, тук-тук... Працавітая птаха.

Ціха, ціха навокал. Толькі журчыць ручаёк крыху, што выцякае з сьвятой крыніцы, з таго драўлянага зрубу, на якім стаіць капліца. Сьпераду—ганак, на ім невялічкі калодзеж—от, рукой дастаць можна вады. Над калодзежам багародзіца, усё ўглядаецца ў сваё богам дадзенае дзіця. Ці то ў скарбонку ўглядаецца... Ля капліцы дарогі крыжуюцца—з мястэчка і праз лес у далёкі горад. А другая ўніз, лугавая, на шырокія пожні дняпроўскія, туды, пад кручу, дзе сьцеражэ дзед Амяльлян рыпучы паром, рыбу там ловіць, бульбу пячэ, ды лаецца часам з перавозьнікамі. На скрыжаваньні дарог крыжы стаяць: вялікія, маленькія і так сабе, сярэднія. Вун іх колькі, павыросталі, як тыя апёнкі ля карча бярозавага. І на кожным безьліч

хвартушкоў—і калі толькі бабы гэтыя ўпраўляюцца шыць да гафтаваць.

А крокаў колькі ад капліцы, там, дзе зышліся купкаю елкі, халупа стаіць у тры вакны: два на капліцу, адно на Дняпро, на шырокія пожні. Сенцы, невялічкі двор з высокім плотам ды клець. Ды яшчэ сабака ў будцы, вялікі, страшэнны сабака, а завецца па звычайнаму—Жук. Жывуць у халупе дзьве манашкі і сястра Аўдакія—нос гарбылём, гаворыць з прысвістам, а самой год з пяцьдзесят. От яка-ж нелюдзь—і то ёй кепска, і той ня тое, і трэцяе не да парадку. А другая—сястра Марыля. Тая куды маладзейшая, будзе ёй гадоў з дваццаць пяць. Маладая сястра і пявучая. От выпраўляць стары пантопак куды—гэта так ды сястру Аўдоку—тады й пачнецца. І сьпевы і скокі, чаго-чаго толькі не вычварае. Пачне разлуку сьпяваць, альбо «сьцерагуць маю турму»—от бы, здаецца, і заплакала-б, заплакала... да таго-ж жаласьліва, так і шчыміць на сэрцы.

— Ты от глядзі толькі, не кажы сястры Аўдокіі. У-у-х, злосная яна. Чаго, чаго, а пры ёй не запяеш.

— Чаму?

— От, дурніца ты, чаму... Хіба-ж можна манашкам ды песьні пець, ды пра долю дзявочую, пра белы сьвет, пра дружка таго мілага, да што сэрцу люба—пра гаручае каханьне, ды пра ночы, ночкі тыя веснавыя.

— А чаму гаручае?

— Дурніца ты, Марта! Пажывеш вось, тады і пазнаеш. Не закахацца-ж у хвою каравую альбо ў Амяльляна таго...

— І Амяльлян чалавек добры. Каб ня ён, хто-б дроў насек?

— Дровы, дровы, даліся табе гэтыя дровы...

Жывуць манашкі, капліцу пільнуюць, да сабіраюць на кляштар, які паслаў іх сюды вёрст за пяцьдзесят за праступкі розныя сьцерагчы крыжавыя дарогі. А Марта паслушанкай у манашак, другі месяц як сюды з манастыра прыслалі. У Марты праца: навары, памый, прыбяры, схадзі па ваду, прыслужвай людзям, што зрэдку заглядаюць у капліцу, прыслужвай манашкам. Да ня проста прыслужвай. А ў кожным разе да сястры Аўдакіі, да паклон ёй, да нізкі: «Благаславі мяне дровы прынесьці, маці Аўдокія!» І благаслаўляе, шлэпаючы сваімі старэчымі вуснамі, ды падстаўляе яшчэ руку цалаваць. А рука тая вузлаватая, ды гуркамі ад яе пахне кіслымі да алеем. Ды яшчэ калі што, як учэпіцца рука ў валасы дык, здаецца, так бы й выскубліся ўсе адразу.

— Месца гасподнягa не паважаеш, бач, разгоцалася як кабыліца... А ты з малітваю, з малітваю...

— А чаму з малітваю?

— А ты слухай, што табе гавораць, ды паменей распытвай, бо састарышся хутка... Госпаду богу няпрыемна бачыць гэта з сьвятых нябёс сваіх, калі чалавек ды не паслухмяны, да малітвы гасподняй неахвочы, ды бязумны, ды распусныя думкі ў яго ў галаве...

— Гэта ў госпада бога, маці Аўдакія?

— Божа мой, божа, што вярзуць твае вусны... Сястра Марыля, сястра Марыля?

— Слухаю, сястра Аўдакія!

— От вазьмі ты кажанё гэтае, ды навучы яго разуму, ды пакладзі на яе кару господню: усю сядміцу ні мяса, ні малака, апроч толькі нішчымніцы—дужа гэта для душы добра, калі цела зьміраецца... Прадстане тады душа перад вочы боскія і здыме з яе господ бог усе грахі: вольныя і нявольныя, і ляціць тады душа вольная, як тая птаха—голуб... Ва імя айца і сына... Адвядзі-ж ты яе з маіх воч, да не ўвядзі мяне ў грэх, у спакусу перад днём тым сьвятым, перад нядзеляй...

Сястра Аўдокія становіцца тады звычайна перад абразамі і цэлымі гадзінамі чуваць, як бубніць яе старэчы голас:

— Сьвят, сьвят, сьвят... Госпадзі, ачысьці мяне грэшную.

Альбо ўчне псальмы чытаць.

Ох, нудна-ж тады, нудна... Зьбегла-б, здаецца, на край сьвета, каб ведаць гэта бегчы куды. Але куды пабяжыш бяз пуця-дарогі ў белы сьвет як у капеячку... Калі-ж нікога навокал, ні адзінай душы табе знаёмай, чалавека ласкавага. Хіба Амяльлян вось. Ну, Лаўрэн яшчэ часам зойдзе пад нядзелю. Але што яны. Вун крыўдзіліся Амяльляну раз на жыцьцё нуднае, на сум, на тугу па ласцы матчынай. Дык дзе там, толькі й ведае стары, што параду.

— Цярпі, мая галубка, цярпі, госпаду богу служы, яго сыну ўсявышняму. А гэта-ж ня кожнаму дадзена. Я от паромам кірую, людзей праважу, коняй, з людзьмі па-людзкі і абыходжуся—і сваркі табе тут і лаянка і ўсякі табе клопат. І ўпраўляючы цябе лае, калі мала прыбытку, і твой-жа брат селянін крыўдуе: апошнія, кажа, гарцы забіраем... Дзе ўжо тут пра госпада бога думаць... І рад-бы яму паслужыць, а язык вось так і цягне, каб гэта вылаяць каго ды паямчэй... А твая справа боская... Ты от і цярпі, служка хрыстова... Трымайся... А калі спакуса якая, дык ты па ёй малітваю, словам божым, альбо працай якой... Дужа-ж гэта на карысьць ідзе... Яно й палягчэе...

— А як яно вам, дзед Амяльлян, хіба лягчэй, калі от вам, скажам, бульбу пячы трэба, а сала і няма, а сала ўпраўляючы і ня даў...

— Дык я, мая галубка, з малаком тады, з малаком...

— А калі, скажам, і малака нямашака, а дужа-ж есьці хочацца, і скваркі хочацца, і малака хочацца...

— А я тады, раба божая, аблуплю бульбіну ды са словам божым...

— І нішто? Смачна?

— Дзіва што, калі са словам божым, дык яно, вядома...

— І на душы палягчэе, дзед Амяльлян?

— Дзіва што... От дурніца, даруй-жа божа!

... А цяпер вось добра. Сястра Аўдакія ў горад паехала параходам. Нейкія ў яе там справы ў благачыннага. Сястра Марыля ў мястэчка зьмылася, мусіць па справах тых манастырскіх. Вышывае яна плат напрыстольны ў царкву кляштарную, дык пашла хіба нітак

шукаць шаўковых. Засталася ля капліцы Марта адна, і ніхто яе не турбуе: прынясі да аднясі, да госпаду богу памаліся, багародзіцы пакланіся, да паглядзі, ці ня скісьлі гуркі, ды сарочкі памый...

Прыкра тут і сумна... Каб ня праца, дык нямаведама што... Бадай што ў маткі ўсё-ж лепш было, ніхто на цябе не пасварыцца. Але дзе цяпер матка...? Як праведала раз у кляштары, дык з таго часу і ня бачыліся... І хто толькі вайну гэтую выдумаў, і каму яна на патрэбу? От бацьку згубілі, і хаты нямашака, і коняй няма, і каровак... І нямаведама, дзе брат. І нямаведама, ці сустрэнуцца калі зноў.

Наплываюць сьлёзы на вочы, капаюць на мох, на бліскучае тое лісьцейка брусьнічнае, на шышкі хваёвыя, сухія шышкі, пахучыя— колькі от іх Марта паназьбірала на самавар, куды лепш, як вугальле...

А хвої гудуць. Ці-і-ха, ціха гудуць верхавінамі, зялёнымі да высокімі. А за імі блакітнымі прасьціpадламі праглядае далёкае неба. Адтуль углядаецца сонца, і ад яго лапікі сьветлыя па зямлі, па вераску, па карэньнях каравых, па лісту брусьнічнаму, па мучаніку, па жухлых голках-хваінках. Ды пчолы гудуць на паляне. І спаважана бомкае шмель жоўтапузы. Ды ўглядаецца багародзіца, упыніўшы сінія вочы ў ненаглядпае дзіцятка.

— Іх, пуза-а-ценькае...

Складалі апошнія копы ў старасты. Сам стараста, яго сын Банадыс, дачка Агата, Аніс-шахцер, сусед, Валодзька-пастух, да з дзясятак салдатак. Дапамагала старастава жонка хіба от толькі для прыліку. Бо ўсё войкала, бедкавала, што нешта вадка ёй, мусіць выпіла вады з канавы—ад таго і мутарна. Вохкала і садзілася на абскубеныя купіны, ды, сашчарэпіўшы рукамі жывот, качалася ўзад, уперад, ды прасіла ў бога, каб-жа даў ды хуткую сьмертуху.

— То-ж жытка мая, жывеш, жывеш і ўсяго ў цябе ўдосталь, дзякаваць богу, але-ж няма, каб гэта да на душы спакой... каб гэта да супакой табе, да лагодненька ўсё, да мір табе ў хату...

— Не садзіся на купіну, жаба ўлезе...—кідае Хвядос, зьбіраючы граблямі пласт сена і паднімаючы яго над галавой,—з-пад вялікага абярэмка толькі й відаць яго ногі, ды правая рука з высока ўзьнятым грабілнам.

— Каб табе, мой Хвядоска, да жабы гэтыя на язык селі... От рубам табе мусіць стала галава мая...

— Каб-жа галава!

— То-ж паганы язык... Але прабач, прабач, мой Хвядос, не дачакацца табе, не, не... Хвароба! От ужо, пакуль жыва буду, дык трасцы... Хаты мае не апаганіш. От ужо калі памру, тады як сабе хочаш, хоць і на галаве стань, хоць і расьперажайся... Хочаш сабе маладую, бяры маладую, хочаш удаву—круціся сабе і з удавою... Абы мае костанькі да былі ў спакоі...

— Каб-жа даў бог!

— А каб-жа табе да пранцы на язык!

— Мам, вы-б хаця людзей пасаромеліся... То-ж...

— А ты, дачушка, ня слухай. І не пра табе гэта казана і не табе гэта слухаць...

На хвіліну замаўкала Хвядосіха. Тады чуваць было, як тарахцяць спрытныя граблі, як жартуюць салдаткі з Анісам, завіхаюцца ля яго, кпяць над ім.

— Чаму, Аніська, ня жэнішся, сапсееш вось так, хто на цябе тады і пагаліцца?

— Уга, колькі вашага брата, а вы на што?

— Мы? Не для твайго, браце, носу. Бывае, апячэшся часам...

— Ну, каторая гэта там? Ты, Аксіньня? Ну, падыходзь!

— Ідзі ўжо, ідзі кручаны... А то грабілнам...

— Не падгадзь, Аніс, трымай марку,—кідае паважна Валодзька-пастух, дастае капшук, круціць цыгарку і доўга выбівае крэсівам агонь, дзьмухае на трут і смачна закурвае.

— Дужы хлапец Аніс, дзябёлы. Чорныя валасы ў яго, нос з гарбалінкай, пранозаватыя чорныя вочы. І хада гэткая-ж: паглядзіш от, воч не адарвеш. Кажуць, белабілетнік Аніс, порча нейкая там... Але якая справа дзяўчатам да порчы тае, да нейкага там ліха... І ліпнуць, як мухі на мёд. Ліпнуць дзяўчаты, ліпнуць салдаткі.

— І-і, таечка, хлапец-жа не хлапец, а...

І ня ведалі, чым-жа назваць...

І ля капы завіхаліся маладзіцы, накідваліся ўсе на Аніса, дужаліся, закапаць у сена стараліся. Тая за сарочку шкуматае, тая сіліцца пад ножку даць, другая на бок паваліць. Але дзе ты з ім, з чортам дужым, справішся. І мільгацяць лыткі салдацкія, сыпелыя лыткі, белыя да дзябёлыя, калены загарэлыя, сонцам налітыя, да анучы з аборамі пяньковымі ды раменнымі, скуры чорнай сырыцовай. Задыхаліся, сапуць, а ён шкуматае.

— Прузынчка, а маманькі мае, ты яго пад ныркі, пад ныркі гада печанага...

А гад печаны і сам ужо ўстае, ад сена атрасаецца, з-за каўняра пацяруху абірае.

— Будзе ўжо, досыць... Не ўгаманіліся? А то задам пытлю...

— Ну, вы тут раскапушыліся, усю капу раскідалі... Айда, айда, нечага гармідар ладзіць,—ні то сурова, ні то лагодна абзываецца дзядзька Хвядос, і не распазнаеш, што хаваецца пад яго чорнымі вусамі: ці то ўсьмешка, ці то калючыя маршчакі незадаволенасьці.

А маладзіцы ўжо сьпяваюць. Ідуць рад у рад, варушаць, грабуць духмянае сена, згінаюцца спацелыя—і адзін за адным кладуцца ў копы пласты. А песьні льлюцца па пожні, далятаюць да высокае кручы і разьлятаюцца рэхам па дняпроўскіх лугох і палёх, аж да самага сіняга бору. І ў песьнях тых: і пахучыя краскі, што вянуць, хіляцца пад касой востраю, і чайкі, што лятаюць вун пад алешнікам, над асакой узьбярэжнай, лятаюць да кігікаюць, ды гэтак-жа жаласна. І воля дзявочая, доля жаночая, і сьвёкар, і дзевер, і злая сьвякруха—мачаха...

— Ух, ты...—вырываецца ў Хвядоса, і сам ён ня ведае, што ў гэтых словах хаваецца. Дзіва, сена колькі таго аднаго. На ўсю зімку хопіць, ды прадаць яшчэ колькі можна, ды пазычыць там на адработ. Латва з гэтымі салдаткамі, ты ёй бульбы пуд, а яна і стараецца, душу сваю перад табой пакладзе, бо ласку тваю, дапамогу тваю адчувае... Але й сумна крыху. Ня ў сене-ж, ня ў бульбе адной услада тая чалавечая... Вун квактуха сядзіць, стары вылівак... Адны косьці... Вядома, у гаспадарцы яна свой чалавек, найлепшы дапаможнік і саюзьнік твой... Хто як не яна, лепш ад усякіх зарубак, памятае, каму і што пазычана, і хто колькі павінен прынесьці і прывезьці: ці то бульбы асьміну, ці ячменю пуд, ці гарнец тых канапель... Сядзіць як квоктала над скрынямі ды над кублами. Але...

Вільгацьцю павеяла з Днятра. Вечарэе. За алешнікам Настуля капу складае, толькі й мільгаццяць яе анучы белыя. Сур'ёзная маладзіца, ні то што другія якія на хлапцоў квапяцца. Да яе не падступішся. І крамяная маладзіца. Ох-хо-хо...

Прыемнай стомай млеюць плечы, гэтак соладка пацягваюцца. Каб жа да нікога паблізу тут... І аглядаецца як воўк Хвядос. Ня відаць, усе за алешнікам. Ціха падкрадаецца.

— Дапамагчы, Настулька, змарылася!—шэпчуць перасохлыя вусны.

— Ды што вы, дзядзька Хвядос, якая тут змора. Сена складаць—адзін адпачын.

— Дык я ўжо табе пасаблю крыху...

— Ды навошта?

— Ну, ну...

Хвядос зграбае сена і стараецца разам падносіць да капы. Вось кладзе яна пласт, умінае яго граблямі, усклаўшыся ўсім тулавам на край капы, аж бялеюць лыткі яе паверх высока закручаныхануч.

— Дай от я ўвамну...

Кранаюцца рукі дзябёлага цела. Дыхае цяжка і засаплася ад абярэмка. Кружыць пах голаў і колюць твар сухія сьцяблінкі асоту, ды пяршыць у носе сьвежы сенны пыл, от жа хочацца чыхнуць так, каб на яго нарад.

— Настулечка, слухай...—задыхаеццаХвядос, схапіўшы яе адзаду за рукі і налягаючы на яе ўсім сваім грузным целам. Ссоўваецца край капы і спаўзае кудысьці на бок. Здалёк ледзь-ледзь даносяцца галасы грэбшчыкаў.

— Дзядзька, а дзядзька, што гэта ўсьселася на вас, хіба то з розумам...

— Ціху, Настулька, от жа ўсім пасаблю, чым хочаш...

— Адчапецеся-ж адразу, а то людзей паклічу. Бач ты яго, зьбязуліў на старасьці... От, от, крыкну...

Хвядос, шырокай далоняй—цёплай, пульхнай—закрывае рот Настулі, прыгінае долу яе голаў, падмінае пад пахучую капу і раптам адскаквае, як укушаны зьмяёй, хапаецца ротам за палец.

— У-у... язва, паскудніца... Вот павыбіваю зубы.

— А ну, паспрабуй... Бач ты яго, да чаго дайшоў. Да жонкі ідзі вун, калі прысьпічыла...

— Пашкадуеш яшчэ...

— Ідзі, ідзі распусьнік, а то аперажу грабілнам так, што не ўстанеш. Забаўку знайшоў! Калі ў мяне чалавека няма, дык от думае і ўзяў... Юр на яго напаў, от скажу людзям. І дзе тыя вочы падзеліся, сораму ня бачаць...

— То-ж гадаўка, і зачапі яе... Ты ўжо ў мяне пастой, пачакай. Пачакай, пачакай, ты ў мяне дачакаешся...

— Ідзі, ідзі цэкала старое, пакуль грабілна аб твой хрыбет не апаганіла!

Падлыпаў Хвядос да баб, як воўк з хрыбтом перабітым. А тут яшчэ лягушкі дражняцца: ква-ква-ква... сівая галава...

— От шэльма, увесь палец скрывяніла. Пастой-жа, узнаеш ты маю ласку!

І ўвесь вечар як пабіты хадзіў Хвядос. Соваўся з кута ў кут, бяз дай-прычыны вытнуў сабаку, прывязанага да дроту, што йдзе аж да клеці і па самыя ганкі. І доўга скавытаў той у будцы, ліжучы выцятае места. Аблаяў апошнім словам парабчанку Хадосьсю за тое, што не патрапіла ў час карэц вады падаць, каб памыцца перад вячэраю.

— І дзе ты там цялёпкаешся, рабуха, от толькі па сьмерць пасылаць!

Вячэраў моўчкі. Вытнуў лыжкай па лбе меншага сына, калі той пачаў бурболіць у лыжку. Той аж заліўся крыкам, нарабіўшы гармідару на ўсю хату.

— От шалёны нешта, усхадзіла цябе нялёгкая...—буркнула старая, уціхамірваючы малога. Угледзеўшы перавязаны палец Хвядосаў, запытала:

— Дзе-ж гэта собіла так?

— Еж ты ўжо, пудзіла старое...

Канчалі вячэру моўчкі. Канчалі і разыходзіліся кожны па сваім кутку. Хвядос пашоў начаваць у пуню.

— Падушку ўзяў-бы хаця...

— Пад сябе падсьцілай, табе-ж усё мулка...

— А каб табе, мой божа, ды сапраўды замулела!

— Ціху, ціху ты...

— А вось і ня сьціхну!

— Ну, ну...

— І нечага нукаць там, знайшоўся нукала...

— Падпеража язык!

— А каб цябе ўжо радзімцы сьпяклі, тож мая галованька няпрыкаянная...

— Пайшла ўжо, пайшла, паехала...—мармытаў Хвядос і ляпнуў дзьвярмі.

(*Працяг будзе*)

Янка Купала

# ПЯЦЬ СЭНАТАРАЎ[1])

Іх зышлося пяцёх на Крывіцкіх палёх,
    На абшары ня божым, ці божым,
І давай разважаць, і давай так казаць:
    Найвышэйшую раду заложым.

Бо ўсялякіх спакус мае шмат беларус
    І да ўлады ён мае нахілы,
А найлепш, як нас пяць будзе ўладу спраўляць
    Над народам, які для нас мілы.

Як казалі з сабой, так зрабілі, як стой
    Найвышэйшую раду зьляпілі;
Папілі барышы, пабылі на імшы
    І ў санатарскі чын уступілі.

Дзень жывуць і другі, а людзей ні крыхі,—
    Не сьпяшыць штось падданы з паклонам,
Хоць зарэж, а ня йдзе, вось і вер грамадзе!
    А тут сноўдаюць цені ў чырвоным.

Трэба раду як даць,—так іх раіцца пяць,—
    Трэба ўсіліць дзяржаўную ўладу...
І спазналі яны, што тут „маркі“ адны
    Ўладзе будуць найлепшай прынадай.

У сваім пачуцьцю, падвялі пад стацьцю,
    Што ня стыд, хоць і ў чорта ўзяць грошы,
А тым болей, калі дні такія пайшлі,
    Што падданы ад чорта стаў горшы.

---

1) Верш напісаны ў часы існаваньня „Беларускай Рады“, калі там адбыўся раскол і ў выніку арганізавалася так званая „Найвышэйшая Рада“ (правае крыло). Пяцёрка, якая ўвайшла ў склад „Найвышэйшай Рады“, называла сябе „сэнатарамі“, гэтым-жа імем называлі іх у гіранічным сэнсе і іншыя.

*Аўтар.*

Ї пайшлі ўпяцёх за высокі парог
Да „крэсовага“ яснага панства;
Ў „пшэдпакоі“ падрад сталі, як на парад,
Сэнаторскага поўны падданства.

Пазіраюць кругом, штосьці шэпчуць ціш ком,
А ля іх—ім на дзіва да сьмерці,—
Беларускі рассол белы хлепча арол,
Да то ўправа, то ўлева хвост верце.

Так стаяць, хоць і страх, а тут дзьверы шарах!
Лёкай ткнуў ім „крэсовы пачушак“...
Мігам вышлі яны,—рады, хоць на штаны
Для сябе **настаялі** „касьцюшак“.

Ї жывуць зноў сабе, а падданы ня йдзе,
А чырвоны цень цісьнецца ў дзіры;
Дык зноў сушаць мазгі, як схадзіць раз-другі,
Сэнаторскія сшыць каб мундзіры...

7|IV—20 г.

Міхась Зарэцкі

# ВЯЗЬМО

## Частка трэцяя

*(Канец)*

### 7

На экстранае пашыранае пасяджэньне бюро ячэйкі, скліканае назаўтра пасьля таго, як зрабіў Пацяроб перапалох у мястэчку сваім абагуленьнем жыўнасьці, усе сябры бюро прышлі з трывожным прачуваньнем нейкіх асабліва важных падзей, якія грозна нявісьлі над цiхім санлівым Сіўцом.

Да самага пачатку пасяджэньня Сымон Карызна ня вымавіў бадай што ніводнага слова—ён сядзеў насуплены за сваім пісьмовым сталом (пасяджэньне было ў яго на кватэры) і толькі раз-по-раз кідаў кароткія вострыя позіркі на сэкратара камсамольскай ячэйкі Віктара, якога ён спэцыяльна зазваў на бюро і які сьціпла сядзеў у куточку, пакорна адчуваючы на сабе суровы гнеў разьюшанага начальства.

Як сышліся ўсе, каго запрасіў Карызна, ён, не абвясьціўшы нават пасяджэньне адкрытым, не прачытаўшы нават парадку дня, адразу загаварыў жорсткім адрывістым тонам, які прымусіў усіх настаражыцца ў напружаным чаканьні.

— Таварышы! Сёньняшняе пасяджэньне бюро склікана невыпадкова. Падзеі, што за астатнія дні разьвінуліся ў нашым мястэчку, вымагаюць ад нас ужыцьця па-бальшавіцку рашучых рэвалюцыйных захадаў. Калектывізацыя, удала распачатая ў Сіўцы, сустрэла шалёнае супраціўленьне з боку пэўнае часткі жыхарства, і гэтаму супраціўленьню мы павінны неадкладна пакласьці канец. Вы, таварышы, усе добра ведаеце падзеі апошніх дзён. Для нас зусім ясна, што ўсёй гэтай кампаніяй кіруе невялічкая, але дасюль яшчэ ўплывовая купка кулакоў і падкулачнікаў, якой мы самі, таварышы, патураем сваёю мяккасьцю і нерашучасьцю. Так далей быць не павінна. Мы стаім перад магчымасьцю поўнага развалу распачатай намі справы, за якую мы ўсе адказваем перад партыяй. Ня спыняючыся перад самымі жорсткімі рэвалюцыйнымі захадамі, мы павінны адным ударам выбіць зброю з

рук контррэвалюцыі, павінны адным рашучым ударам разбурыць усё гэта кулацкае контррэвалюцыйнае гняздо.

Кароткая паўза, якою ён падкрэсьліў свае апошнія словы, павісла ў пакоі няязносна-цяжкім напятым маўчаньнем.

Сымон Карызна гаварыў далей—яшчэ больш жорстка й выразьліва:

— На грунце адпаведных дырэктыў мы маем права ў выпадку патрэбы найзласьнейшых з кулакоў, якія актыўна змагаюцца супроць мерапрыемстваў савецкае ўлады, высяляць з межаў нашага раёну. Мы мусім скарыстаць гэта права, бо гэтага вымагае ад нас рэвалюцыйная неабходнасьць... Хто хоча сказаць што па гэтым пытаньні?

Усе маўчалі. Потым нехта нясьмела зрабіў нешто заўвагу, нешто запытаньне:

— Гэта—па пастанове агульнага сходу беднаты?..

Карызна рэзка перапыніў яго:

— Мы гэта ведаем... Дрэнная тая ячэйка, якая не вядзе за сабою беднату.

І, яшчэ з момант пачакаўшы, ці ня возьме хто слова, Сымон Карызна рэзюмаваў:

— Я думаю, што асаблівых спрэчак па гэтым пытаньні ня можа быць. Там не спрачаюцца, дзе трэба дзейнічаць рашуча і дружна. Я прапаную адразу-ж распачаць канкрэтнае абмеркаваньне, каго неабходна выселіць.

Ня ўправіўся закончыць ён сваіх слоў, як паслужны Пацяроб грымнуў—задзёрыста і амаль што весела:

— Любачкі мае! Я-ж іх усіх, як аблупленых...

Але заўважыў сам, што гульлівы тон яго ня зусім падыходзіць да агульнага сходу паседжаньня і, сьціхамірыўшыся, стаў сьціпла пералічаць кандыдатуры:

— Ну, першы будзе, ня йначай, Цімахвей Міронавіч... Гвардыян, значыцца...

Усе ў знак згоды кіўнулі галовамі.

— Потым, пэўная рэч, Кандрацёнак Максім...

— Сахацкага не абмінуць... ніяк не абмінуць...

— Прахора таксама...

Як памянуў Прахора, нехта з прысутных нявыразна мыркнуў, а сьледам за ім камсамолец Віктар зусім выразна заявіў:

— Прахор ня кулак. Прахора мы заўсёды мелі за бедняка.

Пацяроб нахіліў да яго мілосна скрыўлены твар і саладжава, як да дзіцяці, прашапялявіў:

— Любачка, ён горш за ўсякага кулака. Ён увесь Сівец баламуціць... Ён гэты калгас жыўцом-бы праглынуў... Разумееш, мой залаценькі?..

Але Віктара так лёгка ня йме—ён цьвёрда стаяў на сваім.

— Прахор—бядняк. Што ён нездаволены, што злуе няма ведама на каго і за што—гэта іншая рэч. Можа мы самі ў гэтым вінаваты...

Пацяроб тым-жа тонам перапытаў:

— Можа мы самі, золатка, вінаваты?..

— Мы не зьвярнулі дасюль на яго належнае ўвагі і, замест таго, каб апрацаваць яго, узьвесьці на правільны шлях, аддалі яго ў рукі кулакоў...

Віктар гаварыў гэта, зьвяртаючыся да ўсіх, але сам чуў, што ўсе ягоныя словы ідуць галоўна да Сымона Карызны і што ніхто іх ня ловіць з такой увагай, як ён. Віктар чакаў з боку сэкратара ячэйкі чарговага выбуху. І сапраўды Карызна запытаў яго здушаным злосьцю голасам:

— Ты, значыцца, супроць высяленьня Прахора?

— Так. Я супроць гэтага.

— А супроць высяленьня Цімахвея Міронавіча Гвардыяна— таксама?

Віктар на момант замяўся. Ясная рэч, што ён ня стане абараняць Гвардыяна, як і іншых кулакоў, праўдзівых злосьнікаў працоўнае беднаты. Ясная рэч, што ён за тое, каб выселіць іх, раз гэта патрэбна. Але ён наогул ува ўсіх гэтых справах апошніх дзён бачыць многа такога, што абуджае ў ім шчырыя сумненьні, і ён хоча неяк усё гэта выказаць, растлумачыць, ды ня ведае, як, з чаго тут пачаць.

Сымон Карызна едка ўсьміхнуўся і, не чакаючы адказу, адчыкрыжыў:

— Мы возьмем гэта на ўвагу, таварыш сэкратар камсамольскай ячэйкі... Далей...

Пацяроб пасьпешна хапіўся за новыя кандыдатуры, і Віктар астаўся ў дрэнным падазронным маўчаньні..

Сьпіс быў прыняты бяз спрэчак, хоць у ім, побач з сапраўднымі кулакамі, былі серадцякі і нават беднякі накшталт Прахора. Пасьля навучальнае практыкі з камсамольцам Віктарам ніхто ня важыўся супярэчыць ці выказваць свае сумненьні.

Раптам Пацяроб размашыста лэпнуў сябе далоняй па ілбе.

— А братачкі! Гэта-ж у нас адны тут сівецкія... А Сівалапы?..

Сябра бюро, камуніст з Сівалапаў, зазначыў:

— Ды ў Сівалапах, бадай што й няма такіх надта ўжо злосных кулакоў. У нас-жа скрозь—галеча...

Пацяроб хітра падмігнуў яму (—мы вашага брата ведаем!—) і потым, узяўшы езувіцка-бязьвінны від ды пазіраючы скоса на камсамольца Віктара, працягнуў:

— А што, залаценькія, каб гэтага самага Загароўскага Малаха калупнуць...

Віктар зьбялеў і адвярнуўся ў бок, каб схаваць сваё мімавольнае ўзрушэньне. Некаторыя з прысутных кінулі на яго быстрыя спачувальныя погляды, і ён балюча адчуў іх.

Карызна з радасьцю падхапіў Пацяробаву прапазыцыю:

— Супроць высяленьня з Сівалапаў Малаха Загароўскага ніхто ня мае супярэчыць?

Віктар нэрвова таргануў галавой, але моцнай патугаю волі суняў сябе і змоўчаў. Маўчалі і ўсе іншыя, хоць усе добра бачылі відочную недарэчнасьць высяленьня гэтага спакойнага беззаваднага серадняка.

Сыпіс быў закончаны. Але-ж тэтым ня скончыліся яшчэ нягоды, што шчодрым дажджом сыпаліся сёньня на галаву няшчаснага камсамольца Віктара.

Сымон Карызна вёў далей пасяджэньне бюро.

— Таварышы! Я мушу дадаць яшчэ, што гэтую апэрацыю мы правядзём у найкарацейшы тэрмін. Заўтра ўвечары ўсе, хто падлягае высяленьню, павінны быць дастаўлены на чыгуначную станцыю. Сёньня-ж мы нашую пастанову правядзём праз сход бедняты, які я ўжо даў загад склікаць. Адказным за высяленьне, я лічу, трэба вызначыць таварыша Пацяроба. Супярэчаньняў няма?

Супярэчаньняў ня было. Карызна хацеў быў ужо закрыць пасяджэньне, але акурат у гэты момант яго працяла новая думка, і ён, ледзьве прыметна ўсьміхнуўшыся, дадаў:

— Гэта—па Сіўцы. Што да Сівалапаў, дык я ўважаю, што ўся гэтая справа павінна кіравацца таварышамі з мясцовых жыхароў. Таму я прапаную адказным за высяленьне кулакоў у Сівалапах вызначыць сэкратара нашае камсамольскае ячэйкі. Супярэчаньняў няма?

Супярэчаньняў ня было. Усе былі ашаломлены гэтай наўмыснай для справы ані непатрэбнай жорсткасьцю, бо ўсе ведалі пра стасункі Віктара з дачкой Загароўскага.

Віктар няўцямна ўзьняў свае па дзяцінаму чыстыя вочы і паволі абвёў усіх цяжкім ліпучым поглядам, нібы пытаючыся ўва ўсіх, што гэта значыць, ці мо' просячы спагады сабе, ратунку.

Усе—хто з замяшаньнем, хто з дзіўным нейкім сорамам—унікалі гэтага погляду.

— На гэтым, таварышы, пасяджэньне бюро ячэйкі лічу закрытым.

Камсамолец Віктар адразу ўстаў і вышаў з памяшканьня. Ён мог вытрымаць з патрэбнай цьвёрдасьцю афіцыйна-дзелавы тон пасяджэньня, але прыватныя гутаркі былі яму цяпер ня ў змогу: яму трэба было акрыяць, на самоце, прывесьці да ладу разматлашаныя думкі свае і пачуцьці.

Ён адразу падаўся пад Сівалапы і йшоў шпаркім пасьпешным крокам, нібы чакала яго там пільная, неадкладная справа, хоць ніякага пэўнага замеру ў яго пакуль што ня было.

Уся істота маладога хлопца была занята цяпер, вядомая рэч, каханай дзяўчынай, а тым часам, як ні напружваў ён свае мазгі, ніяк ня мог узьбіцца на якую канкрэтную, зьвязаную з ёю, думку. Нават яснага вобразу Аўгіньчынага ня мог ён адрадзіць у сваім расстроеным уяўленьні.

Так прайшоў ён бадай што паўдарогі. Як падыходзіў ужо пад млын, чамусьці ўспомніў:

«Учора занёс ёй новыя кніжкі... Якія гэта кніжкі?..»

І гэта першая выразная, хоць зусім не актуальная цяпер, думка займала яго ўсю пазасталую да Сівалапаў дарогу. Усю дарогу ён напружваў памяць сваю, каб успомніць, якія ён занёс ёй учора кніжкі. Памяць упарта не давала адказу, а думка аб тых няшчасных кніжках рабілася ўсё больш дакучная, неадчэпная. Толькі ўвайшоўшы ўжо ў Сівалапы, здолеў ён ад яе адкараскацца, бо трэба было вырашыць неяк, куды цяпер пахінуцца.

Камсамолец Віктар мо' колькі хвілін стаяў так сярод сівалапаўскай вуліцы ў поўнай разгубленасьці і няўцямна вадзіў наўкола пустымі нявідушчымі вачмі. Колькі раз, сунімаючыся поглядам на вокнах хаты, супроць якой стаяў, ён упарта стараўся ўспомніць нешта пільнае, дужа яму патрэбнае, і ніяк ня мог. І толькі як забразгалі з хаты ў вакно і знаёмы голас гукнуў:

— Заходзь, Віктар, да нас! Чаго ты стаіш?..

Тады толькі заўважыў, што стаіць супроць хаты Якуба Лакоты, і борзьдзенька, нібы сьпяшаючыся схавацца ад некага ў гэту спадзейную схову, пабег да дзьвярэй.

У Якуба Лакоты ў «габінэце» было поўна людзей. Непакойны запал чырвонага інваліда ўсё яшчэ мучыў яго, вядучы да магілы. Адхілены ад кіраўніцтва ў новым калгасе, ён усёроўна гарэў турботамі і творчым энтузіязмам. Цяпер у гуртку блізкіх калгасьнікаў ён з уласьцівым яму гарачкавым захапленьнем абмяркоўваў нейкі новы праект, меўся прапанаваць на разгляд управы калгасу.

Віктар моўчкі сеў і пачаў слухаць. Ён не разумеў ніводнага слова і не стараўся зразумець, а толькі ўбіраў у сябе агульны фон густога дружнага гоману, і гэты гоман яго супакойваў, варочаў да звычайнага стану. На яго пазіралі з лёгкім зьдзіўленьнем, бо ніколі дасюль ён ня быў гэткі сумны, але на шчасьце не чапалі яго. Ён сядзеў так аж датуль, пакуль не паразышліся ўсе чыста. Тады Якуб Лакота падышоў да яго і, пільна зазіраючы яму ў твар сваімі хваравіта-бліскучымі вачмі, запытаў:

— Што з табой, Віця?

І Віктар пачаў апавядаць усё зусім спакойна, разважна, нібы справа гэта зусім мала яго і абыходзіла. Толькі ў канцы апавяданьня зьявіліся ў яго ў голасе ноткі балючага, зусім дзяціннага неўразуменьня. Ён глядзеў на Лакоту гарачым цупкім поглядам і ўпарта дапытваўся ў яго:

— Гэта-ж няправільна, га? Дзядзька Якуб... Гэта-ж непатрэбна? Непатрэбна?.. Я не к таму, што... Я магу зрабіць... І я зраблю.. хай сабе... Але-ж гэта наўмысьля ён... Гэта несправядліва... Праўда, дзядзька Якуб? Несправядліва?..

Якуб Лакота з хвіліну думаў—пахмуры, скупчаны ў сабе— і потым адказаў з рашучай цьвёрдасьцю:

— Гэта няправільна і непатрэбна..

І Віктар, забыўшыся раптам на тое, што гэта ён «не к таму», што «ён можа зрабіць і ён зробіць», загарэўся палкай надзеяй.

— Дык што-ж, дзядзька Якуб? Як? Што рабіць?.. Скажэце мне...

Якуб Лакота, яшчэ з хвіліну падумаўшы, сказаў ціхім глыбокапракананым голасам:

— Па-баявому, па-ваеннаму так... Калі ты атрымаў няправільны на твой погляд баявы загад, ты мусіш перш яго выканаць, а потым абскардзіць...

Віктар аўтаматычна пераказаў сьледам за ім:

— Перш выканаць, а потым абскардзіць...

І, сабраўшы ўсю сваю пазасталую цьвёрдасьць, заявіў з магчымай бадзёрасьцю і рашучасьцю:

— Добра... Я так і зраблю...

Ён кінуўся да дзьвярэй, але з паўдарогі вярнуўся і, падышоўшы зусім блізка да Якуба Лакоты, папрасіў яго пазмоўніцку ціхім прытоеным голасам:

— Вы мне паможаце, дзядзька Якуб, гэта ўсё... абладзіць... Добра?

Якуб Лакота пяшчотна абняў яго за плечы.

— Добра, Віця, я памагу.

## 8

Быў гэта выдатны для Марыны Паўлаўны дзень, які страсануў яе даўно ўжо нязнанымі і бадай забытымі турботамі. А пачаўся ён быў таксама даўно ўжо нязнанаю Марыне Паўлаўне радасьцю.

Ураньні мімаездам залучыла была ў Сівец райжанарганізатар—дзябёлая прастадушная і вельмі разумная жанчына, з якой Марыне Паўлаўне давялося мець доўгую гутарку. Яна зацікавілася жыцьцёвымі пертрускамі Марыны Паўлаўны, і тая мусіла расказаць ёй усё чыста, як на споведзі, што аднак ані не цяжарыла яе, бо райжанарганізатар абуджала да сябе найшчырэйшую даверлівасьць. У выніку гэтае гутаркі Марына Паўлаўна атрымала сур'ёзнае і нават катэгарычнае запрашэньне перайсьці на працу ў раён, і прыняла гэта запрашэньне з вялікай радасьцю і ўдзячнасьцю.

Райжанарганізатар вельмі сьпяшалася і зьнікла з Сіўца так-жа раптоўна, як і зьявілася ў ім, пакінуўшы Марыне Паўлаўне апроч нечаканае радасьці яшчэ адчуваньне дзівоснае казачнасьці ўсяго, што адбылося.

Можа гэта быў проста прыемны шчасьлівы сон?

Марыну Паўлаўну даўно ўжо цяжарыла недарэчнасьць быцьця яе тут у Сіўцы, пад бокам у свайго былога мужа. Яе нічога тут ня трымала, яна нічым ня была тут зьвязана, і выходзіла так, нібы яна жыве тут выключна таму, што чакае звароту да ранейшага, спадзяецца яшчэ вярнуцца да мужа. Гэта надзвычайна мучыла яе і яна скрозь лятуцела аб тым, каб як выбрацца з гэтага нялюбага Сіўца, але ня мела спосабу, як гэта зрабіць.

Цяпер пытаньне разьвязалася само па сабе—проста і дасканала.

Марына Паўлаўна праз цэлы той дзень жыла ў ружовым чадзе новага адчуваньня. Яна нібы памаладзела адразу на дзесятак год—у

яе ў галаве мітусіліся такія сьмелыя і такія пекныя лятункі, якія-б задаволілі палкую фантазыю маладой дзяўчыны. І сёньня ёй упяршыню пасьля разлукі захацелася пабачыцца з Сымонам Карызнам, сказаць колькі слоў яму—разьвітацца, ці што. Яе зусім не абыходзіла, пра што яны-б мелі там гаварыць—ёй хацелася, каб ён толькі адчуў яе новы настрой, каб пабачыў яе шчасьлівую, радасную. Яна знаходзіла безьліч тлумачэньняў свайму такому жаданьню і, ясная рэч, не дапускала й думкі пра тое, што гэта ў яе памаладзелай істоце загаварыў цьмяны прыглушаны голас жаночага кабецтва.

А гэта, мабыць, так і было.

Увечары Марына Паўлаўна ў апошні раз ішла на сходку жаночага гуртка. Пасьля гуртка яна назначыла сабе абавязкова зайсьці да Карызны. Што-ж там такога? Яна мо' заўтра ці пазаўтраму едзе, у яе там яшчэ ці мала патрэбных рэчаў—ёй-жа трэба сабраць іх, папарадкаваць?

Абы хутчэй скончылася гэтая сходка. Ды зрэшты яна можа й не даседзець да канца, раз у яе пільная справа.

У школе, дзе быў прызначаны сход, замест шумнае бабскае грамады яна засьпела ўсяго трох ці чатырох вельмі маркотных жанчын і нязьменна-вясёлую бадзёрую Таццяну, якая гэтым жанчынам нешта вельмі энэргійна тлумачыла.

Марына Паўлаўна зьдзіўлена запытала:

— А дзе жанчыны?

Таццяна адказала спакойна, але з падкрэсьлена-цьвёрдай стрыманасьцю, якая паказала, што ў яе ўнутры таксама ня ўсё ў парадку.

— Ня прыдуць... Выпраўляюць сваіх суседак у далёкую дарогу.

Жанчыны нібы па камандзе заўздыхалі:

— Божа мілы! Што гэта толькі дзеецца! Ну хай-бы ўжо тых багатыроў каторых, а то-ж бядоту, галоту... Што яны маюць да іх?..

Марына Паўлаўна глядзела на іх шырока расплюшчанымі вачмі і нічога не разумела. Тады Таццяна пасьпешна выправіла маркотных жанчын і, астаўшыся сам-на-сам з Марынай Паўлаўнай, расказала пра тое, што ўжо вядома было ўсяму Сіўцу, апроч аднае, захопленае сваёю новаю радасьцю, Марыны Паўлаўны. Апавядала Таццяна ўжо інакшым—таемна-напружаным тонам, не хаваючы больш свайго глыбокага ўзрушэньня. Як скончыла, Марына Паўлаўна парыўчата схапіла яе за руку.

— Таццяначка, родная... Ці гэта так трэба? Скажы, ці гэта ім трэба было гэтак рабіць? Ці гэта закон такі?..

Таццяна раптам замкнулася ў жорсткай чужасьці.

— Хто яго... Можа й трэба, а можа й ня трэба... Яны—начальства... больш чаго ведаюць...

Марына Паўлаўна, мала ня плачучы, прасіла яе:

— Таццяна, родная... Ты пэўна ведаеш... чаму ты ня скажаш мне?..

Таццяна яшчэ памаўчала з' момант, а тады раптам адчыкрыжыла з сьмелай злосьцю:

— Шалеюць яны, вось што... Нешта ёсьць нутро каторам‌у, дык ён на людзях спаганяе. Ня будзе з гэтага ладу...

Марына Паўлаўна зусім ціха, нібы баючыся ўласнага запытаньня, прашаптала:

— Гэта ты—пра Карызну?

Тацяна змоўчала. Марына Паўлаўна раптам зарупілася:

— Пойдзем да хаты, Тацяначка... Пойдзем да хаты...

Дарогаю Тацяна, нібы выпраўляючы сваю мімавольную рэзкасьць, тлумачыла больш лагодна й пагадліва:

— Яно пэўна што трэба прыбраць з дарогі сяго-таго, каб не заміналі... Але-ж трэба ведаць—каго, а ня то, што гамузам—хто першы пад руку трапіў...

Як падыходзілі ўжо пад самую хату, Марына Паўлаўна супынялася.

— Мне, Тацяна, яшчэ трэба схадзіць у адно месца. Я скора прыйду.

Тацяна нічога ня пыталася, бо ведала добра сама, куды ідзе Марына Паўлаўна. І ў думках яна пахваліла яе.

Аднак Марына Паўлаўна сямігодку мінула—толькі з момант прыстоіла пад ёю ў нерашучасьці—і пашла далей у самы канец даўгой сівецкай вуліцы. Там збочыла яна на вузенькую, у адзін сьлед, сьцежачку, што вяла да загубленае ў сьнегавых сумётах Галілеявае хацінкі.

У маленькіх крывых вакенцах няўмеру пышна зьзяла яснае сьвятло Галілеявае саматужнае электрычнасьці. Марына Паўлаўна асьцярожна паляпала ў заваленыя дзьверы—і сьвятло зараз-жа згасла. Гэта мела азначаць, што Галілей ня прымае. Але Марыне Паўлаўне пільна трэба было яго бачыць, і яна, паляпаўшы мацней, гукнула дрыжачым ад хваляваньня голасам:

— Дзядзька Ахрэм! Адчынеце!

Сьвятло зноў запалілася, і за дзьвярмі пачулася непакойная Галілеява шарпаніна.

— Кхе-кхе... Гэта вы, Марына Паўлаўна? Зараз адчыню...

Але, адваліўшы дзьверы, ён усё-т'кі перш сьцеражліва вытыркнуў у шчэлку сваю бародку і, толькі канчаткова пракана‌ўшыся, што ніякае небясьпекі няма, шырока расчыніў дзьверы перад нечаканай, але прыемнай госьцей.

Марына Паўлаўна стала ў парозе, ашаломленая нясусьветным Галілеявым гармідарам. Да яе зараз-жа падышоў Босы і, пазнаўшы яе, стаў ветла церціся аб яе ногі. Яна ўздыхнула з гаспадарлівай рупнасьцю і паспагадала бязладнаму Галілею:

— Ня прыбрана ў вас тут, дзядзька Ахрэм... Жывіцё вы неяк так... непалюдзку...

Галілей бесцарамонна прапусьціў міма вушэй гэту заўвагу, бо быў глыбока заняты нечым сваім і апрача таго «свайго» ня мог бачыць і чуць больш нічога на сьвеце. Нават не запрасіўшы Марыну Паўлаўну сесьці, ён нэрвова перабег сюды-туды паміж свайго гломазду і, супыніўшыся перад ёю, зашаптаў таемна й радасна:

— А я ведаю ўсё... ага... Я ўсё разумею... усё разумею...

— Што вы разумееце, дзядзька Ахрэм?

Галілей яшчэ бліжэй нахіліўся да яе і здушаным ад захапленьня шэптам прасіпеў:

— Яны баяцца... ага... Яны баяцца, во што... Баяцца... хі-хі-хі...

І нават засьмяяўся стары дзівак, што трапляласся з ім толькі ў хвіліны найвыдатнейшых перажываньняў. Марына Паўлаўна толькі дагадвалася, пра каго гаворыць ёй Галілей, але ведала добра, што распытваць яго цяпер без карысьці, і таму пастаралася ўлучыць яму ў тон.

— Чаго-ж ім баяцца, дзядзька Ахрэм?

Галілей трыумфаваў.

— Тэхнікі, Марына Паўлаўна... Тэхнікі баяцца...

— А што ім тэхніка?

— Тэхнікай трэба браць... ага... тэхнікай... А яны ня ўмеюць... хі-хі-хі... ня ўмеюць...

Марына Паўлаўна з ціхім дакорам перапыніла яго:

— Людзі тут, дзядзька Ахрэм, а ня тэхніка.

Галілей на хвіліну змоўк, нібы ўслухваючыся ў яе словы, а тады загаварыў яшчэ ў большым захапленьні:

— Ага... ага... людзі... А на людзей тэхніка трэба... І на людзей— тэхніка... ага... А яны ня ўмеюць... Яны баяцца...

Марына Паўлаўна зразумела, што пад гэткі настрой нічога людзкага ад Галілея ня дойдзеш і, каб растлумачыць прычыну свайго прыходу, упяршыню за ўсё жыцьцё зманіла свайму старому прыяцелю:

— А я прышла са справаю да вас, дзядзька Ахрэм. Ці не перанесьлі-б вы тую сушыльню, што некалі мне зрабілі, туды, да Тацяны... Я не патраплю сама...

Галілей суняўся, разгублены сярод свайго гломазду і вінавата лапатаў:

— Сушыльня... ага... сушыльня... Я ведаю... я разумею... ага... сушыльня...

Ён так мо' разоў з дзесяць пераказаў нечаканае для яго ў гэту хвіліну слова і ўсёроўна не дабраўся жаднага сэнсу—так цяжка было яму вымкнуцца з свайго цудоўнага непераможнага захапленьня.

Марына Паўлаўна адвіталася і пашла з хаты. Босы праводзіў яе жаласным енкам, нібы жаліўся на няшчасную сваю долю, якая прымушае яго сядзець у хаце адзін-на-адзін з гэтым апантаным гаспадаром.

Галілей адпускаў Марыну Паўлаўну з такой адмысловай асьцярожнасьцю, што сапраўды цяжка было азначыць, хто больш баіцца, ці ён ці тыя, над кім ён трыумфаваў сваю хімерную перамогу.

Марына Паўлаўна ішла ад свайго прыяцеля нездаволеная. Адно, што здолела яна вынесьці з свае візыты, гэта тое, што Галілей адмоўна глядзіць на апошнія падзеі ў Сіўцы і што ён прачувае ў іх нейкі новы правал Сымона Карызны. Але гэта толькі згусьціла яе змрочны трывожны настрой.

Яна ішла цяпер да Сымона Карызны. Яна не здавала сама сабе справы, з якою мэтаю яна туды йдзе,—адно з жалем і крыўдай усьведамляла, што гэта ня будзе ўжо тая прыемная сустрэча, аб якой яна думала праз увесь сёнешні дзень.

Сымон Карызна хадзіў па сваім пакоі буйнымі гонкімі крокамі, з чаго Марына Паўлаўна зразумела, што ён моцна ўзрушаны. Ён сустрэў сваю былую жонку з шчырай радасьцю, але яна адчула, што радасьць гэта ня злучана непасрэдна з ёю, што ён з роўным пачуцьцём сустрэў-бы цяпер кожную рэч, якая-б на момант выбіла яго з цяжкога ўзрушэньня.

— А, гэта ты, Марына... Як добра, што ты прышла. Сядай, калі ласка...

Яна, не распранаючыся, прысела на сваё калішняе аблюбёнае месца—у куток старой абшарпанай канапы. Карызна кінуўся да стала і нэрвовым рухам схапіў з яго паперку.

— Я акурат атрымаў сёньня ліста ад дачкі... Ты ёй мусіць нічога яшчэ ня пісала?.. Яна ня ведае... Яна піша нам абаім... На, пачытай...

Яна выцягнула руку, каб узяць паперку, і рука здрадліва закалацілася дробнай дрыготкай. Ён заўважыў гэту дрыготку і, нібы апечаны ёю, пасьпешна адхапіў ад ліста сваю руку. І гэты невялічкі глупасны інцыдэнт чамусьці вярнуў яго ў стан цяжкога яго ўзрушэньня— ён зноў нэрвовымі крокамі засігаў па пакоі.

Марына Паўлаўна ўздыхнула і ціха, нібы сама сабе, праказала:

— Я прышла ўзяць некаторыя свае рэчы. Я заўтра еду... І яна не зманіла—яна ў гэту хвіліну ўжо сапраўды была ўпэўнена, што едзе менавіта заўтра.

Карызна з крыўднай бязуважнасьцю мыркнуў сабе пад нос:

— Ага... заўтра едзеш... Куды?..

Яна цьмяна нярадасна пахвалілася:

— Мяне бяруць на работу ў раён... Па лініі жанаддзелу...

Ён паказаў выгляд, што зацікавіўся і з штучным зьдзіўленьнем у голасе перапытаў:

— Так? У раён?.. Гэта добра... Гэта надзвычайна добра...

Марына Паўлаўна змоўкла, працятая крыўдай і расчараваньнем. Але гэтыя пачуцьці трывалі ў ёй нядоўга. Гледзячы на балючыя мітусьні свайго былога мужа (яна-ж прывыкла разумець кожны ягоны рух), Марына Паўлаўна памалу ахаплялася даўным сваяцкім жалем, і ўсе думкі яе концэнтраваліся на адным: як-бы разьвеяць гэты чорны яго настрой, якое-б даць яму хоць невялічкае спацяшэньне. У міжвольным парываньні яна падышла да яго і, пяшчотна дакрануўшыся да яго рукі, прашаптала:

— Сымон! Нашто ты мучыш сябе?

Ён здрыгануўся ад неспадзеўкі і інстынктыўна адшаснуўся ад яе, гатовы да злоснага энэргійнага адпору. Адылі ўбачыў пакорны боль у яе глыбока запалых вачах і, стрымаўшы сябе, адказаў холадна, але спакойна:

— Ты пра гэта... пра высяленьне... Ты не разумееш, Марына... Гэта—трэба. Гэта суровая неабходнасьць рэвалюцыі... Рэвалюцыя без ахвяр ня бывае... Каб ісьці наперад, трэба церабіць дарогу...

Ён гаварыў зьнехаця—сухім афіцыйным тонам, абы адкараскацца ад яе, а мо' й ад сваіх сумненьняў. Але Марына Паўлаўна была надзіва настойная і рашучая.

— Няпраўда, гэтага ня трэба... Гэта робяць ня так, як ты... Ты—жорсткі... Ты мучыш сябе і праз гэта ўсіх... Ты ў сабе носіш атруту, і сам ня хочаш пазбыцца яе... На што ты так робіш?..

Карызна ледзьве стрымліваў злосьць.

— Ты што, угаварваць прышла?.. Мо' падаслалі? Агітуеш за пакутнікаў—кулакоў?..

Марына Паўлаўна зусім распалілася.

— Я не дапушчу гэтага! Я не магу дапусьціць... Ты сам сябе губіш! Ты ня тэй дарогай ідзеш, якой трэба ісьці... Камуністы ня так робяць... Ім гэтага не патрэбна!.. Ты баішся, і таму на гэта йдзеш...

Тады Сымон Карызна падышоў блізка, усутыч, да свае былое жонкі і з бязьлітаснай едкасьцю праказаў:

— Ты пэўна забылася, што мы ўжо ня муж і жонка?

Так, Марына Паўлаўна сапраўды была на гэта забылася. Карызнаў напамінак, як струмень ледзяной вады, ахаладзіў яе і вярнуў да прытомнасьці. Цяжка згібёная, асаромленая, яна адышла і ціхенька села ў свой куточак канапы. Потым узьнялася зноў і праказала пакорна, вінавата:

— Я забяру патрэбныя рэчы.

Яна доўга поркалася ў шафе—нічога ня брала там і ня шукала—абы схаваць сваю нязносную цяжкую няёмкасьць.

Як выходзіла, у руках у яе ня было нічога, апроч пакамечанага дочынага ліста. Яна заўважыла яго і ўжо ад парогу сказала:

— Я напішу дачцэ... пра ўсё... Добра?

Карызна каротка згадзіўся:

— Гэта даўно трэба было зрабіць.

І Марына Паўлаўна праз усю тую ноч пісала даўгі, поўны матчынскіх сьлёз, ліст да дачкі, у якім аднак менш за ўсё наракала на свой боль ці на свае нягоды, а больш апісвала трагічна-бязвыхадны стан, у якім на яе думку знаходзіўся цяпер Сымон Карызна, і настойна клікала дачку на ратунак.

Гэты ліст назаўтрага Марына Паўлаўна сама й завезла на пошту ў раён, як пераяжджала туды на новую працу і на новае жыцьцё.

## 9

Камсамолец Віктар скрозь чорную ноч, скрозь лютую, мабыць апошнюю перад вясной, завіруху ехаў у далёкую незнаёмую вёску шукаць свайго друга.

Зморaная, але бяз меры старанная шаўлюжка сваім конскім інстынктам адгадвала затубленую ў цемры і сьнегавай заняці дарогу

і клыпала сабе па-маленьку, ані не заўважаючы на частыя ўдары пугаю, якімі больш з інэрцыі, чымся сьвядома, частаваў яе ачмурэлы гаспадар.

Сам Віктар ня бачыў і ня чуў ні дарогі, ні шаўлюжкі, ні пугі, якою бяз жаднае патрэбы махаў у паветры, ні шурпатага сьнегу, што агнёва-калючай жарствою абсыпаў яго твар. Усё адчуваньне гэтае далёкае начное дарогі пералівалася ў разбушаваны яго сьвядомасьці ў адчуваньне няўхільнага паданьня ў глухую чорную яміну, на самым дне якой, недзе глыбока-глыбока, у вязкім цёплым муце, марылася яму салодкае збаўленьне ад бязьлітаснай чарады вобразаў, што настойна гналіся за ім.

— Зарэж мяне лепей... Віця, зарэж мяне... Во табе нож... Віця, я ня буду злавацца...

Куды яму дзецца ад гэтых балючых слоў—неадступных, назольлівых, як звон спалашонай асвы. Яны праз цэлы дзень лётаюць над яго галавой і ўпіваюцца ў яе атрутнымі джгаламі. Яны залятаюць цяпер наперад і апантаным роем кідаюцца ў твар яму і колюць, кусаюць, паляць яго пякучым агнём.

А можа гэта лятуць на сустрэчу яму іншыя словы—ня менш балючыя і яшчэ больш жорсткія, як тыя?

— Перш выканаць загад, а потым абскардзіць.

А калі гэтае «потым» будзе неўзваротна позна?

Ён загад выканаў. Ён выканаў яго на сто—ды не, на дзьвесьце процантаў! Бо ён рабіў тое, чаго мог не рабіць, ад чаго мог унікнуць без ніякае завады для справы. Напрыклад, ён мог толькі арганізаваць, наладзіць усё, як сьлед, а чаго яму было ісьці самому туды, калі можна было папрасіць каго, даручыць каму другому гэта зрабіць?

О, не! Камсамолец Віктар ня гэткі! Ён мае досыць цьвёрдасьці, каб выканаць самому ўскладзены на яго партыйны абавязак! Ён мае досыць юнацкай упартасьці, каб выпіць усю чашу да дна, да астатняе кроплі!

Яно ня доўга й цягнулася гэтае яго наўмыснае самакатаваньне—мо' якіх пяць ці дзесяць хвілін. Ён зайшоў толькі затым, каб абвясьціць пастанову і загадаць, што да такой-та пары павінны быць гатовы ў дарогу. Ды яшчэ растлумачыць, што можна ўзяць з сабою з гаспадаркі, а што трэба здаць, як сродкі вытворчасьці, у калгас. Ён так і хацеў—падыйсьці проста да гаспадара, узяць адпаведны моманту тон—строгі, вядома, нават суровы, але ня зьвяглівы, ня злосны—і выкласьці словы па слове ўсю сутнасьць справы. Але яго здэтанавала троху агульная карціна, якая адкрылася яму ў гэтай няшчасьлівай для яго хаце сівалапаўскага селяніна-серадняка Малаха Загароўскага.

Галоўна зьбянтэжыла Віктара тое, што замест, якой ён чакаў, сумятні, гармідару, можа нават лаянкі, абурэньня—ён сустрэў тут жудасную, хаўтурную цішасьць. Тут поўная хата была людзей—больш, вядома, жанчын—і ўсе яны зважна сядзелі на лавах у глыбокім жалобным маўчаньні. Можа яшчэ й тым падкрэсьлівалася гэтае

падабенства да хаўтур, што паваленая раптоўнай бядой гаспадыня ляжала на ложку васкова-белая і нярухомая, як нябошчыца.

Віктар чуў, што гэтая нямотна-напружаная сцэна мусіць выбухнуць, як і на праўдзівых хаўтурах, агульным дружным галашэньнем, і баяўся, каб ня сталася гэта акурат цяпер, як аб'явіць ён гаспадару няўмольна-катэгарычную волю рэвалюцыйнае неабходнасьці.

Зьдзівіла яго і Аўгінька. Ён чакаў, што ўбачыць яе заплаканаю, зарумзанаю, і загадзя нарыхтаваўся змагацца з ліпучым жалем, які ў ім заўсёды ўзьнімалі жаночыя сьлёзы. Ажно Аўгінька зусім ня плакала. Праўда, вочы ў яе былі хваравіта-чырвоныя, але сьлёз ня было на іх (мо' павыплакала ўсе?) і стаяла яна ў нейкім дзіўным ненатуральным здрантвеньні проста сярод хаты, нават не прыхінуўшыся ні да чога,—убога схіленая, нібы зломаная.

Замест жалю, зірнуўшы на яе, адчуў Вікатр глухі трывожны страх, які прымусіў яго, ідучы цераз хату, сьцеражліва абмінуць яе зводдаль, як зачумленую.

Гаспадар стаяў, прыхінуўшыся да вушака дзьвярэй, што ішлі ў чыстую палавіну хаты, і тож быў жудасна нярухомы, здрантвелы. Ён мабыць нічога й ня чуў з таго, што казаў яму Віктар, бо пустыя няпрытомныя вочы яго скрозь глядзелі паўз Віктараву голаву некуды ў нявідную кропку, а на застылым твары была жахлівая адсутнасьць усякага выразу і сэнсу.

Віктар ня ўправіўся яшчэ скончыць свае прамовы, як да яго падышла Аўгінька. Яна нэрвовым нязграбным рухам кранула яго за рукаў і ціха спытала:

— Што вы робіце, Віця?

Ён абярнуўся да яе, і іхныя вочы сустрэліся. Тут страшэнна падашукала была Віктара адна нікчэмная дробязь, праз якую ён ледзьве ня страціў быў свае мужнасьці. Аўгінька стаяла перад ім напружаная, суровая, шчытна, аж да бялосьці, сашчаміўшы вусны. І вось адзін куточак гэтых прыгожых, так добра знаёмых і любых Віктару вуснаў увесь час сьмешна, наіўна сморгаўся ўгару, гарэзна парушаючы стрыманую строгасьць усяго твару. Акурат у гэту хвіліну, праз гэты недарэчны нікчэмны куточак вуснаў, апанаваў быў Віктара той дрэнны ліпучы жаль, якога ён баяўся. Толькі напяўшы ўсе свае сілы, ён стрымаўся, каб ня кінуцца да яе і, плачучы разам з ёю, не закрычаць:

— Аўгінька, любая мая, я не вінават... Я сам ведаю, што гэта несправядліва і непатрэбна, але я мушу рабіць так, бо маю баявы загад, які трэба перш выканаць, а потым абскарджваць... Я абскарджу яго, ня бойся... Я ўпраўлюся, я не спазьнюся... Родная мая, я ратую цябе...

Казалі потым некаторыя дападлівыя людзі, якія былі там, што ў камсамольца Віктара былі т'кі блiснулі ў вачох сьлёзы. Але гэта, мабыць, казалі проста затым, каб скампрамэтаваць камсамольца Віктара, паказаць, што й камсамольцы могуць часамі зблышыць

А Віктар проста быў растлумачыў Аўгіньцы ўсё, як мае быць, і красіў яе супакоіцца, нават падвёў яе да лаўкі і хацеў пасадзіць. Але яна ўзяла тады са стала звычайны хлебны нож і, падаючы яго яму, сказала дзіўным простым і шчырым тонам, які страсянуў усю істоту камсамольца Віктара:

— Зарэж мяне лепей... Віця, зарэж мяне... Во табе нож... Віця, я ня буду злавацца...

Што было далей, па гэтых словах, Віктар неяк ня помніць—усё зацямрылася чорнай нязводнай жудасьцю гэтых Аўгіньчыных слоў.

Не, няпраўда. Яшчэ адно помніцца добра. На стале ён убачыў быў кніжку, якую ў астатні раз прынёс быў Аўгіньцы і, убачыўшы, з радаснай хапліваасьцю кінуўся да яе, каб паглядзець яе назву, нібы ад гэтага залежала няма ведама што.

Гэта была «Праграма і статут Усесаюзнага Ленінскага Камуністычнага Саюзу Моладзі». Віктар кніжку схаваў у кішэню—не таму, што баяўся, каб не прапала, а лічыў за недапушчальнае блюзьнерства пакідаць яе тут, у гэтым хоць і несправядліва, але усё-т'кі асуджаным, ганебна асуджаным доме.

Камсамолец Віктар ведае добра свае саюзныя абавязкі! А цяпер ён знойдзе свайго друга, раскажа яму ўсё-чысьценька, і яны ўдвух нешта прыдумаюць. У яго нарыхтаваны ўжо нават і словы, з якімі зьвернецца ён да прыяцеля. Ён скажа яму так:

— Братачка! Можа я й дрэнна, не па-камсамольску раблю, можа паддаўся я сэнтымэнтальнай слабасьці, можа патураю сам сабе, сваім пачуцьцям... Але слухай пра ўсё, што было...

І скажа тады ня толькі пра гэта, апошняе, а і пра ўсё, што дзеялася ў Сіўцы па ад'езьдзе друга. І яны нешта прыдумаюць тады, і ўсё будзе добра.

Абы пазбыцца гэтых неадступных балючых вобразаў! Абы ня сьцёбалі ў твар агнёвай жарствой гэтыя назольлівыя, як звон спалашонай асвы, атрутныя словы!

... Здаровы конскі інстынкт няўтомнай шаўлюжкі ды шчасьлівая выпадковасьць прывялі нарэшце камсамольца Віктара ў патрэбную яму вёску. Там прыстоіў ён ля першае хаты і—абмёрзлы ўвесь, адубелы—ледзьве споўз з санак, каб палятаць у акно ды папытацца, дзе жыве Зелянюк. Яго доўга ня чулі, потым доўга перапытвалі і яшчэ даўжэй тлумачылі, як трапіць у патрэбную хату.

Але нарэшце знайшоў. Блізкасьць мэты падбадзёрыла яго, і ён нарабіў такога грукату, што перапалашыў увесь дом. Пакуль гаспадары спрачаліся з ім, да дзьвярэй падышоў сам Зелянюк і запытаў сваім звонкім, так знаёмым Віктару і так прыемным яму голасам:

— Гэта—да мяне? Хто там такі?

Віктар хацеў весела крыкнуць, але ад узрушэньня ледзь прапішчэў—танкліва і жаласна:

— Гэта я... Віктар, з Сіўца... Адчыні хутчэй...

Дзьверы расчыніліся, і Віктар з асалодаю нырнуў у густую цяплыню хаты.

Зелянюк злавіў яго ў цемры за руку і павёў на сваю палавіну хаты. Там запаліў сьвятло і, зірнуўшы на Віктараў разгублены твар, адразу з ласкавай турботай запытаўся:

— Што, Віця, нешта благое здарылася?

— Братачка...

Але на гэтым і скончылася яго ўступная прамова, бо маладыя нязломныя сілы яго ўсёт'кі нарэшце здрадзілі яму, і ён торка, па-дзіцячаму заплакаў.

Пакуль Віктар адплакаўся, Зелянюк ужо быў апрануты, і яго сьвежы бадзёры выгляд ані не паказваў на тое, што яго адарвалі ад самага сну.

— Ну як, Віця, можа цяпер раскажаш ужо?

І ён ласкава палэпаў Віктара па плячы.

Віктару доўга не давялося апавядаць, бо Зелянюк з першых слоў зразумеў, аб чым тут справа, і нецярпліва перапыніў яго:

— Ну, рэшту дакажаш дарогай. Зараз-жа едзем у раён...

Віктар на такі зварот ніяк не спадзяваўся і з раптоўнай радасьці паспрабаваў нават пярэчыць:

— Можа ня варта турбавацца па гэтым? Можа ты запіску напішаш, ці што—дык я сам?..

Але Зелянюк строга перапыніў яго:

— Тут справа не аб тваёй каханцы, Віця,—тут справа вялікае грамадзкае значнасьці... Конь твой нас давязе яшчэ да раёну?

— Можа яшчэ й давязе.

І зноў змораная, але бяз меры старанная шаўлюжка клыпала па-маленьку, адгадваючы загубленую ў цемры і сьнегавай замяці дарогу, і зноў бяз сэнсу, чыста з інэрцыі махаў Віктар пугаю, ня бачачы і ня чуючы ні дароті, ні шаўлюжкі, ні шурпатага сьнегу, што агнёва-калючай жарствою асыпаў яго твар. Але ўжо ня ў чорную глухую яміну падаў загнаны бязьлітаснымі вобразамі камсамолец Віктар, а лётаў сярод завірухі сьмелымі яснымі надзеямі.

У раёне адразу пад'ехалі да кватэры сэкратара райкому таварыша Гайдука. Тут адчынілі ім адразу, бо, відаць, прызвычаіліся да гэткіх раптоўных візытаў, і, як увайшлі хлопцы ў невялічкі Гайдукоў пакой, гаспадар яго ляжаў у ложку, хоць ужо й варушыўся патроху спрасоньня.

Зелянюк усьцёр сярнічку і яны ўбачылі, што кіраўнік раённае арганізацыі ўжо сядзіць на сваім непрэзэнтабельным ложку, і, яшчэ не адышоўшы ад сну, дробненька чмыхае сваім хоць і даўгім, але ня надта паважным носам.

— А! Хлопцы... Ну, што?

Зелянюк бяз доўгіх абыходаў сьціслым стрыманым тонам баявога рапарту пачаў дакладваць сэкратару райкому пра сутнасьць справы. Гэты яго тон надзвычай імпанаваў Віктару, затое мізэрны выгляд Гайдука, які, седзячы на ложку, усё яшчэ чмыхаў носам, спачатку не абуджаў у ім асаблівае даверлівасьці.

Гайдук, выслухаўшы даклад, пацьвярджальна кіўнуў галавой, нібы хацеў сказаць, што ўсё так ідзе, як і мусіла йсьці, і буркнуў:

— Я хацеў выклікаць Карызну... пагаманіць... Аж цяпер прыдзецца неяк іначай...

Ён маява пацягнуўся да тэлефону, што стаяў тут-жа, пры ложку, і доўга, з д'ябальскай цярплівасьцю выклікаў сонную тэлефаністку.

І вось няўыразныя, пакомчаныя санлівасьцю словы сэкратара райкому прагучэлі камсамольцу Віктару цудоўна-прыгожай райскай музыкай:

— ... а восьмай ураньні?.. ага... цяпер шэсьць... Ты чуеш?.. Во што, браток... Пазвані туды на станцыю... Усіх перасяленцаў з Сівецкага сельсавету затрымаць да высьвенення справы.. Тэлеграму?.. Давай тэлеграму... Бывай...

І такім самым маявым, нібы вымушаным рухам паклаў назад тэлефонную трубку.

Камсамолец Віктар адчуў ува ўсім целе цягучую нявымоўна-салодкую слабасьць. Ён убачыў каля грубкі вольнае крэсла і сеў на яго, прыхіліўшы аццяжэлую галаву да цёплых кафляў. Увушшу ў яго зьлілася ў роўную гуркатлівую песьню ўжо далёкая ад яго сьвядомасьці гутарка Гайдука з Зелянюком, а ўваччу распрасьцёрся белы зімовы шлях, што адкрываецца за Сіўцом бязьмежным разгонам, і па тым па шляху папоўз бясконца доўгі кашлаты абоз, над якім паплылі зусім ціхамірныя, пазбаўленыя ўсякага трагізму, людзкія рыданьні. А збоку ад шляху, на сьнегавым узгорку, цяма ведама адкуль зьявіўшыся там, вытыркнулася нязграбная фігурка старога Галілея разам з яго верным другам і спадарожнікам—Босым.

Адтуль, ад Галілея, даляцеў быў таксама нейкі дзіўны завыўнацягучы чалавечы гук.

Можа гэта і Галілей плакаў там, стоячы на сваім узвышшы? А мо' ён сьпяваў чаго добрага?

Ці плакаў Галілей, ці сьпяваў?

...І над разьвязаньнем гэтага складанага пытаньня, ці плакаў ці сьпяваў Галілей, праводзячы сівецкіх перасяленцаў, заснуў Віктар глыбокім спакойным сном, які кампэнсаваў яму ўсе яго трывогі і мукі апошніх дзён.

## 10

Вязьмо зацягнулася, і туга скручаныя канцы яго падвярнуліся пад самае сэрца даўкім балючым вузлом чорнае роспачы.

І сталася-ж гэта акурат у той момант, як Сымон Карызна, зрабіўшы свой астатні рашучы крок, адчуваў сябе на верхавіне жаданага трыумфу. Нават вышла тут зусім дзівоснае, неверагоднае супаданьне: у тую хвіліну, як палялалі ў дзьверы, ён пісаў акурат данясеньне ў раён аб канчатковым завяршэньні суцэльнае калектывізацыі ў Сівецкім сельсавеце.

Пачуўшы стукат у дзьверы, Карызна адклаў у бок пяро і, пацiраючы рукі, крыкнуў бадзёра і весела:

— Уваходзь! Хто там?..

Але зараз-жа настрой яго глыбока апаў, бо сярод нечаканых гасьцей ён убачыў бледы, рэзка акрэсьлены твар ненавіснага Зелянюка.

Карызна зразумеў усё. І гэта раптоўнае яснае разуменьне сытуацыі дапамагло яму авалодаць сабой. Ён запрасіў усіх сесьці, і з лёгкай усьмешачкай слухаў тлумачэньні незнаёмага таварыша, што гэта ёсьць вызначаная раённым камітэтам партыі камісія па дасьледваньні стану партыйнае і савецкае работы ў сельсавеце.

Камісія сядзела ў яго нядоўга. Умовіліся толькі аб працы на заўтрашні дзень ды Зелянюк з далікатнасьці зрабіў колькі запытаньняў звычайнага прыяцельскага характару, якія ў такія хвіліны прымаюцца яшчэ халадней, чымся афіцыйныя размовы. І потым камісія пашла, паведаміўшы напасьледак, што кватараваліся яны ўсе ў Сівецкім нардоме. Гэта апошняя вестка дадзела Карызну балючай, чымся ўся папярэдняя гутарка.

«Нават не зайшлі адразу да яго! Нават не захацелі ў яго спыніцца! Зрабілі дэманстрацыю супроць яго!..»

Астаўшыся адзін, Сымон Карызна перш-на-перш падышоў да стала і з хаплівай пасьпешнасьцю падраў недапісанае данясеньне ў рээн, нібы хацеў як мага хутчэй зьнішчыць апошні сьлед свае ганьбы. Потым паволі, млява, як лунатык, адышоўся да канапы і сеў у той прытульны куточак, дзе любіла сядзець Марына Паўлаўна.

Ён адчуваў глыбокую да ўсяго апатыю і дзіўнае, амаль шчасьлівае палягчэньне. Нібы нёс ён нейкую вельмі патрэбную, але разам з тым і вельмі цяжкую ношку, якую цяпер скінулі ў яго з плеч. Можа дрэнна, можа пуста будзе без яе потым, але ў гэтую першую хвіліну над усім пануе адно салодкае адчуваньне раптоўнае палёгкі. І хочацца, каб адчуваньне гэтае цягнулася бясконца, каб ня было ні думак ніякіх, ні турбот, каб адно слухаць, як па ўсім целе пераліваецца цудоўная ўсеабдымная змора.

У такім стане засьпеў Сымона Карызну Пацяроб, які зьявіўся не па доўгім часе пасьля візыты партыйнае камісіі. Ён увайшоў, як заўзычай, не паляпаўшы, не папытаўшы дазволу, прыдыбаў да ўнуранага ў сябе Карызны і схіліўся над ім, ёмка пераламаўшы сваю даўгалыгую постаць.

— Сымонка! Ку-ку?..

Карызна ўзьняў галаву і ўбачыў проста перад сабой яго твар, з выразу якога можна было меркаваць, што Пацяроб або зьбіраецца чхнуць, або пырснуць нясутрыманым сьмехам.

Карызна шчыра зьдзівіўся.

— Табе сьмешна?..

І сапраўды Пацяроб засьмяяўся—ды такім дзікім сьмехам, што Карызна гатоў быў падумаць, ці не звар'яцеў часам непераможны старшыня Сівецкага сельсавету.

— Асэсары... Асэсары прыехалі... Асэсары... ха-ха-ха-ха!..

Але сьмех Пацяробаў так-жа раптоўна апаў, як і ўзьняўся. Стаўшы зноў сур'ёзным ён скрывіўся ў гіранічна-плаксівую міну і далажыў Карызну:

— А я ўжо, Сымонка,—кулдык... Прышла паперка з раёну, каб зараз-жа перадаў справу намесьніку... А ты, любачка, таксама маеш паперку?

Карызна дасадліва махнуў рукой.

— Ці аб гэтым справа?..

— Аб чым-жа, золатка?

Карызна зрабіў разгублена-няпэўны гэст.

— Няма нічога... разумееш? Нічога няма... Гарадзілі мы з табой, гарадзілі... І раптам—пуста...

Пацяроб зразумеў гэтыя словы па-свойму, і ўпаў у грознае абурэньне.

— Гэта мы пабачым яшчэ, як яно пуста! Яны думаюць, што яны толькі разумеюць? А можа мы бралі лінію на поўную перамогу сацыялізму? А можа мы наперадзе ўсіх ішлі ўдарным штурмам, каб дагнаць і перагнаць? Мы таксама кроў лілі за савецкую ўладу! Мы таксама рабочымі на фабрыцы працавалі і ведаем, як гнуць пралетарскую лінію... Мы яшчэ паглядзім, хто на чыё пераверне!..

Сымон Карызна з вялікім зьдзіўленьнем слухаў бязглуздую мітынгоўшчыну Пацяроба і, як той суняўся нарэшце, ня ўтрымаўся ад таго, каб з поўнай шчырасьцю не канстатаваць:

— Ну й дурны-ж ты, Пацяроб, да немагчымасьці.

Пацяроб спопрыску хапіў быў далей:

— Нам не ўпяршыню цярпець за рэвалюцыю...

Але абдумаўся, дабраў сэнсу Карызнавае заўвагі і, зноў пераламаўшы сваю нясусьветную даўгалыгасьць, твар у твар прыхіліўся да Карызны.

— А ты, Сымонка, разумны?

І зарагатаў злосным паскудным сьмехам, ад якога ў Карызны па ўсім целе прабегла дрыготка агіды і жудасьці. Ён ня мог далей трываць прысутнасьці Пацяроба і рашуча ўзьняўся.

— Ну, я пайду...

Пацяроб нахабна і хітра падміргнуў яму.

— Сымонка, куды-ж гэта ты, даражэнькі?

Карызна зразумеў сэнс яго падміргваньня і, моцнаю патугаю волі стрымаўшы сябе, каб ня плюнуць яму ў твар, адказаў з наўмысна-рэзкай прастатой і адкрытасьцю:

— Да Веры Засуліч.

— Сходзі, Сымонка! Сходзі, любачка...

І ён зноў падміргнуў яму з тым-жа брудным нахабным намёкам.

Ідучы з хаты і адчуваючы за плячыма ў сябе прыкрую, ліпучую прысутнасьць Пацяроба, Сымон Карызна сам сабе дзіваваў:

— Няўжо я мог плячо ў плячо працаваць з гэтым чалавекам?

... Яшчэ з сянец у Веры Засуліч пачуў Карызна да краю абрыдзелае брынканьне гітары і хацеў быў ужо завярнуцца назад, але ўспом-

ніў, што больш няма куды йсьці, і з адчайнай рашучасьцю чалавека, якому няма ўжо чаго больш губляць, адчыніў дзьверы.

Вера чамусьці страшэнна перапалашылася ягоным прыходам і, ускочыўшы з месца, стаяла ў незразумелай Карызну разгубленасьці. Затое Андрэй Шыбянкоў адчуваў сябе цалком вальготна. Ён, ня кідаючы брынкаць на гітары, нядбайна падрыгваў аднэй нагой і глядзеў проста на Карызну ўпартым гранічна-насьмешлівым поглядам.

Выгляд гэтага чалавека абудзіў у Карызны ўвесь запас нутраных сіл, якія яшчэ дрымалі ў ім, і ён з нечаканай нават для самога сябе рэзкасьцю зьвярнуўся да Шыбянкова:

— Андрэй! Выйдзі адсюль, нам трэба пагаманіць з Верай Міхайлаўнай.

Шыбянкоў, не зважаючы на ягоныя словы, па-ранейшаму ўсьміхаўся яму ў твар ды яшчэ ў дадатак да ўсяго засьвістаў пад нос сабе нейкі нахабны матыўчык, які выразьней ад слоў гаварыў Карызну:

— Яшчэ невядома, хто тут мае права астацца: ты ці я...

Тады Вера Засуліч, заўважыўшы, як страшна зьбялеў Карызна і якім дзікім агнём загарэліся ў яго вочы, падбегла скоранька да Шыбянкова і спалохана, але разам з тым і пяшчотна папрасіла яго:

— Ты йдзі, Андрэй... Мы пагаворым... Ты потым прыйдзеш... Добра?

І ў гэтае апошняе «добра» яна ўліла столькі інтымнасьці, што яно кальнула Карызну бадай ня менш, як уся нахабнасьць Андрэя.

Андрэй пашоў. Карызна з глыбокай палёгкай сеў на канапу і паклікаў да сябе Веру.

— Хадзі, Вера, сядзь тут, ля мяне.

Вера села поплеч і з мілай, пакорлівай ласкай падала яму абедзьве рукі. Карызна прагавіта схапіў іх і затуліў імі свой распалены твар. Так сядзеў ён колькі хвілін, ахаладжаючы мяккім прыткненьнем яе маленькіх рук сваё мімавольнае ўзрушэньне. Потым, адкрыўшы твар, з яснай праніклівасьцю зірнуў на яе і загаварыў паволі—цьвёрда і многазначна:

— Цяпер, як я згубіў усё і як я ведаю, што неўзабаве згублю яшчэ і цябе, ты мне даражэйшая, чымся была калі-небудзь дагэтуль...

Вера маўчала. Карызна зрабіў паўзу, мабыць чакаючы ўсёт'кі з яе боку хоць слабенькага выяўленьня пратэсту, але, не дачакаўшыся, гаварыў далей:

— Калі згубіш усё, дык шкадуеш нават таго, чаго дасюль ані не шкадаваў. Я, здаецца, шкадую, што разышоўся з сваею жонкаю.

Вера спытала яго з раптоўным ажыўленьнем, якога ён не заўважыў:

— Ты хочаш сыйсьціся зноў са сваею жонкаю?

— Я не пра тое... Мы з ёю ня сыйдземся больш...

Колькі хвілін яны сядзелі моўчкі, а тады Вера нясьмела—нібы з асьцярожным дакорам, нібы з жалем праказала:

— Нашто ты рабіў так... ня так, як трэба...

Яна—гэтая мілая шчырая дзяўчына— у сваёй бязьмежнай непасрэднасьці забылася ўжо, што й сама старанна памагала яму рабіць «ня так, як трэба».

Карызна пагадліва ўсьміхнуўся.

— Помніш, Вяруська, ты неяк казала мне, што трэба старацца, каб усё было добра, ўсё-чысьценька, каб ніхто ні да чога ня мог прычапіцца... Так цяжка рабіць, Вяруська, так надзвычайна цяжка рабіць...

Вера клапатліва зморшчыла лоб і з мімавольным страхам у голасе запытала:

— Што цяпер будзе?

— Што цяпер будзе?... Мяне напэўна выключаць з партыі... Можа аддадуць пад суд... І па тым...

Ён раптам хваравіта ажывіўся і, сударгава сьціснуўшы яе рукі, загаварыў далей:

— Гэта—ня тое... ня ў тым тут сэнс... Пуста, Вяруська, во што... Няма нічога... Няма мінулага ў мяне... разумееш?.. Будучыня—глупства, а галоўнае мінулае... Звычайна кажуць іначай, наадварот, а ў мяне акурат так... Няма на што абаперціся, каб ступіць у будучыню... Няма падставы, як кажуць, для будучыні... Я—помніш, Вера?—казаў табе, што можа мы прайшлі свой этап, што можа на гэтым новым этапе мы—лішнія... Я проста хаваўся за гэтае «мы»... А цяпер—іначай... Няма тут, мабыць, ніякіх «мы»... І ніякіх этапаў ня было, ніякіх этапаў я ня йшоў... Таму й пуста цяпер... Няма мінулага, няма на што абаперціся...

Вера глядзела на яго ўпартым неадрыўным поглядам, і ў яе чыстых наіўным вачах займаўся агеньчык глыбокага жалю. Мабыць адчуўшы гэты яе настрой, Карызна раптам абярнуўся да яе і цяжкім ад нутранога болю голасам запытаў:

— Вяруська, нашто ты кідаеш мяне?

Вера пяшчотна прытулілася да яго і прашаптала:

— Я дужа, дужа хачу, каб табе было добра...

Потым яна схілілася да яго кален, і, не вырываючы ад яго сваіх рук, парыўчата схавала ў іх твар.

Карызна з нявымоўным зьдзіўленьнем і глыбокай, блізкай да шчасьця радасьцю адчуў, як па руках у яго пацяклі гарачыя шчодрыя яе сьлёзы.

Але ўсё-ткі ня было гэта шчасьце, бо Сымон Карызна навучыўся нарэшце разумець, што жаль—гэта яшчэ ня зусім каханьне...

## 11

У сельсавеце было ці мала народу, і кароткая, але поўная глыбокага драматызму сцэнка, якая нечаспадзявана разыгралася там, мела досыць шырокае кола цікавых і надзвычай уважных гледачоў.

За вялікім сталом, насупраць уваходных дзьвярэй, працавала раённая камісія, правяраючы справы сівецкага сельсавету. Перад ста-

лом, грозна, размашыста сігаў экс-старшыня сельсавету—даўгі, як вочап, і калматы, як памяло, Пацяроб. Да яго то старшыня камісіі, то Зелянюк раз-по-разу зьвярталіся з запытаньнямі, і тады ён горда сунімаў свой марш і, пагадліва скрывіўшы вока, на трэцяга—ціхага і маўклівага сябра камісіі, кідаў—нібы выплёўваў—кароткую нядбалую рэпліку. Старшыню камісіі, а злашча Зелянюка ён вялічна ігнараваў, нібы не прызнаваў зусім іхнае прысутнасьці ў сьценах яго былой інстытуцыі.

Народ, які быў у сельсавеце, найбольш сівецкія актывісты, купкаваўся сям-там невялічкімі гурткамі і аднамерна гудзеў стрыманым гоманам, поўным павагі да тае экстраардынарнае справы, што адбывалася тут.

А ў самым кутку, за сталом, дзе працаваў незамутнёна спакойны дзядок Цівунчык, сядзеў, цяжка ўзьлёгшыся локцямі на стол, Сымон Карызна. Ён пахмура маўчаў, унураны ў глухую задуму, і мабыць ня чуў ані слова з ціхамірнае гаворкі старога служакі, які лічыў за свой канечны абавязак разважаць яго чорны настрой староньнімі, да справы не датычнымі, апавяданьнямі. Але Цівунчык не засмучаўся дужа яго няўважнасьцю і з вялікім задавальненьнем апавядаў сам сабе пра грандыёзныя шашачныя турніры, у якіх ён нібыта браў калісьці ўдзел і якія, праўду сказаўшы, ён проста вымудрыў сабе пацяхеньку, каб хоць трошку акрасіць цягучую сваю канцылярскую самоту.

Акурат перад момантам, як мела разыграцца тая неспадзяваная сцэнка, агульную цікавасьцю прыцягнула была да сябе нейкая малаважная, але вострая спрэчка Пацяроба з камісіяй, і таму ўсё, што далей тут адбылося, прайшло пад пільнай увагай усіх прысутных.

Яшчэ ня ўправіўся скончыць Пацяроб сваю чарговую алімпійскую рэпліку, як раптам адчыніліся дзьверы і ў сельсавет увайшла прыгожая стройная дзяўчына. Яна з парогу акінула памяшканьне бордзым энэргійным поглядам і, убачыўшы проста перад сабою Зелянюка, шырока расплюшчыла вочы ад радаснага зьдзіўленьня і зрабіла ў яго бок мімавольны парыўчаты рух—больш красамоўны, чымся тысячы слоў найгарачэйшага прывітаньня. Але рух гэты застыў у самым сваім пачатку, бо дзяўчына раптам дзіўна зьмянілася: бровы яе строга насупіліся, вусны сашчаміліся ў цьвёрдым напружаньні, а ў вачох халодна бліснуў зусім ня радасны і ня прывітны агеньчык.

Дзяўчына пругкім крокам падышла да Зелянюка і, упарта гледзячы ў твар яму, запытала:

— Нашто ты маніў мне?

Зелянюк паспрабаваў усьміхнуцца.

— Я не маніў табе, Стася...

— Чаму ты ня пісаў мне ўсяго?

Зелянюк відочна замяшаўся, і гэта яго замяшаньне вылілася ў цяжкую нявыгодную для яго паўзу. Адылі ён авалодаў сабой і з той-жа ціхай нерашучай усьмешкай адказаў:

— Стася... Так трэба было... Так было лепей...

Дзяўчына паглядзела на яго зьнішчальным поглядам і хацела мабыць сказаць нешта вельмі рэзкае, але ў гэты момант яна заўважыла Сымона Карызну і кінулася да яго з крыкам, у якім невядома, чаго было больш: радасьці ці роспачы.

— Татка!..

Карызна ў хаплівай, зусім старчай пасьпешнасьці цалаваў дачку і з нецярплівай настойлівасьцю вёў яе да дзьвярэй, нібы баяўся, каб не пачула ці не пабачыла яна тут таго, чаго ёй ня трэба ні бачыць ні чуць.

— Ты ня была яшчэ ў хаце? Пойдзем, дачушка... Пойдзем...

Як яны былі ўжо ў дзьвярах, Зелянюк нэрвова памкнуўся ім усьлед і гукнуў не па-звычайнаму моцным, узрушаным голасам:

— Стася!..

Але яна нават не азірнулася.

Зелянюк стаяў сярод пакою—напружана застылы, адзервянелы—і нібы ў чаканьні, нібы ў бязьмежным балючым зьдзіўленьні глядзеў на зачыненыя дзьверы.

З хвіліну ў сельсавеце стаяла глухое маўчаньне. Яго разарваў дападлівы Пацяроб раптоўнай заўвагай:

— Гэта, любачкі мае, аргумэнт...

І ён пашукаў вачмі сярод публікі спагадлівае ўсьмешкі, адылі ня ўсьміхнуўся ніхто. Усе занялíся адразу сваім, кожны ўдаваў, што ён нічога ня бачыў і ня чуў. Гэтым паказалі ўсе міжвольную павагу сваю да глыбокіх цудоўна-яскравых рухаў чалавечай душы.

Праз якіх дзесяць хвілін камісія зрабіла была перапынак у сваёй працы і тады, абабраўшы зручны момант, да Зелянюка падышла Таццяна Шыбянкова. Унікаючы чамусьці ад сустрэчы з ягоным поглядам, яна нерашуча запытала яго:

— Гэта твая дзяўчына?

Зелянюк ласкава, амаль пяшчотна зірнуў на яе зьлёгку паружавелы твар і жартліва адказаў:

— А хіба гэта ня ўсё роўна?

Таццяна пасьпешна згадзілася:

— Усё роўна.

Але ўвесь яе разгублены выгляд, а найбольш сарамліва ўтупленыя вочы яе гаварылі, што ёй гэта ня зусім «усё роўна».

... Тым часам бацька з дачкой у цяжкім, адчужана-халодным маўчаньні падыходзілі да будынку местачковае сямігодкі.

Пераступіўшы цераз парог роднае хаты, Стася, як і там, у сельсавеце, супынілася ў парозе і абвяла пакой вострым дапытлівым поглядам. Відаць агульны выгляд самотнае Карызнавае кватэры не зрабіў на яе асабліва прыемнага ўражаньня, бо яна з сьцеражлівай стрыманасьцю—зусім не па-хатняму—перайшла цераз пакой і, нават не распрануўшыся, села на першае, якое трапілася ёй на дарозе, крэсла.

Карызна заўважыў яе настрой і тонам лёгкага дакору прапанаваў:

— Можа-б ты распранулася хаця, Стася? Ты-ж прышла дамоў, у сваю хату.

Стася нібы й ня чула ягоных слоў. Яна з хвіліну сядзела моўчкі, упяўшы ў вакно задуменны погляд, а тады абярнулася да бацькі і з рэзкай рашучасьцю запытала яго:

— Тата! Што ты тут нарабіў?

Карызна замест адказу сам запытаў яе ціхім праніклівым голасам:

— Ты што, Стася, першая хочаш судзіць?

Яна нездаволена скрывілася.

— Я не магу і не хачу судзіць цябе. Ты ведаеш, што я прывыкла бачыць у табе ня толькі свайго бацьку, а й старэйшага таварыша. Ты—стары партыец, а я камсамолка.

— Неўзабаве будзе іначай: я буду беспартыйны, а цябе, мабыць, перавядуць у сябры партыі. Я табе зычу гэтага ад шчырага сэрца...

Стася ўскочыла з месца, распаленая раптоўным гневам.

— Не кажы так, тата! Я ня хочу, каб ты так казаў... Ты гаворыш, усё роўна, як сьмяешся... Калі ты і рабіў усё гэта са сьмехам, дык ты... дык я... я зусім ня буду пра гэта з табой гаварыць.

Карызна маўчаў—адно ўсьміхаўся балючай, хваравітай усьмешкай, якая сказала дачцэ больш, чымся ўсякія словы. Яна падсела да яго бліжэй і зусім іншакшым—ціхім, пяшчотным голасам запытала яго:

— Татка! Табе дужа цяжка?

Бацька панура схіліў галаву.

— Цяжка, дачушка... Дужа цяжка...

І тады дачка паважным, праканальным тонам супакоіла яго:

— Гэта добра, татка... Раз цяжка, значыць ты ўсё адчуваеш... А я думала—ты сьмяешся... Скажы, татулька, як усё гэта вышла ў цябе? Можа тут якое было непаразуменьне?..

Карызна скрывіўся ад нутранога болю і зьнехаця адказаў:

— Тут, Стася, столькі было непаразуменьняў, што і заблытаўся ў іх, як у непраходным лесе. Мне пачынае часам здавацца, што ўсё жыцьцё маё—непаразуменьне.

Яна перапыніла яго тым-жа паважным аўтарытэтным тонам:

— Ня трэба так гаварыць, татка... Гэта—нясур'ёзна...

Ён вінавата ўсьміхнуўся.

— Добра, дачушка, я больш ня буду... Але—ведаеш, што?—нам з табой так многа прыдзецца яшчэ гаварыць пра гэта... А цяпер—блытаецца ў мяне ўсё... Давай пра другое... Скажы, ты Зелянюка добра знаеш?

Яна ўзьняла на яго шырока расплюшчаныя вочы, нібы зьдзівілася такому наіўнаму яго запытаньню.

— Я ня толькі знаю, я нават кахаю яго...

Але зараз-жа сама заўважыла сваю злачынную прастадушнасьць і паправілася:

— Ну, мы з ім—добрыя прыяцелі... былі...

Яна з момант памаўчала ў нерашучасьці, а тады нясьмела, сарамліва запытала бацьку:

— Скажы, а ён... Зелянюк... не вінаваты ў гэтым ува ўсім?

Карызна адказаў з цьвёрдай катэгарычнасьцю:

— Ён ні ў чым не вінават. Вінават я.

Яны колькі хвілін сядзелі моўчкі, занятыя кожны сваймі думкамі. Потым дачка мякка кранула бацьку за рукаў нібы асьцярожна будзіла яго, і прашаптала:

— Татка... Я ўсё-т'кі пра гэта яшчэ... усяго некалькі слоў... Скажы, ці ты хочаш шчыра так, па-сапраўднаму, каб неяк добра стала... ну, разумееш, каб зноў так, як раней...

Карызна ня даў ёй скончыць—перапыніў яе ў дзіўным замяшаньні:

— Я разумею... Я, дачушка, ня ведаю... У мяне ўсё пераблыталася... Я буду хацець... Я зраблю так, каб хацець...

Тады Стася зусім блізка прыхілілася да яго і яшчэ цішэй, ледзьве чутна, запытала:

— А як з мамкай?

Карызна паглядзеў на яе строгімі вачмі.

— Стася! Ты—не маленькая і табе ня трэба цііхіх сямейных абставін... Мы цябе роўна любім абое... мы табе, як былі,—бацька і маці... Ей ня дрэнна... Яна лепей жыве цяпер, чымся раней...

Дачка слухала яго і ў тон яму пакорліваківала галавой.

— Я ведаю... Я за мамку ня злуюся на цябе. Тут—асабіста... Я сама ведаю... Але...

Яна адвяла ў бок свае вочы, каб не паказаць іхнага здрадлівага бляску, і дадала—больш сама сабе, чымся яму:

... але мне так шкода, так шкода свае мамкі...

На гэтым і скончылася была ў бацькі з дачкой першая па сустрэчы гутарка, якая, хоць у сутнасьці не разьвязала ні бацьку ні дачцэ іхных сумненьняў, але шчасьліва пагадзіла іх між сабой.

## 12

Зелянюк узрушана хадзіў узад і ўперад па нязграбна-даўгім, як труна, і пустым пакоі, у якім за-звычай непадзельна панаваў аптэкар Плакс са сваім местачковым драмгуртком і які раённая камісія «дэманстрацыйна» абрала сабе пад часовую штаб-кватэру.

Зелянюк ламаў галаву над сфармуляваньнем пэўнага, яснага адказу на запытаньне, якое зрабіла яму Стася пры іхнай неспадзяванай сустрэчы.

Нашто ён уласна ў сваіх лістох да Стасі, у якіх падрабязна апісваў ён усе сівецкія падзеі, упарта хаваў ад яе сапраўднае месца дзеі і сапраўдных асоб, якія ў ёй бралі ўдзел?

Ён ня каяўся і не сумняваўся—ён і цяпер, як раней, як увесь час, як і там, пры сустрэчы з Стасяй, быў шчыра і цьвёрда ўпэўненым, што сапраўды так было лепей, што так і трэба было яму рабіць, але ў яго ня было дакладнае формулы, у якую-б можна было і ў якую яму канечна трэба было ўкласьці сваё напоўінтуіцыйнае пераканаланьне.

Ён добра помніць, што пачалося ўсё з нясур'ёзнага, чыста дзяцінага жарту—ён хацеў так напісаць ёй колькі лістоў, а потым прызнацца ды пасьмяяцца разам з ёю з гэтага бязьвіннага ашуканства.

А потым, як пашлі ў яго сутычкі з Карызнам ды як набылі яны формы вострай прынцыповай варожасьці, ён па доўгіх меркаваньнях наважыў і надалей, да таго ці іншага разьвязаньня іхнага канфлікту, хаваць ад Стасі праўдзівыя прозьвішчы гэрояў сваіх прыгод.

Але-ж чаму ён гэтак наважыў рабіць? Ці меў ён тады што канкрэтнае на мэце?

Што-б там ні было, а ён мусіць знайсьці такі дакладны вычарпальны адказ, які-б адразу пераканаў Стасю ў аб'ектыўнай правільнасьці і мэтазгоднасьці ягонага ўчынку.

Любая, слаўная Стаська! Якім страшным поглядам яна сёньня на яго паглядзела! Гэты погляд не гаварыў, а проста крычаў, што Стаська, яму ніколі-ніколі, да апошніх дзён жыцьця не даруе!

Яна, вядомая рэч, даруе яму, ён гэта ведае добра. Але яна даруе толькі тады, калі ён здолее з непахіснай пэўнасьцю ёй давесьці, што меў бязумоўную рацыю, гэтак рабіўшы.

О, ён добра ведае сваю Стаську!

Толькі ці захоча яна наогул з ім гаварыць? І як тут зрабіць, каб чым найхутчэй з ёю сустрэцца?

... Стася гаварыць з Зелянюком захацела і нават сама прышла да яго раней, чымся ён управіўся знайсьці сваю няшчасную формулу.

Зелянюк як не ашалеў з радасьці, убачыўшы яе ў дзьвярах свайго трунападобнага пакою. Ён кінуўся ёй на сустрэчу з такім рашучым парываньнем, нібы паміж іх ня было, ды й не магло быць ніякіх нязгод ці супярэчаньняў, і гатоў быў ужо з маху схапіць яе ў свае абдымкі. Але Стася, яшчэ трымаючыся аднэй рукой за клямку дзьвярэй, другой рукой уладна адгарадзілася ад яго.

— Нашто ты рабіў так? Ну, кажы?

Зелянюк ніякім чынам не спадзяваўся на такі энэргічны і, галоўнае, такі раптоўны напад і, зьбянтэжаны, суняўся перад ёй, ня ведаючы, што рабіць далей.

— Чаго ты хацеў гэтым дасягнуць?

Зелянюк чуў, што вось тут акурат, на гэтым месцы ён мусіць даць свой цьвёрды, катэгарычны адказ—і ўсё тады разьвяжацца ў адзін момант. Але адказу такога яшчэ ня было ў яго, а маўчаць таксама не выпадала, і ён загаварыў—ня зусім, праўда, цьвёрда і ня зусім катэгарычна:

— Ведаеш, Стася, я вось, пакуль ты прышла, доўга думаў над гэтым. Я зноў кажу, што так трэба было—я глыбока ўпэўнены ў гэтым. Але я не магу растлумачыць табе... Не магу сфармуляваць... Ну, ведаеш...

Стася пагардліва прыжмурыла вочы і перапыніла яго:

— Ты можа думаў, што я перастану кахаць цябе за тое, што ты пасварыўся з маім бацькам?

Зелянюку гэта дадзела надзвычайна, і ён загарачыўся.

— Няпраўда! Я ня мог так думаць, ты гэта ведаеш... Ты абражаеш і мяне і сябе. Гэта ня тое... Бачыш... Я хацеў, каб ты зусім бесстаронна судзіла пра мае ўчынкі... Я пісаў чыстую праўду, не маніў

ні слова... Ну, скажы, Стася... тыж ня бачыла нічога дрэннага ці няправільнага ў маіх стасунках да таго... да сэкратара ячэйкі?.. Ты мне пісала, што цалком згодна са мной. Праўда, Стася? Ну, скажы, праўда?..

Стася з момант падумала і сказала троху лагадней, але з тым самым пагардлівым дакорам у голасе:

— Ты—эгаіст... Ты толькі думаў, каб самому чыстаму быць, каб агарадзіць сябе... Ты дарма гэта рабіў, бо бацька сам мне сказаў, што ты ні ў чым не вінават...

Зелянюк жвава перапытаў:

— Ён так сказаў табе? Праўда, Стася?

Стася не палічыла за патрэбнае паўтараць, што сказала, і цягнула далей:

— Ты думаў пра сябе толькі. А можа, каб я адразу ведала ўсё, дык-бы й нічога гэтага ня было...

Зелянюк пачуў тут самае небясьпечнае месца і пасьпешна запярэчыў:

— Няпраўда, Стася! Я многа думаў аб гэтым... Ты зусім ня ведаеш свайго бацькі. Ты падліла-б толькі масла ў агонь, і ўсёроўна было-б тое самае, толькі можа ў больш вострых і злачынных формах... Пра гэта я таксама пісаў табе, Стася...

Яна раптам нібы абвяла і зусім новым—пакорна-ціхамірным тонам запытала:

— Што цяпер будзе з ім?

Зелянюк, узрадаваны такім зваротам справы, ахвотна пачаў тлумачыць ёй пра партыйную дысцыпліну, пра партыйныя спагнаньні, пра тое, што партыя ніколі не адштурхоўвае ад сябе канчаткова сяброў, якія зрабілі тыя ці іншыя, хоць і вялікія нават, памылкі. Стася выслухала яго з глыбокай увагай, і, як ён скончыў, спакойна зьвярнулася да дзьвярэй.

Зелянюк асалапеў:

— Стася! Куды-ж ты?

Яна прыстоіла і ўзьняла на яго наіўна-зьдзіўленыя вочы.

— А што?

— Ты так і пойдзеш?

— Так і пайду. Я пагаварыла з табой пра ўсё, што трэба, і мне няма чаго больш тут рабіць.

Ён разьдзельна, склад за складам пераказаў:

— Табе няма чаго больш тут рабіць?

— Так, Зелянюк. Мне няма чаго больш тут рабіць.

І яна зноў завярнулася да дзьвярэй. Зелянюк падбег і схапіў яе за руку.

— Чакай, Стаська... Гэта-ж неразумна... нелёгічна... Ну, даруй мне, калі мо' я дрэнна зрабіў... Ну, даруй, Стаська...

Стася сказала яму дзіўна спакойным зусім прыяцельскім тонам:

— Слухай, Зелянюк... Ты ведаеш, што я ня люблю рабіць штонебудзь з пустой крыўды ці гонару... І я ня крыўджуся на цябе... Па-

праўдзе, Зелянюк, ня крыўджуся... Я нават цяпер, у гэтую хвіліну, згодна з табой, што так было лепей... Але гэта ўсёроўна астанецца паміж нас прыкрым непаразуменьнем, і, калі мне будзе патрэбна, я буду лічыць, што ты загубіў майго бацьку...

— Няпраўда, ты не падумаеш так... Ты выдумляеш сама на сябе... Стаська, я ўсё-роўна ня пушчу цябе... Ты ня пойдзеш... Я так не магу... Я больш кахаю цябе, чымся ты думаеш...

Стася ціха, але рашуча папрасіла:

— Зелянюк, пусьці маю руку. Я пайду.

Тады Зелянюк пусьціў яе руку і, балюча сашчаміўшы зубы, пашоў ад дзьвярэй. Усьлед яму пачулася так блізка знаёмае, звонкае і зусім—зусім ня злоснае:

— Бывай, Зелянюк!

І яна т'кі пашла, гэтая наравістая дзяўчына. Праўда, як вышла яна за дзьверы, дык яе прыгожы твар таксама пацямнеў і скрывіўся ад нутранога болю, але пашла яна цьвёрдым роўным крокам, які ані не паказваў на тое, што гэта дзяўчына перажывае цяпер сваю першую і таму найглыбейшую і найсьвяжэйшую трагедыю.

... Стася была ў такім душэўным стане, калі чалавек звычайна або ўпадае ў чорную мэлянхолію або наважваецца раптам на які-небудзь дзікі недарэчны ўчынак, на які-б ніколі не пашоў у нармальным стане, і ў гэты ўчынак выливае жорстка сьціснутую ў нутры ў яго буру.

Стася ў чорную мэлянхолію не ўпадала, а наважылася да дзікі недарэчны ўчынак: яна пайшла да Веры Засуліч.

Яшчэ з кухні Стася пачула мілы галасок Веры, якая мыркала сама сабе нейкую цёплую і ўтульную, як курлыканьне коткі, песеньку. Гэтая песенька страшэнна абразіла Стасю сваёю ціхамірнасьцю, і яна паведаміла пра свой прыход такім адчайным грукатам у дзьверы, нібы хацела спатнаць на іх усё абурэньне свайго маладога сэрца.

Вера выскачыла ёй насустрэчу—чыстая, сьветлая, як анёлак—і, ледзьве ня плачучы з радасьці, кінулася яе абнімаць.

— Стасечка, родная... Як добра, што ты прыехала... Тут так многа ўсяго ўсякага панарабілася... Я ўжо хацела пісаць табе... па-праўдзе...

І яна з ласкавым шчабятаньнем павяла Стасю ў свой пакой. Стася моўчкі прымала яе гарачыя шчырыя ласкі, але сама на іх не адказвала і скрозь разглядала яе сур'ёзным праніклівым поглядам. Але раптам у галаве ў яе мільганула сьмешная дзівачная думка:

«Гэта-ж яна можа будзе мая новая «мама»?

І яна міжвольна ўсьміхнулася. Вера заўважыла гэтую ўсьмешку і, ураз пахаладзеўшы, пакрыўджанай насупіла свае аксамітныя броўкі.

— Ты, Стася, сьмяешся з мяне?

Стася станавіта растлумачыла ёй:

— Гэта я ўсьміхнулася не з цябе, а з аднае свае недарэчнае думкі. Я сьмяяцца з цябе ня буду.

І Вера, ураз расхмурыўшыся, зноў жвава зашчабятала, апавядаючы Стасі пра сівецкія навіны. Адылі Стася перапыніла яе.

— Я прышла Вера да цябе са справаю. Я хачу пагаварыць з табой пра свайго тату.

Вера зноў замаркоцілася.

— І ты, Стася, супроць мяне? Што я зрабіла каму благога?

Стася пасьпешна яе супакоіла:

— Я на цябе не наракаю... Гэта—ваша асабістае... Я проста хачу пагаварыць...

Вера падсела бліжэй да яе і прашаптала з непадробленай ласкай і болем:

— Я так шкадую яго... Я, здаецца, усё-б зрабіла, каб толькі яму лягчэй было... Я праўду кажу, Стася...

І яна нават прытулілася да Стасі і пяшчотна гладзіла яе руку, нібы гэта сядзела ня Стася тут, а Стасін бацька.

Стася мабыць наважыла, што цяпер самы зручны момант пачаць «рашучую» размову і, надаўшы голасу свайму глыбокую, мала не трагічную суровасьць, запытала:

— Скажы, ты яго любіш?

І чыстая, бязьвінная, як дзіця, Вера Засуліч з анёльскай шчырасьцю ёй адказала:

— Я ня ведаю, Стася...

Стася зьдзіўлена паглядзела на яе і гаварыла далей тонам старэйшага дасьведчанага чалавека, які размаўляе з малым:

— Ну, як-жа так—ня ведаю... Каханьне—гэта пачуцьцё такое... такое-яснае... Заўсёды адчуваеш, ці кахаеш ты чалавека, ці не... Нават і калі дрэнна з ім... ну, калі паспрачаліся... калі разышліся нават... а ўсё роўна нешта ёсьць да яго, не такое, як да іншых людзей... Усё роўна цягне да яго, хочацца зноў сустрэцца з ім... хоць ведаеш, што гэта непатрэбна... немагчыма...

Тут Стася нават ціхенька, неўзаметку для Веры, уздыхнула, адылі схамянулася, што нагаварыла многа лішняга і скончыла суха, разважна:

— Раз няма яснага пачуцьця паміж людзей, дык і ня можа быць у іх ясных стасункаў.

Вера слухала яе ў глыбокім замяшаньні. Яна з хвіліну вагалася сама з сабой, а тады ціха, нясьмела праказала:

— У нас... стасункі... у нас усё ясна...

Стася строга перапыніла яе:

— Ук гэта ясна?

— Бачыш Стася... вышла... Я выходжу замуж...

— За тату?

Вера яшчэ больш замяшалася.

— Не... За Шыбянкова... За Андрэя Шыбянкова...

Стася глядзела на яе вялікімі, поўнымі зьдзіўленьня, вачмі.

— А тата ведае?

— Не... Ён ня ведае... Я не казала яму... Я не магла сказаць яму...

Стася, з усіх сіл хвалюючы сваю раптоўную радасьць, дзелавіта заявіла:

— Дык я сама скажу яму. Добра?

Вера ў радасным захапленьні кінулася да яе.

— Стасечка, любая, скажы... Я так шкадую яго... Я так шкадую...

Яна парыўчата абнімала Стасю, а ў яе вялікіх цёмна-цёмна-сініх вачах блішчэлі сьлёзы. Стася ўважна паглядзела на яе і шчырым прыяцельскім тонам зазначыла:

— Вера, ведаеш, што я скажу табе... Ты—хоць вялікая шэльма, а хоць папраўдзе слаўная дзеўка...

Вера Засуліч шчасьліва ўсьміхнулася.

## 13

Справа Сымона Карызны, Пацяроба і яшчэ некаторых найбліжэйшых іхных паплечнікаў разглядалася на пашыраным, спэцыяльна для гэтае мэты скліканым пасяджэньні бюро райкому.

Сымон Карызна прыехаў у раён змрочны, пахмуры, і праз увесь час, пакуль не пачалося паседжаньне райкому, туляўся ў баку ад усіх, глуха зацяты ў жорсткім, амаль варожым да ўсіх маўчаньні. Гэтая пахмурасьць яго была заслонай, за якой ён хаваў сваё замяшаньне і якой адгароджваўся ад сутычак з прыяцелямі, поўных нямінучага ў гэтых выпадках фальшу й двузначнасьці.

Зусім іначай паводзіў сябе Пацяроб. Гэты і тут ня страціў рызыкі і, горда замкнёны ў сваёй адмыслова-пацяробаўскай вялічнасьці, звысока кідаў на ўсіх пагардліва-зачэплівыя погляды, якія мусілі азначаць, што калі ён і ня лічыць сябе пераможцам, дык у кожным разе яшчэ й далёка да таго, каб палічыў сябе за пераможанага.

— Яшчэ паглядзім, хто на чыё пераверне?

Пасяджэньне пачалося з дакладу старшыні камісіі, што з даручэньня райкому езьдзіла ў Сівец дзеля азнаямленьня на месцы з усімі дэталямі справы.

Карызна слухаў даклад з глыбокай напружанай цікавасьцю. Канкрэтныя факты, якія з спакойнай, нават троху пэдантычнай стараннасьцю выбіраў з сваіх бяздонных матар'ялаў дакладчык, паўставалі перад Карызнай сьвядомасьцю ў дзіўнай навіне, набываючы зусім новае, нечаканае для яго, значэньне. Так часам якая-небудзь няпрыметная, нудная, абыклая для вока рэч, апынуўшыся ў руках чужога чалавека, раптам зьдзіўляе гаспадара незаўважанай дасюль яскравасьцю.

І Карызну пачало здавацца, што справа йдзе тут зусім не аб ім, што гэта зусім не яго пералічаюцца тут сапраўды цяжкія, сапраўды нявыбачныя злачынствы.

...Скрыўленьне партыйнай лініі ў справе калектывізацыі, злоснае парушэньне прынцыпа дабрахвотнасьці...

... Заціск здаровае ініцыятывы бядняцка-серадняцкае часткі насельніцтва...

... Парушэньне прынцыпу—«ліквідацыя кулацтва толькі на базе суцэльнае калектывізацыі»—і скарыстаньне раскулачваньня з выключнай мэтай тэрарызацыі насельніцтва...

... Незаконнае высяленьне беднякоў і серадякоў...

... Бяспрынцыпная калатня і звадкі з сябрамі ўласнае ячэйкі...

... Затойваньне ад партарганізацыі сваёй сувязі з кулацкай сям'ёй і свае ранейшае права-апартуністычнае дзейнасьці...

Карызна слухае з напружанай увагай, як перабірае дакладчык бясконцую чараду злачынств, і злачынствы гэтыя дзіўна абстрагуюцца ў ягонай сьвядомасьці, абарачаючыся ў зусім самастойныя, незалежныя ад нікога, праявы. Потым яны зьбіраюцца ўместа, камбінуюцца, пераплятаюцца і складаюць нарэшце адзіны—таксама абстрактны—вобраз агіднага злачынцы. Гэта ня ён зусім, не Карызна, гэта нейкі далёкі, праміналы ў жыцьці чалавек—дурны і агідны—супроць якога Карызна абураецца ня менш за іншых, ня менш за самога дакладчыка.

Карызна раптам чуе, што гэты настрой ня новы, што ён ужо некалі перажываў яго, і напружвае памяць, каб успомніць, калі гэта было.

Так, успомніў. Гэта было тады, як, едучы ад Рачкоўскага, ён—спакойны, упэўнены ў свае сіле і незалежнасьць—абарачаўся мысьлёвым поглядам у мінулае і бачыў там замест сябе чужога маладзнаёмага чалавека.

Карызна нэрвова здрыгаецца.

Што гэта—выпадак ці заканамернасьць? Няўжо яму прыдзецца скрозь так, з страхам і агідай азірацца на свае пражытыя дні!

Дакладчык скончыў і зачаліся спрэчкі. У спрэчках выступалі ўсе, хто быў тут прысутны, і ўсе гаварылі бадай што адно: усе ганьбілі, асуджвалі, патрабавалі суровае кары. Карызна глядзеў на кожнага, хто пачынаў гаварыць, з нейкай абсалютна пустой цікавасьцю і ўвагу ўсю зварачаў не на словы, не на сэнс іх, а на тое, як хто трымаецца, ці добра патрапіць каторы ўзяць належны тон абурэньня і які кіне на яго, на Карызну, погляд: ці гнеўны, ці спачувальны, ці проста бязуважны.

Найактыўнейшы ўдзел у спрэчках браў Пацяроб. Ён бяз ладу, з чыста бабскай зьвяглівасьцю ўтыкаўся ў прамову кожнага, хто выступаў, агрызаўся, лаяўся, нахабна вытыкаў кожнаму яго ўласныя грахі, якіх ён нейкім дзівам меў на ведаме безьліч, і ўпарта напіраў на іх, як на сваё апраўданьне, хоць усе яны ня мелі ніякага дачыненьня да разгляданай справы. І кожны свой выпад, якія-б вынікі ён ня меў, пакрываў трыумфальным поглядам ваяўнічага пераможцы.

У Карызны пацяробаўскія выступленьні абуджалі пачуцьцё прыкрай дакукі, а бадзёрыя змоўна-таямнічыя погляды, якімі той раз-пораз на яго пазіраў, стараючыся падтрымаць згнібёны дух свайго таварыша, кідалі Карызну ў халодную дрыготку агіды.

Наогул усе гэтыя спрэчкі страшэнна нудзілі Карызну—яны здаваліся яму лішнімі, непатрэбнымі для справы, і ў значнай меры штучнымі. Нават вялікае выступленьне Зелянюка—фактычна пракурорская прамова, у якой ён з жорсткай бесцарамоннасьцю калупаўся ў Карызнавай псыхіцы, ня спыняючыся перад самымі інтымнымі яе

куточкамі, нават гэтая прамова ня выклікала ў Карызны моцнага ўзрушэньня. Яму толькі шкода было чамусьці, што ў Зелянюковай прамове мала агню, мала нянавісьці, што ён залішне аб'ектыўны і стрыманы. Мабыць нянавісьць гэтага нялюбага блазьнюка дала-б яму нейкае асаблівае задавальненьне.

Сымон Карызна нецярпліва чакаў выступленьня Рачкоўскага. Ён чакаў яго з затоенай унутры зларадасьцю, ён загадзя трыумфаваў, уяўляючы тую ніякавасьць, тое замяшаньне, з якім Рачкоўскаму давядзецца ганьбіць яго, свайго калішняга супольніка.

Дзіўная рэч, але з усіх прыяцеляў і ворагаў—роўна чужых яму цяпер і далёкіх—найбольшую няпрыязнасьць адчуваў чамусьці Карызна да свайго лепшага друга, да Рачкоўскага. Ён проста ня мог на яго глядзець—яго ўпэўнена-моцныя энэргійны твар, яго прысядзістая, моцная, што дубовы камель, фігура абуджалі ў ім дрэннае пачуцьцё зайздросьлівае варожасьці, якое занялося ў ім яшчэ тады, як, прыехаўшы ў раён, суняўся ён быў перад кватэраю свайго друга, каб як звычай, да яго заехаць. Перш, чым зьлезьці з вазка, ён паспрабаваў быў уявіць сабе сцэну сустрэчы з старым прыяцелем, і вось тут замест тае сьвежае бадзёрасьці, якую заўсёды выклікаў у ім адзін успамін пра Рачкоўскага, заныла раптам у сэрцы ў яго гэтае прыкрае, едкае пачуцьцё, і магчымасьць сустрэчы з Рачкоўскім ня ўзрадавала яго, а напалохала. Ён сказаў возьніку ехаць далей і ўпяршыню за ўвесь час быцьця свайго ў гэтым раёне спыніўся ў заезным двары.

Рачкоўскі выступіў у самым канцы спрэчак. Ён паволі ўзьняўся з месца, упёрся рукамі ў стол, нібы ўрос у яго, і ўстроміў проста ў Карызну свой цьвёрды няўломны погляд.

— Так, браце Сымоне... Зблытаўся ты... Сорамна мне за цябе... вось... Партыя на цябе зьвяралася, партыя даручыла табе кіраваць часткай свае арганізацыі, а ты партыю сваю ашукаў... Чуеш ты? Ашукаў!.. Ты гэтую веру партыі да цябе на што скарыстаў, га? Ты ваедаеш, браце, што ты зрабіў? Ты здрадзіў! Так, здрадзіў...

І Рачкоўскі з уласьцівай яму грубой пачуцьцёвасьцю стаў найчарнейшымі фарбамі маляваць учынкі Карызны, якія з кожным словам яго—важкім, цьвёрдым, як удар молата—паўставалі ўсё ў страшнейшым выглядзе.

Карызна кіпеў шалёным абурэньнем, перамяшаным з зларадасьцю. «Ага! Ты гэтак? Ты такі тон узяў да мяне? Пастой-жа, браток...» І ён толькі чакаў, пакуль кончыць Рачкоўскі, каб зараз-жа ўстаць і кінуць проста ў твар яму—жорстка, бязьлітасна:

— А ты? А ты хто такі, калі я здраднік? Ці не з табой разам рабілі мы палавіну тых грахоў, за якія ты ганьбіш мяне? Ці ня ты вёў мяне на іх, ці ня ты кіраваў? А цяпер што, га? Можа твая рызыка, твой задор і штурханулі мяне на новыя злачынствы? Ты забыўся, як сам падбуджваў мяне, як заклікаў мяне біць, варушыць усё да грунту, пераварочваць сьвет? Ага, ты забыўся?..

Рачкоўскі нібы адгадаў Карызнаў замер і папярэдзіў яго:

— Мы ўсе памыляемся. У кожнага бываюць памылкі. Я таксама

рабіў іх... Так, рабіў... Партыя ведае пра іх, ад партыі нельга хаваць ніводнага свайго кроку, як бы там ні зрабіў яго: сьвядома ці несьвядома...

Ён пераве́ў погляд на сяброў райкому, нібы бяручы іх у сьведкі правільнасьці сваіх слоў, і гаварыў далей яшчэ з большай сілай і нават урачыстасьцю:

— Партыя ведае пра мае грахі... Але партыя ведае й тое, што я гэтыя свае грахі—во...

Ён зрабіў рэзкі размашысты гэст, які выразьней ад слоў паказваў, як ён сьцёр з твару зямлі нават апошні сьлед сваіх грахоў.

— Адным ударам... Помніш, я казаў табе, га? Адным ударам! Во!..

І ўдар, які ён зрабіў кулаком аб стол, па-праўдзе быў настолькі рашучы і моцны, што ўсё на стале задрыжэла й заенчыла ў раптоўным спалоху.

Карызна далей ня слухаў. Нечаканае прызнаньне Рачкоўскага ашаламіла яго, выбіла з рук у яго апошні козыр і пагасіла ўсё ягонае абурэньне. Ён адно падумаў, як калісьці пад час прыезду свайго да Рачкоўскага:

— Што гэта: хітры манэўр ці простая праўдзівая дарога наперад?

Адылі адказаў на гэтае сваё запытаньне ён ня шукаў—яго агарнула бяздонна-глыбокая апатыя. Ён не сачыў нават больш за ходам паседжаньня—сядзеў моўчкі ў сваім кутку, акунуўшыся ў збавіцельную бяздумнасьць. І калі яму раптам прапанавалі слова, ён устаў і беспарадна пазіраў навокал, ня ведаючы, пра што гаварыць. І сказаў зусім выпадковае, чаго ня меў на мэце казаць, што неяк само па сабе ўсплыло на думку:

— Я стараўся рабіць так, каб было добра...

І тут-жа злавіў сам сябе на падступнай двузначнасьці свайго сказу:

«Каму добра—партыі ці сабе?»

Яго словы зрабілі на прысутных дрэннае ўражаньне, бо ўсе чакалі ад яго шчырага прызнаньня памылак, і ўсе зразумелі, што ён ад гэтага прызнаньня пастараўся ўнікнуць. Ён адчуў гэта і хваравіта ўсьміхнуўся з свае незадачы.

«Сьмешна-б было адмаўляць віну... бязглузднa... Трэба было сказаць... Трэба сказаць...»

Але гаварыць было позна.

Сэкратар райкому тав. Гайдук—мізэрны, хударлявы чалавек з смарчакаватым тварам, з даўгім, ды ня надта паважным носам—у кароткіх і, здаецца, зусім малазначных словах падагуліў сэнс усяе справы, уніфаваўшы яе—дробную, выпадковую—у шырокі размах усяго ўсеабдымнага руху эпохі. І ўсім ясна было, што гэта агідная сівецкая пацяробаўшчына не ў адным Сіўцы завялася, што гэта—звычайная шума на магутных бурна-пяністых хвалях рэвалюцыі.

І ўсім ясна было, што ні Карызну ні Пацяробу няма больш месца ў бальшавіцкай партыі.

Далей былі толькі неабходныя фармальнасьці.

Паклаўшы на стол партбілет, Сымон Карызна пасьпешна, каб уцікнуць нязноснай яму ў гэты момант кампаніі Пацяроба і іншых сваіх таварышоў, вышаў з райкому. Адылі зьбегшы з высокіх ганкаў райкомаўскага дому, ён суняўся і з хвіліну стаяў на адным месцы— не таму, што ня ведаў, куды ісьці, а таму, што ня чуў ніякай патрэбы ў тым, каб ісьці куды-небудзь, каб рухацца, каб што-небудзь наогул распачынаць у гэтым новым трагічна пустым і нявыразным сваім жыцьці.

На двары патыхала ўжо блізкай вясной, і вільготны ветрык, мякка выпырхнуўшы з цемры, шаптаў на вуха даўныя наіўна-салодкія казкі, сабраныя недзе па маладзенькіх, палахліва прытоеных сярод сьнягоў, проталінках.

І ў маўклівую пустату Карызнавага нутра прынёс раптам гарэзьлівы вясновы ветрык шчымлівае і простае, як даўныя салодкія казкі, пачуцьцё.

Карызну стала сумна. Проста—сумна, маркотна, як чалавеку, які разлучыўся з блізкімі людзьмі, як дзіцяці, што асталося бяз маткі. Гэта было першае адчуваньне Карызны ў новым жыцьці і яно вярнула яго думкі на хвіліну назад, у райком, адкуль павеяла на яго цудоўнай цяплыней неўзваротнае дружнасьці і сяброўства. Але яно й адштурхнула яго ад ганкаў райкомаўскага дому, бо ён ужо ведаў, што яму трэба ісьці зараз у мізэрную чорную каморку заезнага дому і перажываць там першыя глухія гадзіны свае самоты.

Прайшоўшы крокаў з дзесяць па вуліцы, Карызна раптам заўважыў, што ён не адзін, што побач з ім пасуваецца ў цемры нейкі няясны цень. Ён прыглядзеўся і, пазнаўшы ў няясным цені жанчыну, адразу зразумеў, што гэта Марына Паўлаўна.

Ясна: яна падпільнавала яго фатальна-трагічную хвіліну і прынесла яму сваю спагаду.

Карызна спагады гэтае ня прыняў. Яму мілей было цяпер плаваць у мякка-разьлётных хвалях свайго новага смутку, чымся варочацца да згубленых сьлядоў былога спакою.

Яна была яму яшчэ лішняя.

І Марына Паўлаўна зразумела гэта. Таму, калі, падышоўшы да заезнага двара, ён моўчкі падаўся ў яго цёмныя, як бяздонны лёх, вароты, яна не затрымала, не паклікала яго, а таксама моўчкі, як нямотны цень, зьнікла ў волкай цемры прадвясновай начы.

Карызна ўвайшоў у сваю каморку, запаліў сьвятло і доўга з тупым зьдзіўленьнем азіраў чорныя пакалупаныя сьцены, убогі, рахітычнага выгляду стол, такое-ж крэсла, тапчан, нібы перад ім была ня звычайная брудная абстаноўка выпадковага начлегу, а сталыя спадарожнікі яго новага этапу ў жыцьці, да якіх трэба добра прыглядзецца, каб не трапіць зноў у якую неспадзявануюператруску. Потым ён падсеў да стала і, падпёршы рукамі галаву, доўга сядзеў у мёртвай нярухомасьці, слухаючы шчымлівы боль свайго сэрца.

Яго абудзіў раптоўны стукат у дзьверы. Ня ўправіўся ён яшчэ й вымавіць слова, як дзьверы расчыніліся і ў іх зьявіўся брыгадзір Зелянюк.

Карызна ўзьняў галаву і шырокімі напоўнятрытомнымі вачмі глядзеў на неспадзяванага госьця.

Зелянюк быў зьлёгку замяшаўшыся, але сваё замяшаньне досыць удала хаваў пад маскай вясёлага бадзёрага ажыўленьня. Увайшоўшы ў каморку, ён адразу сеў на тапчан і загаварыў—зноў-жа, каб схаваць замяшаньне—наўмысна гучным фамільярным тонам:

— Я прышоў, Карызна, са справай да цябе...

— Са справай?

І Карызна зірнуў на яго такім поглядам, які ясна, бяз слоў, гаварыў:

— Чаго табе яшчэ трэба? Калі ты адчэпішся ад мяне?

Зелянюк гаварыў далей і з кожным словам тон яго з грубавата-фамільярнага ўсё больш і больш пераходзіў на сардэчна-інтымны і троху сарамлівы.

— Я еду заўтра ў горад... Зноў на завод, на працу... Я хацеў прапанаваць табе...

Тут ён на момант затрымаўся, перамагаючы шчырым вясёлым бляскам сваіх вачэй варожа-недаверлівую хмурасьць Карызнавага погляду.

— Карызна! Давай будзем так... бяз злосьці... Пагаворым хоць раз адкрыта... па-таварыску...

Карызна ледзьве прыметна ўсьміхнуўся—цьмянай далёкай усьмешкай, якая, мабыць, больш стасавалася да яго ўласных глыбока захаваных думак, чымся да апошніх слоў Зелянюка. Але Зелянюк зразумеў гэтую мімалётную ўсьмешку, як першы крок па шляху прымірэньня, і, парыўчата прыхіліўшыся да Карызны, загаварыў з прыяцельскай зычлівасьцю:

— Ведаеш што, Карызна? Я раю табе пераехаць у горад. Разумееш? Да нас, на завод... Табе там працы знойдзецца колькі хочаш...

Карызна доўга глядзеў на яго ўпартым натужным поглядам, нібы толькі цяпер заўважыў яго прысутнасьць і як мага стараўся вынырнуць з свайго бяздоннага забыцьця, каб дабраць сэнсу таго, аб чым гаворыць яму назольлівы неадчэпны брыгадзір.

— Да вас?.. На завод?..

— Ну, вядома...

— Чаго?

— Як чаго? Працаваць... На новым месцы, з новымі людзьмі... з рабочымі, з пралетарыятам...

Карызнава хмурасьць раптам зьмянілася на балючую турботу—ён нібы спалохаўся свайго новага звароту да рэчаіснасьці, які парадзіў новую раптоўную патрэбу думаць, меркаваць, снаваць жыцьцёвыя пляны замест таго, каб бязвольна плысьці па хвалях даўнага шчымлівага смутку.

Зелянюк не адступаў ад яго.

— Ну, што, згода? Едзем?.. Будзем разам працаваць на заводзе... Тут не спрацаваліся, дык можа там лепш патрапім. Будзем разам здабываць сабе тое, што разам страцілі...

І, сказаўшы гэтыя астатнія словы, Зелянюк чамусьці засаромеўся. Карызна паглядзеў на яго з глыбокім неўразуменьнем.

— Я ня ведаю, аб чым ты гаворыш... Што мы страцілі разам?

Зелянюк мякка, зусім па-дзяцінаму ўсьміхнуўся і адказаў:

— Ну, ведаеш... Ты—партбілет, а я...

І, зьлёгку адвярнуўшыся ў бок, каб схаваць сваё канчатковае замяшаньне, дакончыў:

— А я—Стасю...

Сымон Карызна здрыгануўся, пачуўшы з Зелянковых вуснаў даччыно імя, і цень мятушлівай турботы, што ляжаў на ягоным твары, згусьціўся да выразу вострага нутранога болю. Ён устаў ад стала і, захоплены новымі непакойнымі думкамі, доўга хадзіў па пакоі, нібы забыўшыся зусім на прысутнасьць тут Зелянюка. Калі-ж той, знуджаны доўгім маўчаньнем, таксама ўзьняўся і, ладзячыся выходзіць, яшчэ ў астатні раз напамянуў пра сваю прапанову, Сымон Карызна нэрвова страпянуўся і, затрымаўшы за руку Зелянюка, з дзелавітай пасьпешнасьцю адказаў:

— Так-так... я паеду... Я паеду, Зелянюк, абавязкова паеду...

І яны разьвіталіся з цёплай таварыскай прастатой і шчырасьцю.

## 14

У расчыненыя напята дзьверы і вокны нардому шырокай патокай ульваўся вясновы вецер, насычаны сьвежай цяплынёй і тустым водарам толькі што абуджанай зямлі.

Прайшоўшыся па галовах шчытна зьбітага ў памяшканьні натоўпу і завіўшы сьмешныя цыбатыя віхры ў калматых мужычых чупрынах, вецер мякка ўзьнімаўся ўгару, шастаў там па доўгіх вязёнках рознакалёрных сьцяжкоў і, залазячы пад скуру самадзелкавых лёзунгаў, надзімаў іх тугімі гладкімі пухірамі.

Лёзунгі ўсе расьпісаны былі пад непасрэдным кіраўніцтвам настаўніцы пачатковае школы Веры Засуліч і выразна адлюстроўвалі ў сябе індывідуальныя рысы гэтае энэргійнае, спраўнае і чулае да грамадзкага жыцьця працаўніцы. Яны былі ўсе чысьценькія, роўненькія, прыгожанькія і дакладна адпавядалі палітычным задачам сёньняшняга дня:

«Хай жыве сацыялістычная перабудова вёскі!»

«Хай жыве суцэльная калектывізацыя!»

«На базе суцэльнае калектывізацыі ліквідуем кулацтва як клясу!»

«Заўтра першы дзень бальшавіцкае калектыўнае сяўбы!»

«Хай жыве сацыялістычная арганізацыя працы!»

І толькі ў адным невялікім лёзунгу рамантычная натура Веры Засуліч неспадзявана вылілася ў цалком бязьвінныя, але троху залішне лірычныя радкі:

«З кволай руні закрасуюць
Залатыя каласы...»

Адылі гэты лёзунг павешаны быў у самым цёмным куточку, і яго мала хто прымячаў. Ды й наогул на лёзунгі, на сьцяжкі, на зялёныя хвойныя лапкі, на ўсю гэтую пышную аздобу нардомаўскае залі мала зважалі сівецкія грамадзяне, бо іхная ўвага цалком была скупчана навакол аднаго пункту, які нясьцерпна дражніў усіх сваёю загадкавою таямнічасьцю.

Наперадзе, збоку ад сьцяны, цэлы куток залі быў завешаны стракатай заслонай, зьлепленай з старых-выцьвілых і парудзелых сялянскіх дзяжурак. Уваход за гэту заслону быў строга ўсім заказаны і нават падатлівыя падшпаркі, якія памкнуліся былі пераступіць суровы заказ і хоць адным вокам зазірнуць у чароўны куточак, былі злоўлены на гарачым учынку і ўрачыста выдалены з памяшканьня.

З самага пачатку вечара цераз залю пераірусіўся быў мізэрны, ушчэнт перапалоханы агульнай увагай Галілей і зьнік за таемнай заслонай. Апрача яго туды раз-па-разу забягалі радасна заклапочаныя камсамольцы на чале з сакратаром ячэйкі Віктарам, які аднак упраўляўся сумленна дзяліць сваю ўвагу паміж гэтым кутком і адным, добра прыметным яму месцам у натоўпе, адкуль шчасьлівым бляскам зьзялі яму ясныя Аўгінчыны вочы.

Нарэшце агульны сход Сівецкага калгасу абвясьцілі адкрытым, абралі адпаведную моманту шырокую многалюдную прэзыдыю, куды ўвялі безьліч усялякіх прадстаўнікоў, і першае слова для дакладу атрымаў старшыня калгасу таварыш Лакота.

Якуб Лакота паволі ўстаў з свайго месца ў прэзыдыуме, перакінуўся кароткім, але надзвычай выразьлівым і цёплым позіркам з Тацянай Шыбянковай і, усьміхнуўшыся сваёй любай сьветлай усьмешкай, вышаў на авансцэну. Гаварыў ён, як зазвычай, ціха, марудна, з патугаю перамагаючы сваю фізычную слабасьць і сваё нязьмернае захапленьне.

— Таварышы! Заўтра ўраньні мы кінем першыя зярняткі ў нашу новую калгасную глебу, у наша новае агульнае поле. Гэты сход мы сабралі, таварышы, на тое, каб падрыхтаваць свае сілы і сродкі, свае ўдачы і няўдачы, каб азірнуцца на момант на той шлях, якім мы дайшлі да свае першае бальшавіцкае калектыўнае сяўбы. Наш шлях быў невялічкі, на ім было многа каўдобін, у якіх мы здарава грузьлі, але пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі мы перамаглі ўсе перашкоды і вышлі на роўную цьвёрдую дарогу. Таварышы! Мы яшчэ ня ўсе добра ўяўляем, куды вядзе гэта дарога, сярод нас ёсьць яшчэ ці мала такіх, што ня верыць, што сумняваюцца. Мы пакажам усім, мы давядзем сваёй дружнай калектыўнай працай, што наша дарога— пэўная, што яна вядзе да лепшага жыцьця. Таварышы! Вось зараз

вы ўбачыце... мы пакажам вам невялічкую карцінку... Гэта ня выдумства якое, не фантазыя—усё гэта зроблена на падставе дакладных плянаў, усё гэта вымеркавана да маленькае дробачкі... Гэтага мы можам дасягнуць за якіх пяць—дзесяць год. І дасягнем, мусім дасягнуць, абы ахвота была, энэргія ды дружнасьць!..

Якуб Лакота зрабіў няпрыметны знак рукой, і заслона, што адгараджавала пярэдні куток залі, ураз расхінулася, адкрыўшы схаваную за ёю таямніцу.

У залі ўзьняўся страшэнны вэрхал. Усе паўставалі з месц, усе лезьлі наперад—кожны хацеў як найхутчэй убачыць дзівосную штуку. Аднак у першы момант толькі тыя, што былі на самым перадзе, здолелі як сьлед разглядзець адкрытую іхным вачом карціну.

Гэта быў Сівец, ці, праўдзівей, тое месца, дзе стаяў цяпер гэты шэры, нязграбны, загрузлы ў непралазным брудзе Сівец. Тыя самыя ўзгоркі, тая самая паміж іх вілаватая вёрткая рэчка, той самы шырокі шлях у гонкія засівецкія далі.

Але-ж чаго толькі не нагарадзіла тут гарэзная фантазыя непакойнага чалавека!

Роўныя, чыстыя, асьветленыя электрычнасьцю вуліцы, новыя вялікія дамы дзіўнай, у сьвеце нябачанай архітэктуры, старанна дапасаванай да найбольшае выгоды жыльля.

Сярод мястэчка, дзе цяпер самае балота,—гладкі раскошны пляц, навокал якога разьмешчаны розныя грамадзкія і культурныя ўстановы.

Зводдаль ад жыльлёвых будынкаў—цэлая сыстэма будынкаў гаспадарчых: сьвірны, адрыны, хлявы—усё з электрычнасьцю, з ацяпленьнем, з авадненьнем, з рознымі атрыбутамі найноўшае будаўнічае тэхнікі.

А навокал—шырокімі палатнінамі паслалася калгаснае поле, парэзанае на роўныя квадраты сеткай палявых дарог, упарадкаванае паводле правіл найдасканальшага севазвароту.

Гэта была па-праўдзе цудоўная работа, галоўна каштоўная тым, што ўся яна была зроблена на аснове рэальных разрахункаў, на аснове дакладных плянаў, на якія клаў астатнія рэшткі сваіх надламаных сіл другі непакойны чалавек—чырвоны інвалід Якуб Лакота.

Але і тут не абышоўся стары Галілей бяз вечнага свайго дзівацтва: сярод усяе гэтае раскошы, як барадаўка на чыстым здаровым целе, тырчэла ў поўнай сваёй красе мізэрная, убогая Галілеява хацёнка, і над ёю, як дзікі недарэчны ўбор на галаве ў вар'ята, узнасіліся непамерна-вялікія, грамоздныя крылы ветрака.

Што хацеў паказаць стары мудрагель гэтым сваім дзівачлівым жартам?..

З вялікімі патугамі ўдалося нарэшце навесьці ў залі сякі-такі парадак, і Якуб Лакота зноў пачаў гаварыць:

— Таварышы! Перш, чым рабіць далей свой даклад, я павінен адзначыць, што гэтая надзвычайна каштоўная і навучальная выстаўка, якую вы ўсе будзеце мець магчымасьць тут аглядаць, збудавана

выключна рукамі вядомага вам усім селяніна-бедняка Ахрэма Данілавіча Пунціка, або, як мы прывыклі зваць яго, Галілея. Ад імя управы калгасу я выказваю яму шчырую падзяку і прапаную абраць яго ў прэзыдыю нашага сходу...

Заля выбухнула дружнымі воплескамі і ўсе пачалі шукаць вачмі хударлявае фігуры старога вынаходцы.

Але Галілея ў залі ўжо ня было: ён уцёк, скарыстаўшы агульнае замяшаньне.

На цёмнай сівецкай вуліцы Галілея дагнаў яго прыяцель аптэкар Плакс—ён-жа кіраўнік драмгуртка і местачковы філёзаф.

— Гэта—тэхніка, Галілей? Га?..

Галілей, не сунімаючы свае дробнае лёгкае хады, адказаў:

— Кхе-кхе... Тэхніка, доктар... ага... тэхніка...

— А дзе-ж там твой чалавек, Галілей? Я ня бачыў там чалавека... Чаму ты, Галілей, якога новага чалавека сабе не прымудраваў, га?..

Гэта падступнае запытаньне сівецкага мізантропа, відаць, дадзела старому, і ён з навучальнай строгасьцю прабурчэў:

— Няможна, доктар, так казаць пра людзей... ага... няможна... Новых людзей ня трэба... Гэтыя людзі будуць новыя... Трэба, доктар, чалавека любіць... ага... трэба любіць...

Аптэкар Плакс хацеў быў яшчэ нешта сказаць, адылі абмежаваўся адным нявыразным гукам, у якім ня было нават досыць прыметнае дозы звычайнага плаксаўскага скэптыцызму.

І тут прыяцелі разлучыліся: Галілей патрусіўся некуды па цёмнай сівецкай вуліцы, а кіраўнік драмгуртка і местачковы філёзаф вярнуўся ў нардом паказваць калектывізаванаму сівецкаму грамадзянству сваю чарговую пастаноўку.

*Канец.*

А. Гурло

*
* *

Жыву і хочацца больш жыць,
Адчуўшы радасьць, асалоду.
Жыцьцё! Табе няма мяжы,
Няма ніякіх перашкодаў.

Твой творчы імпэт, твой узмах,
Якія ты ўзьнімаеш сёньня,
Ніхто ня можа сутрымаць
Ніякай сілай, ні пагоняй.

Ніхто ня здолен падлічыць
І посьпехаў тваіх і плёнаў.
Нядарам сэрца так гучыць
Гучаньнем новым, новым звонам.

Нядарам вочы ў даль—прасьцяг
Глядзяць узірыста, нястомна:
Чакаю шмат я ад жыцьця
З парывам творчых сіл нязломных.

Аддам жыцьцю, што я магу—
Яму я высуну сустрэчны.
Я з ім пайду нага ў нагу,
Яго і свой шляхі ўквечу.

Яго я ўславіў барацьбой,
Яго я ўслаўлю перамогай.
Жыцьцё! Дык пойдзем-жа з табой
Камуны яснаю дарогай.

9-XII—32 г.

Алесь Жаўрук

# ЧАРНАМОРСКІ ЗАПЕЎ

Зноўку ўзмах з Чарнамор'я ў твары нам,
І наш курс на Батумскі рэйд,
Дзе застыглі грамады цяжарныя
Параходаў з далёкіх марэй.

Ў спрэчках з ветрам ды штормамі бурнымі
Паўз Стамбул,
праз туманны Басфор
Прывялі іх суровыя штурманы
У савецкі прыветлівы порт.

Зноўку кранам грымець па-над портам,
Хісткім трапам рыпець на ляту,
Покуль грузіцца нафта дабротная,
Чарнасьліў і батумскі тутун...

І наўсьцяж адвячоркамі зыркімі
Нам, салёным ад штормаў і вахт,
Палка братацца з іх бесказыркамі
Ды агнёвыя песьні сьпяваць.

няхай хцівы шкіпер з „Гішпаніі“
Усё да чыста адзначыць ў блёк-нот,
Грызучы сваю люльку,
кампаніі
Ён настрочыць зьмяіны данос...

Будуць брызы нас слухаць пацёмкамі
Ды прыбоі з адценьнем яшмы,
Як паўстаў браненосец Пацёмкін,
Як загінуў адважны Шмідт.

Каб далёка з бунтарскімі остамі
Ў край, дзе глушыць прасторы імгла,
Наша праўда жывая і простая,
Наша песьня паўстаньнем дайшла.

Каб, ўздымаючы сьцягі савецкія,
Трумы роспачы ломячы ўшчэнт,
Картагэна,
Марсэль
і Вэнэцыя

Прасьпявалі іх помстай начэй.

Туапсэ-Батум, 32 г.

**Крапіва**

# МЯДЗЬВЕДЗІЧЫ

### Кніга першая

(*Канец*)

## НА ПРЫЗЬБЕ

Выгодная прызба ў Сьцяпана Варанца. Хоць патрацію чуць ня цэлы дзень (праўда, у той дзень іншай работы ў Сьцяпана траха што й ня было), але прызба вышла—над усю вёску. Ня тое, што ў другіх: каб сесьці, дык трэба ў тры пагібелі сагнуцца, а калені аж у бараду ўпіраюцца. Аполкі паложаны ўгору пілованым бокам ды яшчэ пагабляваны, каб стрэмкі часамі няпрыемнасьці не нарабілі праз шарачковыя порткі.

Любіць Сьцяпан пасядзець на прызьбе, пасмактаць люльку ды паплюваць у пясок перад прызбай. А тут само плыве на памяць, як ён дзе быў некалі, што рабіў, што з кім цікавае здаралася. Калі здарэньне было—так сабе, ня вельмі што, дык і падхлусіць можна што-небудзь, абы яно яскравей ды цікавей выходзіла. І не стараецца вельмі Сьцяпан, ня моршчыць лоб, каб выдумаць што небудзь,—само вярзецца. Толькі, каб было каму слухаць ды аддзякаваць Сьцяпану вясёлым сьмехам захапленьня.

Толькі выняў Сьцяпан капшук, каб закурыць, пачаў прачышчаць цыбук прывязаным да капшука драцяным протарам, як, трохі засопшыся, спыніўся каля яго Баранок.

— А няхай яго паралюш! Колькі таго, здаецца, плуга, а ўсё плячо адмуляў,—паскардзіўся ён, ставячы плуг каля прызбы.

— У каваля быў?

— Але, нарог падгостраваў, пута падкараціў трохі.

Сьцяпан натоптвае люльку і моўчкі перадае капшук Баранку, пакуль той вымае з кішэні пакамечаную газэціну.

Неўзабаве падышоў Пошта. Натапырыўшы вусы, уважліва агледзеў плуг.

— Ні к чорту ня варты, гэтыя фабрычныя плугі. Вось некалі Міхась Каваль, бывала, калі зробіць плуг!..

— Ты-ж ці памятаеш добра Міхася Каваля? — недаверліва пытаецца Сьцяпан.

Убачыўшы трох мужчын разам ды яшчэ плуг каля іх, рэдка хто уцягваўся неўзаметку ў гутарку і садзіўся, нявыразна адчуваючы,
уцягваўся неўзаметку ўгутарку і садзіўся, нявыразна адчуваючы,
што яму яшчэ муляе некая невялікая работа, якую трэба зрабіць да вечара.

— ... А то было раз, як я за краўца яшчэ вучыўся, чалядніком быў у гэтага Банадыся дымаўскага. А ён жа, дарма, што касавокі— другі і відушчы таго не дакажа...

Сьцяпан, пасмоктваючы люльку, лагодна глядзіць на паркан цераз вуліцу і, здаецца, бачыць праз яго таго самага дымаўскага Банадыся.

— ... Шылі мы раз вунь аж у Міждуб'і. А было гэта неяк у мясаед па калядах. Гаспадар парсюка закалоў. Сала, пане ты мой, цэлы кубел наскладаў, мяса! А гаспадыня ўсё нас бульбай з кіслым малаком душыць. Пачакай-жа, трасца тваёй матары. Паехаў гаспадар аднаго разу ў лес, а гаспадыня пачала кілбасы рабіць. Мяса пакрышанае, прыпраўленае, пане ты мой, кропам, часнаком ды ўсякай усячынаю, падагрэлася ў печы. Дух ад яго на ўсю хату, аж мы толькі сьліну глытаем. Робіць яна кілбасы, а мой Банадысь адным вокам на аўчыны глядзіць (кажух шыў), а другое на кілбасы ўтаропілася. Нічога, пане ты мой, ня зробіш—касавокі. Бачыць—поўны начоўкі гэтых кілбас накруціла, за апошнюю ўзялася, а яшчэ ня лічаны. Вось ён і пытаецца: «Ці няма ў вашым сяле краўца якога, хоць лядашчага?» «Ды ёсьць, кажа, толькі мала ён шые, самавук». «Можа-б ты, гаспадынька, зьбегала да яго, ці няма ў яго торгала, я сваё дома забыўся». Глядзіць баба—ніколі ня чула пра такі струмант. «Хаця-ж бы, кажа, не забыцца, як яно завецца». А мяне сьмех душыць, аж я стрымацца не магу...

Сонца аглядае развітальным позіркам гострыя сьпіны стрэх па другім баку вуліцы, залоціць да бляску і так жоўтую дробную лістоту на бярэзіне, апошні раз прыпыняецца на момант на кончыку калодзежнага жураўля. У перадвячорным спакоі рэзка вылучаецца маркотнае курлыканьне жораваў.

— А ляцяць як нізка!

— Зіма блізка,—напамінае Сьцяпан вядомую ўсім прымету.

— А маўчы ты з зімою!—пужаецца Баранок.—Яшчэ-ж пакровы далёка.

— Чаго вам баяцца зімы? Сена панакошвалі...

Усе хвіліну маўчаць. Ведаюць, што стары Верамейчык гэта на Забродзьдзе намякае. З вялікай зайздрасьці ён яшчэ ўсё пра гэта забыцца ня можа.

— Вось і тое самае. А тагды, дык страху толькі было,— абзываецца нарэшце Пошта.

— Ты-ж сам і калаціўся больш за ўсіх,—іранічна цэдзіць Грамабой, які толькі што падышоў і ўцяміў нарэшце пра што йдзе гутарка.

— Гэта табе толькі тое самае, а таго-ж загадчыка земаддзелу, што летась прыяжджаў да нас, няма ўжо, другі на яго месцы,— адказвае Пошту Алесь Галаскок.

— Добра кажа, тое, ды ня тое,—падтрымаў Алеся Баранок.— А ўчора дзе гэта ты быў?—нечакана запытаўся ён у Пошты.

— Калі?

— Ды ўвечар.

— На сходзе беднаты быў.

— О то-тож,—з націскам сказаў Баранок.—А раней ты часта хадзіў на такія сходы?

— Ды раней-жа і сходаў такіх ня было.

— А я-ж пра што й кажу?

— Мы на сходзе пра сена нічога й не ўспаміналі,—апраўдваўся Тодар.

— Дарма, што не ўспаміналі. А на Прыдаткі (памятаеш?) прыяжджаў, казаў, што праз кулакоў гэта ўсё вышла. Вось яно, значыцца, і навучаюць вас, каб кулакоў ня слухалі. Ты думаеш, ён тагды Сьцёпку не нашпігаваў? Альбо сельсавету дыхту ня даў? Паглядзі, старшыня пасьля таго: сюд-туд у Мядзьведзічах.

Калі падышоў Юзік, на прызьбе месца ўжо ня было. Ён сеў на камені пры вугле і моўчкі слухаў, як Баранок мэтадычна ўтлумачвае Тодару сваю думку. Яму нават трохі неспадзявана было, што Баранок, такі просты і, здавалася, няглыбокі чалавек, так разумее сувязь таго, што робіцца ў вёсцы, хоць па яго рэпліках нельга было зразумець, добра гэта ці кепска, што навучаюць беднату, каб кулакоў ня слухалі. Разам з гэтым Юзік адчуваў некую крыўду. Ён толькі цяпер даведаўся, што ўчора быў сход беднаты. Значыць, яго ня лічаць сваім. Нават не сказаў ніхто, што сход будзе; мусіць, баяліся, каб сам ня прышоў. Успомніў учарашняе разьвітаньне з Шурай, яна-ж ведала пра сход, чаму не сказала? А чаму, калі пералічвала тых, хто павінен штурхаць вёску, і яго ўлічыла? Можа кпіла ў вочы, а ён і не дагадаўся. Юзіку, хоць па часе, сорам стала і закрадвалася злосьць на Шуру, але ўспомніў просты і адкрыты погляд, шчырасьць голасу— не павінна. Падумаўшы, ня было чаго й крыўдзіцца: сам ён ня лічыў свае гаспадаркі бядняцкаю, і таму зусім нармальна, калі яго не паклікалі на сход беднаты. Але ён упяршыню выразна адчуў, што паміж ім, з аднаго боку, Сьцёпкам, Шурай, яе бацькам, Пятрусём Кухарам, Якубам і яшчэ шмат кім, з другога, ёсьць некая перагародка, якая, незалежна, ад яго самога, аддзяляе яго ад іх, нават калі ён хоча рабіць тую-ж самую справу, што й яны. Разам з гэтым ён ня мог сябе далучыць і да Баранка з Сьцяпанам Варанцом, і ўжо ні ў якім разе да Грамабоя. Юзіку хацелася падумаць, разабрацца, якое-ж яго сапраўднае месца паміж усіх гэтых людзей, а разабрацца было ня так лёгка ды перашкаджала цяпер гаворка на прызьбе, да якой ён адным вухам прыслухоўваўся.

— Што-ж вы нас, не беднату, цяпер жывымі есьці будзеце, ці саліць думаеце?—зьедліва запытаўся ў Тодара Грамабой.

«Сволач, куды гне!»—падумаў Юзік. Яго кальнуў гэты злосны выпад Грамабоя. Відаць было, што гэтым Грамабой хоча перацягнуць

на свой бок «небеднату» і вывесьці ў рожкі з Тодарам і з усяею бедняцкаю часткаю вёскі.

— Ды пра цябе то там гаварылі,—засьмяяўся Тодар.

— Я-ж ведаю, што вы на мяне не забудзецеся. Смачны жабе гарэх...

— Дык расказаў-бы ты нам, Тодар, што там было на сходзе. Ці табе, можа, прыказалі, каб ты нікому не казаў—пад'ехаў Галаскок.

— Што-ж там было... Старшыня сельсавету гаварыў, што шмат зямлі ды жывёлы ад падатку паўтойвалі, каб бедната памагла сельсавету выкрыць, у каго ўтоена.

— А ты-ж усё справядліва папісаў?—спытаўся Грамабой.

— А што-ж у мяне пісаць? Конь, карова ды авечка адна.

— А мо-ж дзьве, не адна?

— Другая-ж маладая яшчэ.

— Табе равесьніца. Сам утойвае, а яшчэ некага зьбіраецца выкрываць.

— Але цябе нешта клопат узяў? Каб гэта паглядзець, колькі ў самога запісана.

— Глядзі, хоць табе павылазяць няхай. Так я цябе й спужаўся!

— Дык вы толькі пра гэта й гаварылі ўвесь вечар?—допытваўся Алесь.

— Ну, яшчэ Сьцёпка пра перавыбары гаварыў.

— Каго-ж вы там выбралі?

— Нікога мы ня выбралі. Выбіраць-жа ўсе будзем тыдні праз два.

— Пра некага-ж патом гаварылі?

— Пра Ганскага гаварылі, што парадку не глядзіць. Куды яго хто паверне, туды ён і вернецца—і нашым і вашым.

— Чаго, ён і ня кепскі чалавек,—сказаў Сьцяпан.

— Няхай яго высмаліць з яго дабратою,—засупярэчыў Галаскок.—Ануча, а не чалавек. Хто што хоча, тое й робіць. Ці гэта-ж парадак у вёсцы, каб ад гэтай пары коні па жыце хадзілі? Зьмясілі ўсё жыта, карэньнямі наверх папераварочвалі.

Тодар, сьмяючыся, глянуў на Юзіка і падмаргнуў у бок Грамабоя, які глядзеў некуды ў адну кропку.

— А нечую палоску ў тым канцы дык сьвіньні зрылі ўшчэнт, як паворана ўсёроўна, мусіць на бульбянішчы пасеяна.

— Але, выган зрабілі на пасеве,—згадзіўся Баранок.

Хвіліну маўчалі. Ні ў кога ня было ахвоты супярэчыць і хваліць вясковыя парадкі.

— А вось за каго-б ты сам галасаваў, каб прышлося?—ня сьціхаў Алесь.

— Там гаварылі, што ня шкодзіла-б Рыгора выбраць.

— Ну і выбралі-ж!—зьняважліва кінуў Грамабой.

— А чым кепскі?—зьдзівіўся Юзік.

— Сугней, падла, ідзе, дык і на чалавека не глядзіць. Як воўк той усёроўна,—сказаў стары Верамейчык.

— Нябось гляне, куды трэба будзе,—адказаў Юзік бацьку.

— Гаспадара трэба выбіраць,—сказаў Грамабой.—Навыбіраюць вось такіх, а тагды адказвай за іх. Ці мала-ж было так, што ўкрадзе, альбо растрату зробіць, а прыдзецца, дык і спагнаць няма з чаго: тагды на ўсіх раскладваюць, у падатак улічваюць.

— Шмат-жа ты плаціў за Рыгораву растрату?—пакрыўдзіўся Сьцяпан.

— А ты думаеш, што твой сваяк, дык ён і сьвяты? Цяперашнім сьветам самому сабе ня вер, а не то што...

Усім было трохі няёмка ад гэтай спрэчкі. Прабавалі загаварыць пра другое. Тым больш, што з цыгаркай на губе падыходзіў сам Рыгор.

— Дык можа гэта нам і на перавыбары йсьці ня трэба будзе? Вы такія моцныя, што й бяз нас управіцеся,—знарок перад Рыгорам закінуў Грамабой, спадзяючыся зноў-жа такі на падтрыманьне «небеднаты».

— Клопат мне вялікі, пойдзеш ты на перавыбары, ці не. Хто захоча, дык пойдзе, а ты ня пойдзеш, то як небудзь абыйдзецца й без цябе,—адказаў Пошта.

Рыгору ледзь кранула губы ўсьмешка. Ён моўчкі прыпёрся да шула, пакуль што, ня ўмешваючыся ў гаворку.

Падбегла Грамабоева дзяўчына.

— Тата! Мама казала, каб вы дадому ішлі. Скоранька! І Мікола вас чакае.

Грамабой моўчкі ўстаў і пашоў за дзяўчынаю. Мужчыны правялі яго вачыма да суседняй сядзібы.

Пошта засьмяяўся і крутнуў галавою:

— Вот яму нясмачна. Вельмі-ж Рыгора ён ня любіць.

— А я-ж яго страшэнна люблю,—усьміхнуўся Рыгор.

Грукаючы босымі пятамі аб сухую зямлю, прайшоў малады Наздрэйка.

— Пагуляй з намі, Мікола,—гукнуў яму Алесь.

— Няма часу,—адказаў той, не аглядаючыся.

— Вось сабе як камлюк, хлопец,—залюбаваўся Баранок.

— Соміку ўсё грозіць,—сказаў Пошта.—Учора казаў, што толькі з работаю ўходзіцца, тагды паедзе туды, дзе той стражнікам быў, і пра ўсё разьведае.

— То цяпер-жа вядома ўсім, што ня ён коні краў.

— Мала што! Крыўда чалавеку. Гэтулькі сораму пацярпеў.

— Што-ж ён ведае, куды ехаць?

— Ведае, як тое мястэчка завецца.

Гаворку мужчын раптам перарвала бразганьне шамкоў і лёскат жалезных восяй з Грамабоевага .надворку. Падбадзёраны шамкамі, што перасыпаліся дробным звонам каля самых вушэй, буланы фарсіста выгінаў галаву і нэрвова жаваў цуглі, прысячы повада. Мікола, у

выглянцаваных ботах, заламаўшы на патыліцу шырокаверхую шапку, трымаў напятымі пахварбаваныя на бурачковае плеценыя лейцы. Падяжджаючы пад мужчын, папусьціў лейцы, цмокнуў і пасакатаў па вуліцы, падымаючы пылок.

— Ці ня ў сваты гэта?—дагадаўся Баранок.

— А ўжо-ж бачыш,—згадзіўся Сьцяпан.—Але чаму ён адзін?

— Андрэй за свата будзе,—тлумачыў Пошта.—Учора сам Грамабой хадзіў прасіць. Абы якога-ж свата ўзяць, дык Жагула яшчэ загаварыцца ды гаварыць не захоча.

— Няўжо такі сядзе Грамабойчык на жагулаўшчыне?—ўслых выказаў стары Верамейчык сваю няўпэўненасьць.

— Ды ўжо-ж мусіць... Так бы не паехаў, не дагаварыўшыся наперад,—зазначыў Баранок.

— Гэта яшчэ як пашанцуе,—альбо сядзе, альбо й не,—сказаў Алесь.—Я нешта чуў, гатовы дабрацца зараз да Жагулы.

— Каб ня села яму скула, пакуль ён там сядзе,—завяршыў гэту гаворку Рыгор.

У канцы вёскі ўзьнялася палавая хмара пылу і шпарка набліжалася. Перад ёю выбягалі на сярэдзіну вуліцы жанчыны, дзеці, радзей мужчыны, шырока расстаўлялі ногі, растапырвалі рукі, кідаліся з аднаго боку вуліцы на другі. Хутка пачулася рознагалоснае бляяньне і з дробным тупатам прамчаўся перад авечай чарады. Малыя ягняты, чорныя і кучаравыя, адбіўшыся ад матак, на момант спыняліся, жаласна бляялі і кідаліся ўперад ці назад у пошукі. Упярэмяшку з авечкамі беглі людзі. Жанчыны хапаліся рукамі за грудзі і зяхалі разяўленым ротам, як рыба на беразе; мужчыны распускалі ногі на ўвесь цыркуль, імчаліся навыперадкі з крутарогімі маркачамі.

— Тата, лавеце барана!

Баранок усхапіўся з прызбы, з нечаканым для яго спрытам схапіў барана за воўну і той з разгону павіс ў паветры на яго пруткіх руках.

Падбегла раструханая, распараная ад бягі Волька, узяла барана за рогі, перакінула, як кавалярыст, адну нагу яму цераз сьпіну і, заціснуўшы між кален, павяла назад у той бок, адкуль ён толькі што бег.

— А няхай яго... Задлякаўся ды прасядзеў цэлы адвячорак,—сказаў Баранок, бяручы плут на плячо.

— Вось каб ускінуў Міколу на воз, дык ён бы й падвёз,—пажартаваў Галаскок.

— Дзе там цяпер плуг яму на ўме! Таму крукам галавы не дастаць,—адказаў за Баранка Сьцяпан.

## ЗАКУРВАЮЧЫ

Гастраклубы, схудзелы за лета конь пяўся, цягнучы воз бульбы па пескавых каляінах. Рудая скалдуненая грыва махалася ў такт яго кроку. З-пад скуры выразна вытыркалі рабрыны, аж іх можна было

пералічыць, і чорная шэрсьць на іх парудзела ад худзізны. Конь раз-по-разу спыняўся, каб перадыхнуць. Агляпуўшыся на гаспадара, ён адстаўляў заднія ногі, робячы выгляд, што спыніўся за сваёю конскаю малою патрэбаю.

— Но, каб цябе... А-ах гультаіна!—замахваўся на яго Ганскі, і конь, вільнуўшы хвастом ад абурэньня, што гаспадар выкрыў яго хітрыкі, зноў напінаўся, каб праз дваццаць-трыццаць крокаў на чарговым прыпынку зрабіць тое-ж самае.

На возе, насыпаным бульбай роўна з біламі, ляжаў яшчэ мяшок з дробнай (сьвіной) бульбай і плуг. Прыпёршыся да мяшка, захутаны ў лахманы, сядзеў хлапец. Язэпіха ішла збоку, нясучы на руцэ лазовы кош. Чуваць было, як ззаду, даганяючы іх, сапе Яначкаў сівы і як падбадзёрвае яго Грамабой.

Конь выцягнуў воз на цьвярдзейшую дарогу і пашоў раўней, ня спыняючыся. Ганскі закінуў лейцы на ручку плуга і на-хаду пачаў круціць цыгарку. Сказаўшы жонцы, каб тая наглядала за малым, бо татоў скінуцца, Ганскі адвярнуўся ад ветру. Пакуль ён, хаваючы ў прыгаршчы запалку, прыкурыў, пад'ехаў Грамабой. Ганскі пашоў пароўні. Тутунь быў сыраваты, і не хацеў гарэць і ён нейкі час старанна пыхкаў цыгаркаю.

— Мо' скончыў?—спытаўся Грамабой.

— Яшчэ за мастком вазоў на тры будзе.

Зноў памаўчалі.

— Ды-ж гэта цябе з сельсавету збакалі ўжо,—сказаў Грамабой.

— Ліха іх матару бяры. Ня вельмі я ганяюся за гэтым.

— Ці гэта Рыгор больны бядняк за цябе, ці што?

— Няхай і ён пакаштуе, што за смак. Я не ўнаравіў, можа ён лепш унаровіць. Хочаш з людзьмі добра жыць, дык начальству кепскі будзеш.

— Гэта-ж і Аўдолю выбралі.

— Выбралі.

Грамабой зноў пачаў пра Рыгора:

— Ты вунь колькі быў членам, а ніколі патом у хлеў да мяне ня прыходзіў. А гэты-ж прыходзіў ужо. Чаму бо я адно дзьве каровы запісаў? А ты-ж сам памятаеш, я табе яшчэ з вясны казаў, што буду прадаць рабую. Дык чаму бо я не прадаў? А табе што за дзела! Ты раскажаш мне, калі прадаваць? Як трэба будзе, дык прадам без твайго папытаньня. А гэту-ж рыжанькую хіба можна за карову лічыць? Яна-ж першым целям яшчэ, якое там з яе малако. Ня варт за харч, што зглуміць за зіму. Прыстаў—чаму сьвіней не папісаў? Пішы, няхай на табе чэрці скуру сьпішуць!

Хвіліну ён ішоў моўчкі, перажываючы нанова абурэньне на Рыгора.

— Яшчэ й гэта шалудзька, Сьцёпка, разам з ім. Некае ім дзела, як я з братам жыву! Як хачу, так і жыву. Брат сам не маленькі,

скажа, калі яму крыўда будзе. Гэта толькі займацца не хацелася: каб узяў поплiску ды зьярнуў з хаты, то другі раз ведаў бы, як утыкаць нос не ў сваё.

— Мусіць-жа і ў Соміка ці ня былі?

— Ды ў каго яны ня былі? Паўвёскі аблазілі. Агледзіліся, што мала садралі з людзей, дык нанава па хлявох пашлі.

— Я бо чуў, што Сомік нешта крычаў на ўвесь двор. Некую карову ўспамінаў усё таксама. Казалі, хацеў біцца з Рыгорам.

— А ня шкодзіла-б. Ніякай спогадзі няма да чалавека. Таго з канём гэта пасадзілі, што й дагэтуль яшчэ апрыяць ня можа, а ён ужо лезе—карову ўтаіў. Знак там казьне, як пугаю па вадзе, ці заплаціць Сомік за карову ці не. А яму ўсё-ж бы некіх рублёў колькі ў кішэні засталося... Альбо-ж ты ня ведаў пра гэту карову, калі пісаў вясною?—зьвярнуўся Грамабой да Ганскага.

— Як гэта я мог ня ведаць, у адной вёсцы жывучы? Дый суседзі траха што. Але ці гэта-ж хочацца з чалавекам насьцыраццца? Зноў-жа з канём з гэтым, як ты кажаш...

— А з Андрэем, глядзі ты, якую штуку яны ўрэзалі!—напамянуў Грамабой.

Гэтым «яны» Грамабой хацеў ахапіць шмат каго. Перш за ўсё тых, што там недзе ў раёне, што назначалі выбарчую камісію, а разам з тымі і камсамольскую ячэйку, і новых членаў сельсавету—Рыгора ды Аўдолю, і ўсіх тых, што падавалі голас за Рыгора. Гэтым «яны» хацеў Грамабой адгарадзіць ад «іх», Ганскага і перацягнуць яго на свой бок.

Ганскі адчуваў некаторую палёгку ад таго, што з яго спалі абавязкі члена сельсавету, якія яго, нерашучага і мяккацелага, заўсёды трохі прыгняталі. Часта ён нерашуча таптаўся перад выкананьнем таго ці іншага абавязку і абавязак часьцей за ўсё так і заставаўся нявыкананым. Засвоенае Ганскім здаўных правіла, што з людзьмі трэба жыць у згодзе, за якое яго і выбралі ў сельсавет, заўсёды стаяла яму поперак дарогі, калі трэба было зрабіць той ці іншы цьвёрды крок. Ад гэтага ў яго было шмат прыкрасьцяй і разладу з самім сабою. Але цяпер, недзе ў глыбіні шчымела крыўда, што яго ўсё-ж такі з сельсавету «збакалі». Тое, што Грамабой хваліў яго за добрасуседзкае абыходжаньне, казытала трохі Язэпаў гонар і як бы ўзьнімала яго вышэй над Рыгорам, але калі Грамабой вельмі ўжо востра нападаў на «іх», Ганскі змаўкаў. Ён не згаджаўся з думкай Грамабоя, але ў яго не хапіла адвагі Грамабою супярэчыць.

— Гэта-ж, кажуць, гэты сапляк Якуб, заявіў на Каржакевіча. Бацька-б гэтага не зрабіў,—сказаў на адыход Грамабой, калі Ганскі зьвярнуў з дарогі на сваю сьцежку.

Ніякай асаблівай штукі з Каржакевічам ня «ўрэзалі». Яго проста ўнесьлі нарэшце ў сьпісы пазбаўленых права выбарчага голасу. Толькі зрабілі гэта дадаткова ўжо ўдзень самых перавыбараў. І гэта не таму, што тут былі якія небудзь махінацыі, як хацеў абмаляваць справу Грамабой, а проста так вышла. Падняў гэту справу сёлета Якуб. Ён так і не паслухаў бацькі і заявіў у саюз на Каржакевіча. Справу перадалі ў суд. Яна была вырашана перад самымі перавыбарамі.

Напярэдадні перавыбараў Якуб зайшоў да Сьцёпкі і паказаў адбітак судовай пастановы. Апрача штрафу, яму прысудзілі заплаціць Косьціку па дзесяць рублёў у месяц за той час, калі Косьцік пасьвіў каровы і па дваццаць пяць рублёў за тры летнія месяцы, калі Косьцік рабіў на сенажаці і на полі.

— Вось гэта нам заўтра спатрэбіцца,—сказаў Сьцёпка, стукнуўшы рукою па разложанай на стале паперы.

Якуб глянуў яму ў вочы.

— Тады дай яе мне на заўтра,—павярнуўся Сьцёпка да Якуба.

— Бяры, калі трэба. Але-ж ты мне аддасі?

— Аддам.

Якуб чакаў, ведаючы, што Сьцёпка зараз растлумачыць.

— Я толькі ўчора праглядзеў сьпісы пазбаўленых голасу па нашым сельсавеце. Каржакевіча там, чамусьці, няма. Ці ня Ганскага гэта работа. Я хацеў сёньня заявіць у выбарчую камісію, але калі так, дык няхай заўтра на перавыбарах, гэта яшчэ і лепш: кулакі не пасьпеюць згаварыцца і намеціць новага кандыдата, нашым лягчэй будзе прайсьці.

— А хіба Каржакевіча хто думае выбіраць?

— Я чуў,—што думаюць,—сказаў Сьцёпка, хаваючы паперу ў старыя вокладкі.

Каржакевічаву кандыдатуру сапраўды выставілі на перавыбарах. Агітацыя Грамабоя, каб выбіралі такога, які за сваю работу мог бы адказаць сваёю гаспадаркаю, знашла такі некаторых прыхільнікаў у Мядзьведзічах. Сярод бліжэйшых хутаранцаў Каржакевіч быў досыць папулярны яшчэ з дарэвалюцыйнага часу. У Дымаўцы таксама знашліся такія, што лічылі Каржакевіча за разумнага чалавека і добрага гаспадара і гатовы былі падаць за яго свае галасы. Тым больш, што ён ня быў у бойцы з дымаўцамі і нехта знарок паклапаціўся напамянуць пра гэта дымаўцам. Такім чынам нельга было сказаць, што ў Каржакевіча ня было ніякіх шансаў быць выбраным ў сельсавет.

Але якраз здарылася тое, чаго Каржакевіч больш за ўсё баяўся, ідучы на перавыбары. Як толькі надышла чарга ставіць на галасаваньне яго кандыдатуру, старшыня выбарчай камісіі ўстаў, трымаючы ў руках аркуш паперы:

— Наступная кандыдатура грамадзяніна Каржакевіча, але ставіць на галасаваньне яе нам ня прыходзіцца. Мы лічым, што толькі дзякуючы нашаму недагляду грамадзянін Каржакевіч ня трапіў у сьпісы лішэнцаў. Як высьветлілася, ён увесь час карыстаўся наймовай

працай і, абыходзячы савецкія законы, злосна эксплёатаваў падлеткаў, якіх наймаў за пастушкоў. Шмат хто з вас самі гэта ведаюць, а хто ня ведае, для тых я прачытаю вось гэты дакумант.

Каржакевіч, мітусьліва аглянуўшыся па баках, упёрся вачыма ў падлогу. Сход прыціх, слухаючы пастанову суду па справе Каржакевіча.

— Прэзыдыум лічыць, што гэтага зусім досыць для таго, каб пазбавіць грамадзяніна права выбарчага голасу.

Каржакевіч працiскаўся да дзьвярэй праз густы натоўп, і яму хацелася ў той момант быць яшчэ меншым, як ён ёсьць.

Па залі прабег здаволены гоман, перамешваючыся з рэдкімі выкрыкамі нездаваленьня. Але другога кандыдата на месца Каржакевіча выстаўляць ужо было позна. Галасы яго прыхільнікаў разьбіліся: у выніку былі выбраны ўсе кандыдаты, выстаўленыя фракцыяй, а ў тым ліку Рыгор Варанец і Аўдоля.

Пра гэта і напамінаў Ганскаму Грамабой, калі казаў, што з Каржакевічам шутку ўрэзалі.

## ВЯСЕЛЬЛЕ БЕЗ МАЛАДОГА

Яно было назначана на заўтра. Ад самага ранку з коміну віўся сіняваты дымок. Кудлаты, вялізны, пануры Джэк і танклявая рыжая Мальва, прывязаныя на ланцугу, вадзілі носам у паветры, сударгава глыталі сьліну. Розныя блізкія мясныя пахі іх так дапякалі, што яны не маглі стрымаць сваіх пачуцьцяў: прагавіта і жалсана падскавытвалі, аблізваючыся тонкімі ружовымі языкамі, і то ўставалі, то зноў садзіліся.

Жагула хадзіў, прыемна заклапочаны, з хаты ў адрыну, з адрыны ў павець, альбо ў гумно, падоўгу кешкаўся ў сьвірні. Часамі спыняўся сярод двара. Трымаючы адну руку ў барадзе, другою разважаў у паветры, пасьля паварочваўся і ішоў зноў туды, адкуль толькі што вышаў.

Манька каторы раз прымярала ўжо сваё шлюбнае ўбраньне. Надзявала белую баціставую сукенку з ружоваю стужкаю ў поясе, вянок з туляю і станавілася перад люстэркам так, як яна думала стаяць пад вянцом, з насоўкаю ў правай руцэ. Стану свайго яна ня бачыла і ёй думалася, што ў гэтым убраньні яна павінна здавацца танклявай, стройнай і лёгкай.Ківала галавою, як бы ў адказ на прывітаньні і ледзь усьміхалася. Але тут з-за тоўстых сочных губ паказваліся вялікія конскія зубы, яна хутчэй замыльвалася, мадыгуючыся, каб як небудзь схаваць тое, што ўсе ўжо даўно бачылі.

Джэк і Мальва ўзялі разам, як у дуэце добра зладжаная пара сьпевакоў. Хрыплы Джэкаў бас, як у былога протадзякана, што дарэшты прапіў свой голас, і звонкі Мальвін альт пад акампанімэнт бразганьня двух ланцугоў, адарвалі Маньку ад люстэрка. Яна глянула ў вакно і, сьпяшаючыся, пачала адколваць з валасоў вянок і сьцягваць цераз галаву сукенку, не зважаючы, што яна камечыцца.

— Тата, мужчыны да нас ідуць,—крыкнула яна, хаваючы ўжо ў шафу ўбраньне.

— Якія яшчэ мужчыны?—вышаў той з бакоўкі, дзе пра нешта радзіўся з Жагуліхаю.

— Здаецца, мядзьведзіцкія.

Жагула вышаў на ганак, калі мужчыны ўзыходзілі ўжо на двор. Ён стаяў пануры і нярухомы, ня сыходзячы з ганку і адчуваючы, што тут нешта нядобрае. Яго квадратовая, чорная з сівізнаю, барада здавалася фундамантам пад чырвоным даволі буйным носам.

— Дзень добры вам!—крыкнуў Алесь, і па тым, як храбра ён гэта сказаў, знаць было, што гэтым выкрыкам ён хоча прыкрыць сваю няёмкасьць перад Жагулам.

Джэк гайсаў на ланцугу, уставаў на заднія лапы і кідаўся ўперад на мужчын з заядлым брэхам з такою сілай, што здавалася, ланцуг ня вытрымае; спыняўся на момант, каб набраць паветра ў лёгкія, і ўцягваў яго з хрыпатою, якая адна сьведчыла аб нязьмернай злосьці і заядласьці. За брэхам сабак цяжка было разабраць, што хто гаворыць. Жагула паглядзеў на афіцыйна строгі Рыгораў твар, на папку ў яго пад пахай, на вялікую, зьбітую з папленіцы літару «А», якую пакручваў Сьцёпка ў руках, і зразумеў:

— Грабіць мяне прышлі?—сказаў ён, не адказваючы на прывітаньне.

— Граб награбленае,—сказаў Галаскок Сьцёпку, ведаючы, што за брэхам сабак Жагула не пачуе яго слоў.

— Зямлю трэба памераць,—адказаў Рыгор.—У сьпісах толькі дваццаць пяць дзесяцін стаіць, а тут яе шмат больш. Хадзем разам, ато скажаш яшчэ—лішняй намералі.

— Няма чаго мне мераць, даўно памерана ўжо.—Ад ганарлівага абурэньня Жагула глядзеў некуды ўбок.—Дваццаць пяць год мераю. Тысячу разоў перамераў удоўж і ўпоперак, ходзячы за плугам ды за бараною. Кожны каменчык рукамі вот гэтымі перабраў. Чаму тагды ня прыходзілі мераць, як я пасеку панскую карчаваў? Чаму ня прыходзілі грошай лічыць, як я Гняцецкаму за гэту зямлю плаціў?

— Карчаваў ты, гэта праўда... А яго бацька гэтай пасекі не карчаваў?—паказаў Рыгор пальцам на Якуба.—А Сьцёпкаў бацька нябожчык не карчаваў? Што-ж яны мелі за гэта? Дый мая баба ня раз гнула сьпіну над сваім жытам. Мо' таму і высахла на шчэпку, што за чужою работаю сьвету ня бачыла.

Маўчалі. Пераконваць адзін другога—лішняе. Кожны да канца пераконаны ў сваім.

— Ня пойдзеш?

— Не пайду.

— Без цябе памераем.

— Вось і ўся гаворка.—Жагула павярнуўся і з прыціскам зачыніў за сабою дзьверы.

— А,ваўкарэзіна!—Алесь падняў камень з бульбіну невялічкі і кінуў у Джэка. Камень пакаціўся па мураве пад сьвіран. Джэк адным скокам дагнаў яго і гыркаў, ляскаючы зубамі аб камень.

— Пойдзем, хлопцы!—скамандаваў Рыгор.

Зачыніўшы за сабою дзьверы, Жагула стаў за вушаком у сенцах і праз маленькае акенца цікаваў, што будуць рабіць мужчыны. Тыя пашлі па сьцежцы да лесу ў той бок, адкуль нядаўна прышлі.

«А можа адумаліся ды дадому пашлі?»

Дайшоўшы да лесу, мужчыны спыніліся. Па ўсім відаць было— закурвалі. Пасьля Сьцёпка падняў з зямлі літару «А» і пайшоў куляючы ўздоўж сьцяны лесу. Упёршыся ў сьвежую пасеку, што бялела акоранымі пнямі, павярнуў пад простым кутам направа. Іншыя ішлі за Сьцёпкам і, відавочна, таксама лічылі.

— «Мераюць...—думаў Жагула.—Можа ня трэба было так гаварыць з імі. Можа трэба было мякчэй... у хату запрасіць. Пачаставаць якраз ёсьць чым». Але ўявіў сабе афіцыйны Рыгораў твар, сур'ёзны і спакойны Сьцёпкаў погляд, кплівую і трохі сарамлівую ўсьмешку Галаскока. «А яшчэ сукінага сына шкадаваў, калі скалеў як сабака, у лесе»,—успомніў, як разам з Грамабойчыкам і Сураўцом Алесь спаў у яго ў хаце на саломе. «Не, гэтых не прырахманіш, ня Ганскі,—думаў пра Рыгора і Сьцёпку.—Ты яго маслам маж, а ён дзёгцем сьмярдзіць».

Якуб мала памагаў мужчынам мераць і лічыць. Яго цалкам захапілі думкі пра тое, што ён пачуў, ідучы сюды, ад Рыгора. Ён ня раз абводзіў вачыма раўніну Жагулавага поля, абкружанага з усіх бакоў высокай сьцяною бору, і стараўся ўгадаць, з якога боку адрэжуць у Жагулы лішні кусок зямлі, дзе давядзецца Якубу забудавацца. Што скажа бацька на гэта? А Волька? Гэта ўзрадуецца. Цяпер ужо ня будзе чым бацькам адгаварыцца. Ды ўрэшце ў бацькоў яны цяпер і пытацца ня будуць. Вось каб, здаецца, забудавацца ў тым рагу пад Мядзьведзічы! Месца там вясёлае і да вёскі бліжэй. Цікава, хто яшчэ пераедзе на Жагулаўшчыну, з кім давядзецца суседзямі быць?

---

Вестка пра тое, што Жагулу «рэзаць» будуць, разьнеслася ўвечар па ўсёй вёсцы. Казалі, што ў раёне пастанова ўжо такая ёсьць, толькі яшчэ невядома было дакладна, колькі ў Жагулы ўсяе зямлі і колькі яе абрэзаць прыдзецца. Таму і загадалі Рыгору памераць сёньня Жагулаву зямлю. Казалі, што сам Рыгор першы і загаварыў пра гэта. Калі ў Рыгора мядзьведзіцкія пыталіся пра гэта, дык ён не таіўся, казаў, што праўда—Жагулу павінны хутка абрэзаць. А хто першы гэту справу пачаў, не казаў.

Як толькі Грамабой пачуў пра гэта, у той жа дзень склікана была сямейная нарада, на якую запрасілі і свата—Андрэя Каржакевіча. Каржакевіч спачуваў Грамабою і сам на яго месцы ня лепшы быў бы.

Але яму прыкра было і за сябе: сорам будзе цяпер Жагулу ў вочы глянуць. Грамабоіха нават прабавала сьлязу выцісьнуць, а Грамабой чухаў патыліцу і лаяўся. Як-жа ня злосьць!—з зубоў, можна сказаць, кусок вырвалі.

— Як сабе хочаце, сват, параіць я вам тут нічога не магу,—сказаў Каржакевіч.—Як той кажа, людзей слухай, ды свой розум май.

Грамабой такі і меў «свой розум». Як толькі Рыгора ў сельсавет выбралі, ён пачаў апасацца, што пачатая за старым сельсаветам так добра справа можа лопнуць. А цяпер, калі за гэту справу ўзяўся Рыгор і камсамольская ячэйка—ня бачыць Грамабою гэтай зямлі. А калі так—дзеля чаго й гарод гарадзіць? Калі Жагулу пакінуць зямлі на чатыры яго душы, дык гэта ўжо ня той Жагула будзе. Сын і раней не ахвоцен быў браць Маньку, а цяпер—ня сілаю-ж яго прымушаць. Такім чынам Грамабой і сам ведаў, што яму рабіць: яшчэ да сямейнай нарады цішком пераказаў некаторым з радні—няхай ня турбуюцца, вясельля заўтра ня будзе. Калі запрасілі на нараду Каржакевіча, дык толькі каб ён моцна не пакрыўдзіўся, што яму такую прыкрасьць зрабілі.

Зараз-жа пасьля нарады Грамабой разаслаў пасланцоў—дзяўчыну, жонку, Міколу. Нават Яначка і той схадзіў на хутар да Грамабоевага шваґра. Трэба было наказаць усім, хто меўся прыехаць заўтра на вясельле. Але некаторыя з радні былі за дваццаць, за трыццаць вёрст. Гэтыя выбраліся нанач. Дзьве хурманкі прыехалі, як толькі пачало зьмяркацца. Вось чаму ў вёсцы не хацелі верыць чуткам, што вясельле раскідаецца.

Назаўтра рана яшчэ ўсе чакалі. Але ня чуваць было ні скрыпкі, ні бубна, ня відаць было зухаватых «братоў» пралятаючых з форсам, з бразготкамі на падбадзёраным цуглямі і пугай коні. Нарэшце Міколаў дзядзька, матчын брат, які прыехаў нанач, вывеў пад калодзеж сівую ў яблыкі кабылу. Яна была ў хамуце і паўшорах. Чакалі, што зараз павінна ўсё высьветліцца. І сапраўды: праз чвэрць гадзіны Міколаў дзядзька выехаў з двара і падаўся зусім ня ў той бок, куды трэба было ехаць да Жагулы ці да вянца—ён паехаў дадому.

Рэдка так здараецца, каб людзі елі папоўніцы варанае, печанае, смажанае, мяса, кілбасы, пірагі ды праклінալі таго, праз чыю ласку яны гэта робяць. А Грамабоя такі ня мала праклінала ўся яго радня, завіхаючыся есьці тое, што нарыхтавана было на вясельле. Нават яго дайшоў па часе, калі ўсё ўжо было гатова. Некаторыя старэйшыя нават упікалі Грамабоя, што ён зьвёў, казалі, што сорам так рабіць. Грамабой досыць лагодна на гэты раз ім адказаў, што сорам ня дым, вачэй ня выесьць, а завязаць хлопцу сьвет нямаведама за што—на гэта ён ня згодзен.

Міколу таксама не давалі быту доўгі час, асабліва дзяўчаты. Ні, не—дый запытаецца каторая:

— Калі-ж тое тваё вясельле будзе? Манька даўно прачакалася.

Мікола адказаў ня так разумна, як здарава:

— Начорта яна мне, кабыла зубатая.

На гэтым гутарка пра вясельле звычайна канчалася.

Да Жагулы Грамабой не пасылаў пасланца. Ды наўрад ці знайшоўся-б такі адважны з Грамабоевай радні, каб пайсьці да Жагулы з такою весткаю. Слушна разважалі некаторыя, што са злосьці Жагула гатоў бы яшчэ сабак з ланцуга спусьціць.

На вясельле да Жагулы зьехаліся ўсе, каму быць належала. Народ усё шляхтаваты, на чужую пачостку сквапны, да банкетаў вялікі ахвотнік, а таму ў такіх выпадках заўсёды акуратны. Пад павецьцю відаць былі сінія, зялёныя, жоўтыя задкі маляваных брычак. У стайні, апанаваны вясельным настроем, выхваляўся сваёю годнасьцю гнеды ардэн, адрасуючы свае камплімэнты пані Буланай, якая спакойна жавала канюшыну пад павецьцю. А гаспадар яго, марцовы кавалер Зыгмусь Яснотка, выдыгаў каля маладой, гаварыў ёй камплімэнты, якія гаварыў мо' на сотні вясельляў раней, на якіх ён перабываў за свой доўгі век застарэлага кавалера; адпускаў жарты, ад якіх патыхала кароўнікам і залётлівасьцю яго ардэна.

Апаражніліся першыя бутэлькі і першыя талеркі. Госьці рыхтаваліся сустрэць маладога ў вясёлым гумары. Жвавей замятляліся языкі, шумней стала ў пакоі і яскравей пачаў выступаць наверх шляхечы гонар.

Меркавалася зрабіць так, каб за сьнеданьнем дачакацца маладога, але сьнеданьне цягнулася мо' гадзіны ўжо тры. Жагула насіў-насіў бутэлькі дый годзе сказаў, а маладога ўсё яшчэ ня было. Манька раз-по-разу выбягала на двор і ўглядалася ў той куток лесу, адкуль павінен быў выехаць абоз маладога. Жагула пачынаў злавацць і хмель яго ня браў.

Зыгмусь Яснотка, занадта перагружаны сьнеданьнем, вышаў з хаты пашукаць шчасьлівай мясьціны. На дварэ стаяла Манька і ён накіраваўся ў лес.

— Куды-ж вы, пане Яснотка?—спыталася тая.

— Люблю, ведаеце, адзіноту. А ў вас тут такі прыгожы лес, што так і цягне мяне.

Апошнія словы ён прагаварыў, сьціснуўшы зубы. Манька адвярнулася і зноў пачала прыглядацца на дарогу, а Зыгмусь Яснотка, закручваючы ногі, пасьпяшаў на ўлоньне прыроды.

Адзінота яму ня зусім удалася. Недзе перагукваліся дзявочыя галасы. Яны былі далёка і гэта яго ня надта трывожыла, але раптам над самым яго вухам:

— Дзяўчаткі, а баравік жа!—і дзяўчына кінулася да елачкі з другога боку.

Зыгмусь усхапіўся з пад елачкі, насьвістваючы і паглядаючы на вершаліны хвой...

— Ці не з Мядзьведзіч будзеце, дзяўчаткі?—запытаўся ён нарэшце.

— З Мядзьведзіч,—адказалі дзяўчаты, з цікавасьцю аглядаючы Зыгмуся.

— А ці хутка адтуль малады ваш выберацца? Нешта ён зьбіраецца жаніцца, як назаўтра трэба.

Дзяўчаты глянулі адна на адну і ўсьміхнуліся:

— Гэта вы на вясельле да Жагулы прыехалі?—спыталася тая, што грыба знашла.

— Але. Я ў Манькі за шафэра.

— Дык гэта вы ўсё маладога чакаеце?

— А вы-ж самі здаровенькі ведаеце, што без маладога вясельле ня бывае.

Дзяўчаты зарагаталі сьмялей і мацней. Зыгмусь таксама задаволена загігікаў, думаючы, што дзяўчат разьвесяліў яго дасьціплы адказ.

— Не дачакацца-ж вам маладога,—сказала сур'ёзна адна з дзяўчат.

— Жартуеш, паненка, хе-хе-хе. Напужаць нас хочаш.—Зыгмусь падышоў і абняў дзяўчыну. Тая спакойна адвяла яго руку.

— Праўду кажу. Ніякага вясельля ў нас ня чуваць. Грамабойчык і ня думае ехаць. Дзьве хурманкі прыехалі былі на вясельле, дык і тыя сёньня рана паехалі дадому.

— Нечужо праўда?!—спужаўся Зыгмусь.

Усе ўтрох пабажыліся, што гэта шчырая праўда, а калі Жыгулавы госьці гэтаму ня верацъ, няхай пачакаюць сабе да вечара, яны ад гэтага нічога ня страцяць.

Не даслухаўшы нават да канца, Зыгмусь подбегам пусьціўся да Жагулавай сядзібы.

— Пане гаспадару, на адно славечка,—паківаў ён Жагулу пальцам. А калі той, пакінуўшы кампанію, падышоў, усхваляваны Зыгмусь расказаў, што ён пачуў толькі што ад дзяўчат.

— Лапаць мядзьведзіцкі! Хамула!—закрычаў абураны Жагула.— Вось і займіся з мужыком!

Госьці ўстрывожыліся, схлупіліся ў кучу, пачалі распытвацца. Манька, даведаўшыся пра ўсё ад таго-ж Ясноткі, кінулася ў бакоўку, а там—галавою ў падушку. Адзін з гасьцей параіў быў Жагулу праз суд спагнаць з Грамабойчыка ўтратнае. Але Жагула хацеў сваю крыўду і абразу хоць зьверху прыкрыць сваім гонарам. Ён з пагардай адхіліў прапанову:

— Што вы гэта кажаце, пане Сьвідэрскі! Як малы ўсёроўна! Буду я з мужыком па судох цягацца, сябе сарамаціць! У мяне, дзякаваць богу, хопіць яшчэ дзесяць такіх вясельляў справіць...

— Проша, госьцікі, да стала. Папіць гарэлку мы й бяз мужыка патрапім,—з адчайнай рашучасьцю запрасіў Жагула.

Усё, што нарыхтавана было на цэлае вясельле, прынесена было ў хату. Што не зьмясьцілася на стале ў бутэльках, стаяла ў глякох і ў бачурках пад сталом напагатове, каб ня прышлося лазіць у склеп, калі адмовяцца служыць ногі.

— Проша не саромецца. Колькі чыя душа прымае!—заклікаў Жагула і сам тут-жа даводзіў, што яго душа сёньня не пляцецца ў хвасьце.

Праз гадзіну з хаты праз адчыненыя вокны патыхала, як з бровару, а ў лесе рэха перадражнівала дзікія, п'яныя сьпевы. Пад вечар усё сьціхла, толькі зрэдку чулася нявыразнае мармытаньне, соннае чвяканьне губамі, альбо стагноты. Мерцьвякі валяліся па адным на мураве на двары, на ганку, на ўзьмежку каля ральлі. Па хаце снуўдалася панурая Жагуліха, пераступаючы цераз ногі і галовы.

## ГАД УКУСІЎ

Старая мядзьведзіцкая «школка» дажывала апошні год. Некалі, гадоў дваццаць назад, калі засноўвалася ў Мядзьведзічах царкоўнапрыходзкая школа, у Крываношкі Антося, Васілёвага брата, што выбіраўся тагды на купленую зямлю недзе за Пухавічы, адкупілі хату і перанесьлі яе ў канец вёскі на пустыр, дзе мядзьведзіцкія капалі пясок на ўсялякія хатнія патрэбы. Ад старасьці і ад таго, што роблена было нітандэт, будыніна стала нязграбнай і апусклівай: адзін вугал моцна асеў, вушакі пакасіліся, бярвеньне ля вакон пагніло. Уся будыніна нагадвала старога нядужага чалавека, які ня можа сябе дагледзець. Вецер, калі яму зажадаецца, гуляў няпрычэсаною на страсе саломаю. Вясною і ўвосень, пакуль зямля мяккая, сьвіньні падрываліся пад гнілыя падрубы і праз дзіркі ў падлозе падобным на тытунёвы ліст вухам стараліся пераняць што колечы з комплекснага мэтаду. Часамі з-пад падлогі прасоўваўся ў дзірку лыч і лагодным рохканьнем згаджаўся з заўвагаю настаўніка ці з адказам вучня. Такое выступленьне заўсёды шумна віталі ўсім школьным калектывам, хто як мог і чым папала: гучным сьмехам, выкрыкам захапленьня, вокладкамі лемантара, жалезнаю качаргою, калі яна траплялася пад руку. Для настаўніка гэта быў моцны аргумант за пабудову новага будынку, каб сустрэўшыся з загадчыкам РайАНА выставіць супроць яго гэту цяжкую артылерыю ў выглядзе сьвінога лыча і патрабаваць: альбо новы будынак, альбо капітальны рамонт. Але капітальны рамонт рабіць ня было сэнсу, паколькі трэба было будаваць новы будынак, а новыя будынкі трэба было будаваць у першую чаргу ў тых вёсках, дзе ўпяршыню адчыняліся школы. Такіх у раёне было шмат. Настаўніку прапанавалася дзіркі ў падлозе заштукаваць, падрубы абсыпаць і трошкі пачакаць, пакуль будынак мядзьведзіцкай школы будзе ўнесены ў плян будаўніцтва.

Сёлета настаўнік у сваіх дамаганьнях атрымаў значную дапамогу ад камсамольскай ячэйкі й ад сельсавету новага складу. Дапамога гэта была больш як упору, бо апрача свае старэчай нядужасьці, школьны будынак меў яшчэ і тую загану, што сёлета нават на дзьве зьмены ён ня мог умясьціць усіх мядзьведзіцкіх дзяцей, што хацелі вучыцца. Націснулі што называецца на ўсе кнопкі, застукалі ва ўсе

дзьверы. Ячэйка дабілася на сходзе пастановы, што Мядзьведзічы падручаюцца дапамагчы рабочай сілай: высеч і вывезьці лес і зрубіць сьцены. Цяпер настаўнік павёў атаку на РайАНА ў саюзе з Сьцёпкам і з пастановай агульнага сходу ў руках. Гэты раз РайАНА абаранялася слаба.

Барсукова Гара, дзе вызначана было чатыраста пнёў лесу на школу, маўклівая, і па-зімоваму сумная, аднае раніцы абудзілася вясёлым гоманам. Захрабусьцела пад лапцямі нечапаная скарынка сьнегавай цаліны, застукалі наўзахваткі сякеры, распырскваючы жаўтавата-белыя трэскі, дваццаць піл заядла ўгрызаліся ў смольныя, сырыя хваёвыя пні. Выносныя стромкія хвоі з хрыпаватым стогнам хіліліся зялёнаваловай асьвежанай галавой і, як абамлелыя, выпросталіся на сьнягу, праймаючы наскрозь пласт сьнегу і ўпіраючыся ў мёрзлую зямлю жоўтымі, вілаватымі рукамі. Часамі каторая прыхілялася да грудзей суседкі, павісала на яе тоўстым гальлі і на момант замірала, чакаючы далейшага лёсу.

А гоман шырыўся і мацнеў. На падмогу лесарубам прыехалі вазюры, і першыя гатовыя кавалкі, ускінутыя камлём на сані, пакідалі за сабой глыбокі сьлед і, віляючы паміж дрэў, выкіроўваліся на дарогу.

Зразу за работу ўзяліся дружна і за тры дні большая палавіна дзерава ляжала ў канцы вёскі на пляцы, дзе меліся будаваць новую школу. Але знашлося ў вёсцы некалькі чалавек, што на работу яшчэ зусім ня выходзілі і не выяжджалі. Калі трэ' было сеч, яны адмаўляліся, што лепш паедуць вазіць, а калі прышлося вазіць, дык у таго «сані лядашчыя», у другога «конь маладым», а той «сам не здароў». Тагды й тыя, што спачатку ахвотна вышлі, адмовіліся:

— Што, нам больш за ўсіх трэба?

Цэлую раніцу хадзіў Рыгор па вёсцы сярдзіты і неадступны, пакуль выправіў у лес сабатажнікаў. Памагло, калі пагразіў, што злажыць сьпіс і падасьць у раён тых, хто зрывае вывазку лесу. Зноў не абышлося бяз лаянкі і кленічаў. Зноў прышлося ламаць зьвяглівое ўпірства Соміка, які адмаўляўся, што ў яго конь маладым, у цяжкім возе ніколі не хадзіў, а каню было ўжо чатыры гады.

Сомік хадзіў, як у папечанай скуры. Ад кожнага датыку, здавалася, адчуваў ён пякучы боль, курчыўся, сыкаў злосьцю і, як раздражненая гадзіна, гатоў быў кінуцца на кожнага, хто першы яго зачэпіць. Тое, што яго больш за ўсё непакоіла, але што ён лічыў надзейна схаваным, пачынала выплываць наверх, пачало пралазіць праз перашкоды часу і прасторы, каб паказацца ўсім на вочы. А тут яшчэ часта пачалі турбаваць яго, напамінаючы пра абавязкі савецкага грамадзяніна: прышлося заплаціць падатак за другую карову, ды яшчэ й штраф, за тое, што ўтаіў, прыходзіцца ехаць у лес, выконваць загад таго, каго ён рад-бы бачыць на ражне. За апошні час яму заўсёды нешта рупіла, нешта яго прыгнятала, кожны дзень ён чакаў нечай для сябе няпрыемнасьці. Лёгшы спаць, ён начамі падоўгу качаўся, ня мог заснуць, а рана ўставаў зморамы, здаецца, горш, як

быў увечар, калі лажыўся. Жонка баялася аказацца да яго. Калі казала яму не пад нораў, ён узгараўся, як порах, і кідаўся да яе з кулакамі, з чым папала, што траплялася яму пад руку. Дзеці абыходзілі яго вокала, і пакуль ён быў у хаце, сядзелі на печы ці дзе небудзь у кутку, шапацелі ціха, як прусакі, баязьліва паглядаючы, як ён сьнедае, ці што небудзь робіць. Для спрактыкаванага псыхіятра цікава-б было наглядаць, як шпарка дасьпявае ён для злачынства ці вар'яцкага дому.

Сёньня якраз была прычына, ад якой увесь час ярка палала Сомікава злосьць, і быў чалавек, які ахвотна падтрымліваў гэты агонь і ўмеў разьдзьмухаць, калі ён пачынаў згасаць.

— Гэты-ж Данілаў таўкач, кажуць, паехаў такі ў Бабруйск. Пад цябе ўсё падкопваецца.—Грамабой сядзіць на канцы свайго кавалка і абцасам пастуквае па галоўцы полаза, калі каркі хочуць зьбегчы ў бок з наезджанага сьледу. Густая пара з ноздраў Сомікава каня, што ідзе ўсьлед за Грамабоевымі саньмі, асядае шэраньню на гнедых персях і на грыве. Грамабой выцягвае сваю галаву з-за канёвай і, наставіўшы вуха, прыслухоўваецца. Сомік недалёка ідзе за сваім кавалкам у кароценькім кажушку і рудой кучомцы, але вецер сустрэчны. Сомік разяўляе рот, стараецца перамагчы вецер і да Грамабоя далятае канец фразы:

— ... жыватом езьдзіць.

Грамабой здаволена рагоча.

— Няма ўжо на іх апрэглае ніякай!—пасылае ён з ветрам.

— Дачакаюцца...—ляціць проці ветру да Грамабоя, і ён закрывае каўняром выстаўленае на мароз вуха.

Рыгор стаяў каля шліхтаў бярвеньня і гаварыў нешта з хурманкамі, якія толькі што скінулі і зьбіраліся ад'яжджаць.

— Гэта ў пільню пойдзе, сюды вязеце!—крыкнуў ён Грамабою і Соміку, згледзеўшы, якія кавалкі ў іх на возе.

Сомікаў кавалак заганялі на самы верх шліхты: Грамабой прытрымліваў верх, а Сомік і Рыгор, набіраючы патрошку каламі, зьмяняючыся раз за разам, пядзь за пядзьдзю, заганялі камель. Сомік быў з самага канца, Рыгор трохі пад сярэдзіну.

— Прытрымай, я зьмянюся,—сказаў Рыгор і выняў кол, каб залажыць яго трошкі вышэй за наступны кавалак.

«Пусьціць»—падумаў Сомік, чырвоны ад натугі. «Няўтрымаў, хто тут вінават». І яму яскрава ўявілася, як рушыцца ўніз грузны кавалак, падбірае, камечыць і трушчыць пад сабою Рыгора. Хмель помсты туманіў яму сьвядомасьць, на момант нават у ваччу пацямнела і цела пачало абмякаць, падавацца пад цяжарам. Але Рыгор ужо справіўся і падпёр кол плячом.

— Ну, рразам! Яшчэ разок! Яшчэ разок! Вось тут яму й месца. Прытрымай яшчэ, а я пабягу Ціхону памагу.

Верх, падагнаны Рыгоравым і Грамабоявым каламі, пашоў шпарка ўгору. Соміку пад камлём рабілася ўсё лягчэй. Нарэшце кавалак паслушна лёг на вызначанае яму месца на версе шліхты. Мужчыны

разагнулі натруджаныя сьпіны і крыху адсапліся. Рыгорава плячо шчымела, націснутае калом.

— Яшчэ вам па два разы прывезьці,—сказаў ён.

Тыя маўчалі, і Рыгор ведаў, што яны думаюць. Зьлезьлі з шліхты. Рыгор сеў на ніжнім кавалку, дастаў запісную кніжку і аловак, каб адзначыць прывезеныя кавалкі.

— Ідзі сюды ў зацішак,—паклікаў Грамабой Соміка і пашоў у прагалак паміж шліхтамі.

— А кавалак наш ня моцна ляжыць. На горб лёг, ледзь толькі ліпіць.

— Чорт яго ня возьме, будзе ляжаць,—адказаў Сомік Грамабою, не падымаючы вачэй на кавалак.

— Будзе ляжаць, калі ніхто не зачэпіць. А каб толькі хто крануў...

Сомік глянуў на Грамабоя і зразумеў. Ён падняў кол і, залажыўшы між кавалкаў, зьлёгку павярнуў. Кавалак паслушна падаўся і раптам, перакаціўшыся цераз горб, рынуўся ўніз па шліхце. Грамабой і Сомік прытуліліся да шліхты, на момант замерлі.

Нечалавечы немы крык—здаецца, сам боль вырываўся з грудзей—устрапянуў Соміка.

— Жыў... яго мэць!—прасіпеў ён, і шалёная страшэнная злосьць засланіла яснасьць думкі, ахапіла яго ўсяго. Сьціснуўшы ў руках кол, ён рвануўся з выразным намерам прыкончыць Рыгора, які курчыўся пад кавалкам. Але з другога боку падбягалі ўжо ўдвух, кінуўшы свае вазы.

— Стой! Ашалеў!

— Што тут робіцца?!

Сомік ускочыў на сані, хвасьнуў зьнячэўку каня і той, рвануўшы з месца галопам, панёс яго праз вёску, кідаючы сані на ўхабы. Прыскочыўшы ў лес, Сомік пакінуў каня на тым месцы, дзе браў нядаўна кавалак, а сам нібыта пашоў наглядаць сабе другі кавалак. У лесе спакойна накладвалі вазы, чалавек з восем, ніхто нічога ня ведаў.

Конь Сомікаў стаяў доўга, глэмаў сьнег, пераступаў з нагі на нагу, а калі пачало вечарэць і ў лесе ня было больш ніводнай хурманкі, ён моцна тузянуўся, маленькая хваінка, на якую закінуты былі лейцы, нагнулася, і конь падаўся дадому без гаспадара.

Соміка ў вёсцы больш ня бачылі.

Грамабой выткнуўся аж з-за чацьвёртай шліхты, каля якой стаяў яго конь. Ля Рыгора ўвіхаліся Баранок і Сьцяпан Варанец. Упіраючыся рукамі ў сьнег, з перакрыўленым ад болю тварам, Рыгор то ўзьнімаў галаву, то зноў прыпадаў ёю на сьнег. Моцна сьціснутыя зубы скрыгіталі. Камель кавалка ляжаў у яго на нагах. Відавочна, пачуўшы за плячыма грукат, ён кінуўся ўцякаць, ды не пасьпеў.

Скочваць кавалак з ног нельга было, можна было яшчэ больш патрушчыць ногі. Сьцяпан з Баранком, адзін з аднаго боку, другі з другога, падлажылі калы пад канец кавалка і паднялі яго, як на козлах. Але Рыгор сам ня мог крануцца, каб выпаўзьці з-пад кавалка.

— Што гэта тут нарабілася?—падышоў Грамабой, быццам нічога ня ведаючы.

— Памажы вот хутчэй,—адказаў яму Сьцяпан.

Грамабой узяў Рыгора за плечы, засунуў рукі пад пахі і асьцярожна пацягнуў з-пад кавалка. Той застагнаў і змоўк, страціўшы прытомнасьць.

— Каб трошачкі не пасьпелі, дык ён бы яго тут зусім прыкончыў, сказаў Баранок.—Кол падняў ужо...

— Што яму за трасца!—дзівіўся Грамабой.—Мы-ж толькі што разам з ім закурвалі за шляхтаю. Я пашоў да свайго каня, а ён застаўся. Раптам чую—крычыць нехта не сваім голасам.

Сьцяпан скінуў кавалак з сваіх саней і пад'ехаў да Рыгора. Зьняўшы з сябе кажух, паслаў на сані. Але кажух праваліваўся ў прагалкі паміж вязоў і прышлося раней перакрыць вязы латкамі. Рыгора асьцярожна палажылі на воз, і Сьцяпан пагнаў каня ў вёску.

## ДА ПАНА ВАЛЬВАЦКАГА

Сомік вышаў з лесу і пашоў нацянькі па цаліне, мінаючы вёску. Сыпаўся дробны сьняжок. На ляту мітусіў яго вецер, закручваў нехаця ў пухавы сыпкі камяк, кідаўся ў твар, меркаваў трапіць за каўнер. Прасторы былі белаватыя, каламутныя і непраглядныя. Ня відаць было ні вёскі, якую Сомік хацеў абмінуць, і нічога іншага, на чым магло-б спыніцца вока. Ён ступаў па пульхным пласту сьвежага сьнегу, пад якім намацвалася нагамі цьвёрдая сьнегавая скарынка. Часам яна ня вытрымлівала, праломлівалася, пад асьцярожным Сомікавым крокам і тагды ён западаў глыбока, аж па калена. Другою нагою мацней апіраўся, каб узьняцца, і тая праваливалася. Ішоў тагды некалькі крокаў, з хрустам ломячы скарынку, аж пакуль зноў не ўдавалася затрымацца на паверхні.

Соміка праняў пот, ён перасунуў кучомку з ілба на патыліцу і расшпіліў кажух. Нарэшце ў белай каламуце намецілася шырокая пляма, ня то хмара, якая з кожным крокам рабілася ўсё выразьнейшаю і цямнейшаю.

Здаволены, што трапіў якраз туды, куды, вышаўшы з лесу, намерыўся, Сомік пашоў спакайней. Перад ім намячаліся ўжо нявыразныя абрысы бліжэйшых дрэў. На другім баку могілак была дарога, на якую яму трэба было выйсьці.

Сярод дрэў засыпаная сьнегам капліца здавалася хутчэй капяком сена, а ня будынінай. Сомік падышоў і сеў на яе струхлелым парозе, каб крыху перадыхнуць і яшчэ раз перадумаць.

Ад капліцы праз рэдкія дрэвы відаць быў край могілак, дзе праходзіла дарога. На дарозе ад Мядзьведзіч паказаліся дзьве хурманкі, чуваць была гаворка. Сомік шчысьней прытуліўся да дзьвярэй капліцы і не варушыўся, каб ня ўбачылі з дарогі. Адначасна ён прыслухоўваўся, каб пачуць, пра што гавораць,—можа нават знаёмыя галасы. Але да хурманак было з паўгонак, а гаварылі ня вельмі моцна.

Пачакаўшы хвілін дзесяць, як праехалі хурманкі, Сомік вышаў на дарогу і пашоў працёртым сьвежым сьледам.

Дзесяты раз думаў ён сёньня пра сваё становішча і з кожным разам усё больш пераконваў сябе, што яму трэба рабіць якраз тое, на што ён адважыўся, хаваючыся сёньня ў лесе. У вушах яшчэ стаяў крык абурэньня, якім перапынілі яго Баранок і Сьцяпан, калі ён кінуўся з калом да Рыгора. Яны адразу скемілі, што ён мерыўся рабіць. Калі-б нават яны й не пасьведчылі яму на згубу, калі-б зразу і нельга было давесьці, што Сомік знарок падстроіў, каб кавалак скаціўся на Рыгора, дык усёроўна: другі дзень, як выехаў Мікола Наздрэйка. Усе кажуць, што паехаў шукаць Сомікавых даўнейшых сьлядоў. У тым мястэчку добра памятаюць гэту справу, а ў самой вёсцы Кармянцы яшчэ не паўміралі тыя, што носяць на целе пісагі ад стражнікоўскіх нагаек. Хутчэй за ўсё Мікола вернецца ня з пустымі рукамі. А тагды хто ў цэлым сьвеце паверыць, што Сомік не хацеў забіць Рыгора, што кавалак сам скаціўся з шляхты? Варочацца ў вёску— гэта аддацца самому ў рукі, сесьці за краты, а можа і быць расстрэленым. А Грамабой—што ён цяпер скажа? Ён рад, што ёсьць на каго скласьці ўсю віну. Усёроўна, як пад руку таркануў, а сам—і ня лыс... Адзін паратунак—туды. Пан Вальвацкі напэўна яго пазнае і не абыдзе сваёю ласкаю, дапаможа працу знайсьці, а можа і кусок зямлі дасьць. Ня мог-жа ён забыцца пра гэта памятнае здарэньне.

Перад Сомікавымі вачыма, як жывы, устаў малюнак...

---

Даўно ўжо да мястэчка даходзілі чуткі, што кармянчане ваююць з панам за «сірвітут». Яны ня ведалі дакладна, што азначае гэта мудронае слова, яны толькі ведалі адно: з панам яшчэ ня зусім разьмежаваны ад часоў паншчыны, гэты поплаў, кусьцісты і гразкі, заўсёды быў пашаю для кармянскіх кароў. Часамі і скарбовы пастух прыпускаў сюды свае каровы, ды ў пана была лепшая паша для кароў, і такія выпадкі былі рэдка. Але пан Вальвацкі, прагуляўшы за сваю бурную маладосьць усё, што маглі даць яму некалькі маёнткаў пры жахлівай эксплёатацыі парабкоў і падзёньнікаў з навакольных вёсак і пры дзедаўскіх спосабах гаспадараньня,—успомніў пра тое, што ў Даніі, у Нямеччыне, у Амэрыцы гаспадарка дае ў некалькі разоў больш прыбытку. Ён нават меў пару знаёмых паноў, якія ў сябе прабавалі наладзіць гаспадарку па-замежнаму. Сам пан Вальвацкі нічога ў гаспадарцы не разумеў, займацца самому сур'ёзна гэтай справай яму не хацелася, бо прышлося-б прамяняць сталічныя салёны і клюбы на правінцыяльную адзіноту, на стайні і аборы. Пан Вальвацкі зрабіў так, як рабіў не адзін пан, заводзячы культурную гаспадарку: ён выпісаў немца спэцыяліста, назначыў яго кіраўніком маёнтку і здаў на яго рукі ўсю гаспадарку, патрабуючы аднаго—як мага больш прыбытку, без якога цяжка было ўтрымацца на належнай вышыні ў сталічных салёнах і клюбах. Швэнцар (так звалі новага кіраўніка) узяўся

за справу з нямецкай мэтадычнасьцю і акуратнасьцю. Завёў замест трохпалёўкі сямipольны севазварот, выпісаў патрэбныя машыны, рацыяналізаваў працу. Эксплёатацыя ад гэтага ні капелькі не паменшала, дабрабыт парабкаў не палепшаў, але справа пана Вальвацкага пачала патрошачку папраўляцца. Наяжджаючы зрэдку ў маёнтак, пан Вальвацкі задаволена ляпаў Швэнцара па плячуку і згаджаўся з усімі яго плянамі, калі яны не патрабавалі шмат грошай. Гаспадарская пахвала ласкатала Швэнцараў гонар спэцыяліста, майстра свае справы, і ён яшчэ больш стараўся, хоць ня раз зьняважліва ўсьміхаўся, гледзячы на чалавека, які больш нічога ня ўмее рабіць, як толькі прагульваць тое, што зроблена іншымі. Аднаго разу вясною Швэнцару ўдалося вывезьці пана Вальвацкага ў поле, каб агледзець палеткі і паказаць, дзе і што ён мяркуе рабіць. Праяжджалі паўз лес. Справа на вялізным зялёным абшары куп'істага забалочанага і замшэлага лугу рассыпалася стракатая чарада кармянецкіх кароў, што лавілі шурпатымі языкамі рэдкую маладую асочку. Швэнцар быў абражан у сваіх пачуцьцях спэцыяліста і дзівіўся з барбарскага спосабу скарыстаньня лугу. Блытаючы расійскую этымалёгію і сынтакс, дабаўляючы значную порцыю нямецкіх слоў, Швэнцар горача даводзіў пану Вальвацкаму, што гэты луг, калі за яго добра ўзяцца, можа даць трыста пудоў з дзесяціны найлепшага сена. Пан Вальвацкі лагодна пасьмейваўся з Швэнцаравай ламанай гаворкі і з яго энтузіязму, але, вярнуўшыся дадому, зараз-жа загадаў парабком сагнаць з лугу кармянецкія каровы. Загад быў выкананы: праз гадзіну, грузнучы па чэрава ў лагчынах, чарада валам валіла з лугу да поля. Пастушкі спуду пабеглі ў вёску скардзіцца бацьком, а каровы разышліся па палетку, шукаючы сабе спажывы на межах і на палосках раньняга пасеву, якія пасьпелі ўжо зазелянець. Назаўтра пастушкі зноў пагналі каровы на луг, а за імі назіркам ішлі бацькі з дручкамі. Некаторыя паглядалі з дому з-за вугла сьвірна альбо варыўні. Як толькі пасланыя панам парабкі пачалі займаць чараду, кармянчане густа пасыпалі на луг, хто з поля, хто з лесу, хто з вёскі. Парабком зусім не хацелася падстаўляць свае галовы пад кармянецкія дручкі за панскія інтарэсы. Яны пакінулі каровы і, адышоўшыся да лесу, паглядалі, што будзе далей, бо ля чарады застаўся адзін панскі падлізьнік і падбрэхіч. Ён пачаў агрызацца і лаяцца з кармянчанамі. Ад лесу парабкі бачылі, як замітусіліся і зьвіліся ў клубок мужчыны, а пасьля пачалі паволі разыходзіцца. Вярнуўшыся, парабкі знайшлі падбрэхіча з пераламанай рабрынаю і бяз двух пярэдніх зубоў.

Пан Вальвацкі запрасіў каморніка і загадаў яму абмераць і аслупаваць луг, адзначыць такім чынам мяжу, каб пасьля можна было засудзіць кармянчан за самаўпраўства і за парушэньне мяжы. Лінія вызначалася новымі хваёвымі слупкамі і прайшла каля самых кармянецкіх палос па лагчыне, дзе некалі была пракопана канава для асушкі, мусіць яшчэ за паншчыну. Цяпер гэта канава заплыла гразёю,

скупа зарасла зьверху травою і ня раз прыходзілася кармянчанам выцягваць з яе вяроўкамі свае каровы.

Кармянчане панура і маўкліва паглядалі здалёк на каморнікаву работу. З «казённым» чалавекам займацца не хацелі, але за ноч усе слупкі былі вырваны і пашчапаны на друзачкі: не хацелі кармянчане прызнаваць ніякай мяжы, бо лічылі, што гэты луг належыць ім здавён. Вось тагды і зьвярнуўся пан Вальвацкі да валаснога начальства, да станавога, да спраўніка, каб памаглі супакоіць «бунтаўшчыкоў». А кармянчане, каб лепш замацаваць за сабою луг, надумаліся грэблю зрабіць цераз гразкі роў, каб не цягаць з яго вяроўкамі сваіх кароў, каб на луг можна было і коні давесьці

Калі прыехалі восем конных стражнікаў і з імі Сомік (усё, чым мясцовае начальства магло дапамагчы пану Вальвацкаму), пан Вальвацкі сядзеў на краі лесу і пакручваў у руках дубальтоўку, паставіўшы паміж кален прыкладам на мох. Водаль слуга трымаў за павады пару асядланых коняй. Ня гледзячы на цёплае надвор'е пан Вальвацкі быў у каўкаскай кучумцы і ў бурцы. Ён час ад часу абыякава пазіраў на кармянчан, якія мітусіліся з рыдлёўкамі і сякерамі каля рова, дзе мелася быць грэбля. Усіх іх было чалавек дваццаць. Бабы з высокападаткнутымі падаламі, мужчыны з падкасанымі калошамі. Там ляжала ўжо вазоў са тры яловых лапак, некалькі пятоўстых бярвеньняў, прывезьлі тры вазы пяску: работа толькі што пачыналася. Па тым, як пан Вальвацкі паглядаў на кармянчан, можна было падумаць, што гэта яго зусім не абыходзіць, што можа ён нават сам наняў сялян на гэту работу і цяпер толькі наглядае, каб не ленаваліся.

Калі пад'ехалі стражнікі, пан Вальвацкі таксама абыякава глянуў на іх. Старшы пад'ехаў і, прылажыўшы руку да казырка, адрапартаваў. Сомік бачыў, як пан Вальвацкі шавяльнуў губамі і кіўнуў на кармянчан, якія стаялі цяпер на тым баку рова і з варожай цікаўнасьцю паглядалі на стражнікоў. Старшы скамандаваў і сам прышпорыў рыжага гладкага жарабца, накіраваўшы на кармянчан. За ім, нарыхтаваўшы нагайкі, памкнуліся ўсе стражнікі. Старшы хацеў змаху перамкнуць цераз роў, але жарабец пад ім залапатаў і сеў у гразі. Старшы саскочыў і зьбянтэжана пачаў торгаць за павады. Конь яшчэ раз добрасумленна папяўся, каб зьмяніць ногі, але заехаў яшчэ глыбей. Тагды больш і не турбаваўся, толькі задзіраў галаву, каб засьцерагчы мысу ад гразі, і пачаў нават згрызаць асочку, калівы якой тарчалі перад самай яго храпай. Старшы агледнуўся на стражнікоў. З іх ніхто не адважыўся ўехаць у роў. Пачалі злазіць з коняй. Кармянчане стаялі таксама моўчкі і зларадасна пасьміхаліся.

Трэба было ратаваць жарабца, але нікому з стражнікоў не хацелася разувацца, распранацца і лезьці пэцкацца ў гразь. Ад гэтага яшчэ большая злосьць была на тых, што варожым натоўпам стаялі на тым баку рова.

— Што зубы скаліце!—затрымцеў Сомік, сьціскаючы ў руцэ нагайку.—Марш каня цягаць!

Ніхто за ровам ні зварухнуўся, ні аказаўся, толькі ўсіх погляды накіраваліся на яго.

— А, вы так!..—Ён перадаў каня свайго другому і, балянсуючы ў паветры рукамі (у аднэй была нагайка), пашоў цераз роў па асьлізлай ад гразі жардзіне. На тым баку ўсё маўчалі і ня краталіся, толькі пераводзілі погляд, то на глянсаваныя Сомікавы боты, што асьцярожна ступалі па жардзіне, то на нагайку, якая з кожным рухам матлялася ў далёка адстаўленай Сомікавай руцэ. Калі Соміку заставалася крокаў тры да другога берагу, сухарлявая чарнавалосая жанчына, што стаяла наперадзе, моўчкі схапіла ў прыгаршчы рэдкай гразі і ляпнула Соміку ў твар. Ляпнула яна так спрытна, што залятіла левае вока, усю шчаку і нос.. Страціўшы раўнавагу, Сомік шабулдыхнуў у калатушу і ўехаў аж па пояс. Пачаў праціраць вока і яшчэ горш размазаў гразь па твары.

У пана Вальвацкага даўно зьнікла з твару міна абыякавасьці. Калі Сомік, прамываючы ў лужынцы залепленае вока, глянуў другім на пана, той аж ледзь не да сьлёз рагатаў, гледзячы на Соміка. Старшы усё яшчэ трымаў повад свайго жарабца і, паглядаючы то на Соміка, то на пана, зьбянтэжана ўсьміхаўся, не разумеючы, чаго пан рагоча, калі трэба абурацца.

Ад сораму і злосьці кроў зашумела ў Сомікавай галаве. Яшчэ добра не прамаргаўшыся, ён вылез з рова на той бок і, сашчапіўшы зубы, моўчкі пашоў на чарнавалосую жанчыну. Яна аступалася задам, наставіўшы запэцканыя ў гразь рукі. Раптам Сомік скочыў, схапіў яе левою рукою за хустку разам з валасамі і пачаў паласаваць нагайкаю. З перакрыўленым ад болю тварам жанчына курчылася, выгіналася і круцілася вакол Соміка, а ззаду ў яго з плачам мітусілася дзесяцігадовая дзяўчынка. Яна трымала паднятую ўгору рыдлёўку і ўсё забягала, каб выцяць ею Соміка. Але Сомік круціўся разам з жанчынаю і дзяўчынка не магла добра нацэліцца. Барадаты шыракаплечы дзядзька раптам адлучыўся ад маўклівага натоўпу і падаўся да Соміка з паднятай сякерай. Пан Вальвацкі ўскінуў да пляча дубальтоўку і, не ўстаючы з пня, стрэліў. Сякера выпала з рук. Барадаты замахаў у паветры рукою, схапіў у рот прастрэленыя шротам пальцы і зноў замахаў у паветры. Сомік выпусьціў жанчыніны валасы і абярнуўся на стрэл. Тагды нарэшце дзяўчынка стукнула яму рыдлёўкай па галаве.

Слабы быў дзіцячы ўдар, але Сомік схапіўся за галаву і прысеў. Кроў цякла па патыліцы і капала на ўсё яшчэ бялюткі на плячах кіцель.

А там па накіданых насьпех яловых лапках перабіраліся цераз роў іншыя стражнікі, стралялі на бягу, покуль што ў паветра. Крайнія з натоўпу пачалі аступацца і цісьнуцца. Над імі засьвісталі нагайкі. Натоўп рынуўся ў роў з лаянкай і праклёнамі, з жаночым віскам і дзіцячым плачам. Выбраўшыся з гразі на другі бок, рассыпаліся па полі, бягучы нацянькі да вёскі. Стражнікі кінуліся на той бок па тых самых яловых лапках і ўскочылі на коні. Сомік не

адставаў, ня гледзячы на больку. Ускочыўшы на сядло, ён бязьлітасна ціскануў каня шпорамі і той вынес яго на самы берат.

Толькі цяпер пан Вальвацкі ўстаў з пня і зрабіў шпаркіх пятнаццаць крокаў, каб лепш відаць было, што робіцца на полі.

З-пад конскіх капытаў высока ўзьляталі камякі сырой зямлі з зялёнымі ўсходамі. Стражнікі нагналі ўжо кармянчан і, нагінаючыся з сядла, апускалі нагайкі на сялянскія сьпіны. Жанчыны падалі з разьбегу ў мяккую ральлю, мужчыны прысядалі і хапаліся за балючае, расьсечанае нагайкаю месца.

Здаволеная ўсьмешка кранула губы пана Вальвацкага. Ён адышоўся, зноў сеў на пень і загадаў слузе прыгатаваць коні.

Калі стражнікі вярнуліся, пан Вальвацкі сядзеў ужо на вараным жарабцы, які перабіраў нагамі, і прасіў повада. Пан Вальвацкі паківаў пальцам, падзываючы Соміка. Той пад'ехаў, перапэцканы ў гразь. Па патыліцы яшчэ цяклі павольна рагі густой і ліпкай крыві. Згусткі яе сьпякаліся ў скарэлых валасох.

— Маладзец, добра працуеш—пахваліў пан Вальвацкі.

— Рад старацца, ваша сьветласьць!—прыглажыў Сомік руку да лба, забыўшыся, што ён бяз шапкі.

— Вось маеш на гарбату,—пан Вальвацкі дастаў з пулярэса новую траскучую дзесяцірублёўку.

— Пакорна благадарым, ваша сьветласьць!—гаркнуў Сомік і зямёр на сядле.

Пан Вальвацкі крануў шпорай вараны жарабцоў бок і ўзяў з месца галопам па ляснай дарожцы.

---

Перад Сомікавымі вачыма ва ўсёй яскравасьці ўставаў малюнак перажытага тагды моманту і калёрытная постаць пана Вальвацкага. Ён уяўляў, што і цяпер убачыць пана Вальвацкага такім самым маладым з маленькімі чорненькімі вусікамі і ў каўкаскім убраньні. Напэўна ён убачыць пана на ганку свае камяніцы. Той, можа рыхтуючыся на паляваньне, будзе пакручваць у руках дубальтоўку,—як тагды, седзячы на пні. Ён убачыць стомленага Соміка, спачатку не пазнае і насупіцца, а потым успамяне, твар яго пасьвятлее і ён пачне распытвацца. Пашле на кухню і загадае, каб накармілі. Скажа, пакуль што, аддыхаць. Вярнуўшыся з паляваньня, паклапоціцца даць яму работу. Мо пакіне ў сябе ці яшчэ лепш—прыстроіць у горадзе.

За гэтымі сваімі марамі Сомік не заўважыў, як прайшло шмат часу, ня чуў, што нудліва ньюць стомленыя ногі, што ломіць у каленях. Ён нават зьдзівіўся, калі заўважыў перад сабою нявыразныя абрысы стрэх; зьлева цёмная палоса—хвойнік. Ад гэтай вёскі да мяжы ўсяго чатыры кілёмэтры, прайшоў-жа ён сямнаццаць, мінуўшы Піліцу і яшчэ два невялічкія пасёлкі.

Сомік у вёску ўвайсьці пабаяўся. Ён успомніў, што цераз лес наўскасы была дарога. Па гэтай дарозе ў дваццатым годзе Сомік

уцякаў з чырвонаармейскага абозу, зьвярнуўшы ноччу з воза ў роў скрынкі з штабнымі паперамі.

Ён зьвярнуў у хвойнік. Дарогі там не знайшоў і пашоў па цаліне ўздоўж хвойніка, пакідаючы вёску справа і трымаючыся так, каб відаць было поле. Страціў дарэшты адчуваньне часу, ня ведаў, ці йдзе ён ля хвойніка ўжо некалькі гадзін, ці толькі пяць хвілін. На мяжы ні разу раней ня быў і ня ведаў добра, якая яна. Ведаў толькі, што там павінны быць слупы. Думаў, што гэтыя слупы ён убачыць яшчэ здалёк, што паміж слупамі ёсьць яшчэ напэўна глыбокі роў, ці якая небудзь загарада. Ён яшчэ добра сабе не ўяўляў, як будзе цераз такую мяжу перабірацца. І раптам зусім нечакана здрыгануўся ўсім целам:

— Лажыся!

Зразу нават і не паверыў, што гэта ўжо і ёсьць тое, самае страшнае. Усё кругом было да недарэчнасьці звычайным: той самы хвойнічак, поле, там далей—некая будынiна...

Ашаломлены, на момант спыніўся. У прагаліну паміж хвоек убачыў—двух з вінтоўкамі. Тагды зразумеў: рвануўся цераз поле западаючы глыбока ў сьнег. Ведаў, што недзе тут яна, што можа пятнаццаць, можа дваццаць крокаў яму трэба прабегчы. Мераў вокам адлегласьць ад тых, што беглі яму наперарэз. Чакаў—вось, вось грымне стрэл, адчуваў нават мясьціну на левым баку, куды трапіць куля, і ўсё такі бег далей.

Зыкнула зьедліва перад самым носам, аж Сомік інстынктыўна матнуў галавою, як конь ад заядзі. Зрабіў яшчэ тры крокі і ў наступны момант торкнуўся ў пульхны сьнег агністым шчаціньнем барады.

## ПАПРАЎКА

Павольна зрасталіся патрушчаныя Рыгоравы косьці. Зіма ўжо на другую палову перабралася, з гары пачала спускацца, а ён усё ляжаў у лубках і бінтох. Першыя дні, як палажылі ў бальніцу, быў зусім слабы, нічым наўкольным ня цікавіўся і погляд яго быў такі, нібы ён сабе ў нутро глядзіць. Пры ім начавала першую ноч, а пасьля часта наведвала, жонка. Марыля гаварыла ціха і журботна, скардзячыся. Сьлёзы беглі па яе яшчэ больш схудзелым твары, тагды яна змаўкала і старанна ўціралася хвартухом. А ён доўга і сур'ёзна глядзеў ёй у твар ня мігаючы, пасьля адварочваўся і пачынаў драмаць. Нават калі на чацьвёрты ці на пяты дзень замест Марылі прышла Шура, ён ня зьдзівіўся і асабліва не зацікавіўся. Не папытаўся нават, як яна прыехала—на некалькі дзён, на доўга ці можа зусім? Калі сама яна сказала, што ўзяла водпуск на год, і паедзе зноў вучыцца налета ўвосень, дык ён толькі галавой кіўнуў і нельга было пазнаць, ці гэта яго здаволіла, ці ён гэтым толькі паказвае, што чуў Шурыны словы.

Пра стан бацькавага здароўя Шура распытала ў доктара і ў хворага асабліва не распытвалася, каб не турбаваць. Яна толькі

трохі адкрыла коўдру і глянула. Бацькавы забінтаваныя ногі ляжалі простыя і тоўстыя, як бярвеньні. Бровы яе зьбегліся на пераносьсі і ўвесь твар сабраўся ў жаласьлівы камяк.

— Баліць?—спыталася, накрываючы.

Ён зноў толькі ледзь кіўнуў галавою.

Разы два прыходзіў нейкі з партфэлем, шастаў белымі аркушамі паперы і па ёй, усьлед за Рыгоравымі словамі, жвава скакаў аловак. Рыгор гаварыў цераз сілу, з натугай, быццам адпіхаў ад сябе нешта грузнае і неадчэпнае.

З усяго, што тагды здарылася, ён яскрава помніў два моманты: як Грамабой паклікаў Соміка за шліхту закурваць і як неўзабаве загрукатаў зьверху кавалак. Як падбег Сьцяпан з Баранком і як, вышаўшы аж з-за чацьвертай шліхты, цягнуў яго з-пад кавалка Грамабой, ён гэтага не памятаў. Калі загрукатаў кавалак і ён рвануўся, каб уцячы, тагды маланкаю ўрэзалася ў сьвядомасьць адчуваньне няміңучай бяды і ўпэўненасьць, што гэта—яны ўдвух. Цяпер ён усё гэта пераказваў сьледчаму і ўпэўнена гаварыў, што Грамабой з Сомікам скацілі на яго кавалак.

Ускорасьці аднаго дня Шура сказала, што Грамабоя арыштавалі. Рыгор успрыняў гэта, як нешта няміңучае і даўно для яго вырашанае, ніби гэта Шура сказала, што на двары пашоў дождж, калі ён сам бачыў, што нахмарылася і чакаў гэтага дажджу,—так ён упэўнены быў у вінаватасьці Грамабоя.

— А той як?—прашавяліў губамі.

— А той так і не вярнуўся. Дагэтуль яшчэ не знашлі.

— Гад,—і губы яго перакрывіліся злосьцю.

Разам з тым, як патроху сьціхаў боль і варочаліся сілы, ён усё больш цікавіўся тым, што робіцца наўкола і перш за ўсё, што робіцца дома ў хаце, у вёсцы. Сам прабаваў распытвацца. Ахвятней гаварыў з Шурай. Яна мацней трымалася, не бедавала і ня плакала перад ім і яму з ёю лягчэй было. Калі-ж прыходзіла Марыля, ён гаварыў куды менш, старанна абыходзячы самае балючае. Калі яна пачынала хліпаць і выціраць вочы, насуплівался і адварочваўся.

Праз тры дні ніхто ня прыходзіў даведацца. Рыгор пачынаў непакоіцца, каб дома чаго ня здарылася. На чацьверты дзень прышла Марыля. Ён дапытліва глянуў ёй у твар, і заўважыў, што сёньня яна шмат весялейшая. Тагды супакоіўся і чакаў, чым пахваліцца.

— Ляжыш вось, а мы й малацьбу без цябе змалацілі,—ня ўтрывала яна доўга.

— Як-жа гэта вы ўправіліся?—зьдзівіўся і відавочна ўзрадаваўся ён. Увосень за школаю ды за іншымі справамі ён толькі жыта на насеньне акалаціў ды змалоў крыху, і цяпер яго турбавала думка пра малацьбу, толькі не хацеў жанком казаць пра гэта, бачыў, што ім і так крута.

— Юзік, дай яму бог здароўя, з малатарняю падскочыў. Некаторыя хаўрусьнікі, чуваць было, трохі крывіліся, але Сьцёпка за Юзіка ўзяўся. Аўдоля памагла, Сьцёпка, Якуб. За два дні памаленьку і

ўхадзіліся. Першы дзень жыта змалацілі, а на заўтра ярыну... Я й сама памагала трохі, коні паганяла.

— Дзе-ж вы каня другога дасталі?

— Сьцяпан нашых свайго даў. Я хацела ўжо ў Аўдолі прасіць, дык як пачуў, што малаціць будзем, сам сказаў.

— І рабая-ж наша ўчора ацялілася. Цялушку прывяла, ды такая-ж зграбная,—памаўчаўшы пахвалілася Марыля. Яна бачыла па твары, што яму прыемна чуць гэтыя навіны, і перабірала ў думках, чым бы такім яшчэ яго парадаваць.

Узбуджанаму прыемнымі навінамі і павесялеламу Рыгору захацелася нават сесьці і пагаварыць. Ён апёрся абедзьвюма рукамі і папрабаваў устаць, але охнуў і кінуўся зноў на падушку.

---

Юзік ня толькі з малацьбою памог Рыгоравай сям'і. Ці можа таму, што па-суседзку Шура часта была ў Верамейчыкаў і Юзік ведаў яе і матчыны клопаты, ці можа тое, у чым Юзік не асьмельваўся сам сабе прызнацца—сама Шура была тут прычынаю, што ён часьцей і ахвотней за іншых памагаў ім у патрэбны момант. Ён бачыў, што Шура крэпіцца і стараецца трымацца бадзёра, успамінаў, з якою радасьцю яна ўвосень сустрэла паведамленьне аб тым, што залічана ў тэхнікум і разумеў, чаго ёй каштавала цяпер так трымацца. Можа таму так уважна, хоць неўзаметку ўглядаўся ёй у твар, лавіў новыя ноткі ў яе голасе. Ідучы пад калодзеж аднаго разу, убачыў—Шура сані выцягнула, рубель кладзе на воз, вілкі, вяроўкі. Падышоў, глядзіць з усьмешкай, як на малое дзіця, якое пераймае работу дарослых.

— Куды гэта ты рыхтуешся?

— Сена ўсё вышла. Там мурагу трохі ёсьць, дык шкада даваць карове, каню трэба пакінуць. На балоце стажок асакі стаіць, паеду прывязу.

— Адна й паедзеш?

— Адна.

— Што-ж ты там узложыш адна? Капу сена.

— Колькі ўзлажу. Буду езьдзіць штодня, пакуль не перавязу.

— Папрасіла-б каго.

— Папросіш ды не паслухае, дык толькі сорам будзе. Сьцёпка, ведаю, не адмовіўся-б, дык ён у лес ходзіць у заработкі. Я не хачу, каб праз мяне ён дзень траціў. Якуб паслухаў бы, дык таму й свае работы цяпер па горла—дзерава на пасёлак возіць. А больш я ня ведаю, каго й прасіць.

— А ты-б мяне папрасіла, то я-б табе й памог.

— Дык давай, можа, я цябе папрашу,—засьмяялася Шура.

— А я й не адкажуся.

Прышоўшы да дому, ля дзьвярэй Зосю стрэў з ражкаю, сьвіньні несла.

— Шура просіць, каб памог ёй сена прывезьці,—з наўмыснай абыякавасьцю адвёў вочы ў бок, чакаючы адказу.

— Дык можа-ж работы пільнай няма, паедзь памажы,—а сама вокам кінула неўзаметку. Здалося—павясялелі трохі Юзікавы вочы.

Не распранаючыся, сёрбаў гарачую зацірку, каб Шура не прачакалася. На балоце, кладучы воз, ні на хвілiну ня мог забыцца, што гэта ён з Шураю, любаваўся, як яна, стоячы на стозе, узьдзірае вілкамі пласты сена і кідае яму на воз, як ад работы і ад марозу разружавеўся яе твар, і як рэзка ляглі на ім, выбіўшыся з-пад хусткі, пасмы чорных валасоў. Лавіў яе погляд і тагды ўсьміхаўся бяз прычыны, а яна быццам не заўважала і зноў нагіналася над сенам. Калі дома скідалі сена ў адрынку, не ўцярпеў, набраў вялізарны ахапак і, быццам незнарок, закідаў ім Шуру, зьбіўшы з ног. Яна сьмяялася, валтузілася ў сене, стараючыся вылезьці, а ён прасіў прабачэньня, сьпяшаўся быццам памагчы і яшчэ больш закідваў яе сенам. Нарэшце яна выбралася і, выбіраючы сена з валасоў, пагразіла яму пальцам:

— Ой, раздурэўся нешта дзядзька! Нябось скажу цётцы.

— Гэта я дзядзька?!—зьдзівіўся Юзік.

— А ты-ж за мяне гадоў на дзесяць, мусіць, старэйшы. Якраз бы мне цябе дзядзькам зваць.

Юзік памкнуўся да яе з выразным намерам злавіць і пакараць за такое злачынства, але яна спрытна крутнулася паўз яго і апынулася на дварэ.

Юзік думаў, што Зося, занятая дзіцем, не заўважае яго прыхільнасьці да Шуры: не ўспамінала яму ніколі з таго разу, як Шура прыходзіла разьвітвацца; ды не рабіў ён нічога такога, што магло-б кінуцца ў вочы. Тым больш зьбянтэжыўся ён, калі аднаго разу, ня то жартам, ня то напраўду, папікнула яна Шурай. Старых ня было ў хаце. Малы гуў нешта сам сабе ў калысцы, размахваючы кулачкамі, лавіў неспадзеўкі сваю ўласную нагу і цягнуў яе ў рот. Юзік нагнуўся над калыскаю пазабаўляць. Малы, кінуўшы сваю нагу, уплёўся аберуч Юзіку ў валасы.

— Ай жулік! Дык гэта ты бацьку за валасы?!—скрывіўся Юзік.

— Маладзец, Аркадзік, трымай яго, каб да Шуры ня ўцёк,—адгукнулася Зося ад печы.

— Дурная ты, скажы, мама. Што ты на тату плёткі ўзводзіш?—і Юзік знарок не адыходзіў ад калыскі, каб Зося не заўважыла зьбянтэжанасьці на яго твары. І ён думаў, што сапраўды тут мусіць нешта ёсьць, калі ён не адважваецца глянуць Зосі ў вочы. Хацеў разабрацца, якое месца займае ў яго думках Шура, ці адсунула яна хоць на макулінку Зосю ў яго пачуцьцях. Здавалася, што не. Наадварот: з таго часу, як нарадзілася дзіця, Зося яму стала яшчэ бліжэйшаю. Але ў Шуры ён бачыў тое, чаго не хапала Зосі. Тое, што ён хацеў бы мець у аднэй жанчыне, тут падзелена было паміж дзьвюма.

Раптам ён сябе злавіў на тым, што думае пра каханьне, і гэта вельмі падобна на тое, што ён некалі чытаў у аднэй кніжцы. Там людзі кахаліся, кахалі разам па дзьвюх і па двух, думалі пра гэта цэлымі месяцамі ці нават гадамі і больш нічога не рабілі. Ды ім і

Бекер

рабіць ня было чаго. Праўдзівей—патрэбы ня было рабіць. Ім заўсёды было і паслана, і прыбрана, і на стол пададзена. Яны нават ня ведалі, не хацелі ведаць, адкуль гэта ўсё бярэцца. Ім усяго й клопату было, каб чым небудзь заняць вольны час, якога ў іх было—цэлае жыцьцё. Ён параўнаваў сябе з тымі людзьмі і сам засьмяяўся. Зараз-жа апрануўся і вышаў за некаю работаю.

Юзіку сапраўды ня было калі думаць пра свае пачуцьці. У яго была яшчэ адна ўлюбёная, пра якую ён найбольш думаў і клапаціўся ўсю восень і палову зімы,—малатарня.

Цяжка было пераканаць мужчын, перамагчы іх недаверлівасьць, боязнасьць, што іх тут ашукаюць, і тагды прападуць набытыя мазалямі рублі. Яшчэ цяжэй было самому вырваць у бацькі грошы, патрэбныя на пай. Думаў спачатку на старане дзе небудзь шукаць, у чужых людзей, у суседзяй, ды ня было ў каго вельмі прасіць. У каго былі, дык Юзік ведаў, што той яму ня дасьць, а хто даў бы, у таго ў самога лішніх ня было. Падумаў пра тое, што ён таксама мае правы на гаспадарку, што ён дамагаецца грошай на карысную справу і карысную ня толькі для сябе, і намерыўся ісьці да канца—цераз бацькаў аўтарытэт, праз агіду сваркі, крыкаў і кленічаў. І цяпер яшчэ прыкра і агідна ўспамінаць пра тое. Праз два дні, ня сьціхаючы, калацілася Верамейчыкава хата. Бацька патраціў ужо ўвесь запас сваіх кленічаў, змогся, мацюкаючыся і плюючы, і падрэшт, зьбялелы, схапіў палена з-пад прыпечка. Ды тут Піліпка з плачам павіс у яго на руцэ і людзі чужыя, счуўшы немы хлопцаў крык, прыбеглі разбараняць. Зося рада была адрачыся ўсяго і сысьці куды небудзь у сьвет, каб і вушы яе ня чулі гэтага пекла, а Юзік усё стаяў на сваім: «Давай грошы, а не—усю частку, што мне з гаспадаркі належыць». Бацька так заеўся, што гатоў быў хутчэй на падзел згадзіцца, як перапусьціць Юзіку. Але старая, відаць, адгаварыла яго ад гэтага. Яна ўсё яшчэ ня траціла надзеі, што Юзік нарэшце куды небудзь выкруціцца і тагды ўся гаспадарка Піліпку застанецца. На трэйці дзень бацька кінуў перад Юзікам на стол дваццаць рублёў:

— На, душыся!

Юзік крыва ўсьміхнуўся, хаваючы грошы ў кішэнь.

Затое з якою гаспадарскаю зацікаўленасьцю пераходзіў ён ад аднае малатарні да другой у Менску на складзе, пакуль не перабраў па тры разы ўсе да аднае! З якой уважлівасьцю перамацаў кожную шрубу й кожны зуб на барабане! З якой асьцярогаю памагаў класьці на воз і везьці дадому.

Але самы яскравы момант, які надоўга застанецца ў памяці тых, хто там быў, пра які нельга забыцца, гэта калі сталі дзьве малатарні адна проці другой, як батарэі дзьвюх варожых армій. Знарок так уладзілі: да Аўдолі пашлі малаціць у той дзень, калі Грамабой узяў Каржакевічаву малатарню. А гумны іх—вароты проці варот,—на суседнім прыгуменьні цераз плотчык усё відаць. Бачылі, як нэрвова сам Каржакевіч падаваў цапы, як некалькі разоў спыняў малатарню і нешта ў ёй падкручваў, як Грамабой хадзіў насуплены і грозіў

вілкамі меншаму сыну. Пасьміхаліся, і яшчэ большая ахвота брала да работы. А ў перапынак Пошта, сам член таварыства, і «машыністы», адхарквзючы густую і чорную ад пылу сьліну, ківаў галавою ў бок Каржакевіча:

— О, няхай цяпер сам паглытае пылу, пакаштуе, што за смак.

Па паўдні Каржакевіч ня вьцерпеў. Прышоў да Аўдоліных варот, калі хлопцы пачалі закурваць. Абышоў кругом, агледзеў, кола пакруціў, у барабан глянуў:

— Ну як яна?

— Куды, твая й блізка не стаяла каля яе,—хваліцца Пошта.

— Аднае-ж фабрыкі, здаецца,—кажа Каржакевіч.

— Дарма. Твая ўжо старая, зубы пазьлізваліся, каласы цэлыя пускае.

— Ну, малацеце здаровы. І маёй лягчэй будзе, а то адна на ўсю вёску была,—а рудыя вочкі бегаюць, проста ў твар глянуць ня могуць.

— Цяпер ваша спакойна можа адпачыць,—круцячы цыгарку, нібыта зусім сур'ёзна гаворыць Сьцёпка. А для Каржакевіча гэтыя словы гучаць: «Зьеш ты сам тое, што нам зычыш». Усе разумеюць іронію Сьцёпкавых слоў і адводзяць погляд, хаваючы ўсьмешку.

Адпачыць Каржакевічавай малатарні сапраўды прышлося гэту зіму. Хаўрусьнікі зразу пачалі браць за сваю чатыры рублі ў дзень, а хто хацеў, мог і жытам плаціць—па каапэрацыйнай цане. А тагды і Каржакевіч спусьціў цану на чатыры пуды, а пасьля й зусім на тры. Але ўсё радзей ішоў ён цяпер з малатарняю: ранейшых заработкаў ня было, а другога машыніста на месца Пошты, якога перацягнула да сябе таварыства, таксама не знашоў яшчэ.

---

Ад таго, як Рыгор лёг у бальніцу, усе абавязкі члена сельсавету па Мядзьведзічах прышлося выконваць аднэй Аўдолі. Прыехаў хто небудзь з раёну, перш-на-перш да Аўдолі: так і так, трэба сход склікаць. Устае Аўдоля з прасьніцы, альбо з-за красён, кажушок на плечы, палку ў рукі і пашла па падвоканьню. Здохла ў каго небудзь карова ці конь, да Аўдолі ідуць: трэба, каб член сельсавету пасьведчыў, што сапраўды само здохла, а так і даведкі старшыня сельсавету ня дасьць, і страхоўкі не атрымаеш. Паб'ецца брат з братам, альбо мужык з жонкай, зноў, пакуль суд ды справа, Аўдолю клічуць. Ня надта хочацца ёй умешвацца ва ўнутраныя справы, падлічваць, хто каму больш сінякоў насаджаў, ды нічога ня зробіш,—улада. Спачатку саромелася трохі, не магла прывыкнуць, што гэта яна таксама начальства. Прыдзе чалавек з бядою да яе, а ёй здаецца, што гэта ён нарокам, дзеля прыклепу, абы чаргу адбыць, а напраўду— за нішто яе лічыць. А потым прывыкла патроху, перастала саромецца і нават ганарылася, што і мужчыны па яе дапамогу прыходзяць. І старалася. Сваю работу кіне, а калі па сельсавецкай справе, што трэба, зрабіць, не марудзячы. З сельсавету паперка якая каму ці

лісты на пошце возьме, калі ў мястэчку бывае,—сама на двор прыгнясе, а там абавязкова яшчэ раз прачытае ўвесь адрас на канвэрце—няхай ведаюць, што яна таксама пісьменная. Бывае, даручыць ей старшыня сельсавету сход правесьці ў Мядзьведзічах, газэту дасьць ёй з пастановаю ўраду ці інструкцыю якую райвыканкомаўскую, то яна, прышоўшы дадому, разоў два яе прачытае сама сабе. Чаго не разумее, да Шуры пойдзе, каб тая растлумачыла. Будзе па некалькі разоў перапытвацца, хаця-б добра ўцяміць, што да чаго. Бываюць словы такія, што яна й ня чула раней ніколі, і выгаварыць іх—язык ня слухае. То будзе пераказваць, практыкавацца датуль, аж пакуль гладка ня пойдзе. Затое на сходзе тагды чытае, як рэпу грызе, толькі дзівяцца мядзьведзіцкія—калі яна ўсьпела так навучыцца!

Прышла аднаго разу Аўдоля да Шуры з некаю паперкаю. Пра справу гаворыць, а тут відаць, што самой карціць нешта, з языка просіцца. Шура заўважыла гэта па твары, чакала, пакуль Аўдоля сама пачне, але, бачачы, што тая не адважваецца, запыталася:

— Ты мусіць нешта сказаць мне хочаш?

— Па чым жа ты пазнала?

— Відаць, што пра адно гаворыш, а пра другое думаеш?

— Думаю ад ранку ўжо і надумацца не магу,—такую мне задачу задалі. Раяць мне ў партыю падавацца.

— Дык ты што?

— Бачыш-жа, што,—хаджу ды думаю. Гэта-ж я пашла сёньня ў сельсавет, а там Шнаркевіч. «Хадзем, кажа, на сход у мястэчка». «Мяне, кажу, там ня прымуць. Гэта-ж, кажу, у вас партыйны сход сёньня?» «А ты, кажа, гэта беспартыйная?»—а сам-жа ведае. Думала, пакпіць з мяне хоча, а ён кінуўшы жарты, ды на праўду: «Прынось, кажа, заяву да нас у ячэйку».

— А праўда, чаму табе і не падацца ў партыю?—сур'ёзна глянула ёй у твар Шура.

— А як-жа ды ня прымуць?

— Такую, як ты, прымуць,—упэўнена сказала Шура.

— Дык што-ж я за камуністка буду! Дурная, як авечка.

— Вучыцца будзеш. На сходы будзеш хадзіць. Кніжкі чытаць.

— А пакінь ты, я й слухаць не хачу. Выдумала невядома што,— замахала яна рукамі на Шуру.—Бяццам гэта лепшых за мяне ня знойдзецца. Давай вось лепш памажы мне паперку разабраць.

А праз некалькі хвілін, падняўшы галаву ад паперы, запыталася:

— Заяву гэта пісаную трэба падаваць? На словах нельга?

Шура ня зразу дагадалася, што гэта яна зноў пра партыю.

— Пісаную. Давай вось зараз напішам, калі хочаш.

— Не, пачакай, дай мне падумаць яшчэ,—адмовілася Аўдоля.

Прышла яна зноў да Шуры толькі праз два дні.

— Ну, дык давай напішам,—гукнула яна яшчэ з парога.

Гаварыла мацней, як звычайна,—хацела гэтым прыкрыць сваё хваляваньне.

— Садзіся пішы, а я падпішуся. Можа гэтак добра будзе?—спыталася ў Шуры.

А калі Шура палажыла на стале чысты аркуш паперы і, памачыўшы пяро, нарыхтавалася пісаць,. Аўдоля перапыніла яе:

— Не, гэтак нядобра будзе. Падумаюць, што я толькі расьпісацца і ўмею, пазнаюць, што ня тая рука пісала. Давай лепш я сама буду пісаць, а ты мне кажы што.

Старанна выводзіла кожную літару, баялася, каця-б не сапсаваць. Ад гэтага літары выходзілі яшчэ крывейшыя. На трэйцім слове зрабіла памылку, вярнулася назад, хацела паправіць і размазала пальцам цэлае слова. Прышлося папрасіць у Шуры чысты аркуш паперы.

Напісаўшы, уздыхнула з палёгкай, быццам гоні жыта зжала, ад постаці адагнулася. Сядзела, чакала, пакуль засохне, а тагды асьцярожна зложыла аркуш у чатыры столкі і палажыла за пазуху (быццам ніколі інначай папер не насіла).

---

Рыгор мог ужо сядзець. Калі не варушыў нагамі, яму здавалася, што мог бы ўжо ўстаць і пайсьці, як мае быць. Ён асьцярожна спускаў ногі з ложка і пробаваў, як яны служаць. Левая, разьбінтаваная ўжо з тыдзень, лёгка згіналася ў калене: пробаваў паварушыць пальцамі і ўсім ступянём—таксама нічога. Правая яшчэ ўсё была ўвязана. Болю ў ёй Рыгор не адчуваў, і доктар абяцаў, што хутка разьвяжа й гэту, дазволіць яму хадзіць, але Рыгору здавалася, што нага ня будзе гнуцца ў калене.

Шура, ціхутка адчыніўшы дзьверы палаты, спынілася ў парозе. Бацька, заняты сваімі практыкаваньнямі, нават не пачуў, калі яна ўвайшла. Узяўшыся аберуч за ложак, ён памаленьку прысядаў, стоячы на адной левай назе, а правую, забінтаваную і простую, як дудку, адстаўляў далёка ўперад. Пасьля ён выпрастаўся і асьцярожна абапёрся аб падлогу праваю нагою. Шура ўстрывожылася, каб не зрабіў сабе горш.

— Скажу я доктару, што-ж вы гэта робіце!—ціха сказала яна з парогу.

Бацька хуценька лёг на ложак і накрыўся. З-пад коўдры вытыркаў толькі яго твар—шырокі падбародак зарос даўно цёмнарусаю барадою. Рыгор вінавата ўсьміхнуўся, як дурасьлівы школьнік, якога настаўніца злавіла на месцы злачынства. Гэта ўсьмешка на заўсёды сур'ёзным і нават панурым бацькавым твары траха не да сьлёз расчуліла Шуру.

— Ня можна-ж гэтак, вы-ж можаце зноў пашкодзіць яе,—угаварвала яна, як малога, нагнуўшыся над ім.

— Я памаленьку, папробваць толькі,—апраўдваўся Рыгор.

Тое, што Аўдоля падалася ў партыю, зьдзівіла Рыгора сваею нечаканасьцю. Раней-жа ў яе, здаецца, ніколі й намеру такога ня было. Хіба яна цяпер так зьмянілася за гэты час? «Баба апярэ-

дзіла»—падумаў, горка ўсьміхнуўшыся.—«А ўсё калецтва гэта нарабіла». У яго зьявілася лёгкае пачуцьцё крыўды і незадаволенасьці сабою, падобнае да таго, калі, бывала, на полі ці на сенакосе выпярэджвалі яго дужэйшыя суседзі. І сапраўды, чаму яму самому ніколі ў галаву ня прышло падумаць пра гэта?

Шура пашла, а Аўдолін учынак усё ня выходзіў у яго з галавы. І да вечара і назаўтра, аж пакуль новая навіна не ўсхвалявала яго нанова і яшчэ мацней. З-пад арышту выпусьцілі Грамабоя.

— Жульніцтва! Подкуп!—збурыўся Рыгор.—Шкода, што мае ногі яшчэ ня служаць, сам бы пашоў.

Але Шура была ўжо ў пракурора і даведалася пра ўсе прычыны і пра стан усяе справы. На допыце Грамабой сказаў, што ён з Сомікам закурыў і пашоў, курачы, да свайго каня, які стаяў аж ля чацьвертай шліхты. А калі ён, пачуўшы крык, вышаў з-за шліхты, дык Сомік ужо ўскочыў на сані і хвастаў каня, а Рыгор ляжаў, прыдушаны кавалкам і каля яго ўвіхаліся Сьцяпан Варанец з Баранком. Тагды ён падышоў памагчы ім. Сьцяпан-жа з Баранком сьведчылі, што, толькі выехаўшы з весьніцы яны ўбачылі, як з шліхты каціўся кавалак, як Рыгор рвануўся, каб уцячы, і як кавалак яго нагнаў і падабраў. Пасьля выскачыў з-за шліхты Сомік і замахнуўся калом, каб прыкончыць Рыгора; але пачуўшы іх крык і ўбачыўшы самых, ускочыў на сані і памчаўся ў вёску. Пра Грамабоя яны пасьведчылі, што ён сапраўды вышаў аж з-за чацьвертай шліхты, дзе стаяў яго конь, і, падышоўшы, памог ім дастаць Рыгора з-пад кавалка. Супроць Грамабоя ніякіх довадаў больш ня было, апрача таго, што ён закурваў разам з Сомікам за шліхтаю, але-ж ён і сам зразу пра гэта сказаў. Тая-ж акалічнасьць, што Сомік зьбег адзін, гаварыла быццам за тое, што адзін ён і вінават у гэтай справе. Разгляд справы быў адложан да таго часу, калі будзе злоўлен Сомік. А калі Сомікаў канец стаў вядомы, справу пра замах на Рыгора зусім спынілі.

Ня гледзячы на тое, што фармальна Грамабоя нельга было абвінаваціць, і Рыгор гэта сам убачыў, калі даведаўся дакладна пра ўсе акалічнасьці справы, ён усё-ж ня мог пагадзіцца з думкаю, што Грамабой тут не вінаваты. Тая варожасьць паміж імі, якая ня раз раней выяўлялася ў дробных сутычках, пасьля выпадку з кавалкам павялічылася ў некалькі столак і вырасла ва ўпэўненасьць, што Грамабой з Сомікам змовіліся зьвесьці яго з сьвету. А калі сьледзтва ня можа выкрыць Грамабоевага злачынства, дык толькі па сваёй нядзбайнасьці, ці нядбайнасьці. І бальніцу ён пакідаў, а гэта перакананьне ў яго не слабела.

---

Ехалі моўчкі траха што ўсю дарогу, занятыя кожнае сваімі мысьлямі. Конь ішоў ступою, разьмякчаны адлігаю сьнег хліпка шуршэў пад палазамі, сані плаўна пакалыхваліся і ад гэтага думкі цягучыя, як гэты імжысты туман, яшчэ больш ахутвалі галаву. Адвыкшы ад сьвежага паветра, Рыгор зябка хутаўся ў каўнер кажуха, але вочы

яго, стомленыя чатырма сьценамі бальнічнага пакою, прыемна адпыхалі, праймаючы сьнегавыя прасторы аж да цёмна-сіняй стужкі ахутанага іміжыстым туманам лесу. Шура час-ад-часу нокала на каня, торгала лейцамі, замахвалася пугаю. Конь, амаль не прыбаўляючы ходу, баязьліва аглядаўся назад. Яна супакойвалася, і ён таксама супакойваўся і ішоў далей маруднаю мернаю ступою, заняты, мусіць, таксама сваімі, яму аднаму вядомымі, конскімі думкамі.

Шура крадкам паглядала на бацьку і на новую мыліцу, да якой яна ніяк не магла прывыкнуць. З маленства, яшчэ застаўся ў яе ня то страх, ня то нейкая грэблівасьць да мыліцы. У сувязі з мыліцай у сьвядомасьці яе ўсплывала ўсё жабрацтва і калецтва: людзі страшныя і няшчасныя, бязрукія, бязногія, з белымі сьляпымі вачыма, гарбатыя, бязносыя; людзі, якія жывуць, пакутуючы, абы як дажыць свой век, ад якіх яна дзяўчынкаю, як толькі згледзіць бывала, хавалася ў павець, на вышкі, альбо замыкалася ў хаце, залазіла ў кут пад лаву. Гэтыя ўражаньні маленства, мусіць, былі прычынаю таго, што бацькава мыліца сёньня так яе ўразіла і напужала. Яна бачыла, як бацька насілу ходзіць, няўмела яшчэ апіраючыся на мыліцу, як цяжка яму было сесьці на воз, і яе ўсю дарогу не пакідала думка— а што з бацькам будзе далей? Доктар, праўда, супакойваў і казаў, што бацька праз нейкі час будзе хадзіць бяз мыліцы, хоць будзе накульгваць, але яна баялася горшага. Думала пра тое, што вясною бацька, напэўна, ня здолее рабіць на поле, што тагды з імі будзе? Сама Шура ні араць, ні сеяць, ні касіць ня ўмее, маці нядужая,—ці гэта ў арэнду каму здаваць, ці як яно будзе? Паглядаючы на бацьку, яна дагадвалася, што і ён думае пра тое самае, што можа ў яго які небудзь намер пэўны ёсьць, ды вось маўчыць, не гаворыць пра самае важнае. Такі ўжо ў бацькі характар, ці мо' гэта ён Шуру малою яшчэ лічыць, што пра важныя справы з ёю не гаворыць. Думае адзін, а калі надумаецца, тагды ўжо скажа, як трэба рабіць у гаспадарцы.

Яшчэ не даяжджаючы да мядзьведзіцкіх могілак, Рыгор убачыў, што з весьніц выходзіць працэсія. Папа з дзякам і Васіля Крываножку з крыжам, ён пазнаў яшчэ здалёк. За імі на дрэўках матляліся пратэсы.

— Ці не памёр гэта хто?—спытаўся Рыгор, стараючыся разглядзець, хто ідзе за пратэсамі.

— Гэта-ж я забылася сказаць, Янычка памёр.

— Адкашляў сваё на гэтым сьвеце,—ня то спачуваючы, ня то іронічна сказаў Рыгор.

Неўзабаве выразна разгледзеў: Янычкаў сівы конь, на возе ўрачыста бялее труна. За возам, трымаючыся за задок развалак, з насупленай на вочы хусткай ідзе Марыська. Не пазнаць—ня то яна плача, ня то так працірае балючыя вочы. Грамабой бяз шапкі, урачысты і строгі, ідзе побач з труной. Разьмінаючыся з Рыгорам, першы схіляе галаву з засмучанай ветлівасьцю, такою штучнаю, на яго грубым твары. Рыгор глядзеў яму ў твар жорстка, ня мігаючы і не ад-

казваючы на прывітаньне. Тагды той хуценька адвярнуўся і жалобная маска зьмянілася грымасай нянавісьці.

— Гад, ой гад!—сказаў, разьмінуўшыся, Рыгор.—Морда, хоць ты яго жывога на неба бяры, а сам рад, што брата хавае. Цяпер ён гэту Марыську знарок уморыць, каб хутчэй усё падгрэбці.

— Мы ўжо на ячэйцы гаварылі пра гэта і ў сельсавеце гаварылі,—адказала Шура.—Дзён пяць таму назад, калі Янучка зусім ужо аслабеў, Марыля з Сьцёпкам пашлі і апісалі ўсю Янучкаву маёмасьць, каб Грамабой пасьля не ашукаў яе: не дажджэ ён тут вельмі пажывіцца чым. Яна, мусіць, ці не да брата свайго пойдзе, а калі не, дык трэба будзе падумаць, як далей быць.

---

Нага патроху папраўлялася, але ступаць ёю, як мае быць, Рыгор яшчэ ня мог. Апіраючыся рукамі аб лаву, ён пракульгаў з полу да стала. Адчыніўшы шуфляду, дастаў асадку з пяром і бутэлечку з чарнілам.

— Пашукай мне кусок чыстай паперы,—закамандаваў Шуры.

Шура трохі зьдзіўлёна, глянула на бацьку, але не паважылася папытацца, што ён надумаўся пісаць. Дастала аркуш лінеенай паперы і падала яму.

Рыгор разгладзіў паперу на стале і пачаў пісаць каструбаватымі буйнымі літарамі, прыпыняючыся і думаючы ледзь не над кожным словам:

**У камуністычаскую парцію**

ЗАЯВА

Прашу прыняць мяне ў камуністычаскую парцію, як я ёсьць мядзьведзіцкі бядняк і акціўны элямент. Гады і кулакі паламалі мне ногі, а я хачу зламаць ім карак. Дык няхай мяне камуністычаская парція навучыць, як ямчэй гэта зрабіць. Адзін гад споўз, не дапоўз, куды хацеў, да здох. Але ў нас у Мядзьведзічах і навокал яшчэ ёсьць такія гады, што мяне і савецкую ўладу хацелі-б на ражне бачыць. Парцейнаму не дазволена ў бога верыць і папоў слухаць, дык я з папом даўно ўжо гішэфту ня маю, а пра бога як мае быць яшчэ ня думаў, гэтымі днямі падумаю, у чым і распісваюся

РЫГОР ВАРАНЕЦ і член дымаўскага сельсавету.

Адчыняючы шуфляду быццам за некаю патрэбаю, Шура скасіла вокам на паперу і пасьпяшыла адысьціся, каб не паказаць радаснага ўзрушэньня, якое яе ахапіла. Мыліца, што адзінока ляжала на палу, цяпер здавалася ёй зусім недарэчнаю і непатрэбнаю такому моцнаму і дужаму яе бацьку.

*Канец першай кнігі*

Менск,
Кастрычнік 1931—
чэрвень 1932 г.

Янка Скрыган

# ЗНОЎ ПА ДАРОЗЕ[1])

## З кнігі „Смага“

Якая вялікая трагедыя зямлі, калі ёю ня можа камандаваць чалавек. І якая вялікая трагедыя чалавека, калі душыць, панствуе над ім зямля. *„Смага“.*

### 1

— Ну, што прыпамінаеш?—гаворыць ён усё яшчэ трымаючы маю руку у сваёй.—Не пазнаеш? А памятаеш, як два гады таму назад мы ехалі з Ульянаю—вы мяне з Грэску тады падвезьлі. Цяпер памятаеш? Ну, от бач—гэта той самы я і ёсьць. Перамяніўся? Ну, што-ж, усе старэем. Толькі ўсё-ж такі дужэем, ня горбімся. Ня хочам. А ты ўсё езьдзіш? Ну, і ладна—смалі. Толькі-ж да мяне не забудзься завярнуць. Вунь там я жыву, бачыш?—за ўзгоркам хаты. Ага. Ну от гэта наша і гняздо. Глядзі-ж, не забудзься даведацца.

І яшчэ раз паціснуўшы руку, ён пакрочыў у бок дарогі так, як тады, шырока ступаючы нагамі.

Гарасім шлёгнуў кабылу і калёсы рванулiся затарабаніўшы лёскатам. Дарога сухая, пыліцца, і, выцінаючыся, недзе прападае наперадзе. Паўз дарогу сьпеюць жыты, і навотшыбе, стаўшы на ўзгорку, не дамахнуўшы аднойчы крылом, застыў вятрак. За ім далёка відаць, як у нізе пайшлі паплавы. Наперадзе лес, ён краем загнуў леваруч, і туды-ж занырцела невялікая дарожка. Туды толькі што пайшоў чалавек. Я гляджу, як ён аддаляецца, то паказваючыся, то хаваючыся зноў за кустамі. Вось ён загнуў ужо на сьцежку да будынкаў.

— Абавязкова заеду,—паўтараю я сам сабе ўголас сказанае на розьвіт, і чую яшчэ ў сваёй далоні цьвёрды сьлед яго рукі. Я нават бачу як ён сьмяецца мне выщчарбленым зубам і толькі цяпер пачынаю разглядаць яго твар. Але, ён пастарэў. Неяк пацьвярдзелі, пабольшалі сківіцы і глыбей яшчэ селі вочы. Лоб падаўся наперад і бровы навісьлі гусьцей. На ўсім аблічы відна нейкая новая, разумная сталасьць, такая, калі чалавек багата пабачыў жыцьця.

---

[1]) „Па дарозе“ надрукавана ў кнізе „Шугае сонца“ і ў „Чырв. Бел“. № 17. 1930 г.

Нават гарэзнасьць і тая паскупела, яшчэ больш падкрэсьліваючы от гэтую сталасьць. Але ўсё-ж такі гэта той самы Дубік, якога тады я яшчэ нават ня ведаў і прозьвішча.

— Но-о!—абрывае марыва Герасім і пасіверанымі пальцамі вырывае кавалак газэціны на цыгарку. Ён прывязаў лейцы за біла і згорбіўся над шабэтаю, дастаючы тытун, і паволі, каб не расьцярусіць, насыпае яго ў папяросу. Адале, неўзабаве, паявіўся дымок і, выпускаючы яго, Гарасім адкідаецца ў перадок на сядзеньне, усімі глячыма.

— Ну, што-ж, от і пановаму мы жыць пробуем, толькі кадук яго ведае, як яно будзе,—пачынае Гарасім, відаць даўно ўжо зьбіраючыся загаварыць.

— А што, хіба непарадкі якія?—пытаюся я, стараючыся зразумець, пра што хоча сказаць Гарасім.

Ён перш маўчыць, адале доўга зьдзімае за біла попел з цыгаркі і тады толькі адказвае.

— І парадкі, і непарадкі—усё разам.

— Як гэта?

— Ды так—неразумеем мы яшчэ багата чаго, от што.

— Ну, гэта набудзецца. Кажуць-жа: і лапця не сплецеш ня умеючы. Абы захацець.

— Ды так яно, але-ж...

Ён канчае гаворку махам рукі і глыбока зацягваецца дымам. Адале выцягвае з-пад сябе саломіну і пачынае доўга яе штыкаць. Я гляджу на Гарасіма і таксама маўчу. Ён нешта такі хоча сказаць. Ну, і няхай памаўчыць, а раз яму рупіць, то ня ўтрывае, і тады адразу раскажа ясьней. Няхай нагарыць у самога, бо так, калі дапытвацца—чалавек заўсёды не гаворыцьме проста.

Па лесе калёсы пайшлі павальней, трасучы па карэньнях. На глыбокіх каляінах яны западаюць і гойдаюць, як у калысцы. Падыхае здаровым пахам смалы і цёплае вільгаці. Сонца, прарываючыся ў шчыліну дарогі, кладзецца на дола густымі мазкамі. На розныя галасы, недзе ў лістоце, цвыркаюць птушкі. Гарасім доўга, забыўшыся, паскубвае густую шэрсьць барады, зрэдку нокаючы на кабылу.

— Дык я от і кажу, што не разумею я гэтага,—абуджваецца ён ужо толькі тады, калі лес пачынае радзець.—От ніяк не магу раскусіць.

— Чаго?

— Ды жыцьця нашага. Мудра пайшло яно. Ні сяк ні так людзі жывуць. Няхай-бы ўжо усе аднакава, ато: адзін—калгас, другі—некалгас, і невядома на чым яно стане. Ну, і разброд у людзей. Жывуць, так, дачасу, абы перажыць. А памойму ўжо, раз калгас, дык трэба каб усе. Каб не перабіваліся адзін аднаму пад нагамі. От тады і толк быў-бы.

Я стараюся загаварыць з Гарасімам так, каб мы адзін аднаго зразумелі, але ён перабівае.

— Ат, талкаваць гэтак здолее кожны. А нам не талкаваць, а жыць трэба. А што гэта за жыцьцё, калі ты ня ведзеш нават—гас-

падар ты ці не гаспадар. Я-ж кажу—аддалі-б ужо загад такі, Сталін, ці хто там, што ўсім падавацца ў калгасы, тады кожны і ведаў-бы, што ён ужо жыць будзе гэтак, і нікуды ўбок не глядзеў-бы. Ато—от кругом паглядзець—адзін розрух. То будуецца, то раскідаецца. Такая каламуць, што нямаведама дзе ты жывеш. Так і мадзееш, абы дзень перабыць. І ніхто ні пра вошта не дбае, бо няма веры ў чалавека ў штонебудзь адно.

Гарасім сплюнуў праз зубы за біла і злосна тузануў кабылу. Тая рванулася, і калёсы зноў затарабанілі па роўнай, гладкай дарозе. Канчаўся лес і зноў пачыналі палі, далёка забягаючы жаўтаватым морам жытоў, гонячы недзе ў бясконцасьць шырокія, павольныя хвалі. Сям-там паміж іх відны адзінотныя, яшчэ старасьвецкія, дзічкі. Вунь там, пад узгорак, садамі засланілася сяло. А там—ледзь відно—між жытоў паволі едзе хурманка, гэта мабыць тудэю загнула дарога. І над усім гэтым неабсяжная, як толькі можна акінуць вокам—празрыстая, лёгкая летняя сінь. Эх, як шырока, аднак, можна дыхаць, так от жытнёвымі хвалямі плысьці, і каб усюды багатымі сокамі пахла зямля! Не, шчасьлівы ты чалавек, калі можаш, от так от, шырока, над усім гэтым стоячы, жыць!

Ураджай сёлета—у-у-у!—гаворыць Гарасім, як-бы перамаючы маю думку,—адна радасьць. Калгасаўскае... Толькі нямаведама, як прыбярэцца, можа гэтак як летась,—канчае ён праз паўзу, глушэйшым голасам.

Я рагачу з Гарасіма, пазнаючы ў ім адразу ўсю душу—дваістую, хворую, але шырокую, размашыстую, як гэтая прастора.

— А рад, нябось, дзядзька Гарасім, за ўраджай, хоць ня ведаеш гаспадар ты над ім ці не?

— Ну, мала што—кроў,—гаворыць, ён гладзячы вус, і я бачу, што гэтым ён хоча прыкрыць усьмешку.—Гэта ўсёроўна як кроў свая. Бачыш, што карысьці многа—і радуешся.

— А чаму ты з калгасу вышаў, дзядзька Гарасім?—пытаюся я.

Гарасім не адразу адказвае. Ён гэтак-жа сама, як некалі Ульяна, нечага доўга шукае ў сабе—тузаецца, ня можа знайсьці слоў. Адале гаворыць, зноў-жа такі, глуха.

— А думаеш я сам ведаю дзе я—я і там і ня там. Вышаў, бо шчымела ў сэрцы, што па сапраўднаму жыць хацелася. А гэта глядзіш—зноў ні на месцы, усё адно як сам сабе чужы. Ды гэтак і шмат хто, нават з тых, што і ў калгасы запісаны. Так от ад гэтага і дбальства нямашака. От я і кажу, што горш за ўсё месца свайго ня ведаць, чужым быць. І разам з тым ведаць, што трэба пачаць жыць неяк так, каб ужо не азірацца ў бакі.

І Гарасім зноў расказвае пра тое, як цяжка зразумець жыцьцё. Мудрае яно стала, і ніяк за яго не ўчапіцца, не дагнаць так, каб асіліць. Усюды ўсё—трашчыць, перайначваецца, так, як перашываюць манава апрануху. Тырчаць старыя рубцы, і не зразумець, дзе пойдуць новыя. І толькі тады зразумееш што да чаго, калі можна будзе

прымерадь. І добра хто ўжо гэтую апрануху прымерыў—ён ведае, што яна пашыта на яго. От, узяць хоць-бы, Дубік. Яму хоць-бы што—ён заўсёды аднакі. Ды і ўсе яны, хто з даўнейшых, што тады адразу з ім згуртаваліся. Ды і то—гэта даўняя дружба. Прышлі на карчы, на імшары, колькі поту, пакуты разам паклалі пакуль разрабілі, дык дзе ты цяпер пакінеш, гэта ўжо ўсё адно як сваё. Яны глядзяць у адно—ім няма куды варочацца. І ня было. А тут—як ні як, а свая гаспадарка. Ды яшчэ і прырэзка была прыпала. Думалася, што можна было-б і... Ну, от так і стаіш, ня ведаючы якою нагою ступіць, так от і блудзіш. А ўрэшце,—кадук яго ведае,—каб гэта ўжо пэўна наважыў...

Я слухаю Гарасіма і толькі цяпер заўважаю, што ён таворыць сам з сабою. Утаропіўся недзе ў лёсткі і шавеліць губамі, нават не заўважаючы, што кабыла сама завярнула на шашу.

— Думай Гарасім,—гавару я таксама сам сабе, і паволі падбіраю неўзаметку выпушчаныя ім з рук лейцы.

## 2

Ёсьць нешта прыемнае, калі пазнаеш забытыя мясьціны. Вот едзеш—перад табою ўваскрасае знаёмае. Мінаюцца сялібы, палеткі, лясы. Прыглядаешся наўкруга, перабіраючы памяць. Хочацца што небудзь прыпомніць, пазнаць, паглядзець як яно павырастала. Глядзіш і ня ведаеш—ці то памяць падводзіць, ці то так багата чаго пайначала. Перад табою праходзіць даўнейшчына. Вот цягнецца Кацярынінская шаша Масква—Парыж, выеждканым каменьнем бялеючы да гарызонту. Некалі ляжала яна праз лясы, як праз тунэлі. Пасьля, у вайну, лясы пачыналі высякаць. Зьбежанцы, уцякаючы з радзімы, наабапал яе пакідалі магілкі, ставячы на іх белыя бярозавыя крыжы. Ні лясоў, ні крыжоў цяпер няма. Сям-там—праяжджаючы вёрсты—пападаюцца старасьвецкія раскарачыстыя, з дуплямі ды з падсмаленымі бакамі кляны ды дубы, пасаджаныя яшчэ ў Кацярынiну бытнасьць. Вунь там, каля рэчкі, таксама быў некалі лес. Далёка цягнулася паўз яго балота, зарослы лазою. Тады на ўзгорку стаяла адна сіратлівая палясоўшчыкава хатка, і мне, памятаю, заўсёды здавалася, што яму аднаму тут мабыць страшна жыць. Я гляджу цяпер, як гэтае выцерабленае балота лягло далёка роўным галам сенажаці. Я нават шукаю старое палясоўшчыкавае хаткі і думаю, што яе мабыць перанесьлі вунь у тое сяло, што разраслося за рэчкаю. А вунь там, памятаю, стаяла капліца, а гэта тудэю пайшла селавая дарога, і толькі збоку валяецца пара, вятрамі павысушваных, камянёў. А от зноў сяло, новае, яшчэ нават з непаканчанымі будынкамі. Валяюцца шулы, пад сьцены падкладзены жэрдкі. На прыгуменьнях яшчэ нават не пазгладжвалася куп'е. І от, так от, кругом—нават цяжка пазнаць. Незнаёмыя ляндшафты з палеткамі, з сёламі, з пералескамі. У памяці няма іх. Як-бы нехта аднойчы ўзяў ды як на карце і пераставіў. І яшчэ нават ня скончыў гэтае свае перастаноўкі, бо кругом пааставаліся

сьляды няпрыбраных бярвеньняў, недаканчаных стрэх, лініі новых дарог ды дзялянак.

Ці ня гэта розрухам называў Гарасім?

Я сам сабе думаю і пачынаю ўспамінаць. Летась я таксама езьдзіў сюдэю. Была восень. Хмары па небе сунуліся густа і нізка. Нават здавалася, што ім цяжка было ісьці ў сваю вялікую дарогу і яны сьлязьліва аплывалі дажджамі. Тады былі гразкія, глеістыя дарогі, і Гарасім раз-па-раз нокаў на кабылу.

Паўз нас паплавамі ляжала сенажаць. Часта дзе яна была скошана, і пракосы ляжалі—забытыя, пачарнелыя, паўплесканыя даждждамі ў траву. Праз іх пачынала была прарастаць атава, але таксама зачахла, парыжэўшы ад халадоў. Над паплавамі цягнулася волкасьць—густая, сьлязьлівая—і пракосы далёка чарнелі астаючыся забытымі, зімаваць.

Адале пачыналася поле і восеньскаю вільгацьцю пахла зямля. Сям-там пападаліся шырокія загоны з недавыаранаю бульбаю—таксама забытыя. Дзе-нідзе відно было яшчэ каліва бульбоўніку збутлае, паваленае на зямлю і ўплесканае конскімі капытамі.

Тады мы ехалі моўчкі, гойдаючыся ў калянах, і на калёсы цягучым глеем накручвалася гразь. Адзінотныя, забытыя загоны міналіся паволі, нехаця і, здавалася, яны скардзіліся на тое, што іх пакідалі ў полі адных, на марозы. і Тады-ж Гарасім сказаў:

— Нават праца свая прападае. Блудзяць людзі. Ніякае дбайнасьці няма.

От мне і падумалася, што і цяпер, гаворачы пра нядбайнасьць і розрух, ён усё яшчэ бачыць леташнюю восень.

3

Праз пару тыдняў я заехаў да Дубіка. Ён сустрэў мяне седзячы на лаве і дапіваючы чай, з забінтованаю і падвязанаю на марлі рукою. На маё запытаньне пра ваду, ён не адказаў, а загаварыў пра нешта іншае. Тады я заўважыў, што і на ілбе ў яго з боку чырванеў яшчэ кагадзе загоены шрам.

— Ат, глупства адно,—зноў ухіліўся ён ад запытаньня, надзяючы шапку.—Ну ты адпачні, ці пагуляй сабе, а я пайду. Увечара палалкуем.

— Нават і гаварыць саромяецца. Здуру от такую цацку набыў,—гаворыць жонка, прыбіраючы са стала.

Адале яна расказвае, што цяпер пачалі паказвацца ваўкі. Мабыць гэта пачапалі іхныя гнёзды, асвойтваючы лясы. Ну, дык да коняй сталі наведвацца. Надоечы перад самым досьветам жарабя задушылі. От ён аднае раніцы і пайшоў са стрэльбаю да начлежнікаў. Тыя і самі ўжо сьцераглія, але яму карцела праведаць самому. Ну, а назад ідучы і здарылася гэта вада. Сустрэўся з нейкім ці што, ды мабыць мацнавата грукнуў, ставячы стрэльбу. Ці мо зьнячэўку як зачапіў за

што. Дык так от праз гэта траха і калекаю не астаўся. Далонь ушчэнт пашчапаў, тры пальцы, кажа, валодаць ня будуць.

Пагаварыўшы яшчэ крыху я выходжу на двор. Добрае, летняе сонца прыпякае як мае быць. З агародаў пахне рамонкамі. Ад грушы на паркане кладзецца цень, і ў ім, стуліўшы морду на лапы, у ім дрэмле сабака.

На прыгуменьні відаць як з мужчынамі яшчэ гавораць Дубік. Яны талкуюць мабыць пра работу, адале чалавек колькі з косамі ідуць за гумны, і Дубік адтуль крычыць мне.

— Пагуляй, пагуляй!—махае ён здаровою рукою.—Пахадзі, паглядзі нашага жыцьця.

Тыя, што асталіся на прыгуменьні запрагаюць у трое калёс коні. Яны зьбіраюцца ехаць па вецьце, каб пападсьцілаць пад сена тарпы.

— Ну, як пажываецца?.. У харошую пагоду да нас даведаліся— мурагі косім. Любата!—гаворыць да мяне хлопец, уводзячы каня ў аглоблі.

— Цяпер у горадзе нядобра—духата, пыл,—практыкоўна заўважае другі, з барадою.

— Мо' хіба нуднавата толькі будзе.

— Як там, скажэце,—паджылы невялікі чалавек паказваецца з гумна і, згортваючы вяроўку, падыходзіць да нас,—як там, вы-ж лепш ведаеце палітыку гэту, з вайною, скажэце, нічога ня чуваць?

— Яму гэта, каб ведаць ці супадзе з явангелем. Ён-жа ў нас за прарока,—абзываецца той самы, што запрагае каня.

— Але, а то ён вылічвае, вылічвае, ды ўсё нешта і ня выходзіць. На каторы там месяц у цябе прыпадае яна, дзядзька Антось?— жартуе яшчэ нехта.

Дзядзька Антось пробуе аскірзнуцца, але тыя заядла жартуюць, і ён, махнуўшы рукою і не дагаварыўшы, зноў варочаецца да гумна. Ён нават як-бы нечага шукае там, але, так толькі патупаўшы, кладзе ў драбіны вяроўку і падбірае лейцы.

— Ны, пашла... Сьмейцеся сабе. Што вы скажаце адно, як гэтыя сорак два месяцы пройдуць. Як тады адно парагочаце,—канчае ён сам сабе, ужо заяжджаючы за варота. Неўзабаве і ўсе хурманкі хаваюцца за гумнамі, але і адтуль яшчэ чутны галасы, што пакепваюць і з дзядзькі Антося і з ягонае эвангельскае мудрасьці.

Аглядзеўшы будоўлю, сыраварню, бровар, я выходжу на поле. Між жытоў падымаецца дарога на ўзгорак. Узышоўшы туды, я гляджу наўкруга. Жыты плывуць спакойнымі хвалямі і звоняць. За імі, паўз лес, пачынаюцца сенажаці. Мне відаць, як там гуртам косяць касцы. Сяды-тады чутно як звоняць ад мянташак іхныя косы і на сонцы паблісквають. Па дарозе едзе хурманка ў сяло. Я бачу, як адным сваім краем сяло ўдаецца ў жыты. Другі канец яго ападае ў нізіну, а там—за мосьцікам, што гарбом пераківуўся праз ручаіну— пасёлак. Гэта той самы пасёлак, што відзён быў тады, калі мы ехалі з Ульянаю. Тады ён толькі яшчэ будаваўся і далёка відзён быў новымі гонтамі. І тады наўкругах яшчэ былі кусты ды карчы ад рась-

церэбленага лесу. Гэта было першае гняздо, дзе аселі людзі, прышоўшы хто адкуль, і, агледзеўшы зямлю, пачыналі асвойтваць яе. Тады селавікі нядружна ставіліся да новых суседзяй. Адале, калі з году ў год новыя людзі ўсталёўваліся і іхная гаспадарка пачынала віднець і будынкамі, і ўраджаем, і каровамі, што пасьвіліся за нізінаю—праз ручаёк неўзаметку перакінуўся мосьцік. Пасьля зрэдку адзін да аднаго заходзілі гуляць. З калгасаўцаў пачыналі сьмяяцца ўсё менш і менш, і, аднойчы, некалькі селавікоў нават падалося да іх. З гэтага часу і пачало сяло жыць неспакоем. Арганізоўвалі свой калгас, выходзілі з яго, зноў арганізоўвалі і, урэшце, наважылі злучыцца ў адно. У калгас падаваліся памалу, падумаўшы, адзін за адным, і нават да гэтага часу некалькі селавікоў з гэтага канца яшчэ не адважыліся. Праўда, яны ўжо ня сварацца, ня верацъ, калі хто яшчэ падбухторвае ды падсьмейваецца, як некалі, і ўсё часьцей і часьцей заходзяць да калгасаўцаў і да Дубіка пагуляць. Нудна ім мабыць адным, бяз гурту. Вунь і адсюль, за касцамі, я нават бачу іхныя сенажаці. Сям-там і на іх матляецца з касою чалавек. Толькі ўпарта не падаюцца шнуры. І як доўга, мабыць, цягнецца дзень, калі так от марудна ды скупа кладуцца пракосы...

Я сыходжу з узгорка па дарожцы, што вядзе ў сенажаці. Пад нагамі на ўзьмежку мякка падаецца трава. Высокі падарожнік б'е па каленях. За рукі чапляюцца нахіленыя над дарогаю каласы. З жытоў падымаюцца жаўранкі і, недзе ўгары, пад сонцам, заліваюцца так, што здаецца гэта сьпявае само паветра.

Не, ты такі харошая, мая радзіма—новая, сьвежая, звонкая, як маладосьць. Добра, што сустракаеш ты мяне заўсёды па іначшаму—не пазнаць цябе!—і нядобра, што Герасім заве тваю гарэзнасьць ды бунтоўнасьць розрухам. Але ён такі зразумее, што ў гэтым розрусе пачынаецца твая новая радасьць!

— Куды гэта вы так задумаліся?—пытаецца раптам жаночы голас.

Я падымаю голаў і бачу, як з граблямі на плячах да мяне падыходзіць Ганна. Прыжмуранымі ад сонца вачыма яна ўсьміхаецца і пранешта гаворыць.

— Любата ў вас,—кажу я, пераймаючы яе гаворку.

— Дык прыходзьце да нас грэбці сена.

— Далёка?

— На ляды.

— Дык я і цяпер магу пайсьці,—кажу я.

— Ну, і добра.

І мы ідом разам з Ганнаю, падмінаючы падатлівую траву і нагамяючы грабцоў, ад якіх яна асталася.

## 4

Увечара Дубік варочаецца позна. На ім відна дзяняшняя стомленасьць, але, толькі ўсьпеўшы скінуць шапку і паправіць хворую руку, ён садзіцца каля мяне.

— Ну, як-жа пажываеце, кажы. Аглядзеў трохі нашу рэспубліку? На бровары быў? На сыраварню заходзіў? Бачыў, як мы цагельню пачынаем будаваць? Ну, як? Трохі варушымся? Ды я і сам бачу, што незадарма пражыў. Багата здароўя пакласьці давялося, але рад. На голае месца селі, здавалася, на пагібель прышлі, а от вылюдзелі. Памятаеш, як я табе казаў, што некаторыя нават паўцякалі? А што пасьля яшчэ было? Як пачалі з сялом арганізоўвацца? У-у, колькі пярэтрусу пережылі. Перш бадай усё сяло было арганізавалася, адале траха ня ўгробілі і ўсяго калгасу. Ды ты сам ведаеш і гэтыя войны і хто іх рабіў. І от трэба было, проста, ня спаць, а быць скрозь напагатове, каб трымаць лейцы. У-у, было! А гэта, як перажылося, дык нават і ня верыцца. Праўда, ёсьць крыху ябеды яшчэ і цяпер, але што гэта ўжо значыць. У нашай справе галоўнае—чалавек. І от важна, што людзі павырасталі. Пакуты багата паклалі, а гэта зьнітоўвае. І калі пападзецца яшчэ і цяпер, як кажуць, малавер які, дык ён, проста, усмоктваецца. Праз колькі часу і не пазнаць будзе яго, сам не заўважыць, як пераробіцца. От ходзяць у нас яшчэ чалавек колькі аднасобна, дык, яй-богу, я ведаю, што іх ужо нудзіць. Ім толькі маргнуць цяпер, дык адразу прыдуць. Але няхай выходжваюцца—мацнейшымі пасьля будуць. Самі няхай вырашаць, дык пасьля ні віляць ні наракаць ня будуць. Я табе кажу. Я ужо ведаю.

Дубік дастае закурыць, але аднэю рукою цяжка скруціць папяросу, і я яму памагаю.

— Ну, але добра, што цяпер моцна стаімо,—гаворыць ён зноў.— Я-ж кажу, што галоўнае, што мы дружнымі цяпер сталі. А гэта, брат, вялікая радасьць. Так і знай, што гаспадарка на мацунак адразу пойдзе. Сталеем. Сілы яшчэ багата ёсьць, і я табе кажу, што ні гэта мы яшчэ зробім. Быць ня можа, каб узорна гаспадаркі не паставілі. А? Пабачыш.

Дубік падымаецца і, папраўляючы руку, пачынае хадзіць. Ён часта зацягваецца, і пачынае расказваць ужо сваю будучыню. У-у, як многа яшчэ работы—і каля зямлі, і каля будынкаў, і з самымі людзьмі. Важна, каб у норму ўвайшоў новы побыт. Каб чалавек знайшоў сваю сталасьць. Год за годам гэта набудзецца... Яму-б хацелася зьезьдзіць дзенебудзь на экскурсію. У «Гігант», які ці што. Каб паглядзець, ды мо' што пераняць. Добра, што пачынаюць падымацца ўраджаі. А яшчэ-ж, калі ўсю зямлю абрабіць як сьлед. На днях яны абмяркоўвалі з калгасаўцамі свой плян. Яны там мяркуюць...

Дубік расказвае запальчыва, горача, так, як-бы гэты заўтрашні дзень ён ужо бачыў перад сабою. Я пазнаю яго, гэтага няўтомнага энтузіяста, якога бачыў два гады назад, калі яны яшчэ кагадзе пачыналі жыць. Ён і тады от так-жа гарэў сваім заўтрашнім днём, і верыў. Тады нават і Ульяна не магла не паверыць яму і, я памятаю, як, сплюшчыўшы сіняватыя азяркі воч, яна пазнавала сябе. Тады і ў яе пачынала народжвацца радасьць і, я памятаю, што за гэтую радасьць мне хацелася яе расцалаваць.

— От так, брат, і будам памаленьку ступаць,—канчае ён пагладжваючы хворую руку.—А цяпер давай пра што другое. Як ты там, што ў вас у горадзе?

Неўзабаве, як мае быць зьмяркае. Праз адчыненае акно цягне здароваю сьвежасьцю вечара. На неба навалакаюцца хмаркі, і месяц сяды тады кладзе на падлозе бледыя цені.. Відно было, як у хату ўвайшла Ганна, і неўзабаве вышла, доўга трымаючыся за клямку перад тым, як адчыніць дзьверы. На вуліцы пачынаюць гусьцець галасы. Каля прызбы зьбіраюцца папраста-рэкаваць мужчыны, і мы выходзім да іх.

Тут я пазнаю і хлопцаў, што на прыгуменьні запрагалі коні, і Антося, і Дубікаву жонку, і Герасіма, і яшчэ колькі чалавек. Малодшыя жартуюць з дзяўчатамі, а старэйшыя талкуюць пра будзённасьць. Нехта гаворыць пра кантрактацыю сена і Дубік умешваецца ў гаворку. Адале нехта пытаецца, ці варта за Галамі скідаць стагі. Пасьля пачынаецца пра жніво, пра нарыхтоўкі і пра тое, што Гарычаўцам мабыць і сёлета давядзецца пазычаць малатарні.

— Ды свайго колькі там будзе—ураз памалоцім.

— Ого, ты можа яшчэ скажаш, што і малаціць няма чаго?

— І пажном і памалоцім, але...

— Чаго там але?

— Адна рызыка. Усёадно, калі-б чаго захацеў, то і купіць няма дзе.

— Чаго-ж гэта ты так накупляў-бы?

— Мала чаго трэба? Але-ж дайшлі да таго, што так от і бота нідзе не дастанеш.

— Уг-га, аббасячаў.

— Кінь ты нэндзіцца, Кандрат. Вечна ты от так ныеш. Абы плявузгаць нямаведама што.

Той, каго назвалі Кандратам, не падаецца. Што там плявузгаць нямаведама што? А што гэта ня праўда? Калі гэта было, каб так нават на ногі ня мець права агораць?

— Неразумнае ты пачаў ужо,—чуцён новы голас, і па ім я пазнаю Герасіма.— Мабыць няма чаго табе ўжо і гаварыць, што ты на гэтым мудруеш. Хіба забыўся, што ня панам быў? Калі-ж гэта ты меў больш? Ды я-ж ведаю, што мо' і жаніўся ў пазычоных, а цяпер колькі пар маеш? І за крата прэмію атрымаў, і за нарыхтоўку, і з каапэрацыі ўзяў. А енчыш. Або хіба забыўся, як некалі дзеці ў школу ў атопках хадзілі? Многа тады ў чаравіках было? А цяпер-жа яны, богу дзякаваць, усе надзеты. І твае, і чужыя, і сам ты. Але от ненажэрлівымі людзі пасталі. Вечна ім мала. Абы зьвягаць.

Гарасім сплёўвае і доўга затоптвае папяросу.

— От і брыдка мне за цябе, Кандрат. І бачыш, не я з табою спрачаўся, а Гарасім,—гаворыць Дубік, і ўсе неяк трохі сьціхаюць.

Цемрыва на вуліцы кладзецца ўсё гусьцей. Чалавек колькі ўжо разышлося па хатах. Чутно, як пазвоньваюць цуглі, і недзе за суседнім дваром пераклікаюцца галасы. Гэта зьбіраюцца начлежнікі.

Неўзабаве на вуліцы пырхаюць коні і, грукаючы капытамі, аддаляюцца за сяло.

Ноч дрэмле, і па хатах адзін за адным патухаюць агні. Гаворка пачынае радзець, і становіцца куды спакайней. Непадалёку яшчэ гуляе маладзёж, і сяды-тады адтуль чуцён высокі жаночы голас. Дубік даўно ўжо пайшоў дахаты, і цяпер гаворыць з мужчынамі высунуўшыся ў акно. Відно, як на падваконьніцы ляжыць яго завернаная ў белую марлю рука.

— Ну, мужчыны, давайце разыходзіцца. Ды, каб заўтра з расою ўлажыць той клін, што ня ўдолелі сёньня.

— Але, хлопцы, давайце, каб не заспаць,—гаворыць Дубік, і зачыняе акно.

— А позна засядзеліся. Хаця-б заўтра пагода дадзержала,—канчае нехта за ўсіх апошнюю думку.

Я доўга яшчэ астаюся на вуліцы. У такую от ноч мне хочацца думаць. Я думаю пра новых людзей, якіх толькі што бачыў. Не пазнаць іх праз гэтыя пару гадоў. Яны выраслі ў дужасьць і ўжо знайшлі сваю сталасьць. І няправільна, Гарасім, ты думаў пра розрух. Вот, пайшлі яны спаць і панесьлі з сабою руплівасьць пра заўтра. Гэта ў людзей нарадзілася новая якасьць—дбайнасьць. Не, сёлета не зазімуе ў полі чалавечая праца!

Ноч заціхла зусім. Сяды-тады з хмар паказваецца месяц. Вішнякі дрэмлюць, на платы паапускаўшы галовы. Недзе далёка—то ападаючы, то зноў падымаючыся—чутна зілівістая песьня начлежнікаў. З саду зрэдка пракрадаецца затоены шопат, і я знаю, што гэта адтуль яшчэ не вярнулася Ганна.

Якая багатая ноч. І як добра, што я гарачу ў цябе, радзіма мая—гарэзная, сьвежая і звонкая, як маладосьць.

Лістапад—сьнежань 1932 г.
Менск.

## НЯМЕЧЧЫНА

### Г. Гайнэ

### ЗІМНЯЯ КАЗКА

(урывак)

Быў хмуры халодны лістапад,
Вецер кружыў жоўталісьце;
Ціхім і сумным, як восень, было
Мае ў Нямеччыну прыйсьце.

Але, калі я загледзеў мяжу
Здалося, што сэрца страчу:
Забілася моцна сэрца мае,
Я думаў—вось-вось заплачу.

Калі-ж нямецкую мову пачуў,
Ня выкажу што са мной стала:
Быццам чыясь дарагая рука
Кроў з грудзей выціскала.

Дзяўчынка арфістка сьпявала там,
Сьпявала і шчыра і чула,
Хоць голас фальшывы, але яна
Глыбока мяне кранула.

Сьпявала яна каханьня цьвет,
Спатканьні, ахвяры, разлуку,
Пра неба сьпявала, дзе душы жывуць,
Зямную адкінуўшы муку.

Зямля—гэта толькі сьлёзны дол,
Убогі часовы вобраз,
Затое ў раі, калі перамром,
Будзе нам вельмі добра.

Я слухаў стары нявольніцкі сьпеў,
Нябесную калыханку,
Якою люляюць цярплівы народ,
Ад вечару і да ранку.

Знаёмая музыка, ведаю тэкст,
Ведаю нават крыніцу,
Самі яны выпіваюць віно,
А іншым падносяць вадзіцу.

Дык я вам новую песьню сьпяю,
Песьню такую як трэба:
Давайце сумесна тут на зямлі
Утворым і шчасьце і неба!

Годзі, таварышы, годзі цярпець,
Каб нас і надалей карылі!
Гультай не павінен таго пажыраць,
Што рукі працоўных стварылі.

Хопіць нам хлеба, усім, усім!
Будуць і ружы і макі!
Зможам і кветку калі сарваць
Ї нават зьесьці прысмакі.

Так, нават прысмакі замеем мы:
Гарох і салодкія грушкі!
Царства нябеснае хай бяруць
Анёлы і птушкі.

Ну, а калі нас ускрыліць сьмерць,
То можна й да іх узьлезьці—
Пасядзем на хмарах і будзем там
Сьвяцейшыя куханы есьці.

Новы сьпеў, лепшы сьпеў,
На флейты, на барабаны!
Вечну-б памяць адпелі мы,
Хаўтурны звон пахаваны.

Паненка Эўропа замуж ідзе,
Прасватана гэнію волі,
Толькі што абняліся яны
Прыгожыя, як ніколі.

Давайце самі ўславім шлюб!
Ня трэба папоўскіх маленьняў:
Хай жыве малады з маладой
Для будучых пакаленьняў!

Вясельную новую песьню я
Складаю і шлю ў прасторы.
Усходзяць ў маёй душы
Чырвонакрылыя зоры.

Натхненныя зоры палаюць, гараць,
Цякуць агнявою ракою,
Я сілу нязьмерную чую ў сабе—
Дубы паламаў-бы рукою.

Калі я прыпаў да нямецкай зямлі,
Забушавалі ўсе сокі—
Бы волат, крануўшыся маткі сваёй,
Падняўся магутны, высокі.

Пераклад з нямецкай
Ю. ГАЎРУКА.

А. Пушкін

# ВОСЕНЬ

Чего в мой дремлющий тогда
Не входит ум?

Державин.

I

Кастрычнік надышоў—павольна атрасае
Апошняе лісьцё з галін пахмуры гай;
Дыхнула холадам—дарога прамярзае—
Яшчэ бяжыць паўз млын булькочучы ручай,
Але ўжо стаў застыў; сусед мой выяжджае
На поле паляваць.—Ату, ату, хапай!—
І пачынаецца шалёная пацеха:
І плача ў полі рунь, і плача ў лесе рэха.

II

Цяпер мая пара: я ня люблю вясны—
Адліга, гразь, смурод—не адчуваю волі,
Узбунтавана кроў, узбунтаваны сны:
Суровую зіму я паважаю болей,
У ноч марозную на санках расьпісных
Люблю з дзяўчынаю імчацца ў чыстым полі,
Калі пад собалем, зардзеўшыся як мак,
Яна вам падае каханьня шчыры знак.

III

Як весела абуць жалезам вострым ногі
І плаўна коўзацца па люстры роўных рэк!
Таксама зімніх сьвят бліскучыя трывогі...
Але ўсё да пары; паўгода сьнег ды сьнег,
Ды гэта ўрэшце рэшт і жыхару бярлогі
Мядзьведзю спрыкрае.—Бо нельга-ж цэлы век
Наладжваць санныя з Армідамі гулянкі,
Ці за падвойным шклом туліцца да ляжанкі.

## IV

Ох, лета краснае! я рад цябе любіць,
Але завошта?—пыл, ды заедзь, ды сьпякота;
Як поле сохлае, прасьцёршыся ляжыць
Душа зьнямелая; адна ўвесь час турбота,
Адно жаданьне ў нас—каб гэта напаіць
Ды асьвяжыць сябе: вярнуць зіму ахвота,
Але, справадзіўшы блінамі і віном,
Марожаным яе давайце памянём.

## V

Дні позьняй восені асуджваюць звычайна—
Я-ж ёю цешуся, чытальнік дарагі:
Красой пакорнаю, халоднай, разьвітальнай
Яна і радуе і надае тугі.
У ёй шмат харошага, скажу вам бязутайна:
Яе люблю найбольш сярод часін другіх—
Як часам падчарка ў мачахі варожай,
Яна чаруе нас уродаю прыгожай.

## VI

Такое нешта ў ёй—як гэта перадаць?..
Часамі любім мы сухотную дзяўчыну:
На зьвялых вуснах сьмех жывы яшчэ відаць,
Але ўжо злая сьмерць саткала павучыну;
І хіліцца яна, і нельга ўратаваць—
Шукае новую сабе ў зямлі айчыну;
Руменцы на шчацэ, а на чале дума—
Сягоньня ёсьць яна, а заўтра ўжо няма.

## VII

Маркотная пара! Вачэй ачараваньне!
Прыемна мне туга тваёй красы—
Люблю я пышнае прыроды павяданьне,
Чырвоным золатам убраныя лясы;
Люблю я ветра шум і сьвежае дыханьне,
І далі мглістыя, і ў полі верасы,
Няяркі сонца бляск, і першыя марозы—
Сівой зімы яшчэ далёкія пагрозы.

## VIII

З прыходам восені я расьцьвітаю зноў:
Мяне ўзбуджвае здаровы рускі холад;
Да навычак быцьця вяртаецца любоў—

Пульсуе правільна асьвежаная кроў,
Жаданьняў шмат—ізноў і весел я, і малад,
І жыцьцярадасны. Такі мой арганізм.
(Ці вы прабачыце мне гэты празаізм?)

IX

Прыводзяць мне каня; раўнінаю адкрытай
Са мною разам ён імкліўіць вольны лёт,
І звонка пад яго напорыстым капытам
Зьвініць прамёрзлы дол і трэскаецца лёд.
Але згасае дзень—і ў камінку забытым
Агонь ізноў гарыць—то зыблецца сьвятлом,
То ценем зыблецца—тады я ці чытаю,
Ці думы доўгія ў душы перабіраю.

X

І забываю сьвет—і ў вечаровай мгле
Укалыханы я маім выбражэньнем,
І абуджаецца Паэзія ва мне:
Душа ўціснута лірычным узрушэньнем—
Хвалюецца, гучыць, шукае нібы ў сьне,
Каб выліцца нарэшце вольным выяўленьнем;
І тут ка мне ідзе нявідны рой гасьцей—
Снуюцца вобразы ў тысячы ніцей.

XI

І думкі ў галаве ўкладаюцца ў памеры,
І рыфмы лёгкія насустрач ім ідуць,
І пальцы просяцца к пяру, пяро к паперы,
Хвіліна—і радкі нястрымна пацякуць.
Так дрэмле карабель у моры хмуры, шэры—
Але раздасца кліч—матросы набягуць,
Замітусіцца ўсё—і ветразі на ветры;
Рвануўся карабель і расьсякае нетры.

XII

Плыве. Куды-ж плысьці? Якія берагі
Наведаем ізноў?—Эгіпет старадаўні,
Шатляндзкую скалу, ці вечныя сьнягі...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пераклад з расійскай
Ю. ГАЎРУКА.

**Юрка Віцьбіч**

# ЛШОНО ГАБОО БІЙРУШАЛАЙМ [1])

**(аповесьць)**

З гулам гарматным, з звонам кляшторным зьнікла ў гістарычных, спавітых смугою замсты аддалях, крывавае сярэднявечча Жэчы Паспалітай. Дзе штурвал, які верне магнатам іх юнацкія гады? Дзе волат, які прымусіць Дзьвіну і Нёман спыніць плынь?

Перагортвае час пажоўклыя старонкі летапісаў:

**XVI век,**
**XVII век,**
**XVIII век,**
**XIX век.**

Зьнішчае час нікчэмныя помнікі мінулага. І ў крушнях за Грайронкам замак каралевы Боны, і надзела Вітава Магіла на бакір маёвую шанку кучаравых дубоў, і пахіснуліся муры кармаліцкага кляштару з абамшэлымі званіцамі касьцёлу Марыі Магдалены.

Аб крушнях на вуліцах Грайронку апавядалі недарэчныя рэчы. Казалі, што ў цёмныя кастрычнікавыя ночы блішчэла ў вокнах замку сьвятло бра і жырандоль, чуліся да самага досьвітку ціхія, але выразныя гукі палёнэзаў. Казалі, што часамі каралева Бона ў белай вопратцы праходзіла замкавым мурам ад капліцы да вежы, а той хто яе бачыў, неўзабаве паміраў. І ў кірунках сваіх ня толькі бязуважны шлях, але нават і дапытлівыя сьцежкі далёка абміналі крушні. Таму сёньня так і крычалі турчыкі, якія знайшлі сабе прытулак у шчылінах муроў, бо заўважылі незнаёмага чалавека, што ўздымаўся ад поймы да замкавай брамы.

Стась не сьпяшаўся нікуды і крочыў спакойна, часамі схіляючыся над кветкамі і зельлем. Ён здаваўся зусім падлеткам бяз зморшчак на бязвусым, з тонкімі рысамі, твары. Была на ім студэнцкая палінялая пад сонцам шапка і студэнцкая з бліскучымі гузікамі куртка, накінутая на гафтаваную, з расхлістаным каўняром, кашулю.

— Будзе некалі дзень і Троя сьвятая загіне.

Старадаўні загіне Прыам і народ дзіданосца Прыама

---

[1]) З стар.-яўр. мовы—Налета ў Ерусалім.

— успыло ў Стасявай памяці, калі, прайшоўшы праз браму з капліцай, спыніўся пасярод шырокага, цэглай і друзам заваленага замкавага дзядзінца. Вакол высіліся, нават і ў нападову зьнішчаным выглядзе вялічэзныя муры. Ад палацаў засталіся груды сьмецьця, і толькі добра захаваліся высокія кутавыя, з амбразурамі вежы. Праз брук дзе-ні-дзе прабілася, пасьцілаючыся долу, шыпшына, нібы жадаючы дзідамі захаваць крушні ад канчатковага зьнішчэньня, чамярыца цёмна-чырвонымі кветкамі, нібы крывёй апырсквала муры, бражджэліна, хістаючыся пад вецяркам, прывітала сваімі да кардзінальскіх шапак падобнымі пладамі. Ніводнага чалавечага гуку ня чутна, толькі на самым версе вежы ляскатаў ля свайго гнязда бацян, толькі лемантавалі ўстурбавана зурчыкі, толькі зялёныя яшчаркі мітусіліся між каменьня.

— Бона! Каралева Бона!—

вырвалася мімаволі ў Стася, і адразу-ж ён уздрыгнуў, пачуўшы чалавечыя крокі. Ад дзьвярэй капліцы ішоў юнак у бруднай вопратцы, праз прапаленыя дзіркі якой была відаць за пазухай невялікая кніга. Глыбокая зморшчка ў пераносьсі накладала адбітак суровасьці на яго няроўна вуглём афарбованы твар. Падышоўшы да Стася, юнак зьняважліва казаў:

— Э-эх, апошні рыцар Белай Ружы. Клікаў каралеву Бону, а вышаў каваль Янкель. Дзень добры, Стах!

— Добры дзень!—адказаў Стась, спазнаўшы сябра свайго маленства Янкеля Мойжаса.—Не чакаў я цябе тут спаткаць. Як маецеся?

— Добра, як у Струні. Ёсьць такая турма пад Полацкам—Струня. У гімназію мяне, як ты ведаеш, ня прынялі, хоць я вытрымаў усе экзамэны на пяцёркі. Ня прынялі таму, што ўжо набралі дазволеныя ўрадам 4 проценты яўрэяў. Сын Баранбаума, мы разам паступалі, ледзь-ледзь толькі вытрымаў экзамэны. На пытаньні па геаграфіі—які самы вялікі горад Расіі?—адказаў:—Янавічы. Але яго прынялі, і цяпер ён перайшоў ужо ў пятую клясу, бо бацька яго Баранбаум—купец другой гільдыі, даў дырэктару хабар. Цяпер я каваль, мушу амаль што лёгкай працай здабываць хлеб, і часамі, калі ад поту кашуля стане корабам, такая злосьць агорне, што здаецца ўзяў-бы молат і пашоў-бы біць усе сініх шынэлі, пачынаючы ад сына Баранбаума, усіх з цэшкамі і капялюшамі. Бывай! Трэба ў кузьню.— І Янкель, рэзка скончыўшы гутарку, таксама рэзка зьнік.

— Памяць калішніх гаспадароў замку,—думалася Стасю, калі, вышаўшы праз браму, ён спускаўся з гары,—захоўвалі медзь і мосяжнік помнікаў на пляцох вялікіх гарадоў, а тло тых, хто будаваў і выртаваў замкі, даўно ўжо разьнесьлі золкія вятры з курганоў на поўнач і поўдзень, захад і ўсход, гноячы глебу краіны для наступных пакаленьняў. І што чакае маё пакаленьне? Што чакае пакаленьне Станіслава Галькевіча і Янкеля Мойжаса? Што?

Ён спусьціўся ўніз і адразу-ж пачаў падымацца па сьцежцы на Вітаву Магілу, якая была насупроць замку. Вітава Магіла была такім

вялікім курганом, што здавалася на першы погляд звычайным узвышшам, але ў Грайронку злучалі яе паходжаньне з князем Вітаўтам. Казалі, што насыпалі курган шапкамі сваімі дробы над срэбнай трунной з астанкамі забітага князя, і ўпарта не давалі веры апавяданьням адпускных салдат, нібы пахаваны Вітаўт у Вільні. Сьцежка выгіналася каля вялікіх дубоў, і калі Стась падняўся на ўзгорак, на якім дубы расступіліся палянай, убачыў зноў прыгожы, з маленства да дробязяй знаёмы малюнак.

З боку бегла бязупынку, зьнікаючы паступова ў смугай засланай лясістай аблоні, Дзьвіна, а проста перад вачыма ляжаў рассыпанай жменяй бобу на стромкім узьбярэжжы ракі і зьвілістай рэчкі Грайронкі павятовы, больш да мястэчка падобны, гарадок Грайронак. Над гарадком панавала пасярэдзіне рынку вежа ратушы з вялікім гадзіньнікам, стрэлкі якога ўжо даўно застылі ў нярухомасьці. Побач з шэрым будынкам дзяржаўных устаноў відаць былі пяць пазлачаных цыбулін катэдры Сьвятога Духа. Наводшыбе маячылі крыжы на кумпалох касьцёлу Марыі Магдалены і шпічастыя шпілі капліц кармаліцкага кляштару. Падкрэсьлівалі ўбоства жыхарскіх хат двухпавярховыя з высокімі дахамі сынагогі. І веяла ад Грайронку на першы погляд хваравітай, бяз мар і празораў, дрымлівасьцю. Гэта ўражаньне яшчэ больш паглыбілася, калі, сышоўшы з Вітавай Магілы, Стась, ідучы да рынку, параўняўся з брамай яўрэйскіх могліц.

Могліцы з заўсёднай гутаркай сумных каравых хвой, з крывабокімі, шматлікімі, ад дажджоў паліняльмі помнікамі выглядвалі хмура, і пад брамай вісеў на старажытна-яўрэйскай, сучасна-яўрэйскай і расійскай мове надпіс:

> „Так говоритъ Господь Богъ: вотъ Я открою гробы ваши и выведу васъ народъ Мой изъ гробовъ вашихъ и введу васъ въ землю Израилеву“.
>
> Іезекіиль, XXXVII, 12.

А за могліцамі пачыналася ўжо шырокая, небрукаваная з драўлянымі ходнікамі Духаўская вуліца, і шыльда на першай хаце сьведчыла, што гаспадар яе—шавец, на сумежнай—што кравец. І шыльд было так багата, нібы жылі ў Грайронку толькі, сышоўшыся з усёй краіны, адны шаўцы і краўцы.

Вось курмелісты яўрэй нясе ваду, і Стась адразу пазнаў ваданошу Гэрцыка Віфэл Азэйгэр. Як памятаў сябе Стась, так памятаваў на вуліцах Грайронку дзеда ваданошу, што ўсё сваё жыцьцё цягаў ваду, і калі-б усю тую ваду, якую ён перацягаў, зьліць назад—красавіковай паводкай ішла-б Дзьвіна на поймы. Гадзіньнік на вежы ратушы даўно спыніўся, ды й нашто ён наогул, казалі ў Грайронку, нашто дакладна ведаць час у гарадку, дзе ніхто нікуды не сьпяшаецца, ад якога да найбліжэйшай чыгуначнай станцыі каля ста вёрст, тым больш, што гулкі звон гадзіньніка будзіў-бы ў начы тых, хто жыў бліжэй да ратушы. Час ведалі па ранішнім гвалце пеўняў, па руху

сонца і зор, а калі ўжо трэ' было ведаць час асабліва дакладна, тады спынялі на вуліцы Гэрцыка і пыталі:

— Гэрцык, віфэл азэйгэр? [1]).

І Гэрцык ветліва адказваў, паказваючы яшчэ і па пальцах. Як Гэрцык пазнаваў час, заставалася для ўсіх таямніцай, але адказ быў дакладны, амаль да хвіліны. Хто, апрача падатковага чыноўніка, цікавіўся прозьвішчам капцэна? [2]) Таму і пачалі заўсёды клікаць старога ваданошу—тым больш, што ён ніколі на гэта ня крыўдзіўся—Гэрцык Віфэл Азэйгэр.

— Як маецца Гэрцык?—спытаў Стась, калі параўняўся з ваданошам. Пра здароўе Гэрцыка ні ў кога галава не балела, таму ён ад неспадзяванкі, як звычайна, адказаў:

— Цэен азэйгер! [3]).

Потым, угледаючыся ў Стася, прыветна адшапкаваў:

— Добры дзень, пан Станіслаў. Лепш за ўсіх маецца. Мусіць учора з Эел-Бэрам прыехалі?

— Учора. А ты Гэрцык усё за ваданошу? Пэўна і параход толькі таму да парогаў даходзіць, што ты ўсю ваду з Дзьвіны перацягаў.

— Хэ-хэ-хэ. Вады на наш век хопіць. А нашто той параход, пан Станіслаў? Нашто? Калі ёсьць балаголы: Шлёма, Эел-Бэр і Бэня Ша. Параход адбірае ў іх хлеб. Што будзе рабіць цёця Пэся-Брайна, калі, ў Дубравіцах згарыць запалкавая фабрыка? Што будзе рабіць Хаця Камар, калі ў яго трэсьне барабан? Але да пабачэньня!

І Гэрцык, яшчэ раз ветліва адшапкаваўшы, пашоў хістаючыся далей.

На Духаўскай вуліцы заўважыў Стась балагола Эел-Бэра, які шпацыраваў, шукаючы пасажыраў да Віцебску. Нібы з аднэй сталёвай балванкі адлітавалі балагола разам з магутнымі рукамі, што прымусілі мускуламі сваімі трэснуць па шве рукаў вопраткі, разам з магутнымі нагамі, што прымусілі трэснуць па шве халявы вялікіх ботаў, але неяк дзіўна ішоў ён—увабраўшы галаву ў плечы, ледзьледзь грукаў па бруку, а па твары блукала вінаватая і палахлівая усьмешка.

Учора ўсю дарогу Эел-Бэр маўчаў, і толькі калі даехаў да мосту праз раку Касплю, раптам, зьвярнуўшыся да свайго пасажыра, сказаў:

— А вось тут, пан Станіслаў, я згубіў калісьці чатыры зубы. Ехаў я тады з Грайронку ў Віцебск, і толькі трапіў з аднаго боку на мост, як бачу—з другога боку на мост узьехаў конны ўраднік, а за ім шасьцярыком архірэйская карэта. Сьпяшаўся архірэй у Грайронак на фэст, а я сваею будаю загарадзіў дарогу карэце: і ў бок—толькі за парэнчы збочыць, і назад—не адразу асадзіць можна.

[1]) З суч. яўр.—Колькі часу.
[2]) З суч. яўр.—Бядак.
[3]) З сучасн. яўр.—Дзесяць гадзін.

Пакуль я адцягваў коняй, пачырванелы ад злосьці, як бурак, вураднік даў мне навотлю так, што чатыры зубы да Касплі і паляцелі. Абмыўся я крывёю, а архірэй, праяжджаючы паўз буду, як цяпер бачу, пажагнаў мяне. Цяжка жыць, і я часамі нават пачынаю баяцца людзей. Тыдзень таму майго сына Ічэ зьбіў зусім гімназыст—сын пратапопа Фаворскага. Зьбіў толькі за тое, што ён—сын жыда. А хто такі жыд? Га? Іншы конь менш працуе, як іншы жыд. І ўсё-ж я, пан Станіслаў, люблю гэту краіну, і калі-б мне параілі пераехаць у Ханаан, я ніколі не паеду. Я люблю і Віцебск, і Грайронак, і Дзьвіну, і гэты шлях. Гэта мая бацькаўшчына, і чаму людзі кажуць, што я чужынец, калі мой прадзед Лейба Гарэлік, таксама балагол, пахаваны на могліцах у Грайронку, калі ўсё вакол мне знаёма ад калыскі. Чаму?

Сёньня дзень не гандлёвы, і таму народу на рынку не багата, але падыходзіла сьвята кучак, і дзьверы ўсіх крам адчынены на дзьве палавінкі. Добра гандлявалі мясныя і рыбныя яткі, бо сьвята—ня сьвята, калі ў хаце няма фіш [1]) і флэйша [2]). Добра гандлявалі і сяляне, што прывезьлі патрэбнае для намётаў яловае гальлё. Ля ратушы заўважыў Стась Пэсю-Брайну. Яна сядзела ў сваёй шафцы, і час-ад-часу гукала:

— А вось запалкі, агорткі, гузікі, куханы! А вось запалкі!

На століку ляжала некалькі скрыначак запалак, дзесятак куханаў, тузін агортак, тузін гузікаў і тры люстэркі.

— Падтрымайце, пане Галькевіч, гандаль!—закрычала яна, заўважыўшы Стася. Купіўшы некалькі агортак, Стась пашоў далей і спыніўся ля вялікай крамы, што некалькімі дзьвярмі выходзіла на вуліцу. Над ею была шыльда:

**Универсальный магазинъ**

**С. С. БАРАНБАУМА**

**Фабрика тетрадей и переплетная мастерская**

**Отдѣлы:**

| | |
|---|---|
| Книжный | Галантерейный |
| Нотный | Оптический |
| Музыкальный | Парфюмерный |
| Писчебумажный | Табачный |

**Оптово-розничная продажа.**

**Цѣны внѣ конкуренціи.**

[1]) З сучасн. яўр.—Рыба.
[2]) З сучасн. яўр.—Мяса.

Баранбаум належаў да ногідаў [1]), і калі ён ішоў вуліцаю, шайвецы [2]) і кацэны, згінаючыся ў крук, шапкавалі, а стары гарадавы Скрабка, які што месяц атрымоўваў ад Баранбаума новенькую трохрублёвую асыгнацыю, яшчэ здалёк бордза браў пад казырок.

— Усё ў гару падымаецца,—думалася Стасю.—Два гады таму ня было тытунёвага і аптычнага аддзяленьня.

Ён намерыўся зайсьці ў краму, тым больш, што заўважыў праз вакно твар нібы знаёмай дзяўчыны, але раптам зычны голас прымусіў яго абярнуцца, і ён убачыў старога знаёмага Хацю Камара. Цяжка было сказаць глянуўшы, колькі Хацю гадоў—пэўна каля трыццаці. Ён быў рослы і такі хударлявы, што заўсёды абшмульганая і лапленая вопратка сядзела на ім, як на гародным пудзілу. Хадзіў вельмі хуткаю хадою, размахваючы нязграбна рукамі і высока задзіраючы твар з вострым доўгім носам—здавалася тады здалёк, што па вуліцы ляціць нейкі невядомы дзіўны птах. Гаварыў аднастайнай скарагаворкай і заўсёды ў час гаворкі пераходзіў на больш высокую ці нізкую ноту, так што ў некалькіх кроках толькі чулася:

**—Зу-зу-зу,**

**за-за-за,**

**зэ-зэ-зэ.**

І адгэтуль атрымаў Хаця Камар ліпучую, як мэляс, мянушку. Як усе калбейнікі [3]), кім ён толькі ня быў—і барабаншчыкам тутэйшага аркэстру, і выпадковым бахтаном [4]), і нават, калі Скрабка заходзіў на пляцы здохлага сабаку, ён прапанаваў Хацю за кухан завалачы яго за горад, і Хаця валок. Цяпер Хаця Камар расклейваў вялікія, сінія афішы; вакол аднае ўжо зьбіраўся гурток чытачоў. Літары афішы паведамлялі:

> **Гастроль XX вѣкѣ. Проѣздомъ**
> **Сынъ запада, постигшій тайну науки индійскихъ іоговъ**
> **АДОЛЬФЪ АНТЪ-АРРО**
> демонстрируетъ сеансъ гипноза.
> Усыпленіе желающихъ изъ публики и превращеніе въ животныхъ и птицъ.
> Новѣйшія достиженія, агнесгезіи, аленезіи, анемозіи и анельгезіи.
> **Зданіе Земской Управы**
> **Начало въ 6 часовъ вечера**
> С разрашэня гаспадына прыстава дазволивъ старшы гарадавой Скрабка.

---

[1]) З стар.-яўр.—Багатыр.
[2]) З стар.-яўр.—Саматужнік.
[3]) З яўр.—Чалавек паветра, Luftmensch
[4]) З яўр.—Жартаўнік на яўрэйскім вясельлі.

Стасю хацелася пагаварыць з Хацем, але Хаця, не заўважыўшы яго, ужо рушыўся амаль што бягом далей і зычна крычаў:

— Сьпяшайцеся, яўрэі, бачыць Адольфа Яне Гару! Сьпяшайцеся, яўрэі!

Стась пашоў з рынку проста дахаты. Няўпрыцям апынуўся ля абгрызеных часам муроў кармаліцкага кляштару і праз браму падышоў да касьцёлу Марыі Магдалены. Дзьверы касьцёлу былі адчынены і над дзьвярыма зьверх надпісу:

Tw es Iulius Dei, Tues Rex Israel[1])—

схіліўся вялізны крыцыфікс. Падняўшыся па сходах, Стась спыніўся ля вобразу Вострабрамскай багамаці.

Пад гэтым вобразам дзевятнаццаць гадоў таму знайшлі дзіцянё з прышпіленай да коўдрачкі паперкай:

Шляхціц Станіслаў Галькевіч.

Людзі добрыя, дзеля пана Езуса, не дакарайце. Нельга інакш. Хай Маці Боская пільнуе мае дзіцянё.

Маці.

Ксёндз Яранім Вайноўскі выгадаваў Стася, даў яму магчымасьць скончыць гімназыю, а цяпер—вучыцца ў унівэрсытэце. Пан Яранім паходзіў з арыстакратычнай польскай фаміліі і жыцьцёвую кар'еру пачаў афіцэрам лейб-гвардыі, а потым, нечакана для сваіх сяброў, зьмяніў шпоры і ківэр на сутану і ружанец. Дзіцянё прытуліў ён таму, што яно было шляхецкім і даручана Вострабрамскай багамаці. Глухі сум па маці адчуваў з маленства Стась, аб ёй ён ведаў толькі тое, што ў тую ноч, калі яго знайшлі, праз Грайронак праяжджалі дзьве вельмі добра апранутыя жанчыны, і адна з іх на заезным двары амаль што наўзрыд увесь час плакала. Калі Стась падрос, пашоў на заезны двор, але там ужо быў новы гаспадар, які нічога ня ведаў пра тую жанчыну. Потым пан Яранім, з мэтай дасьведчыць шляхецкае паходжаньне Стася, зьвярнуўся з просьбай да арцыбіскупа, каб ксяндзы дыяцэзыі зрабілі даведкі ў мэтрычных кнігах касьцёлаў. Неўзабаве адзін з ксяндзоў сумежнай губэрні, дасылаючы мэтрычны выпіс, паведаміў пана Яраніма, што ў тым годзе, калі было знойдзена ў касьцёле Марыі Магдалены дзіцянё, у яго значыцца—Станіслаў Казіміравіч Галькевіч. Бацькі—шляхціцы, буйныя зямляўласьнікі, але яны, прадаўшы маёнтак, даўно выехалі з губэрні невядома куды. І маці пачаў сабе Стась уяўляць у выглядзе багамаці, перад вобразам якой яго знайшлі. Ужо ў апошніх клясах гімназыі ён зразумеў хісткасьць рэлігійных падстаў, але з маленства моцныя ніці злучалі яго з касьцёлам Марыі Магдалены, з вобразам Вострабрамскай багамаці, з ксяндзом Яранімам Вайноўскім.

Вышаўшы, Стась у нейкім забыцьці прайшоў праз цьвінтар да ледзь бачнай у зеляніне дрэў хаты ксяндза з кветнікам перад вокнамі. У нейкім забыцьці, нават не адказаўшы на ветлівае прывітаньне

[1]) З лат. мовы—Ты ёсьць Сын Боскі, Ты ёсьць Цар Ізраільскі.

панны Малгаржаты, на руках якой выгадаваўся, прайшоў у пакой айца Яраніма і пачаў нэрвова крочыць з кута ў кут. Усё вакол знаёма з малку—кніжныя з шкляньмі дзьверцамі шафы, пісьмовы стол, вальтэраўскія крэслы, масянжовае ўскрыжаваньне, партрэт папежа Пія IX, сутана і капялюш на почапках. Няўпрыцям у пакой увайшоў ксёндз.

— Я, Стась, і ня чуў, як ты раніцой вышаў з хаты. Напэўна ўжо ўсюды ў Грайронку пабываў?

— Амаль што ўсюды, пан Яранім, і агульнае ўражаньне—гарадок у літаргічным сьне. Нельга намацаць пульс.

— Мінучы сон. Гісторыя—гэта прыплывы і адплывы культур. Яшчэ прыдзе рэнэсанс Жэчы Паспалітай, бо

Nigdy Polska nie stanie się Rosją,
Tego nigdy nie będzie! Nigdy!

Вялізны зрух усклалыхне ўсю краіну. Зашамацяць на яе шляхох зноў сутанамі жаўнеры пана Езуса, рыцары Ватыкану, і ты тады не пазнаеш Грайронку.

Ксёндз, гаворачы, нават пастукваў кулаком па стале, нібы жадаў падкрэсьліць тое, што казаў. Але Стась заўважыў:

— Якая-ж гэта Польшча, пан Яранім? У Грайронку жывуць выключна яўрэі, вакол у вёсках—выключна беларусы, а палякі—вы, я, панна Малгаржата, арганісты, сухотны аптэкар, ды дзесяткі са тры шляхцюцаў у павеце. Я больш як самога сябе люблю маці Польшчу, але няма ў мяне сталай веры ў яе рэстаўрацыю.

— Больш шляхцюцаў і ня трэба, бо іх роля панаваць, бо шляхціц на загродзе роўны ваяводзе. Беларусы—гэта ўчарашнія без пяці хвілін палякі, і з дапамогаю вуніі яны канчаткова перакінуцца з беларусоў у чорнапалякаў, у палякаў другога гатунку, для чорнай працы. Роля-ж яўрэяў—дробны гандаль і саматужніцтва. Кожны чалавек мае выконваць прызначаную яму небам працу. Місія ксяндза Яраніма Вайноўскага—калёнізаваць беларусоў. Місія Хаці Камара—біць у барабан. Місія Гэрцыка Віфэл Азэйгер—цягаць ваду. Місія Мэера Мойжаса—шыць сутаны.

Калі пан Яранім памянуў Мэйера Мойжаса, Стась увесь страпянуўся і нават адчуў, што пачынае чырванець.

— Гэта яе я сёньня бачыў праз вакно Баранбаумавага магазыну, заварушылася ў думках.—Блюму Мойжас, дачку старога Мэера. І як я толькі ня спытаў у Янкеля пра сястру?

Пан Яранім яшчэ штосьці палка даводзіў, але Стасю здавалася, што гамоніў ён дзесьці ў сумежным пакоі. Проста перад ім усплыла да дзіўнасьці знаёмая дзяўчына з вялікімі чорнымі вачыма на смуглым калярытным твары, з тужлівай рыскай у кутках поўных прыгожа-выгнутых губ, з грудным цёплым сьмехам. І Стась адчуў, што пачуцьцё суму пачынае прытупляцца і паступова зьнікае, як сівы ранішні туман над Дзьвіною пад матчынымі праменьнямі сонца.

У дзень было душна, і ўвечары цяжкія хмары зацягнулі пэрую гадзіну. Як зачарованыя стаялі дубы, спыніла гутарку срэбралісьце стромкіх таполяў, застылі беланогія бярозы, ледзь-ледзь толькі чутна трымцелі асіны. І раптам блакітная бліскавіца разадрала хмары, і раптам завыў у гальлі дрэў буй-вецер. Усю ноч навылет, нібы магніем, асьвятлялі бліскавіцы Грайронак, усю ноч навылет грымеў гром і бушавала зацяснутая ў каменьні Грайронка, усю ноч навылет па абодвых узьбярэжжах рэчкі сачылі з захапленьнем за карнаўьёлай бліскавіц праз вокны—з хаты ксяндза і з хаты краўца—два юнакі.

Перад вачыма Стася імклівілі на ўсход харугва за харугвай вусатыя рэйтары і каронныя ўланы, сьпяшаліся спавітыя арыфламай папежа босыя капуцыны і фарсістыя кармаліты. І бачылася, як устаюць з-пад курганоў дзеці Пандара і Дрвенцы, Наровы і Ніды, і чулася, як кліча сыноў сваіх сівы Будрыс.

Перад вачыма Янкеля гармідарылі, прымусіўшы замерці ўсё вакол, вялізарныя сілы, сугучныя кірунку думак ад кагадзе прачытанай кнігі, і што хвіліну выбухі сьвятла заганялі да кутоў пакою шкумацьцём густую цемру, асьвятляючы старонку раскрытай кнігі:

> "Призракъ бродитъ по Европѣ, призракъ коммунизма. Для священной травли этого призрака соединились всѣ силы старой Европы—папа и царь, Меттернихъ и Гизо, французскіе радикалы и нѣмецкие полицейскіе".

## II

Пад час гучнага вясельля тутэйшага цырульніка ў Зацьвілішках, калі Хаця Камар ужо выкарастаў усю сваю невялічкую скарбніцу вострых жартаў і мілагучных вершаў, у яго натхненнай адчуваньнем нязвычайнай сытасьці галаве нарадзілася думка:

— Трапіўшы ў Віцебск, не заўважыць пана губэрнатара—гэта тое-ж самае, што трапіўшы ў Грайронак, не заўважыць шаўца.

— Гэ-гэ-гэ! Хі-хі-хі! А-га-га-га!—зарагаталі госьці, якія толькі кагадзе пачыналі сварыцца,—чыя жонка прыгажэйшая, і хто атрымаў за ёю большы пасаг?

А праз тыдзень, адшукаўшы здрадніцкую крыніцу, чырвонатвары, з доўгімі вусамі Скрабка, даводзіў Хацю ў цёмным катуху паліцэйскай управы, якое бяздоньне між губэрнатарам з Віцебску і шаўцом з Грайронку.

— Пан губэрнатар, гніда, перад вачыма цара—тое-ж самае, што, чатыры з боку, старшы гарадавы Скрабка перад вачыма пана прыстава,— гарлапаніў гарадавы, грукаючы сябе кулаком у грудзі, на якіх матляўся мэдаль у гонар каранацыі Мікалая Другога.—Я—пан Скрабка, гніда, ёсьць правая рука пана прыстава, а шавец—гэта, чатыры з боку, ёсьць вось што. Вось што!

І Скрабка, як мага ўдарыў Хацю кулаком па твары. Ударыў другі раз, трэці, і Хаця з залітым крывёю тварам стаяў нярухома, дрыжачы ўсім целам, а калі пасьлізнуўся і ўпаў на вільготную падлогу, гарадавы біў яго наском вялікага бота пад рэбры.

Праз два дні Хаця Камар вышаў хістаючыся з катуха і пашоў на вуліцы нязвычайна для сябе ціхаю хадою. Разадраная вопратка, апухлыя вусны ў нос, сінія крывяпадцёкі, праз якія ледзь толькі відны былі вочы—съведчылі, што Хаця Камар грунтоўна азнаёміўся з канстытуцыяй Расійскай імпэрыі, але дасьціпны афарызм пачаў разам з крыклівымі балаголамі вандраваць па мястэчках Наддзьвіньня, выклікаючы на стомленых тварах схіленых над варштатам людзей усьмешкі і шчырэы сьмех. Сьмяяліся таму, што тыя нагавіцы, у якіх пан губэрнатар з Віцебску прымаў у каранацыйныя дні парад, каштавалі больш за ўсю рухомую і нярухомую маёмасьць шаўцоў з Грайронку, сьмяяліся таму, што востры жарт яўрэйскага калбейніка, сьцягваў пана губэрнатара з пастамэнту, на які ён быў пастаўлены ўрадам, сьмяяліся і таму, што, сапраўды, ад большай паловы тубыльцаў Грайронку, пахла скураю і шавецкаю смалою.

Згрыбелыя хаты вуліц гораду аздаблялі шыльды. Прыгожа намаляваныя боты са шпорамі на шыльдзе казалі бяз літар кожнаму пісьменнаму і няпісьменнаму, незалежна ад нацыянальнасьці, роду і ўзросту, што тут працуе шавец. Прыгожа намалёваны чыноўніцкі мундзір і сутана—што тут працуе кравец. Радзей спатыкаліся шыльды, на якіх кульбакамі і збруяй съведчылі аб сябе рымары, самаварамі ды імбрычкамі—бляхары, гадзіньнікамі і пярсьцёнкамі—ювэліры. І толькі кавалі ў кузьнях на ўзьбярэжжы Грайронкі, грукаючы на кавадлах, бяз усялякіх шыльд растлумачвалі чалавеку, у якім кірунку яму рушыцца пры патрэбе падкаваць каня, альбо назубіць серп і падвастрыць сякеру.

Але ў гэтую раніцу, калі Хаця Камар вышаў з катуха, Грайронак здаваўся пакінутым ягонымі тубыльцамі. На пляцы нідзе не натапырваліся аглоблямі сялянскія калёсы, і моцныя замкі з цяжкімі завaламі пільна вартавалі паліцы зачыненых крам. На вуліцах, дзе заўсёды бавіліся дзеці яўрэйскай галоты, а на лаўках каля хат сядзелі, вяжучы шкарпэткі, бабулькі—цяпер нікога ня было відаць, і толькі нудна рыпелі рознакаляровыя шыльды. Нават пагасілі свае горны кавалі і бляхары, нават даматурнічаў Гэрцык Віфэл Азэйгэр, аб чым съведчыў самотны каромысел, які беспрытульна прыхіліўся да ганку хаты, дзе кватараваў стары ваданоша.

Хаця нязвычайна для сябе марудна крочыў, адчуваючы слабасьць ва ўсім целе, і нічога не заўважаў. Гарэў, як ад вострай мяцеліцы, пачырванелы твар і ў адным кірунку беглі неадчэпныя думкі:

— За што гэты гой мяне зьбіў? За тое, што я калбейнік на ўсё жыцьцё і батхан на хвіліну? Дык гэта-ж мой кавалак хлеба і селядзец! Хіба-ж я схлусіў, калі параўняў губэрнатара, халера на яго галаву, з шаўцом? Хай губэрнатару столькі скулачак, колькі гарбінак на ўсёй мацы ад часу Майсея. Трэба толькі бачыць шыльды. Вось:

ШАВЕЦ АРОН ШАЛЫТ,
ШАВЕЦ ХАІМ ФРЭЙДОВІЧ,
ШАВЕЦ ЗУСЯ БЫХАЎСКІ.

Хаця ішоў, несьвядома адкладваючы колькасьць шаўцоў на пальцах, і нечакана, зірнуўшы ў адно вакно, спыніўся. Ён пабачыў Мэера Мойжаса, апранутага ў талэс [1]), і цяпер толькі адчуў, як ціха у Грайронку, і цяпер толькі зразумеў, чым гэта тлумачыцца.

Сёньня дзесяты дзень кучак, дзень суровага посту Ём-Кіпура, калі ўсемагутны Элогім [2]) яшчэ раз сьцьвярджае наканованае кожнаму яўрэю ў новым годзе. Сёньня апошні дзень, калі яўрэй толькі зможа прасіць у вялікага Элогіма літасьці ў выпадку прароцтва ліхой гадзіны. Сёньня трэба ўвесь дзень ад раніцы да вечара прабыць у сынагозе, пералічваючы ў пацерах свае грахі.

Хацю агарнула жуда, калі ўявіў ён, што ў гэтыя дні над ім, замест кучкі, была вільготная столь катуха, а цяпер ён нават забыўся на сёньняшняе сьвята і ўвесь абшарпаны і брудны стаіць на вуліцы ў той час, калі яўрэі моляцца. Але пачуцьцё радасьці паступова выціснула жуду, і, прытуліўшыся да плоту, Хаця шаптаў:

— Ну, і няхай я абшарпаны і брудны. Няхай мяне зьбіў гэты гой [3]), ён ня ведаў, што, зьбіваючы яўрэя, ён зьневажае гэтым вялікага Элогіма. Няхай ў мяне апухлы твар, але я—левіт. Я належу да лепшай часткі яўрэйскага, абранага богам народу і сёньня мушу чытаць у сынагозе, дзе заўсёды стаю наперадзе за іншых. Кол-Нідрэ [4]). Тое, што я капцэн, што я калбейнік, што мне часамі дапамагае малбіш-арумім [5])—гэта часовая зьява, бо ў маіх жылах цячэ чыстая, як крыніца Юдзеі, кроў Леві, і калі суровы Элогім зьлітуецца нарэшце над сваім шматпакутным народам і верне яго ў краіну бацькоў, я першы прынясу ў новым храме ў Ерусаліме ахвяру.

Хаця яшчэ раз зірнуў на вакно і, ня гледзячы на тое, што ад хуткага руху ва ўсім целе адчуваўся боль, борзда пашоў да сынагогі.

А Мэер Мойжас маліўся. І ў словы пацераў, што даўно зрабіліся звыклымі, як сьвятло шабасовых сьвечак, упляталіся жыцьцёвыя ўспаміны. Высокага росту, згорблены цяжарам жыцьця, з вялікай ужо крыху кранутай сівізной барадою, ён чытаў, высьпеўваючы, пацеры, гледзячы зьверх зьвязаных ніткаю акуляраў; ён пільна адганяў думкі пра мінулае, але ў дзень, калі Элогім падводзіць падрахунак вартасьці кожнага яўрэя, гэтае мінулае мімаволі ўсплывала перад ім.

Калісьці ён быў моцны як Галіяф і падымаў на выцягнутай руцэ двухпудовік, тады Мэеру было васемнаццаць гадоў, а васемнаццаць гадоў Мэеру было дваццаць восем год таму назад. У яго была прыгожая, як Суламіф, жонка Лэя, побач з якой лягчэй было змагацца за жыцьцё.

З стогнам выкрыкваючы словы пацераў, Мэер намагаўся вызваліцца ад палону думак, але дарэмна.

---

[1]) З яўр. мовы—Белае з палоскамі адзеньне жанатых мужчын у час пацер.
[2]) З яўр. мовы—Імя бога.
[3]) З яўр. мовы—Не яўрэй.
[4]) З яўр. мовы—Урачысты пацер на сьвята Ём-Кіпур.
[5]) З яўр. мовы—Рэлігійнае брацтва, якое дапамагае бедным вопраткай.

Не заўсёды на шабас была фіш з непераймальным водырам цыбулі з перцам. Вельмі ня часта быў флэйш, такі апэтытны з хрэнам. Але заўсёды была нэндза, і мусіць таму раней часу адзьвінелі сябры хэўра-кадышы [1]) скарбонкамі перад мітай [2]) з Лэяй, што пакінула Мэеру бязьлетак-дачок і сына. Прыгожая была жонка; вось у старэйшай дачкі Блюмы—яе глыбокія чорныя вочы, у меншай, Гені—яе сьмех, а ў сына Янкеля—яе складнасьць і гнуткасьць.

Адганяе думкі Мэер, адганяе думкі, але ўсё дарэмна, бо большая і лепшая палова жыцьця ўжо за плячыма, па той бок жыцьцёвага пергвалу.

Дзеці вось выгадаваліся, але няма ў іх шчырасьці да яўрэйскага, ды сынагогі, і ў гэтым вінаваты толькі ён, бацька, што ня здолеў іх, як трэба, выхаваць, калі яны яшчэ былі падатлівей за воск, а цяпер у сваіх поглядах на навакольнае яны мацнейшыя за крэмень. Сын Янкель увесь час прабаўляе з гоямі, чытае забароненыя ўрадам газэты і нават у шабас зможа працаваць, дачка здолее зьесьці агідную, прарокамі забароненую, сьвініну, і ў гэтым вінаваты толькі ён—што ня выхаваў іх, як трэба. І што рабіць, калі абяззбройваюць Мэера вочы Блюмы, сьмех Гені і постаць Янкеля?

Мэер закрыў малітоўнік, зірнуў на прэс, крэйду і нажніцы, што ляжалі занядбана на стале, апрануў паліто, рыхтуючыся ісьці ў сынагогу. Калі вышаў у сумежны пакой, заўважыў, як Блюма штосьці чытае, але, пачуўшы крокі бацькі, адразу хутка схавала кнігу, а Янкель, які таксама чытаў, так забыўся ў гэты час на ўсё, што нават не пачуў, як скончыў маліцца бацька. Мэер з выглядам, што нічога ня бачыў, прайшоў, схіліўшы галаву, праз пакой, вышаў на вуліцу і пакрочыў да сынагогі.

Як толькі зачыніліся за бацькам дзьверы, Блюма зноў выцягнула кнігу і пачала хапатліва адшукваць старонку, на якой нечакана спынілася. Калі дзяўчына чытала, яе бровы дзіўна насупліваліся, і тады ёй, здавалася,—не 17 год, як было ў сапраўднасьці, а гадоў пад трыццаць. Янкель, часамі спыняючыся чытаць, сачыў, усьміхаючыся за сур'ёзнасьцю сястры, нарэшце падышоў ціхутка так, што яна нават не пачула, і схапіўшы ў яе з рук кнігу, зірнуў на тытульную старонку:

И. С. Тургеневъ

**„ДВОРЯНСКОЕ ГНѢЗДО“**

**РОМАНЪ.**

— А-ай, Янкель, які ты нядо-обры!—працягнула дзяўчына.— Вельмі цікавая кніга, а цяпер прыдзецца зноў шукаць. Якое асабістае жыцьцё ў шляхты, і як яно не падобна да нашага!

— Сёньня Ём-Кіпур, Блюма, і чытаць Тургенева грэх.

[1]) З яўр. мовы—Рэлігійнае брацтва для пахаваньня памёршых.
[2]) З яўр. мовы—Пахавальныя насілкі.

— Толькі ня грэх чытаць Янкелю,—перабіла Блюма,—бо ён чытае падручнік па гісторыі. Ха-ха-ха!

Яны, брат і сястра, стаялі побач так падобныя адзін да аднаго, і разам з тым, так непадобныя. Ня гледзячы на тое, што Янкелю было толькі 19 гадоў, ужо ў пераносьсі пралягла, так падобная на тужлівыя рыскі ў кутках губ Блюмы, зморшчка, цяпер выпрасаваная часовай усьмешкай. Зьбітыя вялікія рукі, што трымалі падручнік, сьведчылі аб тым, што Янкель займаўся цяжкою працаю, і такімі не падобнымі да іх былі невялічкія, амаль што дзіцячыя рукі Блюмы.

— Я ўчора бачыў Стася,—сказаў Янкель.

— Няўжо?—вырваўся ў Блюмы, нечакана для яе самой, радасны выкрык. Яна адчула, што пачынае чырванець і, як гэта бывае ў вельмі сарамяжлівых людзей, ад адчуваньня таго, што яна чырванее і брат гэта заўважае, пачырванела яшчэ больш.

У гэты момант у хату ўбегла малодшая сястра Геня, зусім яшчэ дзяўчынка, і, падскакваючы на адной ножцы, закрычала:

— А да нас Стась ідзе! Стась ідзе! Ужо ў двары! Ужо ў двары! А што, праўда?—калі дзьверы адчыніліся і ўвайшоў Стась.

Некалькі разоў пасьля тэй навальнічай ночы зьбіраўся Стась зайсьці да сяброў свайго маленства і кожны раз штосьці (ён і сам добра ня ведаў, што) прымушала яго адкладваць гэта. Яму вельмі хацелася бачыць Янкеля і Блюму, але тады, калі ня будзе ў хаце Мэера, і сёньня, намеркаваўшы, што бацька напэўна ў сынагозе, а дзеці, магчыма, дома—пайшоў да Мойжасаў.

Яшчэ на парозе, аддаўшы ветлівы дабрыдзень, убачыў Стась, што дрэнна захоўвае сваю радасьць Блюма і замкнёна трымае сябе Янкель.

— Дабрыдзень! Сядай вось на крэсла,—сказаў Янкель, ціснучы руку.

— Як вы зьмяніліся. Стась,—заўважыла Блюма. Упяршыню яна зьвярнулася так да Стася, і той адчуў, што і ён цяпер ня здолее зьвяртацца да Блюмы інакш, бо гэта ўжо ня тая дзяўчынка, якою ён бачыў яе апошні раз.

— А вельмі цяжка адзначыць, хто з нас больш зьмяніўся.

— А менавіта?

— Толькі не палічэце, Блюма, гэта за звычайны, як пятак нашмульганы і танны кампліментт, але вы яшчэ больш папрыгажэлі.

— Стась кпіць. Якая я прыгожая, я звычайная кравецкая дачка з Грайронку, а вы бачылі ў вялікім горадзе сапраўды прыгожых дзяўчат.—І Блюма, зноў чырванеючы, выбегла ў сумежны пакой.

— Як маецца Янкель?—спытаў Стась.

— Трэба-б лепей, ды няма дазволу ад Скрабкі. Грукаю над кавадлам ад зары да зары. Напэўна шляхцюкі і панадзюкі больш дрэнна маюцца? Напэўна яны супраць, каб даслаць цару ў падарунак пяць залатнікоў волава? Напэўна яны супраць, каб даслаць фабрыкантам і абшарнікам чырвонага пеўня?

Твар Янкеля перасмыкнула, скрывіўшы падбародак, нянавісьць, яшчэ глыбейшая стала зморшчка ў пераносьсі, і Стась зразумеў, што гэта ўжо ня той Янкель, з якім калісьці ён лавіў у Грайронцы дробную рыбку, купаўся ў Дзьвіне, руйнаваў на Вітавай Магіле птушыныя гнёзды.

— Але хіба-ж усе яны дрэнныя, Янкель?—спытаў Стась.—Вось я, напрыклад, звольнены на некаторы час з унівэрсытэту за ўдзел у студэнцкіх беспарадках, і шмат іншых разам са мною. Ня гэтулькі цар вінаваты, колькі тыя, што навакол яго.

— Ха-ха-ха! Вы—рэвалюцыянэры пакуль вучыцеся, а як станеце, пасьля атрыманьня дыплёмаў, суровымі кручкамі, сьледчымі ды пракурорамі, перакінецеся ў першых катаў.

— Крыўдна гэта, Янкель. Вельмі крыўдна. Мы-ж сябры з маленства. Хіба-ж ты ня ведаеш мяне?

— А-а-а, сябры з маленства, сябры з маленства,—гіранічна працягнуў Янкель,—толькі ў маленстве і магчыма паміж намі сяброўства. А цяпер ты—шляхціц, пан Станіслаў Галькевіч, студэнт імпэратарскага унівэрсытэту, выхаванец ксяндза Вайноўскага, а я—жыд, агідны жыд, сын краўца, больш падобнага да жабрака, каваль. Нічога ў нас ня можа быць сяброўскага, у лепшым выпадку—застанемся звычайнымі знаёмымі.

— Які ты, Янкель, не гасьцінны!—сказала, хутка ўваходзячы ў пакой, Блюма.—Не зьвяртайце на яго, Стась, аніякай увагі—ён астатнім часам хварэе на нэўрастэнію.

Гутарка набыла больш спакойны характар. Стась даведаўся, што Блюма служыць за прыказчыцу ў кніжным аддзяленьні ў магазыне Баранбаума, шмат чытае і рыхтуецца здаваць пры гімназыі экзамэн на аптэкарскую вучаніцу. Вочы дзяўчыны песьцілі Стася, але праз колькі часу, вышаўшы з хаты Мойжасаў, ён прышоў да вынікаў, што вялізныя муры будуюць гады паміж сябрамі з маленства.

Як толькі вышаў Стась, Янкель, імпэтна падняўшыся з крэсла і шваргануўшы на стол кнігу, сказаў:

— Шляхцюкі гуляюць у рэвалюцыянэры. Што ёсьць больш агіднае за калішнюю гамонку і за гэту сьвяточную нуду! Пайду да сынагогі, хаця на людзей паглядзець, і то лепш будзе.

У сынагозе сёньня было перапоўнена і яшчэ здалёк чуўся нясьціханы стогн, жаласьлівае нараканьне і гоман, якія то заціхалі, то ўзрасталі, то зьліваліся ў нястройны хор, то падзяляліся на паасобныя выклікі. Мужчыны, апранутыя ў талэсы, трымаючы ў левай руцэ старасьвецкія малітоўнікі, уздымаюць правую руку. Яны хутка чытаюць якіясь заклёны і старанна моляцца, шукаючы чагосьці вачыма ў закуранай столі.

Дрыгавіца сьпеваў зьліваецца нарэшце ў адзін пакутны лямант, і палкі тэнар раптам пакрывае лямант:

— Ля палацаў пакінутых!

— Самотныя сядзім мы тут і плачам!—падхопліваюць усе.

— Молім цябе, зьлітуйся над Сіонам!

— Зьбяры дзяцей Ерусаліму!—падхопліваюць яўрэі.

— Няхай жыве на Сіоне згода і радасьць!

— І няхай зноў расьцьвіце булава Ясея!

Янкель увайшоўшы стаў ля самых дзьвярэй сынагогі, не адчуваючы ніякага малітоўнага настрою, а той страх, які калісьці ў маленстве адчуваў у дзень суровага сьвята, даўно загінуў разам з безьліччу іншых уражаньняў гэтага маленства. Ён бачыў, як уперадзе за ўсіх стаялі каганы [1]), за імі—левіты, сярод якіх у абшарпанай вопратцы зьбіты Хаця Камар, далей іншыя яўрэі, дзе Янкель заўважыў і бацьку і Эел-Бэра і Герцыка Віфэл Азэйгэр.

Хаця Камар з нецярплівасьцю чакаў моманту, калі ён будзе перад усімі чытаць вялікаўрачыстую пацеру Кол-Нідрэ.

Вось, вось зараз ужо трэба ісьці чытаць,—шаптаў ён, але, калі ўжо нарыхтаваўся ісьці, да яго падышоў сеган [2]) сынагогі Мэндэль Фішман, буйны лесапрамысловца, якому належала некалькі румоў на Дзьвіне і Мяжы. Ён з усьмешкаю паглядзеў на крывападцёкі Хаці, на яго латаную і брудную вопратку і нарэшце прарваў нудную маўчанку:

— Хацкель, сёньня Кол-Нідрэ чытае маўтэр [3]) Баранбаум.— І пашоў, з некатораю цяжкасьцю нясучы тлустае цела.

Хаця адчуў боль, які быў непараўнальна мацнейшы за боль кагадзе дазнаны ў катуху. Ён нават пачырванеў, і стараючыся ні з кім не спатыкацца вачыма, вышаў з першых радоў, спыніўшыся ля дзьвярэй сынагогі паблізу ад Янкеля. Адсюль бачыў і чуў, як Баранбаум бязуважна, нібы падрахункові рэестр, чытаў Кол-Нідрэ. Калі скончылася чытаньне пацеры, да Хаці падышоў плетэнтэйлер [4]) Пінсон.

— Заўтра Хаця, цябе запрашае на полудзень дабрадзейны Баранбаум. Вельмі смачны полудзень. Будзе яшчэ і Гэрцык Віфэл Азэйгэр і Пэся-Брайна, і Бэрэлэ Пшык, і Бома Радзівіл, і Хінка-Прынка.

Хаця нечакана—што прымусіла Пінсона, лыпаючы вачыма, аступацца назад—пачаў перад самым яго носам трэсьці кулакамі і потым шпарка вышаў з сынагогі.

— Мішугінэр. Нарышэ коп. Цудрэйтэр! [5])—шаптаў Пінсон.

Яўрэі зноў маліліся з стогнам, уздымаючы ўгору рукі, і ўжо вечар агарнуў горад, калі пачуліся зычныя гукі шыфора [6]). І раптам ажылі, заблішчэлі, расчыніліся вочы. Крыкі захапленьня патлынулі нядаўні лямант:

— Ашоно габоо бійрушалайм!

— Ашоно габоо бійрушалайм!!

---

[1]) З яўр. мовы—Паводле вусных паданьняў нашчадкі біблійнага Арона.

[2]) З яўр. мовы—Стараста сынагогі.

[3]) З яўр. мовы—Той, што за грошы на карысьць сынагогі купляе права чытаць агульную паперу.

[4]) З яўр. мовы—Сябра дабрачыннага брацтва, праз якога ногіды запрашаюць на сьвятах да сябе на полудзень бедакоў.

[5]) З яўр. мовы—Вар'ят! Дурная галава! Недарэка!

[6]) З яўр. мовы—Малітоўны рытуальны рог.

І вось, вось яно, проста перад самымі вачыма яўрэяў, блакітнае марыва Юдзеі. Ланцуг высокіх Моавіцкіх гор праразае краіну. Яскрава, як пастэль відзён увесь у золаце і мармуры біблійных Ерусалім, апеты Давыдам і Саламонам, падпіразаны маёвым поясам садоў Песьні Песянь. Усё пластычней і рэльефней пачынаюць акрэсьлівацца праз рось абрысы, маністы гор вакол Ерусаліму—Масьлічная гара, гара Спакусы, гара Злой Нарады, Гіон—і ў падгор'і іх прыгожыя пад паўднёвым сонцам масьлічныя гаі. Грыміць па Язафатавай даліне струмень Кедрону і падпірае выпадковую хмурынку белы конус вапеннай вяршыні гары Самуіла.

Мэер Мойжас, закрываючы неяк па дзіцячы вочы далоньню, ціха плача, ківаючы галавою, і зноў крычыць праз сьлёзы радасьці разам з усімі:

— Лшоно габоо бійрушалайм!

А побач з ім на паўголаса просіць Гэрцык Віфэл Айзэгер:

— Зьбяры дзяцей Ерусаліму.

— І няхай зноў расьцьвіце булава Ясея.

Адзін за адным пачалі выходзіць з сынагогі, і калі вышаў Мэер, ён заўважыў натоўп і пасярэдзіне яго ўбачыў Янкеля, які гаварыў. Побач з Янкелем стаяў, з выглядам чалавека, што паступова пачынае разумець пытаньні, адказу на якія шукаў усё жыцьцё—Хаця Камар.

— Ну, добра, яўрэі, няхай будзе Лшоно габоо бійрушалайм, няхай скажам, нікога з нас у Грайронку не застанецца, але што лепшае вы атрымаеце?

— Блюзьнер!—крыкнуў масёнжнік Давід Гарлац, якога клікалі так за тое, што ён усюды і заўсёды з пенай на губах супярэчыў, але Янкель гаварыў далей.

— Нічога ня будзе лепшага. Зьменіцца толькі тое, што Гэрцык Віфэл Азэйгэр будзе цягаць ваду ня з Дзьвіны на Духаўскую вуліцу, а са струменю Кедрону, альбо з крыніцы Сілоамскай да Сіонскай брамы. Глыбокапаважаны ногід Баранбаум перанясе свой магазын да Сьцяны Плачу і адчыніць яшчэ два аддзяленьні—гатовай вопраткі і пасудкавае, а глыбокапаважаная, бадай, што ногід, Пэся-Брайна будзе гандляваць куханамі і пернічкамі ў Надмагільлі цара Давыда.

— Ён кажа, яўрэі, праўду! Ён ня маніць!—заўважыў Эел-Бэр, з захапленьнем гледзячы проста ў рот Янкелю.

— Трэба клікнуць Скрабку!—гукнуў дзесьці ззаду Баранбаум.— Гэта бундавец.

— Будзе толькі тое,—казаў далей Янкель,—што Хаця Камар будзе ля Ерусалімскага вокзалу чысьціць боты ангельскім афіцэрам і ў падзяку атрымоўваць стэкам па твары. А вы, шайвецы і капцэны, будзеце зноў шукаць працы, зноў на штосьці спадзявацца. Трэба вось тут у Грайронку збудаваць Ерусалім, трэба менш слухаць брахню магідаў [1]) і рабінаў.

[1]) З яўр.мовы—Казальнік.

— Пракляты гой! Хэйрэм [1]) яму Хэйрэм!—залямантавалі навакол.

— Скрабка! Скрабка!—крычаў асіпла Баранбаум, але ў постаці Янкеля, у яго твары было гэтулькі ўпэўненасьці, што ніхто не адважыўся крануць яго пальцам, калі ён, вышаўшы з натоўпу, пакрочыў дахаты.

III

Жыцьцё было ціхае і ледзь-ледзь прыметнае. Гэткая ціша бывае толькі перад навальніцай, калі нават чулая асіна спыняе свае бясконцыя шэпты. І навальніца, зруйнавальная і шалёная, пранеслася над усёй краінай, закрануўшы і Грайронак.

Дзень быў такі звычайны, як і безьліч дзён перад ім. Цягаў ваду з Дзьвіны Гэрцык Віфэл Аззйгер, шукаў пасажыраў Эел-Бэр, блукаў па рынку галодны Хаця Камар, гандлявала пернічкамі Пэся-Брайна, грукаў у кузьні Янкель Мойжас. І раптам на рынку людзі рынуліся да паліцэйскай управы, дзе наклейваў гарадавы на дзьвярах маніфэст з каранованым двухгаловым арлом зьверху. Чыталі, марудна сьлябізуючы, але ўсё было зразумела і малапісьменнаму:

— Мы Божьей милостію Николай Второй,—пачынаўся маніфэст і канчаўся заклікам да апошняга ўздыху і апошняй кроплі крыві змагацца з ворагам веры, цара і бацькаўшчыны—немцамі. Ніжэй маніфэсту быў загад губэрнатара аб мабілізацыі. Ашаломлена застыў натоўп перад друкаванай паперай, нібы шукаючы за выразнымі літарамі некага жартаўлівага рэбусу. А ужо ў тых хатах, дзе былі мабілізаваныя, галасілі, ківаючы сівымі галовамі, маткі, лямантавалі, заломліваючы рукі, жонкі нічога не разумеючы, глядзелі проста ў вочы пастарэлых бацькоў невялікія дзеці і плакала, бо плакала маці.

**Вайна!**
**Вайна!!**
**Вайна!!!**

— сьвідравала ў кожнай зьвіліне мазгоў.

На другі дзень пасьля аб'явы маніфэсту, як толькі адышла ў катэдры ўрачыстая імша, на пляцы быў малебен аб дараваньні перамогі расійскай дзяржаве над супраціўнікамі. Пасьля зычнага «Многие лета», якое прароў царскаму дому магутны, з валовай шыяй дыякан, напалохаўшы адгалоскамі цьвінтарных гракоў—па вуліцах гораду пашла спавітая трохкаляровымі сьцягамі маніфэстацыя. Сьпераду яе некалькі гарадавых, ідучы пасярэдзіне вуліцы, заганялі сустрэчных сялян з калёсамі ў бакавыя завулкі. Перад доўгай калёнай гімназыстаў і гімназыстак плыў сьцяг з вялізарнымі літарамі.

На Саву, на Драву,
Мораву, Молдаву
На тихій и свѣтлый Дунай.

[1]) З яўр. мовы—Адлучэньне ад грамадзтва, падобнае да адданьня анатэме.

Перад калёнай чыноўнікаў, якія асьцярожна несьлі партрэты цара і царыцы, трымцеў сьцяг з надпісам:

Крестъ на святую Софію

Луналі ў паветры гукі гімну імпэрыі:

Боже, царя храні,
Сильный, державный
Царствуй на славу нам...

— прымушаючы здымаць шапкі. Толькі Гэрцык Віфэл Азэйгер, які ў гэты момант выпадкова вышаў з залулку з каромыслам на плячы, ня зьняў шапкі, і Скрабка, падскочыўшы, штурхануў яго кулаком у грудзі, выцісьнуўшы з сьвістам праз зубы:

— Скідай шапку, парх! Хіба-ж ты ня чуеш, вашапруд, што сьпяваюць?

Ваданоша спалохана спыніўся, не разумеючы яшчэ нічога, і Скрабка зьбіў у вулічны бруд старую аблезлую шапку.

Праз некалькі дзён з гораду і павету пашло, падымаючы на шляху пыл, некалькі тысяч лепшых, самых дужых, дзяцюкоў. Адыходзячы яны сьпявалі зухаватыя салдацкія песьні, але галашэньне новых салдатак захліствала штучную фальшывую вясёласьць.

Здавалася, што вайна ўжо цягнецца некалькі гадоў. І ў катэдры Сьвятога Духа, і ў касьцеле Марыі Магдалены, і ў сынагогах—штодзень маліліся аб перамозе, а на Грайронак з усіх бакоў паўзьлі, адна другой цікавейшыя, чуткі.

Тонам, які не дапушчае спрэчак, апавядалі, што немцы—тыдзень як абстрэльваюць Віцебск і вось-вось прыдуць у Грайронак. Гаспадыні пачалі ўжо зьвязваць у клункі хатні скарб і сушылі сухары, рыхтуючыся ўцякаць, але мінаў тыдзень, а потым другі, затым трэці—і немцаў ня было відаць.

Перапуд спавіў Грайронак тады, калі балагол Бэня Ша, вярнуўшыся перад шабасам з Віцебску, апавядаў у сынагозе, што на свае вочы бачыў, як з боку мястэчка Буды Курбацкай на вёску Лапешкі рушылася цэлая дывізія немцаў. Праўда, гэты-ж самы Бэня Ша ў час японскай вайны раз паведаміў, што каля тых-жа Лапешак бачыў цэлую дывізію японцаў, якія, заўважыўшы Бэню, рынуліся да яго, шалёна крычачы:—Банзай!!! У Бэні Ша тады быў вельмі добры слуцкі конь, і ён не бяз цяжкасьці, але ўсё-ж даў драпака. Праўда, з таго часу смаркачы, бегаючы за Бэнем, дражнілі яго:—Бэня Банзай! Бэня Банзай!—але і цяпер не адразу пераканаліся ў тым, што Бэня зноў хлусіць.

Па вёсках, якія сквапна пераймалі кожную чутку, блукаў растрыга-поп, апавядаючы, што па біблії вайна скончыцца тады, калі на аднаго чалавека прыдзецца сем кабет, і кабеты вохкалі і хрысьціліся.

Больш зразумелымі і яскравымі за ўсе чуткі былі белыя паперы, якія раз за некалькі тыдняў наклейвалі на дзьвярах паліцэйскай управы.

БЮЛЛЕТЕНЬ.

**Арон Скобло.** Грайронакъ. Витебской губ. Убитъ в бою подъ Черторійскомъ

**Фома Курмель.** Д. Лепешкі Грайр. уезда. Тяжело раненъ подъ Эрзерумомъ

**Довид Кушнеръ.** М. Зацвилишки Грайр. уезда. Пропалъ безъ вести подъ Осовцомъ

**Левик Зельвянскій.** Грайронакъ Витебской губ. убитъ в бою подъ Карлибабой

Ікля дзьвярэй, у якіх статуем стаяў, сочачы за парадкам рослы жандар, рвалі валасы зморшчаныя маткі, гублялі прытомнасьць жонкі і дзяўчата. А вайна імкнулася бяз стрыму бязносцай паляндрай, імкнулася безвач, без празораў і аддалях, імкнулася, як імкнецца ўсё далей і далей паўз простакутныя сэмафоры і чырвоныя сьцяжкі міжнародны экспрэс, на якім сканаў раптоўна ад разрыву сэрца машыніст.

Новыя загады аб прызыве чарговых гадоў барадатых запасных ускалыхвалі горад, як ускалыхвае на ложку малярыйнага, але праз пэўны час наклейвалі загад аб прызыве і дваццацігадовых хлапцоў. У той дзень Янкель Мойжас, як і заўсёды, працаваў у кузьні і спачатку, стомлены працай, не зразумеў аб чым апавядае яму праз сьлёзы, прыбегшы да кузьні, Блюма. А калі нарэшце зразумеў, спакойна зьняў хвартух, паклаў ля кавадла молат, разьвітаўся з іншымі кавалямі і марудна, крыху зьбялелы, пашоў з кузьні, заспакойваючы сястру. Першага ў хаце ўбачыў бацьку, які, адклаўшы ў бок нажны, сядзеў нярухома на крэсьле, гледзячы неяк дзіўна і бязуважна. Геня з заплаканымі вачыма адбірала яго бялізну.

Праз два дні, якія прамільгнулі як дзьве хвіліны, Янкель стаяў голы перад сталом мэдычнай камісіі, што прызнала яго здатным да вайсковай службы, а яшчэ праз дзень ён ужо разам з сотнямі іншых хлапцоў апынуўся ў страі на пляцы перад катэдрай Сьвятога духа з абыякава, зьняўшы па загаду шапку, слухаў малебен. Калі гімназыйны хор засьпяваў «Спаси господи люди твоя», выразная каманда афіцэра адразу зварухнула шарэнгі бязвусых салдат, якія пашлі на Дзьвіну, да прыстані. Янкель ужо з лайбы заўважыў на ўзьбярэжжы бацьку, што стаяў разам з Блюмай і Геняй, ня спускаючы з яго вачэй.

А як параходзік, прарэзьліва сьвіснуўшы, пашоў, усё павялічваючы хуткасьць, і пацягнуў за сабою лайбы—стогнам застагнала ўсё ўзьбярэжжа. Людзі беглі берагам ракі, каб можа апошні раз зірнуць на сваіх крэўных. Адна маці не зьвяртаючы ўвагі на гальлё вербалозу, што востра хвастаў яе па счырванелым ад сьлёз твары, не

зьвяртаючы ўвагі на жорсткае каменьне, што абдзірала ёй ногі, доўга бегла і лямантавала:

— Ой, майн Бэрэлэ! Ой, майн кінд [1]).

— бегла пакуль і параход і лайбы ня зьліліся ў адну, ледзь толькі бачную ў сініх абшарах Дзьвіны кропку.

І з таго часу, як Янкель пашоў на фронт, Мэер адчуваў, што яго рукі амаль ня трымаюць нажан, і нітка не адразу трапляе ў вушка голкі. Ён некалькі разоў на дзень хадзіў на пляц, з палахлівасьцю падыходзячы да бюлетэню. Калі спатыкаў імя Янкель—лёдавай вадой аблівалася сэрца перш, як ён, прачытаўшы прозьвішча, пераконваўся, што гэта якісьці іншы. Янкель загінуў дзесьці за гонар і славу бацькаўшчыны. Ад Янкеля прыходзілі часам кароткія, напалову замурзаныя атрамантам вайсковай цэнзуры лісты. Для бацькі гэтыя дні былі сьвятам, і ён, узбройваючыся сваімі інвалідцымі акулярамі, чытаў і перачытваў ліст, пакуль зьмест яго не запамінаўся так моцна, як словы ёцар—хаім [2]). Потым і гэткія кароткія лісты перасталі прыходзіць, і доўгая маўчанка востра калола дзідамі страшных здагадак. Хаця Камар цяпер штодня на пляцы гандляваў тэлеграмамі са стаўкі камандора дзейнай арміі і крычаў:

— У Карпатах расійскае войска ўзяло Вышкава. Вялікія баі ля Смольніка!

— Жорсткія баі ў Шампаніі і на Маасе.

— Нашай мінай патоплены турэцкі крэйсар «Мэджыдые».

Жабрак-калбейнік паведамляў Грайронак аб рэках крыві, і заўсёды Мэера прымушаў здрыганулца ўсёй істотай крык: «ожесточенный бой».

Амаль што два месяцы нічога ня было чутно пра Янкеля. І аднойчы, калі сям'я Мойжасаў вячэрала, хтосьці ціхутка застукаў у вакно, якое выходзіла на дзядзінец. Мэер пільна пачаў углядацца ў цемру і раптам, ускочыўшы з глухім крыкам, рынуўся з хаты, зьдзівіўшы дачок, якія нічога ня чулі. Праз момант ён увайшоў усьміхаючыся ў хату, а за ім у абшарпаным салдацкім шынэлі худы і зьбялелы Янкель.

— Ой, Яне!—закрычалі Блюма і Геня і, абнімаючы брата, дапамагалі яму зьняць салдацкую кайстру і жорсткі шынэль. Праз хвіліну, седзячы за сталом сярод сваіх, у роднай хаце, дзе ваканіцы былі па яго просьбе шчыльна зачынены, ён апавядаў:

— Я—дэзэртыр і ўцёк з пазыцыі пасьля бою пад Шаўлямі. Хопіць для некага скарб з пекла выцягваць! Каго я буду бараніць? Магазын Баранбаума і касьцёл Вайноўскага? Веру, цара і бацькаўшчыну? Дык няхай яны ясным полымем згараць. У арміі я ўступіў у партыю бальшавікоў і працаваў сярод салдат, а цяпер маю працаваць тут.

— А цябе-ж, Янкель, яны будуць шукаць,—заўважыла Блюма.

---

[1]) З яўр. мовы—Ой, мой Бэрачка! Ой, маё дзіця!

[2]) З яўр. мовы—Пацера ў час абмываньня рук.

— Зразумела. Але-ж яны апошнія месяцы дажываюць.

Неспакойна спалася ў гэту ноч Янкелю. Над ім была чыстая столь, але марылася яму яшчэ пазыцыя пад плаклівым небам Літвы, і таму крычаў зычна праз сон:

— **Агонь!**
**Першая!**
**Другая!**
**Батарэя!**

— а на сьвітаньні, разбуджаны Блюмай, вышаў з хаты і агародамі пашоў марудна да крушняў замку каралевы Боны.

Гэта ня было нечаканасьцю, калі праз некалькі дзён пасьля прыходу Янкеля ў хату Мэера, што быў тады адзін, увайшлі Скрабка і некалькі гарадавых. Яны, не размаўляючы з Мэерам і не адказваючы на яго запытаньні, ператрэсьлі ўсё ў хаце—заглядвалі і ў шафу, і пад падлогу, і на вышкі. Нарэшце Скрабка, ад якога за некалькі крокаў сьмярдзела дэнатуратам, падышоў да Мэера, што нібы бязуважна сачыў за пошукамі і, заціснуўшы ў кулак яго доўгую бараду, тузаў так, што ў дзеда выступілі на пачырванелым твары сьлёзы, і крычаў:

— Дзе сын, жыдоўская храпа, адказвай! Адказвай, пэйсаваты парх! Расія ў небясьпецы, чатыры з боку, а яны ўцякаюць з фронту! Ы-ы-ы, ерусалімскія шляхціцы!

Мэер мармытаў задыхаючыся, што ён нічога ня ведае пра сына, і нарэшце Скрабка пакінуў разам з гарадавымі хату.

А ўвечары, калі ўжо ў некалькі кроках нельга было нічога ўбачыць, Мэер, вышаўшы з пакункам у руцэ на дзядзінец, дзыбаў да варот. Ён зазіраў палахлівым позіркам праз шчылінy на вуліцу, і толькі, калі дзесьці губляўся і грукат калёс і выпадковыя крокі, вышаў, ня грукаючы клямкаю форткі, на вуліцу, і тулячыся да платоў, ціхутка пакрочыў за горад да замку каралевы Боны. Там у крушнях была глуш і нават удзень не заглядвалі туды людзі. Ля брамы спаткаў яго Янкель, які атаўбаваўся ў капліцы замку. Амаль да першых асеньніх замаразкаў штодня хадзіў дзед з пакункамі да крушняў, занядбаўшы нават на суботы, але аднойчы, прышоўшы да знаёмага месца, ня ўбачыў Янкеля. Заўважыў толькі паперку і, прышоўшы да хаты, хвалюючыся прачытаў:

— Татэ, іх бін авэк аф авайлэ! [1]).

Аб тым, дзе апошнім часам хаваўся Янкель, ведалі і Блюма і Геня. Блюма часамі сама, а часамі праз бацьку даставляла брату кнігі, якія брала ў кніжным аддзяленьні Баранбаума, і аднойчы паказаў ёй Янкель пад падлогай капліцы склад забароненай літаратуры, лістовак і газэт, якія даставлялі сюды начамі бальшавікі з запалкавай фабрыкі ў Дубравіцах. Раз Баранбаум, які яшчэ ў першыя месяцы вайны

---

[1]) З яўр. мовы—Бацька, я пайшоў на час.

ахвяраваў, як ён адзначыў у заяве, «на престол отечества» 500 рублёў, заўважыў маладой прыказчыцы:

— Ты, Блюма, добрая працаўніца, але вось брат твой—здраднік і ўцякач з фронту. Галоўнае, уцёк тады, калі вялікая завостранасьць становішча нашага войска на перадавых пазыцыях. Але праўда, што чакаць ад блюзьнера і бундаўца?!.

Блюма, уся пачырванеўшы, рэзка адказала:

— За прыказчыцу ў вас, пан Баранбаум, працую я, а ня мой брат, дык і ня трэба вам яго чапаць. А што да таго, нібы ён дэзэртыр, дык гэта агідная хлусьня, бо мінулага тыдню ён даслаў з акопаў ліст.

Не даваў праходу Блюме і сын гаспадара, студэнт Самуіл Баранбаум. Як студэнт і як сын Баранбаума—бо нават Скрабка інакш не кваліфікаваў ахвяру «на престол отечества», як хабар за сына—ён карыстаўся адтэрміноўкай ад салдацкага шынэлю. Цяпер, прыехаўшы з унівэрсытэту на вакацыі, Самуіл ня зводзіў вачэй з прыгожай прыказчыцы і нарэшце пачаў да яе чапляцца. Блюма нічога не казала пра тэта Янкелю, ведаючы, што брат, які заўсёды з такой пагардай і нянавісьцю ставіўся да Самуіла, зможа ў абурэньні нават удзень прыйсьці ў горад і зрабіць што-небудзь непапраўнае:

Янчэ з адным хацелася параіцца дзяўчыне і знайсьці абарону, але яна не адважвалася. Гэтым адным быў Станіслаў Галькевіч. Стась таксама меў адтэрміноўку ад вайсковай службы як студэнт. Ён сьпярша меркаваў правесьці вакацыі ў унівэрсытэцкім горадзе, каб рыхтавацца да дыплёмных залікаў, але потым прыехаў у Грайронак. І ўжо калі пад'яжджаючы заўважыў з Вітавай Магілы і вежы кармаліцкага кляштару, і званіцы касьцёлу Марыі Магдалены, і ўвесь Грайронак—цалкам зразумеў, што тэй сілай, якая прымусіла яго прыехаць, былі—ні вобраз Вострабрамскай багамаці, ні бабінец касьцёлу, ні ксёндз Вайноўскі, ні панна Малгаржата, а з маленства знаёмая Блюма. Яны спатыкалі часта, але аднойчы здарылася тое, што дапамагло Блюме зразумець разладзьдзе свайго пачуцьця.

Ідучы тады прысадамі гарадзкога саду, Стась здалёк заўважыў Блюму, якая седзячы на лаўцы, штосьці чытала. Прывітаўшыся ён сеў побач і сказаў:

— Чаму вы, Блюма, апошнім часам такая сумная? Гэта неяк дзіўна ў вашыя гады.

— А пры чым тут, Стась, гады? Што радаснае ў тым, што цяпер вайна, што ў гэты самы момант, калі мы з вамі тамонім, дзесьці паміраюць у нечалавечых пакутах людзі. Там-жа і мой брат і дзесяткі знаёмых з Грайронку. Колькі сьлёз, колькі гора! І вас ня цікавіць, зашто яны змагаюцца?

— Змагаюцца? Ну, хоць-бы за тое, каб Грайронак не зрабілі нямецкія гарматы падобным да крушняў замку каралевы Боны.

— Ды на што ён немцам, Стась? З другога боку пазыцыі тыя самыя Янкелі, тыя-ж самыя кавалі. Дзесьці ў докерскім Гамбургу таксама наклейваюць да дзьвярэй магістрату бюлетэні, дзесьці на

сярэднявечных вуліцах Лейпцыгу таксама бегае Хаця Камар і гандлюе тэлеграмамі. А сын Баранбаума не на фронце таму, што ён студэнт, а студэнт таму, што ён сын Баранбаума. І там, на той бок акопаў таксама ў кожным Грайронку ёсьць Баранбаум.

Стась адчуў пры апошніх словах нейкую зьбянтэжанасьць і хацеў перавесьці гутарку на другое:

— Але годзе пра гэта. Давайце лепш пагамонім пра кнігі. Ёсьць латынская прыказка: «Скажы, што ты чытаеш і тады я скажу хто ты»,—таму і цікава вельмі, што вы цяпер чытаеце?

Стась схапіў кнігу, і перш чым Блюма, нібы чымсьці ўсхваляваная, выхапіла яе ў яго з рук, ён прачытаў:

**Программа работников**

**Ф. ЛАССАЛЯ**

Издание Лиги Русской Рэволюціонной Соціалдемократіи

Цѣна 50 сант.

— Вы, Блюма, чытаеце занадта ўжо сур'ёзныя і з ня вельмі лёгічнымі вынікамі кнігі, якія так цяжка ўвязаць з вашай прыгожасьцю.

— Дзякуй за камплімэнт, які вы напэўна падслухалі сярод гімназыстаў. Гэта невялічкая кніга мне шмат што кажа, бо мой бацька—кравец, а я—прыказчыца. А шляхціцу Станіславу Галькевічу яна нічога не дае.

Стась успрыняў гэта як вялікую абразу, але перамогшы сябе імпэтна ўстаў і, нават не разьвітаўшыся, пашоў далей па абскубаных восеньню прысадах. Потым зноў спатыкаліся Стась з Блюмай. Віталіся, нібы нічога ня здарылася, але толькі пачала адчуваць дзяўчына, што вялізарная сіла, расплыўчата вядомая з маленства і зразумелая і асэнсованая пасьля знаёмства з таямніцай капліцы, захоплівае яе паступова ўсё больш і больш, спакідаючы ўсё менш і менш месца для каханьня.

У чорныя, калі хавалі хмары ад зямлі маладзік, ночы Блюма, грузнучы ў глыбокім сьнезе, ішла да замку каралевы Боны і варочалася адтуль з пачкамі газэт. А ўдзень, стоячы ля паліц кніжнага аддзяленьня, з пачырванелымі ад недасыпаньня вачыма загортвала купленыя абшарнікамі і чыноўнікамі кнігі ў Русское Слово» і «Биржевыя Вѣдомости», а для загортваньня кніг, купленых капцэнамі і сялянамі, выцягвала асьцярожна з-пад прылаўку газэт «Соціяльдемократ» і «Звѣзда». І газэты зачытваліся ў вёсках і завулках да шкумацьця, і хадзіла начамі да крушняў Блюма, пакуль не зьявіўся аднойчы ў магазын жандар. Ён пачаў аб чымсьці шаптаца з узрушаным гаспадаром, а потым Барнабаум рынуўся з перасмыкнутым сударгай злосьці тварам да Блюмы, крычачы:

— Катаржанка! Вучаніца Гіршы Лекерта! Цягнеце яе, пан жандар! Цягнеце! Я ахвярую на абарону краіны свае крэўныя трыста рублёў! Сёньня-ж ахвярую гатоўкай на прастол бацькаўшчыны!

Блюма апынулася ў павятовай турме, але прабыла там толькі два месяцы.

За гэты час наклейвалі некалькі бюлетэняў, забралі на вайну саракапяцігадовых барадачоў, у якіх былі на пазыцыях сыны, арыштавалі і потым праз пэўны час выпусьцілі Хацю. Добра ведаў Хаця Камар, які вынік будзе, калі ён так закрычыць, добра ведаў, што яму не дазволяць тады больш прадаваць тэлеграмы і ён будзе зноў галадаваць, але ўсё-ж пачуцьцё пратэсту ў тэй адзінай форме, якая была яму даступна, прымусіла тады ў гандлёвы дзень галасьліва закрычаць на рыначным пляцы:

— Зноў немцы разьбілі ўшчэнт расійцаў пад Баранавічамі.

— Пад Рыгай наша адважная гвардэйская дывізія захапіла пасьля заядлых баёў абоз другой роты 134 нямецкага пяхотнага палка ляндштурму! Шмат трофэяў!

— Нашай падводнай лодкай памылкова затоплены наш крэйсэр «Мікалай Другі»!

Як і калісьці, Хацю зьбілі, але неўзабаве і выпусьцілі.

Мінала ўжо зіма, і на прадвесьне заўважылі жыхары Грайронку, што нешта магутнае ўзварухнула краіну, і што гэтае магутнае ад іх старанна захоўваецца. Так Скрабка, прымусіўшы нават Хацю аслупянець, падышоў да яго і ветліва прывітаўшыся, казаў:

— Табе, Хаця, напэўна здаецца, што я тыгра якая-небудзь лютая, але я вельмі шчыры і жаласьлівы чалавек. Ды што зробіш, калі ў мяне, чатыры з боку, пасада такая ды яшчэ крыху нэрвовы характар. Нэрвы ў мяне, чатыры з боку, нябог.

Хаця нявыразна чмыхнуўшы, адышоў ад гарадавога ў бок. І нарэшце ўсё зрабілася зразумелым.

Прыехаўшы ўраніцы з Віцебску Эел-Бэр, пакінуўшы нават стомленых коняй і буду ля весьніц уласнай хаты, пайшоў па вуліцах Грайронку з чырвоным сьцягам, галасна крычачы:

— Свабодэ, яўрэі! Свабодэ!

Выпроствалася заўсёды згорбленая сьпіна, нічога, апрача бязьмежнай радасьці ня было на твары, але дарослыя ня далі веры Эел-Бэру, гадаючы, што напэўна зацкаваны жыцьцём балагол звар'яцеў, калі сам лезе ў Сібір. Беглі толькі за ім клумным натоўпам падшпаркі з вымазанымі ў павідла тварамі і не пазашпільванымі штанцамі. Зьбянтэжаны Скрабка, які стаяў ля дзьвярэй паліцэйскай управы, усё-ж падбег да балагола і, выхапіўшы ў яго сьцяг, з крыкам:

— Я табе пакажу, як без дазволу пана прыстава рэвалюцыю рабіць!

— як мага грукнуў кулаком па твары.

Толькі Блюма, якая ў гэты час разам з арыштантамі падмятала рыначны пляц, адчула ўсёй істотай, што ня хлусіць Эел-Бэр і, шыргануўшы ў бок насілкі, пайшла хутка паўз аслупянелых канвойных дахаты. Увайшоўшы на родны дзядзінец, убачыла, што насустрач бяжыць усьміхаючыся, заўважыўшы яшчэ з вакна дачку, Мээр.

— Рэвалюцыя, тата! Рэвалюцыя!—закрычала дзяўчына.

— Ня зусім, здаецца, такая як трэба, але цара ўжо няма.

У той-жа дзень увечары на дзьвярах, дзе наклейваліся бюлетені, вісеў маніфэст пра адрачэньне цара. Напэўна чыноўнікі прышлі да перакананьня, што больш захоўваць нельга і небясьпечна.

Потым устрасянулі вуліцы і завулкі Грайронку іскраметныя гукі «Марсэльезы» і «Варшавянкі». За аркэстрам, у якім моцна грукаў у барабан Хаця Камар, ішлі зноў гімназісты і чыноўнікі з чырвонымі бантамі. На пляцы першы трымаў прамову гімназыст Фаворскі, сын пратапопа катэдры.

Дзыбаты, з нейкімі барановымі вачыма на прышчаватым твары, ён зычна крычаў, падкрэсьліваючы найбольш моцныя, на яго думку, месцы ўзмахамі рукі.

Грамадзяне вольнай Русі, цяпер у вас ёсьць магчымасьць уздыхнуць, бо крывавы царызм, які бязьлітасна нас прыгнятаў, разьбіты паўстаўшым народам ушчэнт. Цяпер няма ні сынкоў, ні пасынкаў, ні рускіх, ні яўрэяў—усе роўныя. І ва ўсіх ёсьць магчымасьць працаваць у той галіне, куды яго цягне, калі яму дазволяць толькі гэта здольнасьці. І ва ўсіх ёсьць магчымасьць жыць там, дзе яго цікавіць, калі толькі яму хопіць грошай на балагола і чыгуначны білет. І ва ўсіх ёсьць магчымасьць быць членам ураду, калі яму гэта дазваляе адукацыя. Але ля брамы рэспублікі—вораг, які бяз літасьці расьцісьне ўсе заваёвы вялікага народу, калі толькі мы ня здолеем яго перамагчы. Я заклікаю вас, вольныя грамадзяне, змагацца з гэтым ворагам. Я скончыў. Няхай жыве вольная дэмакратычная Расія! Няхай жыве перамога над ворагамі волі і бацькаўшчыны! Няхай жыве часовы ўрад! І няхай жыве лепшы сын рэвалюцыйнага народу Керанскі!

— Гур-ра!—загарлалі ня дружна гімназысты.

— Крупнік! Кадзіла!—пачуліся з таго боку, дзе стаялі сяляне.

— Халера табе на жывот!—крыкнуў Давід Гарлац, махаючы узьнятым угару кулаком.—Няхай Керанскі зьверне майму сыну нагу.

Потым трымаў прамову акцызны чыноўнік, які заўсёды блукаў у паўп'яным выглядзе па горадзе і цяпер нават ня вельмі быў падобны да цьвярозага, заклікаючы грамадзян узаемна шанаваць правы і маёмасьць кожнага, і да пераможнага канца стаяць на фронце.

І зусім неспадзявана на трыбуне апынуўся Хаця Камар. Увесь час яму вельмі хацелася рынуцца з кулакамі на прамоўцаў і зьбіць іх, такою агідаю здавалася іх брахня і заклікі. Нарэшце ён ня ўстрымаўся і, паклаўшы ў бок барабан, узьняўся на трыбуну. Убачыў, што вакол усьміхаюцца гімназысты і чыноўнікі, пачуў як Баранбаум, рагочучы закрычаў Мэндалю Фішману:

— Рэбэйнішэ лэйлом! Аз ох ун вэй! Аз ох ун вэй! [1]).

---

[1]) З яўр. мовы—А божа мой! Хто толькі пачаў гаманіць!—ужываецца звычайна ў іранічным сэнсе.

— і, не зьвяртаючы на гэта ніякай увагі, пачаў гаварыць:

— Грамадзяне капцэны, шэйвецы і сяляне. Я—калбейнік Хаця Камар раней бываў часовым бадханам, але цяпер не чакайце ад мяне жартаў. Нашто часовы бадхан, калі цяпер ёсьць сталыя—пападзюк і акцызны чыноўнік. Пападзюк казаў, што мы цяпер усе роўныя. Гэта хто роўныя? Я—Хаця Камар і Баранбаум? У мяне нават на Пурым [1]), бывае бульба і рэдзька, а ў шаноўнага ногіда Баранбаума кожны шабас—і фіш, і эйер міт цыбэле [2]) і пуцэ [3]). А цяпер ногід Саламон Сролевіч Баранбаум стаіць уперадзе і нават з чырвонай істужкай на трыбуху. Ён больш за цара смокча нашу кроў. Цар быў далёка, а Баранбаум вось тут, на нашым карку. Гэта ён пужае нас хэйрэмам [4]), гэта ён трымае ў сваёй гамэтцы пастановы дзядоў з кагалу. Садраўшы з нас—капцэнаў і шэйвецаў—апошнія нагавіцы за пазыкі, ён потым як дабрачынец запрашае нас даядаць яго недаедкі. Ногідаў таксама, як і цара, трэба скінуць. Пападзюк і акцызны чыноўнік, той самы, які толькі ўчора быў членам Саюзу Расійскага Народу і заклікаў у пятым годзе біць жыдоў, цяпер віншуюць нас з воляй і заклікаюць весьці вайну з немцамі да перамогі. Калі яшчэ ня ўсіх вашых дзяцей перабілі на гэтай праклятай вайне, дык пасылайце іх, каб яны сваёю сьмерцю далі магчымасьць Баранбауму тлусьцець, папоўскаму сыну—скончыць унівэрсытэт, акцызнаму чыноўніку—атрымоўваць грошы за біцьцё брында. Цяпер яны трошкі паслабілі лейцы, а пасьля перамогі яны зноў накінуць на вас аброць. Хто-ж дасьць сапраўдную волю, спытаеце вы. Калі прыедзеце дахаты, дык зірнеце ў люстэрка і адразу ўбачыце хто. Годзе вазіць іх.—Нам не хапае подносак хадзіць за сваёю нэндзаю. Я заклікаю вас, капцэны і шэйвецы, скінуць уладу ногідаў і рабінаў. Я заклікаю сялян скінуць уладу абшарнікаў і лесапрамыслоўцаў. І далоў вайну! Няхай яны, калі ім трэба вайна, зьменяць сінія шынэлі на салдацкія ды ідуць у вакопы. Нам вайны ня трэба!

— Добра, кажа! Добра, барабаншчык! Трасца тваёй маццы! Добра, каб цябе паляруш!—закрычалі сяляне, якіх шмат было на пляцы ў гэты гандлёвы дзень.

— Скрабка! Скрабка!—нечакана загаласіў Баранбаум, які даўно ўжо не сьмяяўся і цяпер узбураны, забыўся, нават, дзе ён. Потым, апамятаўшыся, хутка зьнік з натоўпу.

Калі Хаця скончыў, гімназысты рынуліся да яго з кулакамі, але капцэны і шэйвецы з дапамогай сялян адбілі Хацю, і неўзабаве гімназысты пад магутнымі ўзмахамі аглабель уцякалі з пляцу ў розныя бакі.

Блюма рашуча пайшла да трыбуны, але зрабіла толькі некалькі крокаў, як хтосьці спыніў яе, схапіўшы адзаду асьцярожна за плечы.

---

[1]) З яўр. мовы—Сьвята.
[2]) З яўр. мовы—Страва, яйца з цыбуляй і з шмальцам.
[3]) З яўр. мовы—Страва, халадзец з цялячых, альбо валовых ног.
[4]) З яўр. мовы—Абвяшчэньне на падставе рэлігіі вакол сынагогі.

і, абярнуўшыся, дзяўчына ўбачыла нечакана Янкеля. Схудзелы і абадраны ён ветліва ўсьміхнуўся сястры і, моцна пацісьнуўшы ёй руку, хутка узышоў на трыбуну.

— Таварышы працоўныя!—гулка крыкнуў Янкель.—Мая прамова да тых, хто грукае ў чужой кузьні над чужым кавадлам чужым молатам. Мая прамова да тых, хто шые ад сьвітаньня да змроку іншым сутаны і гарнітуры, а сам фарсіць латанымі нагавіцамі. Мая прамова да тых, хто ад сьвітаньня да змроку працуе на палёх, а харчуецца сыравежкамі і шчаўем. І ў гэтай прамове мне хочацца толькі больш завострыць усё тое, што так пэўна адзначыў таварыш Хацкель Шнэрсон. Узятыя паасобку мы—адзінкі, узятыя разам мы—мільёны. Таму да купы, таварышы, вакол Савету Рабочых і Сялянскіх Дэпутатаў, таму ў адзін бязьлітасны і моцны кулак супроць Часовага Ураду! Досыць канькаць з скарбонкамі хэўры-кадышы перад вокнамі багатыроў, досыць сьпяваць Лазара перад брамамі кляштараў. Толькі той, хто працуе, мае есьці.

Таварышы працоўныя, захапляйце зброю паліцэйскіх! Таварышы капцэны, захапляйце дзяржаўныя ўстановы і ня выконвайце загадаў Часовага Ураду! Таварышы сяляне, захапляйце маёнткі і румы! Таварышы бацькі, пішэце да сыноў, каб ішлі з фронту дамоў, але каб пільнавалі вінтоўкі. Што дрэннага зрабіў каваль з Эсэна кавалю з Грайронку? Што дрэннага зрабіў селянін з Баварыі селяніну з Беларусі? Хай жыве Савет Рабочых і Сялянскіх Дэпутатаў! Хай жывуць рэўкомы і камбеды! Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

Раптам стрэлы запанавалі над пляцам. Узброеныя вінтоўкамі і рэвальверамі паліцыі гімназысты, пад кіраўніцтвам Фаворскага, абстрэльвалі натоўп, які хутка разьбягаўся.

Хацю выратавалі сяляне, і ўсё-ж праз некалькі дзён ён сядзеў у павятовай турме. Ён прабыў там амаль што ўсё лета, і толькі ў позьнюю восень выпусьцілі яго з турмы.

Хаця амаль што бег па вуліцы, з платоў і будынкаў якой абдзіраў вецер непатрэбныя цяпер плякаты:

Товарищи

**Голосутце за № 5**

Ён дзівіўся безьлічы зьмен. Спаткаў Баранбаума, які па-воўчы зірнуў на яго і зьняў першы шапку, убачыў у будынку павятовага камітэту партыі Янкеля Мойжаса, убачыў за сталом рэўкому Блюму Мойжас, убачыў зачыненую браму гімназыі. У горадзе ўсё часьцей і часьцей пачалі спатыкацца ўцекачы—салдаты з фронту, а потым амаль, што з месяц ліўся праз Грайронак магутны салдацкі струмень.

Ад балтыцкіх выдм да чорнаморскіхліманаў разваліўся фронт. Адзічэлыя і змарнелыя людзі рушыліся дамоў. І барадатыя бацькі, што марылі ў залітых Дзьвіной акопах пад Рыгай аб тамбоўскай і

пензенскай ральлі, і бязвусыя сыны, у вачох якіх застыў жах нядаўніх бязьлітасных баёў. Ішлі звашывелыя ад бруду і нэндзы салдаты, ішлі, за кожны месяц вайны на год пастарэлыя, ішлі і абыякава сыпявалі:

Расея, Расея, вялікая страна:
Направа—малачайнік,
Налева—лебяда.

## IV

Дзівосны музыка граў на звычайных цымбалах, і грымотнае ігрышча спраўляла краіна. Запалілі прашчурскія люлькі пажараў панурыя курганы, прыбралі ў барвісты жупан крушні свае замкі, завухалі гучнымі званамі мярэжыстаімпэтныя касьцёлы. А па магільнай восыпі абшараў пашлі ў зухаваты гняваш, патрукваючы мыліцамі, салдаты Асаўца і Пржамышля. І тая склепавая бедната, што з маленства піла келіхамі воцат нэндзы, а мазалямі сваімі стварала іншым казачны лёс, прымусіла хмелем імкненьняў сваіх дзяўчынкай заскакаць земную кулю на арбіце.

Зразумела, адсюль, чаму Хаця Камар стаў чырвонаармейцам? Апошнім часам у пару дэмонстрацыі ён грукаў з захапленьнем у барабан гарадзкога аркэстру, моцна жадаючы разам з палкім рытмам барабанаў выбіванкі раствапыцца ў баявых песьнях рэвалюцыі. У рэвалюцыю ён прышоў барабаншчыкам і газэтчыкам, але без усялякага жалю адмовіўся ад хлеба жартаўніка на вясельлі. Пасьля тэй прамовы, калі ён выказаў перад мітынгам гарадзкой і вясковай бедноты, хто яе ворагі і хто сябры, ён адчуў, што пачаў карыстацца пашанай ад адных і нянавісьцю ад другіх. Адчуў як магутны зрух мільёнаталовай працоўнай грамады паглынуў яго цалкам, як паглынае Дзьвіна воды ўсіх яе шматлікіх прыток, і зрабілася соромна балакаць на вясельлях ногідаў, атрымоўваючы ў падзяку чужыя кусанікі і глытанікі. Кожная літара жоўтаколерных, на пакунковай паперы надрукаваных газэт біла на гвалт, клікала на змаганьне з ворагамі скрыўленымі ад болю губамі адзіная пад сонцам краіна. Калі Дзянікін, імклівячы да сэрца краіны, захапіў Курск, Хаця паведамляў жыхароў Грайронку:

— Рэвваенсавет рэспублікі заклікае ахвотнікаў у Чырвоную армію

— і сам пашоў у павятовы вайсковы камісарыят, каб заявіць пра жаданьне ісьці на фронт.

Прынялі яго не адразу, улічваючы, што Хацю ўжо сорак чатыры гады, што ён хворы, чаму і ня быў у салдатах на імпэрыялістычнай вайне, але Хаця красамоўна давадзіў, што і гады і хвароба—гэта прыкрая драбніца ў параўнаньні з яго імкненьнем, і праз тыдзень ён стаяў на плацы разам з іншымі ахвотнікамі. На шапцы апынулася чырвоная зорка, за плячыма—вінтоўка, на нагах—абмоткі. Калі пакідалі горад, і вуліца паступова пераходзіла ў бясконцы гасьцінец, які, здавалася, канцом сваім упіраўся проста ў фронт, заўважыў

Хаця на ходніку доўгабародага рабіна і, ня стрымаўшыся, зычна гукнуў:

— Памаліся за акума [1]) Хацю, напаўважаны рэбэ!

Рабіна ўсяго перасмыкнула, і ён хутка шмыгнуў у фортку пад рогат чырвонаармейцаў. А хударлявы гарбаносы калбейнік ішоў далей сваею звычайнаю хадою, і здавалася зводдаль на першы погляд, што ляціць уперадзе атраду якісьці дзіўны невядомы птах.

Без перапынку гулі на шляху слупы, і пад сухі трэск, і скокі падважнічка паўзла з тэлеграфнага апарату на пошце Грайронку доўгая істужка:

.——. .—..—.—.. .—.—.—. .—.—.— .—.—. .—.—[2])

Без перапынку плылі ў паветры хвалі і, падхопленыя антэнай Грайронаўскай радыёстанцыі, прымушалі крычаць мікрафон:

— Усходні фронт! Наша армія пад прымусам супраціўніка пакінула Бузулук. Па літарах—Барыс, Уладзімер, Зося, Уладзімер, Луцэня, Уладзімер, Кастусь—Бу-зу-лук.

Але Янкель Мойжас па загаду партыі застаўся старшынёю павятовага Чэка! Часта салдат, ідучы ад нямецкіх пазыцый, заходзіла дамоў, каб зьмяніць анучы і зноў ісьці на тыя франты, куды клікала іх тады Савецкая краіна, а некаторыя заставаліся ў хатах. З невялікім атрадам Янкель вышукваў здраднікаў і аднойчы, застаўшыся выпадкова адзін, пяць кілёмэтраў уцякаў ад разьюшанай зграі дэзэртыраў—выратаваў толькі добры конь з данскіх табуноў і трохлінейная, тыпу 1891 году вінтоўка. Рушыліся па павету, нібы вошы па целе хворага на тыфус, тарбэшнікі. Паўзьлі па шляхох і гасьцінцах, паўзьлі па шашы і сьцежках. Вярнуўшыся да змарнелых вялізарных гарадоў, гаманілі на рынках:

— Хе-хе-хе! Ня менш як па сто мільёнаў чыстых ад пуда жыта. Хай жыве вайна!

А чэкістам-жа Грайронку кляліся, што гэта для галодных дзяцей, што гэта для сухотных жонак.

Нічога апрача жаданьня ўмыцца не адчуваў Янкель, калі атрымоўвалі найбольш злосныя дэзэртыры і тарбэшнікі падарунак ад бясхібнага і маласлоўнага кольту.

А Блюма з першых месяцаў рэвалюцыі была абрана сэкратаром павятовага рэўкому. І здавалася ёй часамі, што яна ніколі ня марыла аб магчымасьці стаць аптэкарскай вучаніцай, так захапіла яе жыцьцё, але ніколі не магла забыцца пра нэндзу з маленства ў бацькавай хаце, пра працу прыказчыцаю ў магазыне Баранбаума.

Аднойчы для патрэб арміі канфіскавалі лішкі ў ногідаў Грайронку, і некалькі фурманак з паліто, коўдрамі, шапкамі, ботамі вывезьлі з хаты Баранбаума. А на другі дзень раніцою ён, вельмі няўдала стараючыся захаваць сваё воўчае абурэньне, з ветлівай усьмеш-

[1]) З яўр. мовы—Грэшнік, бязбожнік.
[2]) З альфабэту Морзэ—Пралетар, на каня.

кай падыходзячы да стала адказнага сакратара, працягнуў руку і сказаў:

— Добры дзень, таварыш Мойжас! Зьвяртаюся да вас, як да старой знаёмай. Зрабеце націск на адпаведную ўстанову, каб мне вярнулі ўсё забранае ўчора. Хай гэта будзе з вашага боку падзякай за мой хлеб.

Блюма, нібы не заўважаючы працягнутай рукі Баранбаума, якая зьбянтэжана апусьцілася, слухала. Было шчырае жаданьне выгнаць дасьведчанага махляра з камітэту, але прымусіла сябе спакойна адказаць:

— Калісьці я ў вас, грамадзянін Баранбаум, сапраўды працавала, але ела свой уласны зароблены хлеб і таму не вінавата вам ніводнага шэлягу. Хадайнічаць за вас ніколі ня буду, бо на маю думку ў вас канфіскавалі значна менш, як трэ' было. І наогул, мне здаецца, што вы зусім выпадкова цяпер ня ў турме.

Баранбаум, замармытаўшы беспарадна штосьці незразумелае, рэзка павярнуўся і вышаў.

Прыходзілі да Блюмы з скаргамі на харчразьвёрстку вясковыя тумары ў латаных жабрацкіх вопратках, такіх маскарадных пры погляздзе на іх тлустыя твары. Скардзіліся яны, што ў іх вымелі ўсё з арудаў, не пакінуўшы нават на насеньне. Ніколі не давала ім Блюма веры і праз невялікі час даведвалася ад брата, што ў учарашніх скаржнікаў знайшлі сотні пудоў жыта. Гніло жыта, а дзесьці што хвіліну спатыкаліся з сьмерцю салдаты рэвалюцыі, атрымоўваючы па фунту хлеба на чатырох, і тут-жа ў камітэт прыходзілі салдаткі рэвалюцыі з просьбай дапамагчы скібкай хлеба галодным дзецям. І ў Блюмы насупліваліся бровы, і яшчэ больш акрэсьліваліся тонкія рыскі ў кутках губ.

Стомленая, як ніколі раней, прыходзіла Блюма дахаты. Прагля-дала яшчэ дадзеныя з камебдаў паперы, блукала аloўкам па балонках брашур, а калі чытала газэты, поўныя бунтаўлівага жыцьця, прыгупляляся пачуцьцё стомленасьці. І загінула зусім тое розна-гучнае пачуцьцё, якое, паступова загасаючы, усё-ж толькі ўчора прымушала часамі дзяўчыну пакутна змагацца з самой сабою. І загінула пачуцьцё каханьня да Стася.

Стась ужо скончыў унівэрсытэт, працаваў доктарам у Зацьвілішках і, прыяжджаючы ў Грайронак, заўсёды заходзіў да Мойжасаў. Ён ня выходзіў суткі навылёт з амбуляторыі, ён не адмаўляўся ні ад якой грамадзкай працы, ён з захапленьнем апавядаў пра Кастрычнікавыя баі на вуліцах Петраграду, але аднойчы, калі Янкель, чытаючы ўслых «Праўду», дайшоў да востра пакутнай тэлеграмы:

— Под давлением превосходных сил белополяков наши войска оставили Киев

— заўважыла Блюма, як толькі адным[і] вачыма ўсьміхнуўся радасна Стась. І загінула пачуцьцё каханьня да Стася.

Беглі дні, імкнуліся тыдні, рушыліся месяцы. Змагалася рэспубліка на франтох з буйнымі ворагамі, а па лясных аблонях яе блукалі

сотні дробных мясажэрных драпежнікаў. І вакол на працягу апошніх вякоў супакойнага, як дрыгва, Грайронку дзень зрабіўся падобны да ночы, ноч падобна да дню. Удзень курная смуга зацягвала неба, засьцілаючы ад зямлі сонца, уночы гайдаліся паміж сузор'ямі водблікі пажараў. І па дарогах і па бездарожжы павету вей-ветрам шпацыраваў з воўчай зграяй сваіх трохсот коньнікаў і дзесяткаў кулямётных тачанак бацька Нілёнак. На вышешчаных шляхецкіх конях імкнуўся бацька навосьлеп па павеце—на сьвітаньні руйнаваў камуну пад Зацьвілішкамі, а шэраю гадзінаю пад коньнікамі енчыў ужо брук мястэчка Янавічаў, што за восемдзесят кілёмэтраў ад Зацьвілішак.

І даўно ўжо струхлелі ў зямлі і бацька і яго трыста коньнікаў, але і сёньня па вёсках і мястэчках Вокаўскага Лесу, калі ўначы завые буй-вецер, калі завухаюць пяруны нечаканай навальніцы стогнам застогне кожнае дрэва, успамінаюць нядобрым пра крывавага нябожчыка.

На занядбаным паўстанку далёкай ад Грайронку чыгункі банда Нілёнка, перабіўшы вайсковую варту, зьняла з пляцформы гармату з набойнай скрыняй, а потым да апошняга знараду абстрэльвала бесрадныя Зацьвілішкі. Узьляталі да хмар сынагогі, кляліся хаты, а, Нілёнак, так і не ўвайшоўшы ў мястэчка і пакінуўшы гармату, якая толькі-б абцяжарвала яго мэтэорныя рэйды, імкнуўся далей.

На старым губэрскім шляху некалькі дзён гойдаліся на тэлеграфных слупох, вытарашчынымі вачыма гледзячы на парэзаныя межамі, парослыя званцом і быльнягом палеткі—члены першай у павеце камуны. Крумкачы кружыліся над слупамі, крумкачы дзяўбілі пагаслыя вочы. А слупы гаманілі, паведамлялі, клікалі на абарону захопленай навальніцай краіны.

На Дзьвіне ў парогах спыніў бацька пасажырскі параход. Толькі параход увайшоў у парогі і пачаў, напружваючы ўсю сваю моц, змагацца з хуткай плыньню, як на стромкім узьбярэжжы вырасьлі, з дзікім гармідарам махаючы гранатамі, Нілёнкавы галаварэзы:

— Гэ-гэ-гэ!! Гэ-гэ-гэ!! Прывальвай! Э-гэ-гэ-гэй!!!

Малады капітан паспрабаваў, павярнуўшы крута параход, уцячы назад, але коньнікі, заўважыўшы тэта, кінулі некалькі гранат, што выклікалі выбух паравога катла. Выскачыў з качагаркі ашалелы ад болю качагар і ў бяспамяцці рынуўся з палубы ўніз, да малочных бурлівых майданаў. Параход бокам ускінула на парогі, і ён увесь уздрыгваючы пачаў марудна, пад лямант жанчын і дзяцей, затапляцца. Людзі кідаліся, шукаючы паратунку, у ваду і разьбіваліся аб скалы парогаў.

— Гэ-гэ--гэ! яўрэйскія вытлучы! Бальшавікі ачкурныя! Таварышы каламазныя! А-га-га-га!!

— рагаталі на беразе.

Толькі некалькі мужчын разам з бязвусым капітанам даплылі да берагу. І тыя, што перамаглі ў імкненьні да жыцьця парогі, загінулі, утоптаныя падковамі коняй, ва ўзьбярэжжы жвір. Аднаму

юнаку-капітану даравалі жыцьцё, пакінуўшы адпачываць пасьля перамогі над парогамі на маёвым пагорку—толькі выпалілі яму вочы, каб ніколі ня бачыў перавальных тычак і бакенаў, толькі адсеклі яму рукі, каб ніколі не гаспадарыў над слухмяным штурвалам.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Аматар быў бацька даваўчыных жартаў. З вялікімі цяжкасьцямі сабраў Янкель конны атрад для змаганьня з Ніленкам. Першымі ўвайшлі ў яго з сваімі коньмі Эел-Бэр з сынам камсамольцам Ічэ, далучалася яго сялянская бедната з камбедаў, камун і саўгасаў, галоўнае ядро ягонае складала некалькі дзесяткаў салдат і матросаў, але вельмі слабы быў усё-ж атрад, каб змагацца з Ніленкам. Імя Ніленка абрастала безьліччу апавяданьняў, і ў тыя дні ў Грайронку часамі супакойвала маці дзіцяне:

— Ша! А то Ніленак прыдзе.

І ён прышоў.

За месяц да таго дня было ціха, нават загінулі дзесьці курныя хмары і зноў, як спрадвеку, зрабілася шчырым сонцам—адпачываў бацька Ніленак, рыхтуючыся да новых налётаў.

За тыдзень да таго дня з Грайронку пасланы быў на фронт апошні, які толькі здолелі сабраць, узброены атрад партыйцаў і камсамольцаў.

Ураніцы таго дня ў Грайронак да будынку Чэка пад'ехаў, на мокрым ад стомленасьці кані, камсамолец з Зацьвілішак. Паранены, бяз шапкі, увесь зьбялелы ад хваляваньня і страты крыві, ён паведаміў, што Ніленак захапіў мястэчка. Камсамолец адмаўляўся пайсьці ў амбуляторыю і хацеў ехаць назад, але калі падышоў да каня, самлеўшы упаў ля яго ног. Праз гадзіну атрад Чэка хутка ехаў да Зацьвілішак пакінуўшы ў Грайронку толькі аднаго матроса.

А ўвечары заходзіў шабас, запальваліся сьвечкі, запахла вячэрай—падышоў дзень адпачынку. Мэер Мойжас сядзеў на лаўцы перад хатай і па-дзядоўскі стала шмат пра што думаў. Думаў пра сына, які за сваю ідэю лезе ў агонь, думаў пра Геню, якая неўзабаве будзе інжынэрам, думаў пра Блюму, якая пашла купацца на Дзьвіну. Дзеду здавалася дзіўным, што дзесьці ёсьць фронты, што нават пад самым горадам вандруе Ніленак. Гэтак ціха было. І вухнула шабасовая ціша, разьбіваючыся ўшчэнт.

З шалёным гармідарам уварвалася банда ў Грайронак. З жалезным грукатам сьмяротных тачанак, сплямленых брыдкімі надпісамі. З дзікім, у зычнасьці сваёй, гойканьнем і мацюгамі, што блыталіся ў цоканьні падкоў і бразганьні зброі. Выразьлівыя сьпярша стрэлы нарэшце зьліліся ў адзін гармідарны гул. Зайшліся ў коклюшы люісы, загрукатаўшы на вокнах рэўкому і Чэка, адкуль ніхто не адказаў. На кагадзе жывых вуліцах зрабілася за некалькі хвілін пуста. Толькі ў сынагозе сьцяной стаялі людзі. Учора прыехалі з Віцебску магід і кантар з рэлігійным аркэстрам, і цяпер яўрэі слухалі казаньне магіда.

Старэй за Трою і Картагэн, старэй за Антэны і Рым абраны богам яўрэйскі народ. Адвеку вандруе ён па зямлі і вандраваў і тады, калі апынуўся ў пустэльні ў падгор'і Сіная. І з вяршаліны гары, праз рык навальніцы, праз гоман пяруноў, праз пошугі бліскавіц скінуў Элогім яўрэям скрыжалі боскага закону. Безьліч народаў засталіся ў мінулым, і толькі яўрэі па шляху, залітым крывёю і сьлязьмі, засланым пакутамі і нэндзай, прышлі ў сучаснасьць. Яны не загінулі і ніколі не загінуць таму, што іх ёсьць...

І магід, рвануўшыся да арэйн-кэйдыш [1]), пачаў імпэтна адсоўваць у бок шырынку і з ціхім, поўным расчуленьня стогнам адчыніў века скрынкі.

З тым захапленьнем, якое прымушае забыцца пра ўсё вакольнае, глядзелі яўрэі на ўпрыгожаныя срэбнаю каронаю пэргамэнтавыя скруткі торы ў шаўковым футарале.

Раптам галасьлівы кантар падняў угору галаву і, закрываючы вочы, крыкнуў з амэйда [2]).

— З імя твайго мы складзем пацеры,
— Што рыдаюць

— падхапілі флейты і скрыпкі, гафтуючы з бісэру палкіх гукаў карункавыя арыі Мэйербэра.

І раптам у сынагогальную мэлёдыку ўварваліся з-за сьцяны стрэлы. Усё зразумеўшы, яўрэі кінуліся да дзьвярэй, але на вуліцы панавалі ўжо бандыты, і, вярнуўшыся ў сынагогу, у жаху застылі статуямі, зірнуўшы праз вакно.

З вакна было відаць, як чалавек у матроскай вопратцы, усьміхаючыся, размахваў над галавой нямецкай рэбрастай гранатай і потым, рагочучы, шпурнуў яе ў вакно.

Заварушыліся валасы на галовах старых, у гэтых некалькі сэкунд, калі граната, уляцеўшы са звонам шкла ў сынагогу, упала з сіпеньнем каля арэйн-кэйдыш. І выбухнула, разьдзіраючы да болю гукам вушы, пылам зацярушваючы вочы. Пад разьбітую столь паляцелі і разьбітая ў трэскі сьвятая скрыня і шаўковыя шкуматы, і срэбная карона, і разадраныя ў шкумацьцё скруткі торы. Агнём ахапіла прыгожа выразаны амэйд, дзе кагадзе стаяў кантар, які цяпер, прыціскаючы афарбованыя крывёю рукі да галавы, нястрымна бегаў вакол амэйд, пазіраючы проста перад сабою звар'яцелымі вачыма. На падлозе курчылася з крыкам некалькі чалавек, а могід, што стаяў увесь час ля самага арэйн-кэйдыш і выпадкова застаўся цэлы, раптам, глянуўшы на кантара, зарагатаў і, прытупваючы ботамі, пашоў у нейкі дзіўны танец.

Агонь і выбух прымусілі яўрэяў зноў рынуцца на вуліцу, але, згрудзіўшыся каля дзьвярэй у сумятлівы корак, яны самі сябе заткнулі ў памяшканьні. І ўжо задніх апальваў агонь, а пярэднія ціску-

[1]) З яўр. мовы—Скрыня, у якой хаваецца тора.
[2]) З яўр. мовы—Месца, адкуль сьпявае кантар.

лися каля дзьвярэй, як раптам выбух другой гранаты зьнішчыў корак. Рэха звар'яцелых ад жаху яўрэяў, выскачыўшы цераз новыя трупы на вуліцу, пабегла, не заўважаючы чалавека з гранатамі, да хат. Матрос у бушлаце з сацьмелымі медзянымі гузікамі, у бесказырцы з залатымі на муаравай істужцы літарамі «Три Святителя» стаяў пасярэдзіне вуліцы, шырока расставіўшы ногі і, мацюгаючыся, ахрыпла крычаў:

— Ня зух буду я, калі дагары кілем не перакулю вашую хэўру! Прышвартую вас бутэлькамі да бруку!

А сынагога ўжо гарэла вялізарным вогнішчам, і потым апавядалі суседзі, што бачылі, як у агні бегаў кантар, ды чулі, як разам і рагатаў і стагнаў магід.

Блюма купалася ў той час, як пачуліся першыя стрэлы. Хапатліва апрануўшыся, яна пабегла да хаты, з перакінутым мокрым ручніком на руцэ, а ў другой сьціснула заўсёды неадлучны «Сьміт», Сьціснула, бо ўжо прымусілі думкі шаптаць:

— Нілёнак... Нілёнак...

І калі, задыхаючыся, выбегла дзяўчына на пагорак, адразу спынілася, амаль што наляцеўшы на Скрабку. Скрабка з вінтоўкай за плячыма, з істужкамі куль на грудзях, схапіў яе ў абыймы і зарагатаў:

— Га-га-га! Як плотку ў нерат захапіў. І якая пекная жыдовачка, чатыры з боку. Га-га!

— Якая непатрэбная сьмерць... Трэба даслаць коньніка да Зацьвілішак... Трэба паведаміць Віцебск і папярэдзіць Буду-Курбацкую... У будынку Чэка ёсьць некалькі гранат... Калі-б крыху болей сілы... Калі-б крыху...—віхурыла ў думках, і Блюма спрабавала вызваліць руку з «Сьмітам», але Скрабка, адразу заўважыўшы, выхапіў яго.

— Вось якія добрыя цацкі ёсьць у дзеўкі. Пачастунак, значыцца, мне, чатыры з боку, рыхтавала? Га?

Дзяўчына на ўсю сілу схапіла яго зубамі за руку і закрычала на дапамогу, але Скрабка, лаючыся ўдарыў яе ручкаю рэвальвэра па галаве. Блюма зьбялеўшы зьнепрытомнела, і Скрабка, узьняўшы дзяўчыну на рукі, пацягнуў да вербалозу.

Чакаў дачку Мээр Мойжас, выходзіў, узбураны на дзядзінец, прыслухоўваючыся да гукаў на вуліцы.

А на пляцы гаспадарыў бацька Нілёнак. Рослы, зусім малады дзяцюк у вэнгерскіх вузкіх чынгірках, у вялікай кароткай бравэрцы і з кубанскай папахай на пахіленай долу галаве, ён, пахвостваючы, сябе казацкім гарапнікам па халяве, хутка хадзіў узад і ўперад перад будынкам рэўкому. У будынку бандыты доўгі час шукалі старшыню Хмеляра, але дарэмна, бо ён быў на губэрнскай нарадзе, і тады, зваліўшы ў кучу, падпалілі.

Па пакоях будынку ўжо шпацыравала полымя, калі з вакна пачуўся стрэл і адначасна вохнуў «бацька», схапіўшыся за руку. З дзьвярэй выскачыў і адстрэльваючыся хутка пабег усьцяж ходніку курмелісты матрос, але праз хвіліну ён злоўлены, стаяў перад «баць-

кам», якому адзін з бандытаў перавязаў руку. Стаяў, нібы нічога асаблівага ня здарылася, і без усялякай палахлівасьці глядзеў Нілёнку проста ў вочы—на бесказырцы пад чырвонай зоркай застыглі выразьлівыя літары «Аврора», усе гузікі бушлата блішчэлі начышчаныя крэйдай, нагавіцы—клёш не загубілі фальбоны, здавалася рыхтаваўся матрос да параду.

— Ты хто такі?—запытаў «бацька», адчуваючы нейкую дзіўную для самога сябе павагу да курмелістага чалавека.

— Бальшавік і чэкіст, матрос крэйсара «Аврора» Максім Стахноў.

— Ты ведаеш, што цябе чакае?

— Добра ведаю. Хіба-ж табе здаецца, што я буду ў бандытаў літасьці прасіць? Шкода толькі, што трапіў у руку, а не ў галаву.

«Бацька» навотлю ўдарыў здаровай рукой Максіма Стахнова па твары але раней, як пасьпелі бандыты схапіць матроса, той з дзіўнай для яго гадоў і росту сілай скалануў «бацьку», узяўшы за грудзі.

— За тое, што ты з «Авроры», за тое, што ты бальшавік і чэкіст,—гаварыў праз хвіліну Нілёнак матросу, які стаяў са зьвязанымі рукамі,—сто шампалоў і сьценка. Зух, зрабі, што трэба.

Другі матрос, які кагадзе шывргануў бомбу ў сынагогу, падышоў чымсьці зьбянтэжаны да Максіма Стахнова і загадаў яму ісьці.

— Ёсьць!—адказаў Стахноў.

Нілёнак, як таежны воўк у клетцы, зноў хадзіў перад будынкам у нейкім хваляваньні. У мінулым—студэнт горнай акадэміі, у мінулым—шляхціц Радкевіч, у мінулым—гаспадар маёнтку, ён раптам адчуў, як і раней не аднойчы, немагчымасьць звароту мінулага і ён ведаў, што гэтае пачуцьцё закончваецца дзікай зухаватай гульбой.

А на пляц тымчасам аднаго за адным прыводзілі знойдзеных партыйцаў, толькі ніяк не маглі знайсьці Блюму. Яе шукалі да таго часу, пакуль не зьявіўся Скрабка.

— Я толькі што прыгожую жыдовачку прыстукнуў у вербалозе.

Узяў ад яе ўсё, чым дзеўкі, чатыры збоку, салодкія, а пасьля й забіў, бо «Сьміт» пры сабе цягала, дый наогул—жыдоўка.

«Бацька» так забыўся на вакольнае, што здрыгануўся, калі побач з ім раптам зашамкаў, сагнуўшыся крукам, пратапоп Фаворскі:

— Збаўца і ратаўнік Расіі асьпідамі і васіліскамі, сірэч бальшавікамі і жыдамі, зьнішчанай, дазволь васьпецъ цябе вуснамі радасьці на кімвале і гусьлях, дазволь памаліцца перад прастолам найвышэйшага, каб загінулі нашы агульныя ворагі, «яко тает воск-ад ліца огня» Чада маё адзінаўтробнае—у цябе, і сам я, сакрушоны недугамі іерэй, усё-ж пашоў-бы ахвотна ў духоўнікі тваіх неабарымых салдат за невялічкую мзду, пакуль ня зьнішчым канчаткова савет нечасьцівых, а мы зьнішчым, бо з намі бог, разумейце язьіцы і пакарайцеся, яко з намі бог.

Нілёнка аж закалаціла, гэтулькі падліжнага было ў словах пратапопа. У бога бацька, ніколі ня верыў, у яго зьявілася вострае

жаданьне як наймацней штурхануць папа ў карак і потым даць нолца, але стрымаўшыся адказаў:

— Я, айцец сьвяты, не кацап, а шчыры беларусін, і каб яе пранцы зьелі сьвятую Расію, але памаліся за нас, памаліся, калі ёсьць ахвота. Там у тачанцы, скажы дзяцюком, што я дазволіў вазьмі парася, а духоўнікі нам, пакуль што, ня трэба.

Неўзабаве, глыбокай ноччу, званы катэдры Сьвятога Духа заклікалі падзякаваць пана бога за шчырасьць яго да Нілёнка. Перад брамай цьвінтару рослы, з вялікай рыжай барадой бандыт засьпяваў у лад званом шалёным басам, прытупваючы чобатамі па бруку:

— Гэта справа была так,
Гоп-цір-дай-дай-дай.

А каля бабінцу катэдры стаяў, прыхіліўшыся да сьцяны, бяз бушлата, з абмытымі крывёю тварам і кашуляй—Максім Стахноў. Насупраць яго ня зусім цьвярозы Зух, паказваючы шомпалам на званіцу, гарлаў:

— Апошнюю шклянку тваю адбіваюць! Чуеш, камісар?

— Я сьмерць не аднойчы спатыкаў і вачыма перад ёю ня лыпаў. Недарэмна атрымоўваў штодня Максім Стахноў ад галоднай рэспублікі чвэртку фунта чырвонаармейскага хлеба. А ты за што неўзабаве сканаеш? За рубель і шклянку гарэлкі?

— Маўчы!

— Бачыў я ў кастрычніку семнаццатага забітага юнкерамі матроса з бесказыркай «Тры Святителя» на рагу Ліцейнага праспэкту. Ты яго мусіш ведаць—гэта быў Грыцько Сырамаха з-пад Міргарада. На лбе ў яго выразалі жоржыкі пяцікутовую зорку і потым мачыліся на яе. Ты не мачыўся?

— Маўчы! Га-ад!—і Зух ударыў Стахнова шомпалам па твары:

— Калі савецкая краіна клікала браткоў задрайваць франты, клікала браткоў на аўрал, толькі пацукі засталіся ў кубрыках, а там у самым пекле зноў былі: «Аврора», і «Павел Первый», і «Рюрик», і «Цесаревич», і «Три Святителя». І толькі нялічныя здраднікі б'юць нажом у сьпіну рэспублікі і братком, і толькі адзін вырадак пайшоў да Нілёнка.

Заглушоны гармідарам званоў стрэл прымусіў Максіма Стахнова скрывіць гіморай твар, потым марудна папаўзьці па сьценцы дадолу і назаўсёды застыгнуць.

«Бацька» ўсё шпацыраваў і, нарэшце, раптоўна, зьвярнуўшыся да гарніста, крыкнуў:

— Благай на збор!

Праз некалькі хвілін амаль што ўсе бандыты былі на пляцы. Апырсканыя крывёю, у разадраных вопратках, з мяшкамі, поўнымі розных рэчаў... Бацька дбайна сачыў за сваімі салдатамі.

— Гэ-эй, тры сьвяціцелі! Зух! Дудка! Пад шторм, чатыры з боку, трапіў, ці што?—крычаў Скрабка матросу, які ледзь-ледзь трымаючыся на нагах, усё-ж асьцярожна, як маці дзіцянё, прыціскаў да грудзей вялікую бутэльку з дэнатуратам, што знайшоў у аптэцы.

М-м-матку тваю ў пана Ез... ік... са і сьвятую тройцу! Каб ты ўвесь век, фараон селядцовы, сьрэнай выў!—аскірэзнуўся Зух і яшчэ тільней прыціскаючы бутэльку, прайшоў каля «бацькі», сьпяваючы:

— Засьвістаў наш боцман у дудку,
Мы забылі пра Машутку.

Барадаты бандыт, які кагадзе танчыў перад цьвінтаром катэдры, цяпер сядзеў проста на бруку і перабуваўся, акуратна разьдзіраючы талэс на анучы.

Дзыбаты, у гімназычным і цяпер шынэлі Фаворскі з нейкім азьвярэньнем біў па твары яўрэя, крычачы:

— Хрыстапрадаўца ты! Катангенс атідны!

Вакол «бацькі» ўвесь час блытаўся кулямэтчык Бурдыка, Маляўнічае мінулае кваліфікаванага дамушніка [1]) і шырмача [2]) Бурдыкі было ў шчыльнай і крэўнай сувязі з усімі турмамі імпэрыі, вочы яго заўсёды хапатліва блукалі, нібы ўзважваючы пробу ўсяго вакольнага. І неўзабаве Нілёнак пачуў, як Бурдыка крычаў на сваёй звычайнай мове:

— Ці бачыце, братоцкі, які я добры гадзіньнік з жыдоўацкі зьняў?

Тады толькі «бацька» ўсьміхаючыся заўважыў, што ў яго згінуў кішанёвы гадзіньнік. Яшчэ раз сыграў гарністы збор, і калі нарэшце сабраліся ўсе, Нілёнак пачаў прамову:

— Цяпер, браткі загадваю вам разьбіць на пошце і радыёстанцыі ўсе апараты, падпаліць харчовыя склады і параходны затон, разбурыць масты на Грайронцы і затапіць паром праз Дзьвіну. Загадваю выпусьціць усіх з турмы, папырскаць трошкі з кулямётаў усіх прыведзеных на пляц, забіваць кожнага падазронага жыда, кожнага сабачага бальшавіка і напаскудзіць на трыбуне. Садух і жыдом і бальшавіком, але калі хто з вас пальцам толькі кране паважанага пана Баранбаума, які тыдзень таму даслаў нашаму дабраахвотнаму, імя Савінкава атраду трыста рублёў золатам, таго я адразу нацянькі накірую ў штаб Духоніна. Жыды ёсьць усялякія—і нашы і іхнія. Дык з панам богам да працы, бо цяпер ўжо другая гадзіна, а дзевятай-жа мы маем ісьці ў Буду-Курбацкую.

І праз хвіліну ўзьляцелі над Грайронкам чырвоныя пеўні. Зарагатаў на пляцы кулямёт. Залуналі крыкі ахвяр.

---

[1]) Кватэрны злодзей.
[2]) Кішанёвы злодзей.

Назолку бандыты ўжо ўсе на конях выяжджалі з Грайронку па шляху на Буду-Курбацкую. Хтосьці п'яным голасам зацягнуў песьню і іншыя падхапілі:

> У Вяліжы дождж ідзе,
> А ў Віцебску сьлізка!
> Хавайцеся, бальшавікі,
> Бо Нілёнак блізка!

А з другога боку імкліва ішў да Грайронку атрад Чэка. Да Зацьвілішак Янкель вёў атрад дзе вясковымі дарогамі, дзе сьцежкамі, пільна абмінаючы шлях, каб неспадзёўкі напасьці на колькасна ў тройчы большую банду, і ў тым месьце, дзе шчыр-лес адштурхнуў дарогу як мага далей ад шляху, незаўважаны Нілёнак прайшоў паўз. Потым ад разбуранага мястэчка гналі ўсхваляваныя па сьвежых сьлядох стомленых коняй назад. Ужо з паловы дарогі ўбачылі ўперадзе далёкія, зводаль сонныя і нярухомыя водблескі пажару, а выехаўшы перад самым Грайронкам на пагорак, атрад адразу спыніўся.

У розных кірунках блукала над гарадком полымя, і да пагорку даносілася глуха, як па чулай зямлі даносіцца далёкая страляніна:

— Аааааа...

Здавалася, стогне Грайронак, стогне Дзьвіна, стогне лес.

Менш хвіліны прастаяў атрад, і першы рынуўся наперад Эел-Бэр дэ Свабодэ.

— Нэ-э! Нэ-э, Мнохем Мендл! [1])—крычаў балагол на каня, грукаючы яго па запалых рабрынах абсацамі, і за плячыма ад руху шалёна падскаквала вінтоўка.

— Хі-хі-хі. Проста казак. Кузьма Крючкоў!—пачуў Эел-Бэр, праяжджаючы каля хаты калісьці дзяржаўнага рабіна, і ўздрыгнуў. Ён не адчуў ніякай асобовай абразы, яму здалося дзіўным, што ў гэтую раніцу хтосьці сьмяецца, і балагол лаючыся стрэліў пад хатай у паветра.

Ад запырсканага крывёю, пракапцелага полымем пляцу коньнікі пачалі паварочваць на шлях да Буды-Курбацкай, але Янкель рашуча спыніў атрад.

— Ехаць, таварышы, далей наўздагонкі за Нілёнкам будзе непатрэбным вар'яцтвам. Нашы коні зрабілі без адпачынку восемдзесят кілёмэтраў і ледзь толькі жывыя, а нам яны яшчэ патрэбныя, як паветра. Першы разьдзел разам са мною пойдзе тушыць затон, другі разьдзел пад кіраўніцтвам Эел-Бэра мусіць патушыць харчсклады, трэці разьдзел пад кіраўніцтвам Ічэ пойдзе падбіраць раненых і забітых, матросы вылучаюць варту, камбедаўцы маюць агледзець пільна коняй і вычысьціць вінтоўкі. Да працы, таварышы!

Неўзабаве рушыліся па вуліцах з пляцу разьдзелы.

---

[1]) Мнохем Мендл—яўрэйскі пісьменьнік, які даў моцны вобраз балагола і яго каня, таму імя пісьменьніка ў сучасных мястэчках зрабілася сынонімам.

— Блюму забілі,—раптам пачуў побач Янкель, і абярнуўшыся ўбачыў бледага, са скрыўленымі вуснамі Стася.

— Што?—перапытаў, не даючы веры.

— Блюму забілі.

Дзіўна незнаёмымі вачыма глядзеў Янкель і потым, нязвычайна для сябе заікаючыся, сказаў:

— Ты... ты... ты мабілізаваны мною ад гэтай хвіліны на тыдзень і мусіш ісьці разам з трэцім разьдзелам да раненых. Ад майго імя пашлі двух матросаў (браткі—без сантымэнтальнасьцяй) пашукаць у ногідаў матэр'ялаў для бінтоў. Ад майго імя перадай загадчыку аптэкай, што яна на тыдзень цалкам пад тваім загадам. Праз дзьве гадзіны я дашлю табе на дапамогу камсамолак.

Янкель пабег да затону, а Стась пакрочыў да аптэкі, шэпчучы:

— Гэта не чалавек, а камлыга з пэўным сынтэзам мяса і касьцей.

У затоне гарэлі лайбы і параход. Выхапілі з полымя толькі самае каштоўнае—параход, на якім абгарэла заледзьве палуба. Янкель хутка спусьціўся па крутой лесьвіцы ў машыннае і ўсьміхнуўся, заўважыўшы нават неразьбітае, толькі трошкі закапцелае шкло манометраў. І раптам горкі ўспамін перасмыкнуў твар чалавека ў салдацкім фрэнчы і прымусіў, як хворага на трасцу задрыжэць, і абмыў няроўнымі штурхамі крыві сэрца і схапіў воўчай хопкай за горла, але праз момант чалавек крычаў на палубе сваім звычайным мэталёвым голасам:

— Тяпер, таварышы, мусім адбудаваць працу пошты і радыё-станцыі!

У гэты час Эел-Бэр з абпаленай барадой амаль што ўпрунь цягаў мяшкі з ахопленага полымем складу. Выбягаючы абліваўся вадой і, закрываючы пальцамі нос, зноў бег разам з іншымі ў дымную муць. Узвод растварыўся ў натоўпе дабраахвотнікаў. Балаголы, сярод якіх першымі прыехалі Шлёма і Бэня Ша, вазілі з Грайронкі ў дзежках ваду. Сажраў агонь толькі адзін склад, з якога напалову выцягнулі жыта—сумежныя былі выратаваны. І апошнім разам, з Эел-Бэрам, выйшаў з вогнішча, трымаючы ў руцэ вёдры, Гэршык Віфэл Азэйгер.

А на плацы доўгабароды ў латаным кажуху камбедавец, пагладжваючы ласкава па шыі каня, гаварыў:

— Што стаміўся, Цымбаліст? Га? Прыйдзе час адпачынку, а сёньня па мойму языка нельга. Усё вакол гарыць—і хаты гараць, і людзі гараць, і коні гараць, а калі зьнішчым буржуеў, мы табе, Цымбаліст, помнік паставім.

Конь сачыў за чалавекам з чырвонай зоркай на кучомцы разумнымі, вільготнымі вачыма і, ня то ў адзнаку сваёй згоды, ня то задаволены ласкаю, матаў мокраю галавою.

Ніколі ня бачыў Грайронак такога вялікага пахаваньня, якое рушылася на другі дзень да Вітавай Магілы. Некалькі дзесяткаў трун плылі, гойдаючыся над натоўпам. За першай цягнуўся Мэер і неяк па дзіцячы галасна плакаў. На веку другой, якую несьлі панура

матросы, ляжала прасякнутая крывёю бесказырка з надпісам «Аврора». Амаль што ўвесь зьнішчаны і акрываўлены Грайронак шоў за трунамі.

Ня луналі над магілай гукі жалобнага маршу, не гаварылі над магіламі палкіх прамоў, але ўтройчы вырас атрад Чэка. Нібы пяруном зьбіты пасьля сьмерці Блюмы, Стась застаўся ў атрадзе добраахвотна доктарам. І па шляхох, і па гасьцінцах, і па вясковых дарогах паймчаліся наўздагон за Нілёнкам. Калі віхурай улятаў атрад у мястэчка, бачылі, што не пасьпелі яшчэ астыгнуць трупы забітых людзей, яшчэ дагаралі пустыя хаты, але Нілёнак ужо загубіўся ў прасторы. Чырвонаармейцы валіліся ад стомы з коняй, але ўсё рушыліся праз дзень, праз ноч, праз недасон—навылёт—далей. Нілёнак усяляк абмінаў магчымасьці сутычкі, хоць і былі ў яго слухмяныя люйсы і шошы. Часамі аскірзаючыся, паліваў чырвонаармейцаў валавянымі крупамі, каб зьнікнуць яшчэ хутчэй і няпрыкметней. На працягу ўсяго лета цягнулася гэта змаганьне пакуль не пачала банда паступова спыняць імпэтнасьць сваіх рэйдаў, бо з усіх бакоў—і з Віцебску, і з Буды-Курбацкай, і з Зацьвілішак і з Янавічаў рушыліся чырвонаармейскія і партызанскія атрады для яе зьнішчэньня.

І нарэшце, калі зарумзала аголенымі асінамі і бярозамі восень, спаткаўся атрад Янкеля Мойжаса з Нілёнкам каля зямлянак, дзе атаўбоўваўся бацька на зімовішча. Толькі некалькі чалавек засталося ў бацькі, ужо ня было на саджаных пуцявінах коняй, але ён рашыў змагацца да апошняй кулі. І пачалі ўсплываць над зямлянкамі хмурынкі стрэлаў, загаманілі кулямёты, прымусіўшы чырвонаармейцаў зьлезьці з коняй, завухалі гранаты, уздымаючы пажоўклае лісьцё і зямлю.

Да буды з чырвоным крыжам, якую ахвяраваў атраду Бэня Ша, і якою загадваў Стась, прыцягнулі камсамолкі цяжка параненага Эл-Бэра. Адчуваючы вялізны боль, магутны балагол не самлеў і толькі раз-по-раз стагнаў, гледзячы ўгару на рэбры буды, дзе праз дзіркі была бачна небасінь. А перад сьмерцю звычайна, нібы падрыхтаваўся ехаць у Віцебск, разьвітаўся з сынам і стогнучы прашаптаў:

— Калі ты, Ічэ, збочыш з таго кірунку, на які трапіў твой бацька і на якім ты сам цяпер, дык няхай расстраляюць цябе тады... Ідзі, там кожная вінтоўка каштоўна...

Магутная сіла, назвы якой Стась яшчэ ня здолеў дадаць, прымусіла яго схапіць вінтоўку Эл-Бэра і разам з Ічэ выскачыць з буды вонкі.

Дзень на вылёт ішла бойка і першымі замоўклі кулямёты, а потым, калі ўжо змрок упаў на лясную аблонь, з зямлянкі нечакана выскачыў Зух і, прыгінаючыся, рынуўся бегма да хмызьняку, нібы спадзяючыся зьнікнуць, ахінуўшыся шэрым вячэрнім мусьлінам. Праз некалькі крокаў, выпрастаўшыся на ўвесь рост пад стрэламі,

пaвярнуўшы да чырвонаармейцаў скрыўлены ад болю твар, матрос закрычаў:

— Матку вашу ў тры струны і сьвятую тройцу...

— І рынуўшыся на зямлю, застыў нярухома.

Яшчэ з гадзіну павольна адказвалі зямлянкі стрэламі, і нарэшце пачуўся звычны ў вячэрняй лясной цішы голас:

— Трымайце, апошні падарунак Нілёнка!

За словамі выляцела граната. Яна забіла аднаго чырвонаармейца і параніла Стася, пасьля пачуўся з зямлянкі адзінокі стрэл, і ўсё зацíхла.

Не заўважыўшы нават, што ён паранены, Стась рынуўся разам з усім атрадам наўсторч да зямлянкі. Нілёнак яшчэ цёплы ляжаў на ўбітай падлозе зямлянкі, засыпанай гільзамі з заціснутым у руцэ рэвальвэрам. Побач з бацькам ляжаў, неяк дзіўна падагнуўшы пад сябе нагу, Скрабка, і даўно ўжо халодны, ён усё яшчэ трымаўся акрываўленымі рукамі за жывот. Над ім схіліўся, нібы дзівячыся чамусьці, Фаворскі. Моцна абнімаў здранцьвелымі рукамі кулямёт Бурдыка, пазіраючы нязвычайнымі для яго нярухомымі вачыма. Каля яго ляжаў хтосьці ў вельмі добрым паліце з мяккімі рысамі твару. Стась пачаў абшукваць незнаёмага і, выцягнуўшы з кішэні некалькі папер, пачаў разглядаць. Ён нават пахіснуўся ў бок, адчуваючы, як кроў прыліла да твару і вачэй. Выразьлівыя літары дакументу паведамлялі, што гаспадар яго быў:

КАЗИМИР ЭДУАРДОВИЧ
ГАЛЬКЕВИЧ

Стась пачаў ужо невядома ад чаго хістацца—ці ад раны, якую нарэшце заўважыў, ці ад вялікага хваляваньня,—калі, разглядаючы іншыя паперы, выцягнуў раптам залітую крывёю фото-картку. Вачыма, поўнымі ціхага смутку, глядзела з яе жанчына вельмі падобная рысамі твару да Стася і надпіс на фатаграфіі казаў:

ЯНИНА СИГИЗМУНДОВНА
ГАЛЬКЕВИЧ



Sit terra tibi leuis [1])
15-VI 1905 г.

— Вось калі я знайшоў бацьку,—шаптаў Стась.—Магчыма гэта я забіў бацьку і яго крывёю абмыў матчына абліччa.

Боль боў такі моцны, што яго не заглушала рана, пакуль самлеўшы ня ўпаў.

Назаўтра ўвечары прывезьлі на сялянскіх фурманках забітых бандытаў у Грайронак. Людзі, даючы веры толькі ўласным вачам,

[1]) З латыні—хай пухам будзе табе зямля.

зьбягаліся паглядзець на мертвага «бацьку», які амаль што ў кожнай сям'і вырваў каго-небудзь блізкага, крэўната. Па драпежніцку ашчэрыўся труп са скрыўленымі тонкімі пальцамі рук.

## V

Падымаліся старчаком масты і віядукі, цягнікі і параходы, палацы і хаціны. Гаманілі наганы і кольты, вінтоўкі і карабіны, люйсы і максімы, гаўбіцы і гарматы

— учора.

Падымаюцца старчаком з ватманаўскай і александрыйскай паперы пераплётам рыштаваньняў і крант-вухосін, крокваў і бэляк каардынаты тэхнічных чарцяжоў. Гамоняць сякеры і пілы, кляўцы і кельні, рэйсфэдэры і кронцыркулі

— сёньня.

Сёнешнія пэйзажы і мэлёдыка звычайней за ісьціну—

$$(a + b)^2 = a^2 + 2ab + b_2$$

для яго аднагодкаў, але Мэер Мойжас, праходзячы часам па Грайронку, разглядае зьмены ў вакольным вачыма таежніка на вуліцах Сіці.

Апошні год дзед адпачываў і ў яго хапала вольнага часу для азнаямленьня з тым новым, якое ішло ў Грайронак, як буйны парасьнік на колішні выгар з усіх бакоў. На Мэеравым вяку шэсьцьдзесят адзін раз хрумсьцела красавіковымі крыгамі Дзьвіна, але на выгляд яму было ня менш за семдзесят гадоў. Асабліва падаўся ён з тэй жудаснай хвіліны, калі знайшлі ў вербалозьніку Блюму. З таго моманту нават і ў акулярах шмат чаго не дабачвалі вочы, дрыжэлі рукі і наогул—памірае кравец, калі нітка, перш, як трапіць у вушка, доўга скача вакол, як чмель над канём. Кавалкам хлеба забясьпечвалі цяпер старасьць Мэера дзеці, якія зноў сабраліся пад адну страху. Янкель быў цяпер сакратаром павятовага камітэту РКП(б). Геня даўно ўжо скончыла палітэхнікум і астатнім часам працавала за інжынэра на пабудове чыгункі.

Цяпер, ідучы па вуліцы да Вітавай Магілы, стары думаў пра адно:

— Я-б яшчэ працаваў, і на печ мне яшчэ рана, але дзе падзеўся колішні заказчык. Праўда, і раней ён ня йшоў на кравецкую шыльду так густа, як жнівеньская мятуліца на Дзьвіне, а цяпер краўцы і шаўцы зусім без усялякай працы. І з кожным днём усё менш і менш на вуліцах шыльд.

Калісьці заказваў пашыць да сьвята шырокакрысную расу пратапоп Фаворскі, але пасьля зьнішчэньня Нілёнкавай банды пратапопа выслалі з Грайронку за ўрачыстым маленьнем уначы і за сына бандыта. Выяжджаючы ён сьлязьлівымі вачыма глядзеў на яўрэйскі натоўп і, жагнаючы яго з выглядам пакутніка за грамадзкую ідэю, шамкаў:

— Памалецеся, праваслаўныя, за мяне, вашага пастыра. Блаславеньне пана бога на вас заўсёды і цяпер. Амін.

Цяпер пратапоп не закажа Мэеру Мойжасу ні ядвабнай расы, ні драпавага падрасьніка, бо даўно ўжо адмовіўся ад кадзіла і крыжа. Калі нядаўна балагол Шлёма, забраўшы ў Віцебску на вагзале цоўную буду пасажыраў, зварачваў сваіх коняй з Замкавай вуліцы на шашу, дык пачуў на Катэдральным пляцы знаёмы голас:

— Дастойная ўвагі газэта «Зара Краіны»! Дастойная васьцёну!

Крычаў, гандлюючы газэтамі, дзед у паліняльым капялюшы і ў пашарпанай латыскай сьвітцы. Гэта быў пратапоп Фаворскі.

— Больш пратапоп не закажа расы,—нібы спачувае Мэер, але разам жа зьяўляецца думка:—І добра, што ён есьць учарайшы хлеб Хаці Камара.

Раней да фэсту Марыі Магдаліны заказваў сутану ксёндз Вайноўскі. Тады ксёндз жыў магнатам, а кагадзе панна Малгоржата прынесла да Мэера пераніцаваць старую, нібы кармаліты яшчэ цягалі яе, сутану. Пасьля прынесла таксама на пераніцоўку Стасеву студэнцкую сьвітку, які кінуў пасьля сьмерці Блюмы пасаду доктара, ды жыў у Грайронку.

Дзівак гэты Стась, — шэпча Мэер. — Жыве даматурам, чытае багата кніг, кажуць, што ня мінае ніводнай імшы ў касьцёле, а пры патрэбе і звоніць па душах змарлых і грае на арганах. Дзівак... Доктар, а шыецца ў дурні.

Да жывых Мойжасаў Стась больш ніколі ня прыходзіў і толькі бачылі яго не аднойчы на Вітавай Магіле каля пагорку, дзе была пахавана Блюма. Але заўважыўшы, што хто-небудзь да яго падыходзіць, Стась хутка падымаўся, узнімаў каўнер сьвіткі і хуткімі крокамі адыходзіў у супроцьлеглы бок.

Раней заказвалі чорныя і шэрыя жупаны шляхціцы, прыязджаючы ў іх у сьвята да касьцёлу. Па матчынаму выхоўвала шляхта зграю Нілёнка, ахвяраваўшы яму сваіх сыноў, па матчынаму захоўвала ў клунях засьценкаў апошніх бандытаў, і...

— Дзе цяпер тая амбіцыйная панцырная шляхта?—шэпча Мэер.

— А гут морген, рэбмэйшэ [1],—выгукнуў хтосьці над самым вухам, прымусіўшы ўздрыгануцца ад нечаканасьці. Зірнуўшы, дзед убачыў балагола Шлёму. Апошнім часам балагол хадзіў пануры і ўсюды лаяўся на чыгунку, якая адбірае ў бедных балаголаў апошні заробак. Цяпер ён чамусьці шчыра ўсьміхаўся, і прывітаўшыся зацікаўлены Мэер спытаў:

— Як маецца?

— Лепей за вучонага яўрэя пры губэрнатары. Сваіх, Варанца і Буланага, я ўчора прадаў чыгунцы і самога мяне залічылі на курсы кандуктароў. Учора Шлёма быў балаголам, а заўтра кандуктар. Добра маемся, паважаны Мойжас. Хе-хе-хе-хе.

Няўпрыцям апынуўся Мэер ля Вітавай Магілы, цяжка падняўся на гару, і сеўшы на дубовы корч, пачаў дапытліва разглядаць яскравы

---

[1]) З яўр. мовы—З добрай раніцай, паважаны; рэбмэйшэ—звычайна зварот да больш старых па ўзросту.

малюнак. Шмат чаго зьнікла ад дзядоўскіх вачэй, але большая частка ўсё-ж бачылася.

Просты, як нацягнутая струна, раскалоўшы на дзьве часткі бярозавы гай, разрэзаўшы чорны курган, падтаптаўшы пад сябе наспай іржавую багну—прабег праз Грайронак чыгуначны шлях. Унізе пад дзедам з дакладнасьцю і ўпартасьцю ўдарніка працаваў над выемкай у тоўшчы Вітавай Магілы паравы экскаватар. Угрызаўся у падзол сваім, падобным да брытвы сталёвым кантам вялікі чарпак і потым, узьлятаючы ў гору, дбайна прытрымліваўся крантам, плыў шматтоны з лёгкасьцю стрыжа ў бок і, перакульваючыся, высыпаў вякамі нярушаную зямлю.

— Вось таб і юхнаўскі грабар. Ха-ха-ха!—пачуў дзед і ўсьміхнуўся.

Направа будавалі праз Дзьвіну мост. Зэнітнымі гарматамі здаваліся капуры, бамбардзірамі здаваліся будынкі, што торгалі па чарзе поўразы каромыслу, і з кожным рыўком каромысла, прукам капура ўсё глыбей і глыбей уваходзілі ў пахаваную ракой цаліну бэтонныя палі. Ужо з двух узьбярэжжаў, апіраючыся на быкі, павісьлі карункавыя фэрмы і, абрываючыся, застыглі ў імпэце цісьнуць з жалезнай змогай адна другой рукі. А пад фэрмамі бегла і, б'ючыся грудзьмі аб цьвярдыні быкоў, галасіла ад болю фанабэрыстая краля-Дзьвіна.

Мэер глядзеў на пабудову, адчуваючы гонар, што сярод гэтай грамады будаўнікоў, якія дзеля працы пакінулі дзесьці свае сем'і, працуе і яго дачка, інжынэр Геня Мойжас. Раптам ён ціха па-дзядоўску засьмяяўся пры ўспаміне цікавага здарэньня.

Аднойчы Бэня Ша ехаў з Віцебску ў Грайронак і якраз пасярэдзіне дарогі пачаў заходзіць шабас. Бэня лагодна на вачох зьдзіўленых пасажыраў выпраг коняй, таксам лагодна паклаў перад сабою на чыстай хустачцы дзьве халы і пачаў маліцца. Канькалі пасажыры перад балаголам, дабаўляючы яму грошай, каб ехаць далей, але багабаязны Бэня не зламаў суботы і толькі ўвечары, калі прачытаў гаўдолэ [1]), запрог коняй і паехаў не сьпяшаючыся далей.

— Напэўна і хуткія цягнікі ў тым выпадку, калі машыніст яўрэй, маюць спыняцца і толькі апасьля гаўдолэ рушыцца далей,—заўважыў, усьміхаючыся і, ўстаўшы з карча, пашоў памалу да Грайронку. Прайшоў паўз брамы яўрэйскіх могліц і раптам пачуў, як на ратушы забілі на гвалт. Людзі беглі на пляц, і калі павялічыўшы крок, Мэер дайшоў да катэдры, убачыў, што гарыць магазын Баранбаума.

У першыя гады нэпу Баранбаум, ачуняўшы пасьля моцных удараў грамадзянскай вайны, зноў пачаў тлусьцець і кінуў вітацца, спатыкаючыся з капцэнамі і шэйвецамі, але потым крамы павятовай каапэрацыі прымусілі тавары Баранбаума зімаваць на паліцах, а прыбыткі яго крута пашлі ўніз. І заўтра павінны былі запячатаць магазыны, а сёньня ён загарэўся. Полымя шугала з вокан і дзьвярэй, пачалі

[1]) З яўр. мовы—Малітва, якой канчаецца шабас.

ўжо займаццa сумежныя крамы, а перад магазынам бегаў гаспадар і, ломячы рукі, лемантаваў:

— Ой-ей-ей! Якая страта! Цяпер я ня ногід, а жабрак! Апошні жабрак!

І раптам аднекуль загаласіла, зьнячэўку выскачыўшы, Пэся-Брайна:

— Ой, мае запалкі, ой, мае кастыті, ой, мае агорткі! Трымайце яго, гэта падпальнік! Ой, мае кастыті!

Праз галошэньне Пэсі-Брайны амаль што ўсё зрабілася зразумелым. На ноч яна хавала сваю скрыню з таварамі ў скляпеньне магазына Баранбаума. Учора яна бачыла як Баранбаум і яшчэ нейкі чалавек, прыходзячы некалькі раз у памяшканьне з парожнімі мяшкамі, выходзілі адтуль з поўнымі. У апошні раз Баранбаум прынёс вялікую бутлю і, паставіўшы яе поруч са скрыняй Пэсі-Брайны, сказаў:

— Вось няхай каля твае крамы да раніцы пастаіць бутля з газай. Няма часу яшчэ раз адмыкаць дзьверы, каб занесьці ў магазын.

І пажар сёньня пачаўся з скляпеньня магазына. Даўно ўжо скончыў лемантаваць Баранбаум, і гледзячы проста ў вочы Пэсі-Брайны, стаяў аслупянеўшы, пакуль міліцыянэр не прапанаваў яму ісьці.

Праз тыдзень Баранбаума, які прызнаўся нарэшце ў падпале, адпраўлялі ў губэрнскую турму. Праходзячы паўз гурток рабочых на ходніку ён, зірнуўшы з падылба, загарлапаніў:

— Яўрэі, вас раскалолі гоі! Няма цяпер цьвёрдага як дыямэнт, кагалу, няма пашаны да сьвятых слоў магідаў і рабінаў. І як у часы Юдзеі зноў зваліць на вас неба, хай-Элогім [1]), сваю помсту!..

Рэзкі прарэзьлівы сьвіст і рогат прымусілі Баранбаума скончыць гутарку і павялічыць крок. Злосьць бязьмежная за тыя абшары, якія ён убачыў, вышаўшы з Грайронку, выклікала ў яго жаданьне рынуцца на канвойных, крычаць моцна і дзіка, як крычыць, трапіўшы ў пастку, буйны драпежнік.

Гандлявала яшчэ некалькі тыдняў пасьля пажару на сваім звычайным месцы Пэся-Брайна. Апранутая ў ліхое паліто, яна з ліняльным парасонам у кастрычнікавую халепу, з казанком гарачага вугальля ў сьнежаньскую сьцюжу, сядзела з маленства, як квактуха, над сваімі кухнамі і агорткамі. Здавалася, зруйнуй гарматы, віхрасьлужы, паводкі Грайронак ушчэнт, яна-б з загадкавасьцю эгіпэцкага сфінксу сядзела сярод крушняў на сваім звычайным месцы. І калі-б на полі, засеяным льном, нечакана ўзышла бульба, сяляне зьдзівіліся-б меней, як заўважыўшы аднойчы ў гандлёвы дзень, што на гэтым месцы няма Пэсі-Брайны. Яшчэ не распрадаўшы ўсяго таго, што выпадкова не згарэла, Пэся-Брайна, трымаючы парасон у руках, пашла ў кантору пабудовы фабрыкі і праз невялікі час падавала, стоячы побач з муляpам, цаглїну за цаглінай.

---

[1]) З яўр. мовы—Клянуба імем бога.

А мулярам быў учарашні калбейнік Хаця Камар...

Чаго толькі ня бачыў на франтох Хаця. Перш яго прызначылі за барабаншчыка ў дывізыйны аркэстр і на другі дзень ён уцёк у перадавыя часткі. Як належнае адбыў за ўцёкі з аркестру спаганьне, але ўсё ж-застаўся ў перадавым пяхотным палку. І крывой сэйсмографу скакаў шлях Хаці Камара па мала ўзварушанай краіне:

Ліўны. Царыцын, Гайсін, Вільня,
Кіеў, Ціхарэцкая, Берасьцё.

Увесь час быў ён у перадавых частках і толькі ў апошнія месяцы вайны апынуўся параненым ў вайсковым шпіталі. На сумежным з Хацей ложку, у галавах якога быў надпіс

ЯНІС СТАСУЛІС

ляжаў цяжка паранены латыскі стралок і дзень і ноч бязупынку ў бяспамяці стагнаў. Аднойчы раніцой ён апрытомнеў і, зьвяртаючыся да Хаці, ледзь чутна спытаў:

— А што, таварыш, як Харкаў, у чырвоных?

— Потым дзень цалкам, гадзінамі адпачываючы, штосьці пісаў падобны да сьвячы, якая перш, чым канчаткова дагарэць, яскрава шугае. Увечары ён сказаў:

— Вось, таварыш, просьба да цябе вялікая. Памру я неўзабаве, і гэта праўда, як тое, што сёньня аўторак, а заўтра будзе серада. Дашлі, калі ласка, гэты ліст да маці. Апрача мяне нікога ў старой няма. Адрас, у скрынцы. Прачытай, калі ёсьць ахвота.

Дрэнна ведаў Хаця Камар расійскую мову, як дрэнна ведаў яе і Яніс Стасуліс, але ўсё-ж разабраў:

Матулька мая сівая і самотная!

Помню я, як ты калісьці ўпікала мяне, што пашоў ахвотнікам у латыскія стралкі—на тое ты й маці. Але-ж і помніцца мне наская вясковая песьня, якую ты сьпявала мне ў маленстве.

Памажы, божа! курляндка! Ты мыеш вугальныя мяшкі?
Звар'яцела ты, ліфляндка! эта братавы сьвяточныя кашулі.

Хіба-ж гэта песьня, а не галашэньне? І бацька мой быў наймітам баронаў Розэнбэргаў і маці была наймічкай, але сын ім ня будзе. Досыць галасіць. Сьлязьмі сыходзіць Дзьвіна і Эгяль, Эвікшта і Пікстэрн. На трупох пабудаваны палацы Рыгі і Мітавы. У ружах—замкі баронаў, у палыне—вёскі сялян. Цяпер разумееш, даражэнькая, чаму я пашоў у латынскія стралкі? Лепш год вайны, як вякі прыгнечаньня. Ляжу цяпер у вайсковым шпіталі. Рана мая зусім нікчэмная і неўзабаве прыеду да цябе на пабыўку. Побач са мною ляжыць з аднаго боку яўрэй Хацкель Шнэерсон, з другога—беларус Тамаш

Сякера, а далей—вэнгар Стэфан Пурліт. Лляжаць таму, што ў кожнай краіне есьць бароны. Да пабачэньня. Яніс.
Матулька мая сівая і самотная».

І ўначы сканаў так, што ніхто не заўважыў, латыскі стралок. А на раніцу перашукалі ўсё у чырвонаармейскай скрынцы, і ніякага адрасу не знайшлі. Гэтак і застаўся ліст у Хацы, як успамін, гэта ён-жа й быў тым апошнім жыцьцёвым падлікам слодычы і пакуты, якія прымусіў Хацю ўступіць у партыю бальшавікоў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цагліну да цагліны, цагліну да цагліны, пастукваючы кельняй, Хаця Камар, з радасьцю сачыў, як падымаюцца ля сутокі Грайронкі і Дзьвіны будынкі. Ён усеабдымны калбейнік, а не прафэсыянал-муляр, але працуе з дакладнасьцю гадзіньшчыка, бо гэта-ж для саміх сябе, бо ў верасьні мае пайсьці фабрыка.

— Сам на фабрыцы не застануся,—разважае Хаця.—Мяне накіроўвае памяткам на курсы стрэлачнікаў чыгункі, і ўсё-ж, колькі калбейнікаў і шайвецаў знойдуць тут сабе сталае месца. Будзе працаваць і Бэня Ша, і Пэся-Брайна і Гэрцык Віфэл Азэйгер.

Але аднойчы ўвечары, ідучы да хаты, Хаця Камар заўважыў гурток яўрэяў ля ганку аднэй з хат Духаўскай вуліцы. Зацікавіўшыся, падышоў і пабачыў, што на прыступках ганку, неяк дзіўна схіліўшы галаву, сядзіць Гэрцык Віфэль Азэйгер, апусьціўшы рукі на латаныя калені нагавіц. Побач з ваданошам поўныя вёдры, да дзьвярэй прыхілены каромысел. Дзед пачаў ужо халадзець, і гэта былі апошнія вёдры, якія ён прыцягнуў з Дзьвіны.

Ужо абсыпаючы зямлю белымі пялёсткамі садоў, праходзіў травень, а праца на пабудове фабрыкі пачала кульгаць. Працавалі і ў дні адпачынку, і ў сьвята, але ўсё-ж недахоп цэглы спыняў учаснае выкананьне пляну. Зрыў пабудовы фабрыкі запалкавай саломкі прымусіць перайсьці на тэмпы балаголаў і двойчы пашыраную фабрыку запалак у Дубровіцах. А цэглы нідзе ня было, і ўсё радзей і радзей падымаліся ўгору кабінкі крант—вукосін.

— Хі-хі-хі. Зрыў! Мы з вамі так і раней наконт іхніх пабудоў гаманілі, пан рэбэ. Што чакаць, калі калішні барабаншчык стаў гаспадаром? Вось ён як сьпяшаецца. Проста не Хаця, а пан гарадзкі галава. Хі-хі.

— Гаварыў учарашні лесапрамыслоўца Фішман рабіну, паказваючы з вакна хаты на вуліцу. Па бруку крочыў з кельняй за поясам Хаця Камар, крочыў, усьміхаючыся да будынку павяткому РКП(б), амаль што ўслых гадаючы:

— Ха-ха-ха. Колькі цэглы. Колькі цэглы. На тры фабрыкі хопіць.

Праз дзень на агульным, надзвычайна скліканым пасяджэньні гарадзкога партактыву была прынята прапанова Янкеля Мойжаса.

— Трэба,—казаў Янкель,—цэгла, і яе няма і ня заўтра яна будзе, бо бліжэйшая цагельня закантрактована пад ударную пабу-

дову чыгункі. Мы, спадзяючыся ў гэтым стасунку на вонкавыя магчымасьці, зусім забыліся на тутэйшыя. А вакол нас вялікія горы цэглы. Гэта:

крушні замку каралевы Боны,
сынагога на Духаўскай вуліцы,
муры і вежы кармаліцкага кляштару,
касьцёл Марыі Магдалены.

Па ініцыятыве муляра пабудовы фабрыкі Хацкеля Шнэерсона былі дасьледваны гэтыя горы. Цэгла замку і муроў кляштару ад часу зрабілася вельмі крохкай і зможа пайсьці толькі як друз для бэтанiроўкі, але на гэтую мэту ў пабудовы ёсьць багата добрага ўзьбярэжнага жвіру. Пасьля, замкавыя крушні зьяўляюцца яшчэ і пэўнай гістарычнай каштоўнасьцю. Застаецца сынагога і касьцёл. Цэгла іх вельмі добрая і якраз таго гатунку, у якім пабудова адчувае патрэбу. Ад сынагогі рэлігійнае брацтва адмовілася, што да касьцёлу, дык ён апошнім часам зусім быў без рэлігійнага брацтва, бо даўно ўжо ў засьценках—камуны і калгасы. Сынагогу, на маю думку, шкода руйнаваць, і ўласна таму, што яе, больш за касьцёл падобную да жыльлёвага будынку, лепш скарыстаць пад кіно-тэатр ці пад клюб чыгуначнікаў. Застаецца касьцёл. Цэгла з яго па самым павярхоўным падліку ня толькі пакрые недахоп цэглы на пабудове фабрыкі, але яшчэ застанецца на пабудову электрастанцыі.

Пасьля Янкеля выступіў з прамовай Ічэ Гарэлік, сакратар павяткому РКСМ.

— Камсамол прыймае шэфства над пабудовай фабрыкі запалкавай саломкі і дае абяцанку ў назначаны ўрадам тэрмін пусьціць у рух балансірныя пілы. Самых лепшых таварышоў накіруе павятком РКСМ і на разборку касьцёла і на пабудову фабрыкі, перакінуўшы іх часова з пабудовы чыгункі. Камсамол не дапусьціць ні аднэй хвіліны прастою на запалкавай фабрыцы ў Дубравіцах.

Праз некалькі дзён пачалі разьбіваць касьцёл Марыі Магдалены. Выносілі вонкі праз расчыненыя назаўсёды дзьверы жырандолі, пратэсы, статуі, абразы. Беспарадна схіліўся ў жагнаньні мармуровы Ян Непамуцэн над вобразам Вострабрамскай багамаці, што ляжаў на бруку. Скінулі з шпілёў вялікія крыжы, спавітыя мэталёвымі лілеямі і дзідамі, скінулі са званіц аздобленыя візарункамі сьвятых і каралёў званы. Толькі два невялічкіх званы асьцярожна вынесьлі па сходах і панесьлі—адзін да ратушы, другі да вагзалу. Ужо разьбіралі прыбочныя алтары, цагліны з якіх спускалі па латкох проста на фурманкі.

І зноў уздымаліся ўгару поўныя кабінкі крант-вукосін, зноў падавала цагліны Пэся-Брайна, зноў выкладваў муры Хаця Камар.

Як дакладна раней, амаль што першай, прыходзіла Пэся-Брайна на пляц, так дакладна і цяпер, амаль што першай, прыходзіла на пабудову.

— Ты, Пэся-Брайна, раней гандлявала запалкамі, а цяпер сама мусіш іх рабіць,—сказаў ёй аднойчы Хаця і тая, усьміхаючыся, адказала ў лад:

— Я—Пэся-Брайна, раней гандлявала запалкамі, а цяпер сама мушу іх рабіць.

Калі часамі спадаў цагляны струмень, калі не пасьпявалі крантвукосіны за працай муляроў, тады камсамольцы, схапіўшы козы, пачыналі на сьпінах дадатковым жывым упартым струменем рушыць цэглу па лесьвіцы ўгору.

— Давай, давай, камса! Давай, давай, сынкі!

Крычаў згары ўсьміхаючыся, ад поту мокры Хаця Камар.

Ужо разбурылі шпілі касьцёлу, зьнялі жалеза з страхі і, пачалі разьбіраць скляпеньне. Дзівіў рабочых спакойны твар ксяндза Вайноўскага, калі штодня па некалькі разоў хадзіў ён вакол касьцёлу. Што хавае пад стрыманай маскай сьвятога Баптыста дзед у сутане? Ці ён, як манахі некаторых сярэднявечных ордэнаў, адчувае слодыч у валасяніцы і вярыгах, ці ён, як параненыя ў гарачай бойцы, першы час не заўважвае раны, а потым зваліцца ад вялікай страты крыві.

Ніхто не адчуваў у Грайронку так балюча паступовага зьнішчэньня мінулага, як Стась. За апошнія гады ў яго зьявіліся сівыя валасы на скронях і зморшчкі каля вачэй. Стась шмат чытаў, шукаючы ў кнігах адказу на рубам пастаўленыя сучаснасьцю пытаньні. І калі ў гімназычныя гады ён пільна хаваў па закутках ксяндзоўскай хаты забароненыя кнігі Маркса, Бэбэля, Лафарга, дык цяпер на яго стале заўсёды ляжала:

Эвангельле,
Шапэнгауэр—«Афарызмы»,
Шпэнглер—«Закат Эўропы».

Стасю здавалася, што пражыў ён не дваццаць дзевяць гадоў, а поўны балючых сумненьняў з мізэрнымі перамогамі і вялізарнымі зьнямоганьнямі, век. І аднойчы раніцой, пасьля звычайнай апошнім часам бяссоннай ночы, ён, падыйшоўшы да стала, пачаў пісаць:

Ліст самазабойцы да сэрцам чулых.

Шляхціц па паходжаньню і інтэлігент па становішчу, я радзіўся ўчора, мадзею сёньня і ня бачу заўтра, неналежачы да тых людзей, якія а дзевятай гадзіне раніцы да апошняй клеткі свае істоты ненавідзяць сучаснасьць, а ў дзевяць гадзін вечару захапляюцца ёю. Ва мне самом змагаюцца два пачаткі, выклікаючы боль мацней ад болю ўсіх забітых пад Вэрдэнам, і адзіная, матэматычна абгрунтаваная роўнадзейная, адзіны лёгічны вынік гэтых двух пачаткаў—самазабойства. Фізычную гангрэну лячылі распаленым жалезам, псыхічную трэба лячыць браўнінгам. Праз некалькі хвілін я буду трупам, і, пакуль пульсуе сэрца і асацыіруюцца думкі, трэба зірнуць у мінулае. Зірнуць, каб згодна з мудрай радай Пітагора, не пакінуць пасьля сябе пылу.

Нічога блізкага ў мяне ня было, акрамя аднэй дзяўчыны, якую закатаваў Нілёнак. Я адпомсьціў Нілёнку, і забіў яго. Забіў яго не таму, што ён вораг савецкай улады, і тых, якія клічуць сябе пралетарамі, а толькі таму, што ён забіў маю каханку, маю і больш нікога. Да забойства Нілёнка я прышоў праз забойства свайго бацькі, апырскаўшы ягонаю крывёю картку мае маці, вобраз якой убачыў тады ўпяршыню. Але ня гэтае штурхае мяне на самазабойства.

Пачуцьцё суму па каханай, калісьці вялізнае і бязьмежнае, даўно прытупілася і зрабілася звычайным і будзёным, як пратэзы для інваліда. Боль, які я адчуваў, адшукаўшы сярод забітых бандытаў бацьку, даўно мінуў, а ад фотакарткі маці я нічога не атрымаў, бо ўяўляў яе сабе з маленства зусім інакш. Ня гэтае штурхае мяне на самазабойства.

Вобраз Вострабрамскай багамаці, пад якім мяне знайшлі і ў выглядзе якой я ўяўляў сабе маці, валяецца на бруку. Арганы, якія кагадзе раджалі ў касьцёле мэлёдыі Баха і Бэтховена, цяпер заскуголяць джыгу і лявоніху. Званы з візарункамі Mater Dolorosa з мэлёдыкамі, поўнымі радасьці па душах жывых, поўнымі смутку па душах змарлых, разьбіты ўшчэнт. Засьценкі панцырнай шляхты, якія зьяўляліся культурнымі оазісамі ў пустэльні хворых на каўтун і каросту, зьнішчаны.

«Как потускло золото наилучшее. Камни святилища раскиданы по всем перекресткам».

— Так плакаў калісьці натхнёны Ярамія над крушнямі Ерусаліму, так плачу сёньня я над крушнямі ўчарашняга. Была прыгожая раніца, быў сонечны поўдзень і хмуры.Potterda nimerung [1])

„Твой попел
 грукоча мне ў сэрца,
Кляс"

Але-ж я не агністы юнак Уленшпігель, а патрыцы часоў заняпаду і над зьняважанай Фляндрыяй маёй нависла несьмяротная ноч. Загублен компас і хмары зацягваюць віткі зор. Жахліва і холадна.

Прышлі новыя людзі, і над імі ўзыходзіць новае сонца. Яны па свайму разьвязалі ўсе праклятыя пытаньні і па свайму ўзважылі ўсе сьвятыя каштоўнасьці. Яны імкліваяць поўныя жыцьця да будучыні, вымятаючы непатрэбны ім пыл мінулага. І здаецца, я ёсьць тэты пыл.

Калі-б у мяне цяпер была граната, я-б шпурлануў яе ў тых, што разьбіраюць касьцёл Марыі Магдалены, але-ж я інтэлігент з вялікай галавой, трухлявым асяродкам і нікчэмнымі мускуламі. Боль, які вялікі боль! Праз момант я пачну ўжо халадзець і як добра аднойчы забіць сябе, як усё жыцьцё пакутаваць ад бясьсільнай сваёй нянавісьці. Станіслаў Галькевіч.

[1]) З нямецкай мовы—Змрок багоў, сьмерць багоў; загаловак кнігі Фр. Ніцшэ.

Стась, устаўшы, спакойна выцягнуў з кішэні сьвіткі браўнінг. Пераваў забясьпечнік з Sur“ па „teu“. Зірнуў у вакно. Ад касьцёлу чамусь беглі прэч, крычачы, людзі, сярод якіх спазнаў Ічэ. У некалькіх дзесятках крокаў ад вакна падрэзваў ля альтанкі акацыі пан Яранім. Бліжэй пад самым вакном сядзела на лаўцы, чытаючы кнігу, панна Малгоржата. Адышоў ад стала на сярэдзіну пакою і для стойкасьці расставіў ногі. І раптам хутка абедруч паднёс браўнінг да скроні і націснуў гашэтку.

Самотны стрэл зьліўся з вялізарным гулам за сьценамі хаты. Рухнула скляпеньне касьцёлу. Высока да неба падняласся белая хмара, засланіўшы потым сабою ўвесь касьцёл.

Панна Малгоржата пачула стрэл і рынулася бегма ў хату. Убегшы ў пакой, сьпярша спынілася, а пасьля, схіліўшыся на калені каля Стася, на твары якога застыгла некае дзіўнае неўразуменьне, загаласіла:

— Ой, Стась! Матка боска! Ой, мой Стасік! Езус-Марыя!

А ксёндз не пачуў стрэлу! Некалькі хвілін ён стаяў нярухома, углядаючыся ў вапенную хмару, нібы нічога не разумеючы. Потым грымаса перакрывіла твар ксяндза, і ён з дзіўнай для яго гадоў хуткасьцю пабег па вуліцы ад касьцёлу. Ужо далёка за горадам, упаўшы ад стомы на пагорак і кідаючыся па зямлі ад вялізарнага болю, дзед разьдзіраў на сабе ў шкумацьцё сутану і крычаў адзінае:

Ай-яй-яй-яй! Ай-яй-яй яй!

## VI

Белі парогі штодзень.
  белі парогі што-ноч,
Белі парогі ў час каралевы Боны
  белі ў час імпэратара Мікалая.
Белі парогі...

Галасіла, марнуючы сілу дарэмна, Дзьвіна.

І прышлі людзі з ланцугамі і пачалі вымерваць гушчар дзядоўнікаў тэадалітамі, і пачалі закідваць у кіпень віроў лоты. Бачыла Дзьвіна адвеку на Барысавым камені крыжы, сёньня пабачыла на скалах радыкалы, а заўтра ўспырсьне ў артэрыі краіны юнацкі хмель тысяч кілёват.

І нават Давід Гарлац, які, харчуючыся ўсё жыцьцё аплявухамі, нічаму добраму не даваў веры, шчыра заўважыў на ўзьбярэжжы аднаму з нялічных сумнявальнікаў:

— Чаму не? Гэта таксама бясхібна, як тое, што масёнжнік Давід Гарлац цяпер вартаўнік электрастанцыі, як тое, што барабаншчык Хаця Камар цяпер пераводзіць стрэлкі, як тое, што балагол Шлёма цяпер кандуктар чыгункі, як тое, што банкірша Пэся-Брайна цяпер працуе бракерам на фабрыцы, як тое, што каваль Янкель Мойжас цяпер член Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, як тое, што дачка

краўца Геня Мойжас цяпер працуе інжынэрам. Калі пералічваць для прыкладу, хто ды ўва што перакінуўся, ня хопіць дзён ад Пэйсаха да Кастрычнікавых сьвят, а мне трэба сьпяшацца на работу. Толькі слухай сюды. Нашы бальшавікі зьвяжуць да купы і ўпартасьць калбейнікаў і веды Гені Мойжас, а ўсё разам—мы маем стрыножыць Дзьвіну. І магчыма я ня ўбачу, але калі праз пяць год вось тут ня будзе праз раку грэблі, дык тады прыйдзі на могліцы і гукні:

— Клеіў дурня Довід Гарлац! Брахаў стары недарэка!

Нельга пазнаць у жанчыне, якая разам з Янкелем цяпер падымаецца да могліц на Вітавай Магіле, калішнюю Геню. У спэцвопратцы, у чырвонаармейскіх галіфэ, у высокіх рыбацкіх ботах, яна была падобна да прыгожага хлапца. Моўчкі падняўшыся, падышлі яны да магілы, на гранітнай пліце якой пад пяцікутовай зоркай быў надпіс:

> Блюма Мойжас.
>
> Сакратар
> павятовага рэвалюцыйнага
> камітэту.
> Цагліна
> сацыялістычнага будаваньня

Таксама моўчкі крыху пастаялі і пашлі далей, спыніўшыся на паляне, адкуль відзён быў увесь Грайронак.

Надыходзіла шэрая гадзіна, і разам з пахамі шалвею плылі пахі машыннай алівы і паравознай смолкі. На чыгунцы перагукваліся манэўровыя цягнікі. Вухаючы ў тупіках, адпачывалі некалькі хвілін, каб прапусьціць хуткі пасажырскі, таварныя. Былі ў іх вагонах:

**Нафта,** **Лес,**
**Руда,** **Жыта,**
**Вугаль,** **Бульба,**
**Машыны,** **Лён,**
**Т к а н к і**

Былі на іх вагонах надпісы станцый адпраўленьня:

**М а с к в а**

**Ленінград,** **Грайронак**
**Зацьвілішкі,**
**Крывы рог,** **Буда-Курбацкая,**
**Баку,** **Янавічы.**

І раптам мост праз Дзьвіну загаманіў кожнай фэрмай—рушыўся хуткі цягнік. Чутно было, як ён, спыніўшыся, прастаяў крыху ў Грайронку і потым, коратка гукнуўшы, пашоў далей, паступова зьліваючы пачатковую выразьлівасьць руху ў вокамгненны чардаш. А за ім адзін за адным зноў пашлі, пагрукваючы на стыках, цяжка вухкаючы таварныя.

Ад фабрыкі чулася, як пад бліскучы зубаты дэск балансірнай пілы, глуха пружаючы па бярвеньню, падкочваецца двухмэтровы асінавы камель. Запявае піла над горадам і ваколіцай басавітай гучнай нотай. Усё хутчэй мітусеньне звароту дыску, усё мацней віханьне песьні і ў храматычную гаму звонкай сталі ўрываецца раптам лямант пахучай асіны.

Першая, зірнуўшы на гадзіньнік, парушыла маўчанку Геня:

— Ужо без дзесяці хвілін сем, Янкель. Трэба дахаты, бо ў мяне а дзевятай тэхнічная нарада. А мой гадзіньнік крыху хлусіць, і ўжо няма Гэрцыка Віфэл Азэйгер. Няма Блюмы, няма Эел-Бэра, няма Максіма Стахнова. Няма і антыпода іх Стася.

— І ніхто па Стасю не загалосіць,—перарваў Янкель.—Чула, Геня, як ювэліры адрозьніваюць штучныя дарагія каменьні ад натуральных? Яны абліваюць іх азотнай кіслатой, і дыямэнты, смарагды, рубіны застаюцца цэлымі, а мізэрныя бліскаўкі рассыпаюцца на дробны пыл. Стась ня вытрымаў гэтай суровай спробы, а грошы Гэдыміна, Ягайлы і Альгэрда сёньня не катыруюцца. Ён спазьніўся на век. Толькі.

Яны пачалі спускацца з Вітавай Магілы, і калі выйшлі на вуліцу, заўважылі ўперадзе чалавека з адзінай у горадзе хадой. Гэта быў Хаця Камар, які крочыў, памахваючы чырвона-зялёным ліхтарыкам у руцэ, і сьпяваў:

— Рэбэйнішэ лэйлом!
Іх віл фюр дір
Ам дудке шпілн [1])

Масква, 1932 г.

[1]) З яўр. песьні:—Паважаны пан бог!
Я хачу табе
На дудцы сыграць...

## АБ ФАКТАХ ПРАСОЧВАНЬНЯ КЛЯСАВА-ВАРОЖЫХ, НАЦЫЯНАЛ-ДЭМОКРАТЫЧНЫХ УПЛЫВАЎ У МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ БССР.

*(Пастанова ЦК КП(б)Б ад 28 студзеня 1933 г.)*

1. ЦК КП(б)Б адзначае, што за апошні час меў месца рад фактаў прасочваньня і прасякненьня адкрыта клясава-варожых, рэваншысцкіх, нацыянал-дэмакратычных вылазак на літаратурным фронце БССР (артыкул Сідарэнкі-Пеначкіна, твор Нікановіча ў часопісі «Беларусь Калгасная», твор с. Баранавых у «Літаратуры і Мастацтва»).

ЦК кваліфікуе зьяўленьне вышэй паказаных артыкулаў і твораў (Сідарэнка-Пеначкіна, Нікановіча і С. Баранавых) у нашых часопісях, як клясава-варожую вылазку рэваншысцкіх нацыянал-дэмакратычных элемэнтаў, што адлюстроўваюць у гэтых сваіх выступленьнях шалёнае супраціўленьне разгромленага, але яшчэ канчаткова не дабітага клясавага ворага, разгорнутаму сацыялістычнаму наступленьню па ўсім фронце, што вядуць сваю антысавецкую работу, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сьцягам.

2. ЦК лічыць зусім недапушчальным і нецярпімым, што да гэтага часу фракцыяй Арганізацыйнага Камітэту Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў ня дадзена разгорнутая палітычная кваліфікацыя вышэй паказаных фактаў анты-савецкіх вылазак на літаратурным фронце, што сакратарыят ЦК расцэньвае, як прытупленьне клясавай пільнасьці, палітычную блізарукасьць і праяўленьне гнілога лібэралізму з боку кіраўніцтва Аргкому да канкрэтных носьбітаў клясава-варожых уплываў у літаратуры, за што вынесьці вымову фракцыі прэзыдыуму Аргкамітэту Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў.

Прапанаваць фракцыі Аргкому ў бліжэйшыя дні даць разгорнутую палітычную ацэнку становішчу літаратурнага фронту БССР.

3. Адзначыць, што з боку органаў Наркамасьветы,—у асаблівасьці Галоўліту, ДзВБ, у рабоце па пытаньнях літаратуры (кіраўніцтва, выданьне, палітычная рэдакцыя) праяўлена прытупленьне клясавай пільнасьці і гнілы лібэралізм у адносінах да клясава-варожых вылазак і асоб, якія вядуць антысавецкую барацьбу, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сьцягам.

Папярэдзіць тав. Платуна аб тым, што гэтыя факты, а таксама факты, выкрытыя ў рабоце Наркамасьветы па кіраўніцтву ВНУ і школамі і адзначаныя ў пастанове пленуму ЦК,—сьведчаць аб невыстарчальным бальшавіцкім кіраўніцтве з боку тав. Платуна даручанай яму Цэнтральным Камітэтам справай і што ЦК патрабуе ад тав. Платуна стварэньня рашучага пералому і перабудовы ўсёй работы Наркамасьветы.

Тав. Сініцкаму, заг. Галоўлітам, абвясьціць суровую вымову з папярэджаньнем і зьняць з работы. Прапанаваць тав. Рудніцкаму неадкладна ўскласьці пэрсанальна на аднаго з членаў калегіі Наркамасьветы абавязкі па нагляду за работай Галоўліту да падбору адпаведнага работніка.

Тав. Некрашэвічу—заг. ДзВБ—за зусім невыстарчальнае бальшавіцкае кіраўніцтва важнейшым вучасткам нацыянальна-культурнага будаўніцтва—выдавецкай справай, зусім няўважлівыя адносіны да падбору кадраў палітрэдактароў, што прывяло да цэлага раду зрываў палітыка-ідэолёгічнага парадку ў рабоце ДВБ,—вынесьці суровую вымову.

Папярэдзіць тав. Некрашэвіча, што калі ў бліжэйшы час ён не даб'ецца рашучай бальшавіцкай перабудовы работы і кіраўніцтва ДзВБ у бок узмацненьня рэвалюцыйнай пільнасьці, падбору вытрыманых, надзейных правераных рэдактарскіх кадраў, што кіруюць выдавецкай справай не фармальна, а па сутнасьці,—да яго будуць ужыты меры больш суровага партыйнага спагнаньня.

Прапанаваць Наркамасьветы і Культпропу ў бліжэйшыя два-тры дні ўзмацніць апарат рэдактуры ДзВБ, Галоўліту і Галоўмастацтва партыйна-праверанымі і вытрыманымі работнікамі, адначасова ўзмацніўшы штодзённы кантроль і кіраўніцтва на літаратурна-мастацкім фронце.

4. Адзначыць зусім невыстарчальнае кіраўніцтва пытаньнямі мастацкай літаратуры, і несваячасовае рэагаваньне на наяўныя факты з боку Культпропу ЦК, у асаблівасьці сэктару мастацтва, за што:

а) былому загадчыку сэктарам мастацтва ЦК тав. Модэлю абвясьціць суровую вымову з папярэджаньнем, перадаўшы ўсё пытаньне аб ім на разгляд ЦКК;

б) папярэдзіць тав. Усса—заг. сэктарам мастацтва ЦК, а таксама ўсіх работнікаў Культпропу, што падобнае становішча справы, якое выкрылася на літаратурным фронце, сьведчыць, што работнікі Культпропу да гэтага часу не праявілі сябе палітычна-чулымі работнікамі партыйнага апарату, якія абавязаны хутка сыгналізаваць і рабіць вывады ў адносінах праяўленьняў клясава-варожых выступленьняў на фронце літаратуры і мастацтва.

Прапанаваць Культпропу ЦК на працягу двух-трох дзён узмацніць сэктар мастацтва праверанымі надзейнымі партыйцамі, а таксама ўзмацніць штодзённае кіраўніцтва і дапамогу фракцыі Аргкому Саюзу Пісьменьнікаў.

5. Распусьціць рэдкалегію «Беларусь Калгасная». Пытаньне аб рэдактары часопісі тав. Мурашка, які ня толькі дапусьціў зьяўленьне паказаных клясава-варожых анты-савецкіх артыкулаў у часопісі, але дамагаўся іх надрукаваньня,—перадаць у ЦКК на прадмет прыцягненьня да суровай партыйнай адказнасьці.

Прапанаваць Культпропу ЦК у трохдзённы тэрмін прадставіць на зацьверджаньне ЦК новы склад рэдкалегіі часопісі «Беларусь Калгасная».

За спазьненьне і несваячасовае выкрыцьцё клясава-варожых вылазак на літаратурным фронце рэдакцыі газэты «ЛіМ» абвясьціць вымову.

Прапанаваць Культпропу ЦК узмацніць склад рэдкалегіі газэты «ЛіМ» моцнымі праверанымі партыйцамі. Паказаць тав. Дунцу, што факт выпуску ў газэце «ЛіМ» клясава-варожых артыкулаў сьведчыць аб тым, што тав. Дунец не дабіўся сапраўднага бальшавіцкага кіраўніцтва газэтай «ЛіМ». Прапанаваць тав. Дунцу прыняць меры да недапушчаньня ў далейшым падобных фактаў.

Адзначыць, што інстытут «ЛіМ» заняў «нэйтральную» пазыцыю ў пытаньнях, доказам чаго зьяўляецца тое, што ён ня даў ніводнага крытычнага артыкулу, ня гледзячы на папярэджаньне з боку ЦК аб неабходнасьці адкрыта выступіць супроць клясава-варожых элемэнтаў. Гэта сьведчыць аб тым, што ў Інстытуце ЛіМ няма выстарчальнай мабілізаванасьці і з боку АНБ не ажыцьцяўляецца неабходнае партыйнае кіраўніцтва гэтымі справамі, за што дырэктару Інстытуту ЛіМ тав. Вольскаму і намесьніку дырэктара тав. Ліманоўскаму абвясьціць вымову. Паказаць партчастцы Акадэміі на неабходнасьць умацаваньня кіраўніцтва работай інстытуту.

Тав. Галавачу П., што прапусьціў у рэдагаваным ім зборніку (том VI) вершаў Купалы рад адкрыта-нацыяналістычных клясава-варожых твораў Купалы пэрыяду, калі Купала ў сваёй творчасьці выразна адлюстроўваў нацыянал-дэмакратычныя ідэі, у асаблівасьці без рэдакцыйных заўваг і палітычнай іх ацэнкі,—абвясьціць суровую вымову з папярэджаньнем.

У сувязі з наяўнасьцю раду фактаў, якія паказваюць аб тым, што тав. Галавач ня толькі ня выправіў сваіх ранейшых памылак, а нават у дадзены момант дапускае таксама рад памылак палітычнага парадку,—пытаньне аб тав. Галавачу вырашыць дадаткова асобна.

6. Прапанаваць ЦК ЛКСМБ разгледзець пытаньне аб грубых палітычных памылках тав. Кучара, дапушчаных ім у радзе яго літаратурна-крытычных выступленьняў, падвергнуўшы іх самай бязьлітаснай рэзкай бальшавіцкай крытыцы, і ў выпадку неабходнасьці свае прапановы ўнесьці ў ЦК.

7. У сувязі з наяўнасьцю раду фактаў, якія сьведчаць аб недапушчальных паводзінах Хведаровіча ў пытаньнях праведзеньня партыйнай лініі на літаратурным фронце, даручыць ЦКК прыцягнуць Хведаровіча да партыйнай адказнасьці.

8. Бюро ЦК абавязвае кожнага камуніста і камсамольца пісьменьніка ўсямерна ўзмацніць рэвалюцыйную пільнасьць, бальшавіцкую няпрымірымасьць да клясава-варожых вылазак, варожых уплываў на літаратурным фронце, бязьлітасна выкрываючы і зрываючы маскі з клясавага ворага, што выступае часта пад фальшыва-нацыянальным сьцягам, даючы ім сакрушальны адпор, разам з тым чула і беражна адносячыся да тых пісьменьніцкіх кадраў, якія імкнуцца стаць на службу справе сацыялістычнага будаўніцтва, дабіваючыся сацыялістычнага іх перавыхаваньня ў працэсе творчай і грамадзкай работы.

**В. Барысенка**

# ТВОРЧАСЬЦЬ ЯКУБА КОЛАСА

**(Да 50-годзьдзя з дня нараджэньня)**

## I

Правільна вызначыць асноўныя этапы, якія прайшоў Якуб Колас у сваім творчым разьвіцьці, паказаць клясавую існасьць і функцыянальную ролю яго творчасьці, даць правільную ацэнку яго мастацкай прадукцыі, немагчыма без дэталёвага і глыбокага веданьня тых гістарычных умоў, таго складанага працэсу клясавай барацьбы, якім фармавалася творчасьць паэты, інакш кажучы, неабходна заўсёды мець канкрэтна гістарычны падыход пры вывучэньні творчасьці таго ці іншага пісьменьніка.

Вызначыць, сьвядомасьць якое клясы выражаў Колас у сваіх мастацкіх творах, дакладна, акрэсьлена паказаць, якую клясавую пазыцыю займаў пісьменьнік на тых ці іншых канкрэтных этапах клясавай барацьбы, за інтарэсы і ідэалы якое клясы змагаўся Колас сваёю творчасьцю, магчыма толькі тады, калі мы ў аснову свайго аналізу творчасьці Коласа паложым ленінскае вучэньне аб двух «аб'ектыўна вазможных» шляхох капіталістычнага разьвіцьця. Ацэнку творчасьці Коласа трэба даваць з пункту гледжаньня характару і рухаючых сіл рэвалюцыі на Беларусі, з пункту гледжаньня тых задач, якія паўставалі перад пралетарыятам на кожным канкрэтным этапе рэвалюцыі,—толькі такі падыход да разгляду творчасьці Коласа будзе адзіна-навуковы ў лепшым сэнсе гэтага слова, адзіна правільны.

Колас на літаратурным фронце клясавае барацьбы выступіў з першымі сваімі творамі напярэдадні рэвалюцыі 1905 г.

У адным з самых раньніх сваіх вершаў, датаваным 1904 г., Колас кажа:

„Ня пытайце, не прасеце<br>Сьветлых песень у мяне,<br>Бо як песьню засьпяваю,<br>Жаль вам душу скалыхне“.

Аўтар у гэтым вершы акрэсьлена зазначае, што «сьветлых» песень ён сьпяваць ня можа з прычыны таго, што навакольная сацыяльная рэчаіснасьць не выклікае радасных песень, а наадварот, «ды

на жыцьцё як паглядзіш, сэрца болем зашчыміць». І далей у радкох, поўных чорнага пэсымізму і безнадзейнасьці, аўтар кажа:

„Не шчасьліва наша доля:
Нам нічога не дала.
Ня шукайце кветак ў полі,
Бо вясна к нам не прышла“.

І сапраўды, становішча асноўных мас сялянства, ад імя якіх выступае Якуб Колас у сваёй творчасьці на першым этапе яе разьвіцьця, напярэдадні рэвалюцыі 1905 году было непамерна цяжкое. К гэтаму часу, як зазначана ў праграме Расійскай Сацыял-Дэмакратычнай Рабочай партыі, прынятай на II зьезьдзе, у Расіі «капіталізм ужо стаў пануючым спосабам вытворчасьці», тое самае мы наглядаем і на Беларусі. Але, ня гледзячы на тое, што капіталістычны спосаб вытворчасьці стаў пануючым як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы, на Беларусі, як і ў Расіі, захаваліся значныя рэшткі прыгоньніцкіх перажыткаў.

Самаўладзтва само, зьяўляючыся адным з самых значных і магутных рэшткаў дакапіталістычнага ладу, заядла абараняла і ахоўвала ўсякія перажыткі фэадалізму ў інтарэсах земляўласьнікаў—прыгоньнікаў.

Селянін былой Расійскай імпэрыі, у тым ліку і беларускі, да самай рэвалюцыі 1905 г. лічыўся ніжэйшым станам, «подлежащим розге, платящим особые подати» (Ленин). Селяніна, прывязанага до свайго надзелу, забітага, бяспраўнага, самаўладзтва і памешчыкі экспллёатавалі, рабавалі выкупнымі плацяжамі, душылі непасільнымі падаткамі, лупцавалі розгамі і трымалі ў поўнай цемры.

З разьвіцьцём капіталізму да паліцэйска-памешчыцкага ўціску «прибавился еще гнет капитала». «Власть денег»,—кажа Ленін,—не только придавила, но и расколола крестьянство. Громадная масса неуклонно разорялась и превращалась в пролетариев, меньшинство выделяло кучки немногочисленных, но цепких кулаков и хозяйственных мужиков, прибиравших к рукам крестьянское хозяйство и крестьянские земли, составляющих кадры нарождающейся сельскай буржуазии» (Ленін, том IV, стар. 26).

Зносячы на сваёй сьпіне «памешчыцкі ўціск, да якога прыбавіўся ўціск капіталу», селянін быў даведзены да бязвыхаднага жабрацтва ў поўным сэнсе гэтага слова. Але «наш селянин»,—кажа Ленін,—«страдает, как мы видели, не только и даже не столько от гнета капитала, сколько от гнета помещиков и остатков крепостничества». (Ленін, том IV, ст. 26).

Гэтыя рэшткі прыгоньніцкіх адносін становяцца самым вялікім тормазам на шляху грамадзкага разьвіцьця краіны, яны затрымліваюць, перашкаджаюць разьвіцьцю капіталістычнага спосабу вытворчасьці, «не допускают всестороннего развития классовой борьбы пролетариата, содействуют сохранению и усилению самых варварских форм эксплёатации многомиллионного крестьянства государством и имущими классами» (программа РСДРП).

Беларусь у тыя часы знаходзілася ў каленіяльнай залежнасьці ад Расійскай імпэрыі, і таму беларускія працоўныя масы, як і працоўныя масы іншых нацыянальнасьцяй, знаходзіліся пад падвойным прэсам сацыяльнага і нацыянальнага ўціску. Колас у сваіх творах першага пэрыяду з усёю яскравасьцю і вялікаю сілаю мастацкасьці ўсебакова і падрабязна абмалёўвае бяспраўнае, гаротнае становішча беларускага селяніна, які быў прыгнечаны і сацыяльна і нацыянальна.

Тагачасная вясна, як і «родны край» у цэлым, падаецца аўтарам у сумным выглядзе, замалёўваецца ў чорных фарбах і зьяўляецца, на яго думку, увасабленьнем усіх бед і пакут.

«Родныя вёскі» і сёлы пазіраюць «сумна і нудна», там цяжка і сьцішна, кажа аўтар, як у вастрозе, або на могілках:

„Пазіраюць сумна вёскі,
Глянеш—сэрца забаліць
На двары паленьне, цёскі,
Куча сьметніку ляжыць,
Крыж збуцьвелы пры дарозе,
Куча топаляў сухіх...
Сьцішна, нудна, бы ў вастрозе
Ці на могілках якіх!“

У тагачаснай беларускай, як і расійскай вёсцы сумяшчаліся «двоякого роду классовые противоположности: во-первых, между сельскими рабочими и сельскими предпринимателями, во-вторых, между всем крестьянством и всем помещичьим классом» (Ленін). У творчасьці Коласа знайшла сваё яскравае выяўленьне другая з вышэйзазначаных клясавых працілегласьцяй, у той час, як першая з іх аўтарам зусім, у яго творчасьці таго пэрыяду, не адлюстравана.

З глыбокім спачуваньнем у цэлым шэрагу сваіх вершаў Колас замалёўвае бяспраўнае становішча беларускага селяніна, прыдушанага падвойным прэсам сацыяльнага і нацыянальнага ўціску. Усё жыцьцё селяніна праходзіць у цяжкой, маруднай, непасільнай працы. Селянін, які кажа пра сябе:

„Я балоты сушу.
Надрываю жывот,
Я за бесцэн кашу.
Рыю зямлю, як крот...

Ўсе вуглы і куты
Сваім целам я зьмёў
Сьсек і лес, і кусты,
І дарогі правёў,

Збудаваў я палац,
Многа фабрык, мастоў“...
і г. д.—

і рукамі якога, на думку Коласа, збудавана ўсё на сьвеце, гаворачы пра сваё жыцьцё, заяўляе:

„Ня жыву, а гнію,
Прападаю, як мыш,
Глянь на долю маю,
Глянь на цяжкі мой крыж“.

Бо вынікамі, плёнамі працы селяніна карыстаюцца дармаеды». Селяніна бязьлітасна эксплёатуюць і рабуюць «багачы і панства», якія на крывавым яго поце будуюць свой дабрабыт:

Прыгнечаны панствам бясправўны беларускі мужык, кажа Колас, адцісьнуты на пустыя, неўраджайныя, балоцістыя і камяністыя землі—

Ў балоты мы адцісьнуты.
Загнаны мы у шчыліны,
І вочы нам завязаны.
І вушы нам зачынены“—

ён задыхаецца ад малазямельля, яго поле кепскае і неўрадлівае, парэзана на маленькія параскіданыя па сьвеце палоскі, да якіх нават ня можна падвесьці гною.

Сялянская ніва, якая вечна «пустымі шуміць каласамі», ня можа пракарміць нават і сям'і самога селяніна, ён прымушаны ісьці працаваць да пана ў маёнтак, або вандраваць па гарадох і мястэчках, прадаючы свае мазолістыя рукі за кавалак хлеба. «Раскрестьянивание» сялянства—гэты заканамерны працэс, які зьвязаны з пранікненьнем капіталізму ў вёску—знаходзіць сваё, хоць і няпоўнае, адлюстраваньне ў творчасьці Коласа гэтага пэрыяду. У творы «Плытнікі» аўтарам паказана, як сялянства, якое разбураецца, цэлымі масамі пакідае вёскі і адпраўляецца на пошукі працы.

„Клумак за плячамі,
Згорбленыя сьпіны,
Валіць гарадамі
Люд на сплаў віціны“.

І далей Колас у гэтым-жа творы спыняецца на апісаньні тых умоў, у якіх эксплёатуецца селянін, выгнаны галадухай з наседжанага гнязда на заробкі:

„Плытнік гнецца ў полі,
Мерзьне ён у холад.
Ведае нядолю,
Ведае і голад“.

Цёмны, прыдушаны, бесправўны беларускі мужык, у выніку жорсткае эксплёатацыі з боку пануючых кляс і дзяржавы, быў даведзены да жабрацкага існаваньня. Колас у сваіх творах, нікольькі не перабольшваючы, расчыняе, паказвае перад чытачом тыя жудасныя ўмовы, у якіх жыве і пакутуе абяздолены селянін. Ён зьмяшчаецца разам з жывёлаю, хата яго падобна да хлява, у ёй брудна, дымна, курна.

„Ў хаце чорна, ня прыбрана
Парасяты пад палком,
Павуцінаю затканы
Стол і кут пад абразом.
Дзеці ўстануць пасьля ночы—
Крык хоць вушы затыкай.
Дым з камінку лезе ў вочы,
Дзед,—сярдуе ая-яй!

Селянін ходзіць у лахманох, харчуецца сурагатамі ніжэйшых гатункаў, а з глыбокай восені пачынае таладаць у літаральным сэнсе гэтага слова.

„У кішэні ні грашынкі,
Хата поўная дзятвы!
Ні паленца, ні лучынкі—
Хоць у зямлю лез жывы.
Прапалілі, пераслі—
Нічагутка, ані ў зуб!
Хлеба толькі да нядзелі,
На два разы ўсяго круп!“

Мала таго, што селянін азіяцкім чынам эксплёатуецца памешчыкам, рабуецца дзяржавай—з яго яшчэ зьдзекуюцца, ня лічаць за чалавека, купляюць як жывёліну, б'юць розгамі:

„Абсьмяяны, аблаяны,
Гразёю мы замазаны.
Багатымі мы скрыўджаны,
Няволяю мы зьвязаны“—

кажа вуснамі селяніна аўтар.

У творчасьці Коласа таго пэрыяду ня толькі знайшло сваё адлюстраваньне бесправўнае сацыяльнае і нацыянальнае становішча беларускага мужыка, у ёй з усёю пакутнасьцю і паўнатою выразіўся пратэст асноўнай масы беларускага сялянства супроць непамерна цяжкога сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, у ёй знайшлі сваё яскравае выяўленьне клясавыя імкненьні і ідэалы беларускага сялянства, з якімі яно ішло ў рэвалюцыю 1905 г., у ёй выразіліся слабыя і моцныя бакі масавага рэвалюцыйнага сялянскага руху. Колас у пэрыяд рэвалюцыі 1905 г. выступае як змагар за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне сялянства. Непасрэднай задачай рэвалюцыі 1905 г. на Беларусі, як і ў Расіі, была задача скінуць самаўладзтва, канфіскацыя памешчыцкага земляўладаньня, рашучая ліквідацыя ўсіх форм, прыгоньніцкіх адносін, поўнае «освобождение нашей деревни от всех пережитков рабства», устанаўленьне буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі, васьмігадзіннага рабочага дню.

Гаворачы пра задачы буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, неабходна падкрэсьліць, што сацыялістычны пралетарыят, зьяўляючыся галоўнай кіруючай сілай, гегемонам рэвалюцыі 1905 г., вядучы барацьбу ў саюзе з сялянствам за рэвалюцыйна-дэмакратычную дыктатуру пралетарыяту і сялянства, усямерна і рашуча падтрымліваў рэвалюцыйныя патрабаваньні сялянства, але ніколі і ні ў якім разе ня зводзіў, не абмяжоўваў сваіх задач у рэвалюцыі буржуазнымі рамкамі, як гэта рабілі меншавікі. Меншавікі,—кажа Сталін,—«отвергли идею гегемонии пролетариата в буржуазно-демократической революции, политике союза рабочего класса з крестьянством, они предпочли политику соглашения с либеральной буржуазией, а революционно-демократическую диктатуру пролетариата и крестьянства об'явили реакционной и бланкисткой схемой, противоречащей разви-

тию буржуазной революции». Бальшавікі, партыя пралетарыяту, заўсёды рашуча і бязьлітасна змагаліся супроць меншавізму, «отстаивали идею союза рабочего класса с крестьянством пры гегемоніі пролетариата. Большевики утверждали, что дело надо вести к революционно-демократической диктатуре пролетариата и крестьянства с тем, чтобы от революции буржуазно-демократической перейти немедленно к революции социалистической, при обеспечении поддержки со стороны деревенской бедноты» (падкрэсьлена мною—В. Б.).

Такія ў агульных рысах асноўныя задачы, якія павінна была вырашыць буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя.

Коласава творчасьць гэтага пэрыяду падпарадкавана вырашэньню надзённых задач буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі. Асноўнае, супроць чаго выступае Колас у сваёй творчасьці—гэта супроць тагачаснага палітычнага ладу, супроць памешчыкаў і памешчыцкай эксплёатацыі.

У сваіх творах, як напрыклад у вершы «Ворагам», аўтар ад імя сялянства, якое, на яго думку, зьяўляецца галоўнай рухаючай сілай рэвалюцыі, прад'яўляе ў грозны час расплаты «багачам і панству» свой клясавы рахунак. Коласаўскі селянін, усьвядоміўшы сваю сілу, грознымі словамі, якія ня ведаюць літасьці, кліча на суд эксплёататараў-дармаедаў.

„Багачы і панства
Нашы дабрадзеі!
Мы на суд вас клічам,
Каты вы, зладзеі!
  І на грозных межах
  Часоў пераходных
  Сьмела вас пытаем,
  Прагных і нягодных..."

Панства, кажа Колас, галоўны вораг селяніна. Гэта яно вінавайца жабрацкай долі селяніна, яго пакут. Панства прычына таму, што мужык увесь век працуе і, ня гледзячы на гэта, жыве жабраком, бо плёнам яго працы карыстаюцца эксплёататары.

„Чымі рукамі
Вы дабро зьбіралі?
На чые вы сьлёзы
Дабрабыт куплялі?
  І за што, скажэце,
  Палкамі нас білі
  Секлі-каталі,
  Голадам марылі?
Ласкаю-ж чыею,
І з чые вы працы
Замкі збудавалі,
Пышныя палацы"—

сьмела пытаецца селянін, клічучы панства на суд. І далей, у гэтым творы ў мастацкай форме выкладаюцца, па сутнасьці справы, асноўныя праграмныя патрабаваньні рэвалюцыйнага сялянства. Колас у

творах вышэйпададзенага характару выражае ў мастацкай форме пратэст асноўных мас сялянства супроць тагачаснага палітычнага ладу.

Шлях да лепшага жыцьця сяляніна мысьліцца Коласам цераз жорсткую барацьбу супроць панства, як заклятага ворага сяляніна.

„Багачы і панства
І вы, ўсе брадзягі!
Ў бок з дарогі, каты!
Бойцеся сермягі!
Ужо даўно вяроўкі
Вас, паны, чакаюць
І па вас асіны
Сьлёзы праліваюць“.

У маленькім творы, які я ніжэй падам, Колас яшчэ акрэсьленьней заяўляе, што ня будзе сяляніну жыцьця, не атрымаць яму зямлі да тых пор, пакуль не перавешаюць паноў.

„— Што брат Грышка, папраўляйся—
Чуткі ёсьць—зямлі дадуць.
Не хварэй, брат, падымайся
Ды ачуньвай як нібудзь.
— Эк, Мікола: што тут цешыць?
І стары, а як дзіця:
Не, ня будзе нам жыцьця,
Як паноў не пераве́шаць“.

Сялянства, падняўшыся на барацьбу пад кіраўніцтвам пралетарыяту за зямлю і волю, не магло атрымаць ні першага ні другога, не змагаючыся супроць самаўладзтва—гэтай галоўнейшай і магутнейшай апоры азіяцкае эксплёатацыі сяляніна ў інтарэсах пануючых кляс. Колас у сваіх творах выступае супроць самаўладзтва, ён зрывае з цара маску дабрачынцы і народнага абаронцы і паказвае яго ў сапраўдным аголеным выглядзе, як ашуканца, які гандлюе народам у інтарэсах пануючых кляс. Колас заклікае ня верыць цару, быць пільнымі, бо гэты гандляр з чорнае біржы зноў хоча падмануць народ.

„А ні хлеба, а ні солі,
Ні купіць нам, ні прадаць...
Эх, ня вер цару ніколі—
Хоча зноў нас ашукаць“.

Колас пад агонь сваёй сатыры бярэ і самога цара і ў яго асобе ўсё самаўладзтва, выкрывае ў сваіх творах уяўную, мішурную магутнасьць расійскага царызму, які трымаецца на бізунох, турмах і расстрэлах. Самаўладзтва на чале з «брадзягай», «скулой басяцкай», дурачком-царом дажывае лічаныя гадзіны.

„Пануй, Мікалае,
Часіна такая,
Трымайся прастола,
А будзе вас гола.
Акончан малебен,
Ты нам не патрэбен
Другі і апошні Мікола!“

Выступаючы супроць царызму, Колас высьмейвае камэдыю выбарчай кампаніі ў думу, востра зьдзекуецца над куртатаю канстытуцыяй—

„Дзесяць год Мікола думаў,
І прыдумаў ён думу,
Пасадзілі разам з панам
Янку, Грыца і Кузьму",—

кваліфікуючы яе як зьдзек над народам, ашуканства народу. У творы «Канстытуцыя» Колас трапна выкрывае сутнасьць усіх канстытуцыйных падачак самаўладзтва—

„Канстытуцыю далі",
Адчынілі дзьверы
І... ў астрог нас павялі
І таўкуць бяз меры.

Вітэ дакляраваў свабоду,

„Потым хвігу паказаў
„Вернаму" народу".

Сабралася дума. Дэпутаты загаварылі пра зямлю.

„Зашумелі аб зямлі
У думе дэпутаты,
Дык па карку ім далі
І пашлі да хаты".

«Карысьць» для селяніна, якую з сабою прынесла канстытуцыя, зводзіцца да таго, што мужыка пачалі яшчэ больш уціскаць, яшчэ больш над ім зьдзекавацца пануючыя клясы.

Колас усьведамляе неабходнасьць рэвалюцыйных сродкаў змаганьня, у яго творах адчуваецца вера ў рэвалюцыю, вера ў яе перамогу. Колас заклікае не апушчаць рук, не падаць духам, а:

„За работу жыва, жыва!
Каб нас доля ня ўшчувала,
Каб ня сохла наша ніва
Каб нуда нас больш ня знала!"

Аўтар у сваіх творах, як мы бачым, выражае асноўныя патрабаваньні рэвалюцыйнага сялянства, яго гарачы і рашучы пратэст супроць сацыяльнага прыгнечаньня тагачасным ладам.

Выступаючы ў сваёй творчасьці як рэвалюцыйны сялянскі дэмакрат, Колас да правільнага разуменьня характару рэвалюцыі не падняўся, ён яе разумее па дробнабуржуазнаму, так, як яе разумелі «многие искренние друзья народа».

На думку Коласа перамога буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі нясе для селяніна вызваленьне ад усялякага ўціску і путаў, нясе яму новае, сьветлае, «залатое жыцьцё».

Дымам пойдзе ўсё ліхое,
Усё, што душыць нас і гне.
Вер, брат,—жыцьце залатое
Будзе ў нашай старане".

Паэта у дадзеным выпадку не зразумеў таго, што буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя «уничтожит до конца все остатки крепостничества, но вовсе не уничтожит буржуазного хозяйничанья, не уничтожит капитализма, не уничтожит деления общества на классы, на богатых и бедных, на буржуазию и пролетариат». (Ленін). Толькі сацыялістычная рэвалюцыя сапраўды вызваліць працоўныя масы сялянства ад уціску і эксплёатацыі капіталу.

Колас у сваіх творах дае часта сялянскае, дробнабуржуазнае разуменьне рэвалюцыі. Па Коласу асноўнай рухаючай сілай рэвалюцыі зьяўляецца сялянства,—селянін асноўная фігура грамадзтва. Колас не зразумеў таго, што асноўнай рухаючай сілай, гегемонам рэвалюцыі 1905 г. як у Расіі, так і на Беларусі зьяўляўся пралетарыят. Сялянства толькі ў саюзе з пралетарыятам, толькі пад яго непасрэдным кіраўніцтвам магло дабіцца ў рэвалюцыі сваіх асноўных патрабаваньняў. Гэтага не разумеў Колас і ў гэтым выявілася абмежаванасьць дробна-буржуазнага рэвалюцыянэра. Дэмакратычныя патрабаваньні рэвалюцыйнага беларускага сялянства, якія выявіў Колас на дадзеным этапе сваёй творчасьці, рабочая кляса і яе партыя ўсямерна падтрымлівала, адначасова вядучы барацьбу з «абмяжованасьцю і непасьлядоўнасьцю буржуазнай (у тым ліку і сялянскай) дэмакратыі» (Ленін). Але падтрымліваючы гэтыя рэвалюцыйныя патрабаваньні сялян, падтрымліваючы сялянства ў яго барацьбе за зямлю і волю, пралетарыят ніколі ня зьмешваў свае самастойныя патрабаваньні з патрабаваньнямі рэвалюцыйнай сялянскай дэмакратыі. «Крестьяне должны знать,—кажа Ленін,—что красное знамя, которое поднято в городах, есть знамя борьбы за ближайшие и насущные требования не только промышленных и сельских рабочих, но и за требование миллионов и десятков миллионов мелких землевладельцев... Но красное знамя означает не только поддержку пролетариатом крестьянских требований. Оно означает еще самостоятельные требования пролетариата. Оно означает борьбу не только за землю и волю, но и борьбу против всякой эксплоатации человека человеком, борьбу против нищеты народных мас, борьбу против господства капитала» (Ленін, том 7, частка 1, стар. 19).

Такім чынам, з вышэйпададзенага аналізу творчасьці Коласа, мы бачым, што ён, выражаючы асноўныя дэмакратычныя патрабаваньні сялянства, стаяў за рэвалюцыйны шлях іх ажыцьцяўленьня, г. зн., Колас стаяў за амэрыканскі шлях разьвіцьця капіталізму, пры якім «помещичьего хозяйства нет или оно разбивается революцией, которая конфискует и раздробляет феодальные поместья. Крестьянин преобладает в таком случае и эволюционирует в капиталистического фермера» (Ленін). Колас у сваёй творчасьці змагаецца за сялянскую эвалюцыю земляробства, супроць прускага шляху разьвіцьця капіталізму, які выгадны быў пануючым клясам.

Выступаючы ў сваёй творчасьці дадзенага пэрыяду за сацыяльнае вызваленьне сялянства, Колас выступае адначасова і супроць нацыянальнага уціску, за нацыянальнае вызваленьне. Нацыянальна-вызва-

ленчы масавы рух зьвязан з рэвалюцыяй 1905 г. Рэвалюцыя абудзіла ўсе прыгнечаныя царызмам нацыянальнасьці. Для эпохі буржуазна-дэмакратычнага перавароту, для эпохі «краху фэадалізму і абсалютызму» характэрным і тыпічным зьяўляецца абуджэньне нацыянальных рухаў. У такія эпохі «национальные движения впервые становятся массовыми, втягивают так или иначе все классы населения в политику путем печати, участия в представительных учреждениях и т. п.», уцягваецца ў яго і сялянства, «как наиболее многочисленный и «тяжелый на под'ём» слой населения, в связи з борьбой за политическую свободу вообще и за права национальности в частности» (Ленін, т. XIX).

Колас, заклікаючы на барацьбу сялянства супроць самаўладзтва, паліцэйшчыны, памешчыкаў, заклікаў і да змаганьня супроць нацыянальнага ўціску. У яркіх, але змрочных колерах малюе Колас пакуты «роднага краю», «роднага народу». Край наш бедны цёмны,—кажа ён у сваіх творах,—«забыты богам», сірата.

„Край наш бедны, край наш родны!
Лес, балоты ды пясек...
Чуць дзе крыху луг прыгожы...
Хвойнік, мох ды верасок.
А туманы, як пялёнка!
Засьцілаюць лес і гай.
Ой, ты бедная старонка!
Ой, забыты богам край“.

У гэтым забытым усімі, закінутым краі, дзе «кепска родзіць колас», пакутуе абяздолены беларускі народ, жыцьцё якога аўтар параўноўвае з цёмнай ноччу, з крывой, вузкай сьцежкай.

Ні край, ні народ ня маюць долі. Беларусь як нацыя пакрыўджана, і аўтар, зьвяртаючыся да беларусоў наогул, заклікае паўстаць на барацьбу за вольнасьць краіны.

„Выйдзем разам да работы!
Дружна станьма, як сьцяна,
І прачнецца ад дрымоты
З намі наша старана!“

Паэта заклікае ня падаць духам, не баяцца цяжкасьцяй, цьвёрда верыць у свае сілы, верыць у вызваленьне роднага краю, і тут-жа веру ў гэтае вызваленьне абгрунтоўвае спасылкамі на мінулае.

„Ці-ж мы, хлопцы, рук ня маем?
Ці-ж нам сілы бог ня даў?
Ці-ж над родным нашым краем
Промень волі ня блішчаў“.

Колас на дадзеным этапе сваёй творчасьці (1905—7 г.) у аснаўным не адрывае нацыянальнага вызваленьня ад сацыяльнага. Магчымасьць нацыянальнага вызваленьня краіны зьвязваецца Коласам з

вызваленьнем ад беднасьці, цемры, сацыяльнай прыгнечанасьці, у якой знаходзіўся беларускі мужык.

„Не бядуй, што сьнег халодны,
Скрые землю ад вачэй;
Не загіне край твой родны
У тэй цемені начэй!
Будзе час, і сьнег растане,
Прыдзе зноў да нас—вясна,
Ціха з неба сонца гляне,
Ачуняе старана.
Не бядуй, што цяжка стала
Жыць у вечнай цемнаце,
Што нас вечна доля гнала,
Што жывем у беднаце".

Але тут-жа неабходна зазначыць, што нават у гэтыя часы ў творах Коласа мы знаходзім моманты адрыву нацыянальнага вызваленьня ад клясавага, неразуменьне Коласам клясавасьці нацыянальнага пытаньня. У паасобных творах, як напр., «Беларусам», мы знаходзім, што нацыянальнае вызваленьне падаецца як справа надклясавага характару. Аўтар зьвяртаецца наогул да беларусоў, і заклікае паўстаць за вольнасьць сваёй краіны агульнымі сіламі, адзіным нацыянальным фронтам.

„Ўстаньце, хлопцы, ўстаньце браткі!
Ўстань, ты наша старана!
Ўжо глядзіць к нам на палеткі
Жыцьця новага вясна".

У дадзеным выпадку Колас не разумее таго, што сялянства, ад імя якога ён выступае, асноўных сваіх нацыянальна-вызваленчых патрабаваньняў змагло-б дабіцца, вядучы рашучую барацьбу супроць самаўладзтва і памешчыкаў, толькі ў саюзе з пралетарыятам, толькі пад яго непасрэдным кіраўніцтвам, толькі пры яго гегемоніі, а не ў саюзе з беларускай буржуазіяй, не ў змаганьні адзіным нацыянальным фронтам супроць самаўладзтва. Пралетарыят і яго партыя, як адзіна пасьлядоўны барацьбіт за справу сацыяльнага і нацыянальнага вызваленьня працоўных, змагаючыся супроць усялякага прыгнёту, у тым ліку і нацыянальнага, усямерна падтрымліваў масавы нацыянальна-вызваленчы рух, накіраваны «на ослабление, на свержение империализма, а не на его укрепление» (Сталін). Партыя разам з гэтым рашуча змагалася з буржуазнымі, па сутнасьці справы, тэорыямі аб адзіным бесклясавым народзе, аб надклясавасьці нацыянальнай справы, заўсёды разглядаючы нацыянальнае пытаньне як частку агульнага пытаньня аб пралетарскай рэвалюцыі, а канкрэтна гаворачы пра той пэрыяд, г. зн., дакастрычніцкі пэрыяд, «национальный вопрос рассматривался как часть общего вопроса о буржуазно-демократической революции, т. е. как вопрос о диктатуре пролетариата и крестьянства» (Сталін). Партыя рашуча змагалася з непасьлядоўнасьцю, абмежаванасьцю сялянскай дэмакратыі ў барацьбе як за сацыяльнае, так і нацыянальнае вызваленьне.

З вышэй пададзенага відаць, што ў Коласа, у сілу абмежаванасьці сьветапогляду дробна-буржуазнага рэвалюцыянэра, наглядающца моманты адрыву нацыянальнага пытаньня ад клясавага, ідэалізацыі мінулага і г. д., але ня гэтае характэрна ў творах Коласа, прысьвечаных разьвязаньню нацыянальнай праблемы. У той час, як беларуская буржуазія, баючыся пралетарскай рэвалюцыі, шляхам згоды з самаўладзтвам думала вырашыць нацыянальнае пытаньне, Колас, як і асноўныя масы сялянства, стаяў за вырашэньне гэтага пытаньня шляхам рэвалюцыі.

„Дымам пойдзе ўсё ліхое,
Усё, што душыць нас і гне.
Вер, брат,—жыцьцё залатое
Будзе ў нашай старане".

Такім чынам, і пры вырашэньні нацыянальнага пытаньня Колас стаіць на рэвалюцыйна-дэмакратычных пазыцыях.

Такі ў агульных рысах асноўны, дамінантны напрамак Коласавай творчасьці першага пэрыяду, але гэтым яна ня вычэрпваецца.

Побач з творамі, у якіх аўтар з усёю сілаю свайго мастацкага таленту ўскрывае клясавыя карэньні нядолі беларускага мужыка і заклікае сялянства на рашучую барацьбу супроць самаўладзтва і памешчыкаў, за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне—ёсьць вершы, у якіх Колас у мінорна-сантымэнтальных танох, пасыўна-абстыктывісцкі, без ускрыцьця клясавых прычын канстатуе цяжкое бязвыходнае становішча сялянства, прыдушанага падвойным прэсам сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, аплаквае яго нядолю:

„Наша жыцьце невясёла...
Ноч і цьма на нас ляглі.
Нашы хаты, вёскі, сёлы
Сівым мохам абрасьлі.
Нашы сьлёзы няшчысьлёны,
З нас крывавы льлецца пот...
Люд забіты, люд хрышчоны,
Абяздолены народ!..

Побач з вершамі, у якіх Колас выступае як змагар за народную рэвалюцыю, поўны веры і надзеі ў яе перамогу, ёсьць творы, у якіх што раз, то часьцей і мацней гучаць ноты безнадзейнасьці і пэсымізму, няверы ў рэволюцыю, беспэрспэктыўнасьці, згубленасьці.

„Ня відно мае дарогі—
Горы, лес, балоты, гразь...
Колькі смутку і трывогі
Ў гэты цяжкі, цёмны час.
Дзе-ж дарога ты другая?
Я стаю, адзін, адзін.
Ноч вакол ляжыць глухая,
Ці-ж то сьвет сышоўся ў клін".

Побач з творамі, у якіх жорсткая клясавая барацьба з панствам і царызмам лічацца як адзіны сродак, адзіны шлях вызваленьня ад нядолі беларускага мужыка,—ёсьць творы, у якіх гарэлка аўтарам раіцца як сродак, што палягчае пакуты і гора селяніна.

„Эх, наперла ліха Грышку,
Рук няма за што заняць,
Хіба вып'ем па кілішку,
Лягчэй будзе гараваць".

Побач з творамі, у якіх аўтарам з надзвычайнаю сілаю мастацкасьці зрываюцца маскі з паноў «дабрадзеяў», з клясавых ворагаў селяніна, ёсьць творы, у якіх канкрэтныя эксплёататары мужыка падмяняюцца абстрактным, фаталістычным паняцьцем долі.

„Тут мужык працуе,
Чорны ўвесь як сажа.
Крыж на перасеках
Аб пакуце кажа...
... Ой, дарога—сьцежка,
Вузкая, крывая!
І ты, жыцьце наша,
Ты, доля, такая!

Творы вышэйпералічанага характару, у якіх назіраюцца паасобныя ноткі няверы ў рэвалюцыю, ноткі расчараванасьці ў рэвалюцыйных сродках змаганьня, губляньне перспэктывы, пасаваньне перад цяжкасьцямі, пасыўнае аплакваньне нядолі селяніна—уваходзяць толькі як паасобныя моманты, паасобныя элемэнты ў агульную, актыўнадзейную рэвалюцыйную творчасьць Коласа першага пэрыяду. Гэтая непасьлядоўнасьць, якая выяўляецца ў творчасьці Коласа, адлюстроўвае сабою непасьлядоўнасьць хістаньні сялянства ў рэвалюцыйнай барацьбе, «такие колебания—кажа Ленін,—неизбежны, вследствие самой сущности экономического положения мелкого производства».

Колас ня змог падняцца вышэй дробна-буржуазнага пункту гледжаньня на рэвалюцыю, не зразумеў характару і рухаючых сіл яе, не ўсьвядоміў пралетарыяту як гегемона рэвалюцыі, не ўсьвядоміў кіруючай ролі бальшавіцкай партыі ў справе вызваленьня працоўных мас ад сацыяльнага і нацыянальнага ўціску. Усё гэта гаворыць за тое, што рэвалюцыйнасьць Коласа як прадстаўніка рэвалюцыйнай сялянскай дэмакратыі, як і рэвалюцыйнасьць асноўных мас сялянства, па сваёй сутнасьці—дробна-буржуазная, з усімі уласьцівымі апошняй абмежаванасьцямі і непасьлядоўнасьцямі.

Канчаючы разгляд творчасьці Коласа першага пэрыяду, неабходна падкрэсьліць яшчэ раз наступнае: Колас у сваёй творчасьці выступае перад намі, як прадстаўнік рэвалюцыйнага сялянства, як змагар за народную рэвалюцыю, за справу вызваленьня асноўных мас сялянства ад сацыяльнага і нацыянальнага ўціску. Творчасьць Коласа гэтага пэрыяду непарыўна зьвязана з дэмакратычнымі, рэвалюцыйнымі элемэнтамі масавага буржуазна-дэмакратычнага, нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі. У ёй знайшлі сваё яскравае і высока-мастацкае выяўленьне клясавыя імкненьні і ідэалы мільёнавых мас беларускага сялянства, прыдушанага фэадальна-памешчыцкай царскай Расіяй.

Пераходзячы да разгляду другога этапу ў творчым разьвіцьці Якуба Коласа, мы маем на мэце выявіць характэрныя асаблівасьці клясавай існасьці Коласавай творчасьці гэтага пэрыяду, акрэсьлена вызначыць яе сацыяльную функцыю і дакладна паказаць, што якасна новага мы наглядаем у творчасьці Коласа дадзенага этапу ў параўнаньні з папярэднім, першым этапам яе разьвіцьця.

1905 год, «год змаганьня, «шалёны год», канчаткова палажыў у труну патрыярхальную Расію», ён яскрава паказаў, «што капіталізм беспаваротна падарваў усе асновы старога аграрнага ладу» (Ленін), што капіталістычныя адносіны і супярэчнасьці, уласьцівыя буржуазнаму грамадзтву, глыбока прасяклі народна-гаспадарчы арганізм тагачаснай Расійскай імпэрыі. Рэвалюцыя 1905 году з усею пукатасьцю выявіла ўсю моц насьпеўшых супярэчнасьцяй паміж рэшткамі фэўдалізму і шырока разьвітымі буржуазнымі адносінамі, яна з усёю глыбінёй агаліла і выявіла супярэчнасьці паміж рознымі клясамі, бліскуча даказала правільнасьць бальшавіцкай тактыкі ў рэвалюцыі, цалкам сьцьвердзіла бальшавіцкую ацэнку характару і рушальных сіл рэвалюцыі 1905 году, яна ўзбагаціла пралетарыят і працоўныя масы сялянства вялізарным рэвалюцыйным вопытам клясавага змаганьня.

Але рэвалюцыя не перамагла, аб'ектыўныя задачы буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі засталіся нявырашанымі. Асноўныя клясавыя супярэчнасьці, якія выклікалі рэвалюцыю 1905 г., у пасьлярэвалюцыйную эпоху ня толькі ня былі зьняты, а яшчэ больш абвастрыліся, яшчэ больш узмацніліся.

Бальшавіцкая сьнежаньская канфэрэнцыя 1908 г., якая дала яскравую ацэнку тагачаснага палітычнага становішча ахарактарызавала расстаноўку клясавых сіл у той пэрыод і вызначыла задачы нашае партыі—у сваёй рэзалюцыі выразна зазначыла: «У агульным і цэлым бясспрэчна, што аб'ектыўныя задачы буржуазна-дэмократычнай рэвалюцыі ў Расіі застаюцца нявырашанымі. Эканамічны крызіс, што працягваецца і цяпер, беспрацоўе і галадоўка паказваюць, што навейшая палітыка самаўладзтва ня можа забясьпечыць умоў капіталістычнага разьвіцьця Расіі. Гэта палітыка няўхільна вядзе да паглыбленьня палітычнага змаганьня розных кляс. Асноўныя фактары эканамічнага і палітычнага жыцьця, што выклікалі рэвалюцыю 1905 г., працягваюць дзейнічаць, новы рэвалюцыйны крызіс насьпявае пры такім эканамічным і палітычным становішчы няўхільна».

Вышэйзгаданая ацэнка агульна-палітычнага становішча ў Расіі, дадзеная сьнежаньскай канфэрэнцыяй бальшавіцкай партыі, бясспрэчна, без усялякага сумненьня характэрызуе тагачаснае палітычнае становішча і ў нас на Беларусі.

Сацыяльны і нацыянальны ўціск, бяспраўнае становішча беларускага селяніна, шляхі і сродкі змаганьня асноўных мас сялянства за сваё вызваленьне—было асноўнай цэнтральнай тэмай творчасьці Коласа першага пэрыяду. Гэтыя пытаньні ставяцца і вырашаюцца Ко-

ласам і на другім этапе яго творчасьці, які галоўным чынам прыпадае на эпоху рэакцыі.

Выступаючы на першым этапе сваёй творчасьці як змагар за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне беларускіх народных мас, Колас рашуча змагаўся ў сваіх творах супроць абшарнікаў «за зьнішчэньне абшарніцкага земляўладаньня і непарыўна зьвязанай з ім памешчыцкай манархіі». У сваіх творах у пачатку другога пэрыяду творчасьці Колас таксама выступае супроць царызму, супроць тагачаснага дзяржаўнага ладу, які не ўдалося зьмесьці рэвалюцыі і які, атрымаўшы часовую перамогу, пайшоў у наступленьне на рэвалюцыйных рабочых і сялян.

Ой, стары парадак,
Як ты назаляеш!
Тузаеш ты, ломіш,
Скуры з нас зьдзіраеш.
Зьдзекуешся з нас ты.
Гнеш ты нас бясконца,
З-за цябе ня бачым
Ні дабра ні сонца.

Колас у пачатку другога пэрыяду ў сваіх творах востра выкрывае псэўда-канстытуцыйныя формы, якімі прыкрываўся абсалютызм. Дзяржаўная дума—гэты орган прадстаўніцтва чорнасоценнага дваранства і буйнай буржуазіі—абсьмейваецца Коласам, а камэдыя выбарнай кампаніі кваліфікуецца як адчынены зьдзек над народам. У творах вышэйзгаданага зьместу Колас паўстае перад намі, як рэвалюцыянэр—дэмакрат, які не паддаўся, не ахоплены, а змагаецца супраць тых канстытуцыйных ілюзій, якімі так шчодра імкнуліся засьмечваць сьвядомасьць працоўных розныя згоднiцкія, здрадніцкія партыі, розныя прыслужнікі пануючых кляс, каб гэтым самым адцягнуць увагу рэвалюцыйных рабочых і дэмакратычных мас сялянства ад рэвалюцыйнае барацьбы супроць тагачаснага сацыяльнага ладу.

У яго творах, напісаных у пачатку другога пэрыяду, адчуваецца хоць і слабая вера ў новы ўздым рэвалюцыйнага руху:

„Што-ж? Няхай віхры
Надрываюцца,
Няхай ворагі
Насьміхаюцца.
Хоць на дзераве
Зжоўкла ўся ліства,—
Вясна вернецца,
Адрасьце трава.

Колас заклікае сваіх сяброў выгнаньнікаў быць цьвёрдымі да канца, не баяцца цёмных сіл рэакцыі:

Гэй выгнаньнікі,
Сябры любыя,
Да канца, браты,
Будзьма цьвёрдымі.

У часовым паражэньні рэвалюцыі дробна-буржуазная інтэлігенцыя ўбачыла ліквідацыю, канец рэвалюцыі, за якой пойдуць бясконца доўгія цёмныя ночы рэакцыі.

„Дні праходзяць, бягуць,
Карацеюць яны.
З кожным днём далей мы
Ад жыцьця, ад вясны"—

кажа Колас у сваім творы «На пераломе».

Ідэалы і імкненьні, якія павінна была зьдзейсьніць і ажыцьцявіць рэвалюцыя, разьбіты, сучаснае душыць сваёю цемнатою і цяжкасьцю, з кожным днём слабее вера і тухнуць надзеі на прыход новае вясны, сьветлае будучыні.

„Што мы гора збыць ня ў сілах,
Крыўды не зваюем,
Што быць можа да магілы
Долі не пачуем".

Дробна-буржуазная інтэлігенцыя, уцягваючыся ў рэвалюцыйную барацьбу ў перыяд уздыму рэвалюцыі, прыціснутая, прыдушаная рэакцыяй, пачынае сёньня выракацца таго, за што ўчора змагалася. Здрадніцтва, выраканьне рэвалюцыі,—вось што характэрна ў гэты час для многіх дробна-буржуазных беларускіх інтэлігентаў. У гэты час Колас не аднойчы зьвяртаецца з дакорам да сваіх сяброў, якія разам з ім «жылі думкамі і надзеямі сьмела ў бой ісьці з ліхадзеямі» і якія зараз, пасьля паражэньня рэвалюцыі, калі:

Ды завыў, загуў
Вецер з поўначы,
Дзьмухнуў холадам
І пагрозаю.
Распаўзьліся вы,
Пахаваліся
І ад думак сваіх
Адцураліся".

Але рэнегацтву і прадажніцтву гэтае інтэлігенцыі Колас ня можа супрацьпаставіць нічога сапраўды рэвалюцыйнага, ён зьвяртаецца да гэтых маладушных ныцікаў і рэнегатаў з просьбаю ня тушыць «агонь сьвяты» свайго сэрца, а асьвятляць ім «Родны край, куты...»

Настроямі безнадзейнасьці («што мы гора збыць ня ў сілах»), разгубленасьці («я іду—дыбаю, а куды? Ня ведаю?»), пэсымізмам («як дым, жыцьцё ты чалавеча: дыхнуў віхор—і згінуў сьлед»), скаргай на адзіноцтва («ты адзін, адзін, адзін») і бездапаможнасьць («хоць-бы голас дзе ўспагадны, хоць-бы гук адзіны»)—прасякнуты многія творы («На пераломе», «На крыжавых дарогах», «Бездарож», «У дарозе», «Забытая магіла», «Раздум'е», «Ня дай, божа, сэрцам зьнікнуць» і г. д.), на разглядзе якіх я спынюся ніжэй. Тым часам неабходна падкрэсьліць наступнае: ня змогшы ўзьняцца вышэй дробна-буржуазнага пункту гледжаньня на характар і рушальныя сілы

рэвалюцыі, не ўсьвядоміўшы гістарычнай ролі пралетарыяту ў змаганьні працоўных за сваё вызваленьне, падпаўшы пад уплыў нацыяналістычнай ідэалёгіі нашаніўцаў, Колас выступае ў эпоху рэакцыі з творамі прасякнутымі ўпадніцтвам, містыкай і буржуазным нацыяналізмам.

На гэтым, другім этапе сваёй творчасьці Колас часта пачынае зьніжацца да пасыўнага канстатаваньня, пасыўна-аб'ектывісцкіх замалёвак бяспраўнага становішча селяніна, да пасыўнага аплакваньня яго нядолі:

„Я ішоў з боку, і здушылі
Горла мне залозы.
Ў поле вышаў—паліліся
З вачэй самі сьлёзы".

Нават больш таго, у цэлым шэрату твораў («Дарога», «Наша сяло». «Вёска» і інш.) аўтар падае становішча селяніна адцягнута, не ў складаным пераплёце клясавага змаганьня, а без клясавай ацэнкі і высноў да дзейнасьці.

Замест канкрэтнага паказу ў сваіх творах шляхоў і сродкаў выйсьця для селяніна са становішча сацыяльнага прыгнёту і нацыянальнай няволі, замест закліку селяніна на актыўнае змаганьне за сваё вызваленьне, мы маем творы, у якіх Колас адварочваецца ад тагачаснай сацыяльнай рэчаіснасьці, замыкаецца ў сваё «я», уцякае ў прыроду, сярод якой спадзяецца «хоць на міг» забыць «гэтай фальшы нудны шолам»,—

„Гэй туды, дзе неба з долам
Абняліся як браты,—
Хоць на міг забудзеш ты
Гэтай фальшы нудны шолам"—

і ў якіх ён расьпісваецца ў сваёй бездапаможнасьці хоць чым-небудзь дапамагчы так шчыра аплаканаму ім селяніну, якога ён учора заклікаў на рэвалюцыю:

„Чым-жа пацешыць вас, людзі пакутныя?
Як разагнаці вам думкі ўсе смутныя?
Гора-ж ня сьціхне ад слоў".

Селянін у творах Коласа часоў рэакцыі падаецца як пасыўны, пакорлівы, які, поўны глыбокага суму, аплаквае сваю нядолю, сваё гаротнае становішча.—Плачам патрэбна заявіць сьвету аб пакутах мужыка і краіны наогул,—кажа аўтар у сваіх творах:

„Няхай плачам у тэй далі
Песьня разальлецца.
Каб усе на сьвеце зналі,
Як нам тут жывецца".

Прычыны нядолі селяніна Колас пачынае шукаць ня ў клясавай структуры дзяржаўнага ладу, не ў эксплёатацыі селяніна, а гэтыя прычыны жабрацтва і беднасьці пераносяцца ім на прыродныя ўмовы, на ўсемагутны няўхільны лёс, нешчасьлівую долю і г. д.

„Знаць ужо спрадвеку
Доля нам такая:
Ліха знойдзе ўсюды,
Шчасьця-ж уцякае".

Канкрэтныя вінавайцы эксплёатацыі і прыгнечанасьці беларускага працоўнага селяніна падмяняюцца адцягненым паняцьцем «долі», «лёсу», якія ў разуменьні Коласа набываюць глыбока-містычны сэнс.

Містычныя, невядомыя, усемагутныя і няўхільныя сілы кіруюць сьветам і штукуюць жыцьцём безабароннага чалавека. На сьвеце няма нічога сталага і пэўнага, усё залежыць ад фатальнае сілы лёсу:

„Тчом мы павуцінку
Радасьці і шчасьця,
А павее вецер
Холадам нянасьця,
Ї парвуцца ткані,
Разьляцяцца прахам,
Ї прад невядомым
Зноў стаіш са страхам".

Жыцьцё чалавека параўноўваецца з дымам («Як дым жыцьцё ты чалавеча») або з сьнегам у адлігу, які прападзе, не пакідаючы пасьля сябе нават і сьледу:

„Ї ты, чалавеча, як сьнег у адлігу:
Упаў і сканаў і няма.
З трывогай глядзіш ты ў адвечную кнігу,
Ї душу агортвае цьма".

Такімі ідэямі містыкі, упадніцтва, фаталізму і глыбокім пэсымізмам прасякнуты многія творы («Дні ідуць за днямі», «Мара», «Раздум'е» «Забытая магіла», «Пахаваньне», «Ня дай божа сэрцам зьнікнуць» і цэлы шэраг іншых) Коласа эпохі рэакцыі.

Калі на першым этапе адзіна рэальным сродкам выйсьця са становішча сацыяльнага ўціску і нацыянальнай няволі для селяніна Колас лічыў рэвалюцыйную барацьбу супроць царызму і эксплёататара—пана, дык у такіх творах другога парыядку, як «Агляд зямлі» і ў пасобных разьдзелах напісанных у гэты час «Новай Зямлі», выйсьце для селяніна з жабрацкага становішча Колас намячае ў зусім іншым, працілеглым вышэйзгаданаму кірунку. Гэтае выйсьце для селяніна намячаецца Коласам у кірунку набыцьця ўласнасьці:

„Купіць зямлі, прыдбаць свой кут,
Каб з панскіх выпутацца пут,
Ї там зажыць сабе нанова,
Свая зямля—вось, што аснова".

Набыць уласнасьць, прыкупіць зямлі, пабудаваць моцную гаспадарку капіталістычнага тыпу—вось што зьяўляецца грунтам, матар'яльнай асновай для таго, каб пазбавіцца селяніну ад усялякае эксплёатацыі і зажыць сабе панам, гаворыць Колас у сваіх творах:

„Зямлю купіўшы, не валяўся-б
Ды як-бы жыў яшчэ. Ня знаўся-б
Ні з панскай ласкай, ні з панамі,
Жылі-б сабе гаспадарамі".

Набыцьцё ўласнасьці, «дабіцца, разжыцца зямлі» мысьліцца Коласам на гэты раз не шляхам рэвалюцыйнага разгрому памешчыцкай гаспадаркі, а шляхам мірнае, напружнае працы і павольнага паступовага накапленьня грошай:

„Сьцісла, мяркоўна жыў Янка Жыгала
І грошы патрошкі зьбіраў.
Даўно яму думка у сэрца запала
І думцы ён гэтай даўно патураў.
А думаў Жыгала аб тым, каб зямелькі,
Ну, хоць дзе шматочак купіць.
Бо дома бядота і сьціск паўстаў велькі,
І не з чаго стала тут жыць".

Колас у дадзеным выпадку, намячаючы выхад для селяніна ў кірунку набыцьця ўласнасьці і абсталяваньня моцнай капіталістычнай гаспадаркі, пры вырашэньні аграрнага пытаньня сыходзіць з рэвалюцыйна-дэмакратычных пазыцый на рэфармісцкія.

Сталыпінская аграрная палітыка давала магчымасьць толькі нязначнай частцы заможнага сялянства, «нязначнай меншасьці заможных мужыкоў» (Ленін) выбіцца ў людзі, асноўныя-ж масы сялянства тагачаснай палітыкай самаўладзтва асуджаліся на доўгія гады пакутлівага выміраньня. «Сталыпінская рэформа,—кажа Ленін,—ня можа зьнішчыць ні кабалы і адпрацовак масы сялян, ні іх галадовак. Патрэбны дзесяцігодзьдзі і дзесяцігодзьдзі такіх-жа перыядычных галадовак, каб пакутна вымерла маса цяперашніх гаспадарак для «посьпеху» сталыпінскай рэформы, г. зн. для стварэньня ўсталяванага буржуазнага ладу агульна-эўрапейскага тыпу ў нашай вёсцы».

Значыць не ў набыцьці ўласнасьці шляхам павольнага накапленьня капіталу, як гэта паказана Коласам у «Новай Зямлі», не ў абсталяваньні моцнай капіталістычнай гаспадаркі, не ў прыстасаваньні да трэцьцячэрвеньскага рэжыму было рэальнае выйсьце для асноўных мас сялянства, а ў рашучай, у саюзе з пралетарыятам і пад ягоным непасрэдным кіраўніцтвам, у рэвалюцыйнай барацьбе, мэтай якой, як зазначае рэзалюцыя сьнежаньскай бальшавіцкай канфэрэнцыі 1908 г., «зьяўляецца па-ранейшаму зьвяржэньне царызму, у заваёве палітычнай улады пралетарыятам, што апіраецца на рэвалюцыйныя пласты сялянства, што робіць буржуазна-дэмакратычны пераварот шляхам склікаеньня ўсенароднага ўстаноўчага сходу і стварэньня дэмакратычнай рэспублікі».

У творах Коласа гэтага пэрыяду мы бачым ідэалізацыю моцнай капіталістычнай гаспадаркі, ідэалізацыю уласнасьці наогул. Усё уласнае агортваецца хварэвітай любасьцю, да яго аутар ставіцца з асаблівай замілаванасьцю:

„Я люблю сваё гуменца,
Крытае саломай,
З гэтай стрэшкай пасівелай
Так даўно знаёмай.
Добра мне тут, мне тут міла,
Родна ўсё і блізка.
Тут хлябок мой, мая хата
І мая калыска“.

Родны кут, родная хатка, уласная зямелька і жывёла—усё гэта «мілае», «добрае» толькі таму, што ўласнае. Селянін паказваецца ў творах пісьменьніка нагэтулькі прывязаным да сваёй уласнасьці, да «роднай» гаспадаркі, што ніякая сіла ў сьвеце ня мае моцы адарваць яго ад роднага загону, любых «разорак», на якіх ён гатоў «згінуць» і якія ён ніколі ня кіне:

“Ды няхай сьвет хоць трасецца,—
Я тут вырас, тут і згіну
А разорак тых ня кіну,
Дзе мой смутак жаль снуецца,
Дзе мне шчасьце не даецца“.

Коласам ідэалізуецца праца на сваёй уласнай гаспадарцы, у яго творах прыфарбоўваецца цяжкасьць гэтае працы, разбуранасьць тае ці іншае сялянскае гаспадаркі тлумачыцца негаспадарнасьцю самога селяніна.

У творчасьці Коласа гэтага пэрыяду, асабліва ў разьдзелах, напісаных пад гэты час, «Новай Зямлі», выпукляецца на першы плян працавітасьць селяніна, рупліваcьць, замілаваньне да гаспадаркі і ўмеласьць яе арганізаваць, як асноўныя прычыны сялянскага багацьця і дабрабыту.

Ідэалізуючы моцную кулацкую гаспадарку і ўласнасьць наогул, падкрэсьліваючы, выпукляючы працавітасьць, стараннасьць, гаспадарлівасьць, як аснову дабрабыту і багацьця селяніна, Колас у дадзеным выпадку зьніжаецца да выяўленьня праз сваю творчасьць рэакцыйных уласьніцкіх інтарэсаў і інстынктаў «лятункаў гаспадарыка».

«У селяніна,—вучыў Ленін,—ёсьць рэвалюцыйныя здольнасьці чалавека эксплёатуемага і рабочая кляса падтрымлівае гэтых дробных гаспадароў у іх змаганьні з памешчыкамі і самаўладзтвам дзеля рэвалюцыйнага буржуазна-дэмакратычнага характару гэтага змаганьня». Але ў гэтага-ж самага селяніна «ёсьць і рэакцыйныя лятункі гаспадарыка», таму не патураць мы павінны ўласьніцкім, альбо гаспадарскім інстынктам гэтай клясы, а наадварот зараз-жа пачынаць змаганьне з гэтымі

інстынктамі, растлумачваючы іх значэньне пралетарыяту, перасьцерагаючы пралетарыят і арганізуючы яго ў самастойную партыю».

Колас-жа ў сваіх творах пасьля рэвалюцыі 1905 г. выказвае, паддаквае, апявае ўласьніцкія інстынкты, рэакцыйныя жаданьні і імкненьні гаспадарыкаў.

Хістаньні пісьменьніка ў бок сталыпіншчыны, сыходжаньне пры вырашэньні аграрнага пытаньня з рэвалюцыйна-дэмакратычных пазыцый на рэфармісцкія і выяўленьне рэакцыйных інстынктаў і «лятункаў» сельскага багацея—рэальны вынік уплыву на творчасьць Коласа нацыянал-лібэралісцкай ідэалёгіі нашаніўства. Колас у сваёй творчасьці першага пэрыяду, як намі зазначалася раней, выступае як змагар за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне шырокіх мас працоўнага беларускага сялянства. На гэтым этапе сваёй творчасьці Колас, як правіла, у асноўным не адрывае сацыяльнага пытаньня ад нацыянальнага. Нацыянальнае вызваленьне разглядаецца пісьменьнікам у непасрэднай сувязі з клясавай барацьбой, барацьбой селяніна супроць царызму і абшарніцтва за сваё сацыяльнае вызваленьне. Няма тое мы бачым у творах Коласа эпохі рэакцыі.

Нацыянальнае пытаньне ў паасобных творах Коласа гэтага пэрыяду часта выпукляецца як асобная, галоўная, самастойная праблема, не зьвязаная з праблемай клясавае барацьбы дэмакратычных мас сялянства за сваё вызваленьне.

> «Пэрыяд контррэвалюцыі ў Расіі—кажа Сталін,—прынёс ня толькі «гром і маланку», але і расчараваньне ў руху, няверу ў агульныя сілы. Верылі ў «сьветлую будучыню», людзі змагаліся разам, незалежна ад нацыянальнасьцяй, агульныя пытаньні перш за ўсё. Закралася ў душу сумненьне і людзі пачалі разыходзіцца па нацыянальных кватэрах: няхай кожны разьлічвае толькі на сябе. Нацыянальная праблема перш за ўсё».

Адраджэньне роднае краіны ставіцца, як галоўная, асноўная тэма многіх твораў Коласа, прысьвечаных разьвязаньню нацыянальнага пытаньня.

«Родны» край, «родная» старонка прадстаўлены ў творчасьці Коласа гэтага пэрыяду, як і на першым этапе, у змрочных, сумных колерах. Беларусь—краіна,—кажа Колас у сваіх творах,—бедная, закінутая між балот і пяскоў, беспрасьветна цёмная, краіна пакуты і сьлёз.

„Вісьне скарга ўздоўж Нёмна,
Беларусі сына
Як ты бедна, як ты цёмна,
Родная краіна.
...Усё ў табе, мой родны краю,
Апавіта горам:
І той вецер, што дзьме з гаю,
Што шуміць над борам".

У гэтыя часы ў творах Коласа часта Беларусь, родная краіна падаецца ў адцягненых сымбалічных вобразах, у якіх тагачасная сацыяльная рэчаіснасьць прадстаўлена ў містыфікаваным, скажонным да непазнаваемасьці, выглядзе, асабліва гэта яскрава праяўляецца ў творах, сабраных у зборніку пад назвай «Казкі жыцьця».

У той час, калі ў творах аўтара эпохі рэвалюцыі 1905 г. рэвалюцыйная барацьба асноўных мас сялянства супраць самаўладзтва і памешчыкаў лічылася асноўным сродкам вызваленьня краіны з нацыянальнай няволі, то на другім этапе гэтым сродкам вызваленьня краіны з нацыянальнае няволі лічыцца культурна-нацыянальная праца. Цёмная, бедная краіна, дзе жыве абяздолены беларускі народ, прыдзе да новага сьветлага жыцьця цераз асьвету, цераз навуку. Праўда, Колас спыняецца і падкрэсьлівае, што ўмовы для распаўсюджваньня асьветы ў нас, у тагачаснай Беларусі цяжкія, часта пісар, поп, стражнік стаяць як тормаз на дарозе распаўсюджваньня народнай асьветы, але, не гледзячы на гэта, цераз школку няпрыкметна, павольна прыдзе «шчасьце-воля»,—кажа аўтар у сваім творы «Школьная работніца».

„Цёмна ў вёсцы, беспрасьветна
Цяжка, цяжка школе,
*Ды праз школу няпрыметна*
*Прыдзе шчасьце—воля.*
Не загінуць край і людзі,
Пасынкі народу,
Калі ў краі гэтым будзе
Зьзяць прамень свабоды".

Беларусь у цэлым, як нацыя, будзе пакутаваць, па думцы пісьменьніка, да тых пор, пакуль людзі сабе «не разьвяжуць», «не расчыняць вочы»:

„І снуецца цень пакуты
І снавацца будзе,
Покі вочы не разьвяжуць,
Не расчыняць людзі".

Паколькі асьвета бярэцца як галоўны сродак нацыянальнага вызваленьня, роднае краіны, інтэлігенцыі надаецца асаблівая роля ў справе культурна-нацыянальнага адраджэньня. Інтэлігенцыя ў творах Коласа ахутваецца нейкай мэсыянскай роляй, яна зьяўляецца правадыром народу ў сьветлую будучыню, яна зьяўляецца носьбітам і хавальнікам нацыянальнае сьвядомасьці, нацыянальнае культуры. Аўтар у сваіх творах неаднакраць зьвяртаецца да беларускай інтэлігенцыі з заклікам несьці народу асьвету, шляхам асьветы вызваліць народ з-пад няволі:

„Эх, і бедна-ж у нас!
Ох, вялікая глуш!
Брат, працуй, не чакай,
Цьму людзкую ты зруш.
Раскатурхай народ,
Сьвет яму разьвяжы
І за долю яго
Працу ўсю прылажы".

І калі раней, на першым этапе сваёй творчасьці, прычыны нядолі беларускага народу Колас бачыў у структуры дзяржаўнага ладу, у клясавай прыгнечанасьці і эксплёатацыі селяніна, дык у паасобных творах другога пэрыяду прычыны «нядолі» беларускага народу пісьменьнік схілен шукаць у недастатковасьці асьветы, у тым, што беларускі народ да гэтага часу не падняўся да разуменьня «думак верных сыноў» сваёй бацькаўшчыны. Беларуская інтэлігенцыя ў такіх творах як «Крыніца» і інш. паказваецца пісьменьнікам, як асноўная сіла, якая здольна адрадзіць нацыянальна-прыгнечаны край і вывесьці беларускі народ на сьветлую дарогу жыцьця. «Але крынічка (беларуская інтэлігенцыя—В. Б.) была такая сукромная, такая сарамяжлівая, што нават не зварочвала ўвагі на сябе самую і ніколькі не пагарджалася сабой. Цякла і цякла, куды нясла яе нязнаная сіла; яшчэ нават старалася ня думаць пра тое, якую важную ролю аб'ядананьня жыцьця выпаўняла яна». Аўтар неаднакраць у сваіх творах («Хмарка», «Крыніца», «Даль» і інш) распрацоўвае тэму аб «рэнегацтве», «здрадніцтве» беларускіх інтэлігентаў, якія адракаюцца ад усяго роднага, пакідаюць сваю бацькаўшчыну на заняпад і гібеньне, ды ідуць шукаць шчасьця ў «чужых» і «далёкіх краёх».

Так, напрыклад, у творы «Крыніца» крынічка пакідае сваю маці-гару і рвецца ў іншыя далёкія краіны шукаць шчасьця. Шчасьлівая і радасная хмарка ў творы «Хмарка» пакідае родныя загоны і блукаецца па «чужых, халодных» краінах; тое-ж мы маем і ў творы «Даль» і ў цэлым шэрагу іншых.

Колас у гэтых творах становіцца ў позу маралістага і навучае беларускую інтэлігенцыю, як патрэбна шанаваць і любіць сваю маці— Беларусь, якая ўсё лепшае аддае на выхаваньне сваіх «верных сыноў». Аўтар паказвае ў сваіх творах глыбокі сум роднай краіны, пакінутай сваімі нацыянальна несьвядомымі дзяцьмі. «Адзінокае дрэва», «яно часта нудзілася тут адно. Яму хацелася пабачыць сваіх дзетак, пагутарыць са сваімі роднымі, затым выглядала яно такім задумёнfamым і смутным». Хмарка, пакідаючы родную краіну, ня бачыла таго, што ...«сумна рабілася ўсюды, і нейкая крыўда і жаласьць бруілася над усім, што пакідала Хмарка». Глыбока засмуцілася старая гара-маці, згубіўшы сваю ўлюбёную дачушку-крынічку. «Засмуцілася старая гара, пацямнелі яе прыгожыя пакаты, бо вечар павольна апускаўся на зямлю, і за рубяжамі далёкіх пагоркаў хавалася сонца».

Беларуская інтэлігенцыя, якая адрываецца ад сваёй бацькаўшчыны,—паказвае далей пісьменьнік у сваіх творах,—ды ідзе на службу іншых нацый, церпіць зьдзек чужынцаў, зносіць пакуты, губляе свой спэцыфічны нацыянальны воблік. «Але памятай, дачушка, успомніш ты сваю старую матку, успомніш аксаміты тваіх беражкоў і залатое сваё дно і моцна-моцна пацягне цябе сюды, бо сярод чужынцаў ты згубіш свой вобраз, ты сатрэшся з твару зямлі»,—навучае сваю нацыянальна-несьвядомую дачушку-крынічку гара-маці-Беларусь з твору «Крыніца». Гэтыя-ж скаргі на ворагаў-чужынцаў, якія ўціс-

каюць усё беларускае, чуюцца і ў творы «Хмарка» на «Чужым грунце» і г. д.

У глыбока сэнтымэнтальных тонах Колас паказвае ў сваіх творах, як пад уплывам жорсткіх пакут і зьдзекаў чужынцаў фармуецца нацыянальная сьвядомасьць беларускіх інтэлігентаў, пакінуўшых сваю бацькаўшчыну, і як яны паступова падымаюцца да ўсьведамленьня сваіх нацыянальных задач і зварочваюцца для працы на родных тонях для роднага народу. «І вярнулася яна зноў у той край, адкуль і вышла. Пажоўклыя палі, сухія травы, пагарэлая збажынка гаротна віталі Хмарку: пацямнела яна, зажурылася, паапускала пасмы Хмарка і заплакала халоднымі сьлязьмі над роднымі палямі».

„—Ах, мілая матуля,—загаманілі кроплі:—мы прышлі да цябе, бо вельмі-ж смуціліся па табе ў далёкіх невядомых краёх. Мы часткі тваёй роднай крынічкі, што цякла з твайго сэрдца. Даруй-жа нам, матка, што мы не паслухалі цябе.“

Не адракацца ад сваёй бацькаўшчыны, а шчыра працаваць на карысьць сваёй нацыі,—такая задача вызначаецца пісьменьнікам перад беларускай інтэлігенцыяй у многіх яго творах, зьмешчаных у зборніку «Казкі жыцьця».

Часта ў творчасьці пісьменьніка «родны край» наогул ахутваецца хваравітай любасьцю, усё «роднае» фэтышызуецца, як нешта сьвятое для кожнага беларуса, нават усё адмоўнае, кепскае, дрэннае, калі яно роднае, беларускае, то добра. Для аўтара ўсё беларускае—любае і дарагое. Благенькія палоскі, сумны выгляд краіны і г. д.

„Я ня знаю, чым мне дораг
Від палёў благенькіх,
Нудны крык у родных горах,
Вербак рад крывеньніх“.

Усё нацыянальнае беларускае мае нейкі своеасаблівы выгляд, своеасаблівае хараство. Адзінокае дрэва ў творы тэтае-ж назвы, пад якім разумеецца Беларусь, «... апрача свае адзіноты мела нешта чыста сваё асаблівае,—тое, што прыналежала толькі яму аднаму. Нават агульны выгляд яго твару—бо і дрэва мае свой воблік—меў характар цікавай асобнасьці». Гэтую ідэалізацыю ўсяго беларускага мы назіраем і ў такіх творах, як «На чужым грунце», «Хмарка», «Крыніца» і цэлы шэраг іншых лірычных твораў.

Пісьменьнік любіць усё беларускае, роднае толькі таму, што ён беларускага краю родны сын:

„Я далёка цяпер
Ад палескіх раўнін,
А люблю-ж я той край,
Бо яго родны сын,
І па ім мае сэрдца баліць“.

У паасобных-жа творах, сабраных пад назвай «Казкі жыцьця», ідэалізуючы ўсё беларускае, аўтар няўхільна прыходзіць да высновы,

што нідзе так ня добра і ня прыгожа, як у сваёй старонцы. Крынічка,—паказвае пісьменьнік у творы «Крыніца»,—абкружана харàством і жыве ў сваім родным краі, ня ведаючы бяды, ахутаная шчырай любасьцю гары-маткі. Адзінокая хвоя толькі перад самай сьмерцю ўсьведамляе: «Эх, колькі хараства навокала! І як гэта ня бачыла яна раней усяго гэтага! Даўнейшы яе сум, яе нараканьне на сваю долю, цяпер, у яе ўласных вачох, былі так нязначны і няпраўдзівы.

Усё не беларускае ў творах Коласа, наадварот, лічыцца чужым, і ён у паасобных сваіх творах схілен усё чужое кваліфікаваць як варожае, халоднае, яно ў процілегласьць роднаму—ганьбіцца. Адрыў ад бацькаўшчыны для беларуса, па думцы Коласа, роўнаважны фізычнай і маральнай сьмерці. На чужыне, як паказвае Колас у сваім творы «На чужым грунце», беларускае ўсё ўціскаецца, зьневажаецца. «І яно цярпела,—расказвае аўтар пра каліва жыта, папаўшае на чужы грунт,—толькі сэрца ледзьве-ледзьве магло стрываць, каб не разарвацца ад жалю—так многа сабралася яго».

Тое-ж самае мы наглядаем і ў лірыцы, дзе чужына параўноўваецца з магілай:

„Толькі-ж выпаў не па сіле
Крыж табе, дзяўчына,
Уложыла спаць ў магіле
Жорсткая чужына".

Падсумоўваючы эроблены намі аналіз твораў Коласа, прысьвечаных разьвязваньню нацыянальнага пытаньня, неабходна падкрэсьліць наступнае. Нацыянальнае пытаньне пісьменьнікам часта адрываецца ад агульнага пытаньня клясавай барацьбы і разглядаецца ім як самагоднае і галоўнае пытаньне. Беларусы, як і «чужынцы», разглядаюцца наогул, як нешта цэлае і маналітнае, што ня ведае клясавай дыфэрэнцыяцыі, а адсюль вынікае, што ў некаторых творах мы маем падмену інтарэсаў паасобных кляс беларускае нацыі агульнанацыянальнымі «бясклясавымі» інтарэсамі, уласьцівымі нібыта кожнаму беларусу; беларускай справе надаецца надклясавы характар, клясавыя супярэчнасьці ўнутры нацыі зацямняюцца клясавым адзінствам, ідэалізуецца ўсё «роднае» беларускае, нацыянальнае ў процілегласьць «чужому», варожаму і шкоднаму, праводзіцца глыбокая прорва паміж «сваім» і «чужым» без клясавае адзнакі таго і другога; культурна-нацыянальная праца прызнаецца як асноўны сродак адраджэньня бацькаўшчыны. Колас у паасобных сваіх творах зьбіваецца на шлях культурніцтва, асьветніцтва ў рамках тагачаснага дзяржаўнага ладу, сыходзіць з рэвалюцыйна-дэмакратычных пазыцый у вырашэньні нацыянальнага пытаньня на нацыянал-рэфармісцкія, выражае праз сваю творчасьць буржуазны нацыяналізм.

Вышэйзгаданыя глыбока-рэакцыйныя моманты ў творчасьці Коласа эпохі рэакцыі—рэальны вынік уплыву на творчасьць Коласа нацыянал-лібэралістычнае ідэалёгіі нашаніўства.

Гады контррэвалюцыі, гады сталыпіншчыны на Беларусі былі гадамі разгулу чорнасоценнага нацыяналізму.

> «А поруч з гэтым (чорнасоценным нацыяналізмам—В. Б.) падымае галаву буржуазны нацыяналізм і іншых нацый (польскай, яўрэйскай, украінскай, грузінскай і г. д.), стараючыся адцягнуць рабочую клясу нацыянальнай барацьбой, альбо барацьбой за нацыянальную культуру ад яго вялікіх сусьветных задач» (Ленін).

Беларуская буржуазія і буржуазная беларуская нацыяналістычная інтэлігенцыя, гэтыя фактычныя нашаніўскія ідэолёгі, гандлюючы і прадаючы інтарэсы шырокіх народных мас, хаваючыся за лёзунгам адраджэньня нацыянальнай культуры, на самай справе імкнуліся адрадзіць і атручваць сьвядомасьць працоўных культурай беларускіх папоў, памешчыкаў, буржуазіі і кулацтва. Гэтыя нашаніўскія лібэралы, у сантымэнтальна-саладкавых тонах ідэалізуючы ўсё «роднае», нацыянальнае ў працілегласьць усяму «чужому» наогул, абгрунтоўваючы тэорыю самабытнасьці, бясклясавасьці беларускага народу г. д.—на самай справе імкнуліся «раз'яднаць рабочых і адурачыць іх, утвараючы за іхнай сьпіной зьдзелкі з памешчыкамі і буржуазіяй пануючай нацыі» (Рэзалюцыя ЦК РСДРП 1913 г.).

Падпаданьне пісьменьніка пад уплыў беларускае нацыяналістычнае буржуазіі, які знайшоў сваё выяўленьне ў творах Коласа другога пэрыяду, адлюстроўвае сабой хістаньні дробнае буржуазіі, якой, як кажа Ленін, «у моц яе эканамічнага становішча ўласьцівы хістаньні паміж пралетарыятам і буржуазіяй».

Вызначаючы рэакцыйныя моманты ў творчасьці Коласа эпохі рэакцыі, у якіх яскрава даў сябе адчуць уплыў на пісьменьніка нацыянал-лібэралісцкай ідэалёгіі нашаніўства, мы ні ў якім разе не павінны забывацца і ігнараваць, як гэта робяць нацыянал-дэмакраты і вялікадзяржаўныя шавіністы, рэвалюцыйных, сапраўды глыбокадэмакратычных элемэнтаў, якія ёсьць у творчасьці Коласа гэтага пэрыяду, якія ўзьнімаюць яго на вышыню народнага паэты.

У самыя чорныя гады рэакцыі Колас не парывае канчаткова з дэмакратычнымі масамі вёскі, не перастае выяўляць праз сваю творчасьць рэвалюцыйна-дэмакратычныя настроі і імкненьні шырокіх мас беларускага сялянства. Ня гледзячы на жорсткую рэакцыю, на дзікія зьдзекі царызму над рэвалюцыйнымі элемэнтамі гораду і вёскі, «сялянскія масы працягваюць, ня гледзячы на ўсе прасьледваньні дэмакратычных элемэнтаў вёскі, заставацца пры ўсіх сваіх хістаньнях на баку рэвалюцыйна-дэмакратычнага аграрнага перавароту» (рэзалюцыя сьнежаньскай бальшавіцкай канфэрэнцыі 1908 г.).

У такіх творах, як «Ня дамся», Колас выяўляе праз сваю творчасьць рэвалюцыйныя настроі працоўных мас сялянства, якія ня маюць сіл зьнішчыць цёмныя сілы контррэвалюцыі. У гэтым творы аўтар нам дае вобраз селяніна-рэвалюцыянэра, якога ніякія жорсткія

захады «паночкаў» і «начальства» ня змогуць адарваць ад рэвалюцыйнай справы:

„Вось мяне і пасадзілі,
Каб сялян ня бунтаваў;
Мяне білі і судзілі,
Па вучастках валачылі,
А цяпер сюды папаў.
Хоць навісьлі густа хмары,
Хоць на змор мяне бяруць,
Не! Мяне ня справяць кары,
Толькі злосьці паддадуць!“

Стальшінская палітыка ня толькі не зьняла клясавых супярэчнасьцяй на вёсцы, а яшчэ больш паглыбіла, абвастрыла, узмацніла іх, яна распаліла клясавую барацьбу на вёсцы па двух лініях сацыяльных войн. Памешчыцкае земляўладаньне, якое не ўдалося зьнішчыць, разьбіць рэвалюцыі, у руках абшарнікаў зьяўляецца асновай бязьлітаснай барбарскай эксплёатацыі селяніна. Колас і на гэтым этапе сваёй творчасьці ў высока-мастацкіх вобразах з усёю яскравасьцю з рэвалюцыйна-дэмакратычных пазыцый адлюстраваў у сваіх творах клясавую працілегласьць, варожую няпрымірымасьць інтарэсаў панства і працоўных мас сялянства. У такіх сваіх творах, як «Цемра», «Горкая доля», «Маці», «Каля парогу» і інш. пісьменьнік падымаецца да правільнага ўсьведамленьня клясавых карэньняў сялянскае беднасьці, цемнаты, жабрацтва.—

„А ўсе дармаеды
Нас бяз жалю лаюць,
Мужыком хамулай
Злосна папікаюць.
Эх, вы, дармаеды,
Моль вы, вош людзкая!
А хто-ж вас, праклятых,
На плячах трымае?“

Бяспраўнае становішча працоўных мас сялянства, грубыя, дзікія свавольствы чыноўнікаў, бяззаконьні і бясчынствы паліцэйшчыны, якія асабліва ўчасьціліся ў чорныя гады рэакцыі на вёсцы (як і ў горадзе), знайшлі хоць і няпоўнае мастацкае выяўленьне ў творах Коласа гэтага перыяду. У творы «Асадзі назад» аўтар з глыбокай сілай свайго таленту ў форме гострага гумару расчыняе перад чытачом і паказвае поўнае бяспраўе бядняцка-серадняцкіх мас сялянства, над якімі самым нахабным чынам зьдзекуюцца пануючыя клясы, бюракраты, паліцэйшчына, і якога, як і ў час прыгону, лупяць розгамі.

„Ўзбунтаваў я вёску.
Ой, быў цяжкі год!
Прыяжджае прыстаў:
— Выхадзі ўпярод!
Гэта ты, мярзавец,
Узбунтаваў народ?
Гэй, гарадавыя!
Даць яму ўпярод!“

Побач з мастацкім паказам таго свавольства і бяззаконьня, якія ўтвараюцца над галодным селянінам «власть имущими», Колас у сваіх творах выкрывае тагачасны клясавы суд, які так заядла ахоўваў «сьвяшчэнную» уласнасьць эксплёататараў і зьверскі жорстка распраўляўся з дэмакратычнымі элементамі вёскі.

„Гадаваўся на мякіне,
Жыў з худобай змалку,
Смак жыцьця пазнаў на сьпіне,
Высах сам у палку.
А нарэшце, вось папаўся
У сьпісак арыштанскі.
А за што? Нібы зьбіраўся
Падпаліць лес панскі".

Стальпіншчына паскорыла працэс разбурэньня асноўных мас сялянства, пакідаючы за памешчыкамі іхныя землі, іхную «уладу і даходы», гаворачы кулаку: «рабуй абшчыну, але падтрымай мяне». У пасьлярэвалюцыйнай беларускай вёсцы мы наглядаем шпаркі працэс паўпэрызацыі і пралетарызацыі сялянства, глыбокую дыфэрэнцыяцыю сялянства, рост галечы і жабрацтва на адным полюсе, і багацьця—на другім.

У сваіх творах «З песян адзінокага» Колас рысуе нам паўпэрызацыю вёскі, пралетарызацыю сялянства:

„Я – адзін, жыву бяз дому,
Сам сабе я першы пан,
Галавы ня гну нікому,
Ня схіляю гібкі стан.
Скарб мой—рукі, мой конь—ногі,
Як пайду, - сам чорт ня брат.
Кій у рукі і з дарогі
Бяз нуды зірну назад".

Даючы замалёўкі разбурэньня вёскі, выйсьце селяніна ў шэрагі пралетараў «без надзелу», Колас у асноўным, за некаторым выключэньнем, у сваіх творах паказвае, што страціць уласнасьць, «наседжанае гняздо»—значыць згубіць шчасьце і долю, значыць ня жыць, а гнісьці:

„Дарма жыцьцё тваё гіне,
Няма долі бядачыне."

Замалёўваючы вёску, як я ўжо зазначыў, Колас бачыць у ёй толькі клясавыя супярэчнасьці паміж панствам і сялянствам. Сялянства на гэтым этапе ў творах Коласа падаецца як нешта адзінае, што ня ведае клясавае дыфэрэнцыяцыі. Пісьменьнік ня бачыць клясавае барацьбы ўнутры самога сялянства, ня бачыць эксплёатацыі з боку кулака бядняцка-серадняцкіх пластоў вёскі, і ў гэтым змазваньні клясавых супярэчнасьцяй ўнутры вёскі выяўляецца ўплыў на Коласа нашаніўскага нацыянал-лібэралізму.

Намячаючы для селяніна выхад са становішча нэндзы і жудаснай галечы ў такіх сваіх творах, як «Мужык», «Горкая доля» і інш., Колас ізноў становіцца на рэвалюцыйныя пазыцыі, зноў гучным

голасам выражае рэвалюцыйныя настроі дэмакратычных асноўных мас сялянства, зноў жорсткая клясавая барацьба са зброяй у руках супроць цара і панства лічыцца адзіным рэальным шляхам для селяніна:

„Я мужык, ня чую звону,
Толькі-ж есьць мяне чарвяк:
Ці ня брэша поп з амбону,
Што цару бог даў карону?
Ой, не, мусі быць ня так.
Я мужык, а гонар маю.
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
„Стрэльбы, хлопчыкі бяры!“

К 1912 году пачынае падымацца новая хваля рэвалюцыйнага руху. Хваля рабочых эканамічных і палітычных забастовак, сялянскія хваляваньні па вёсках і сёлах, якія пракаціліся па ўсёй расійскай імпэрыі—усё гэта яскрава сьведчыла аб пачатку новае рэвалюцыі,

> «якая зьяўляецца няўхільным вынікам банкруцтва трэцячэрвеньскай палітыкі царызму. Гэта палітыка ня здолела задаволіць нават самую ўгодлівую буйную буржуазію. А становішча мас народу стала яшчэ больш бяспраўным, асабліва для прыгнечаных нацыянальнасьцяй, сялянства-ж ізноў даведзена да галадовак мільёнаў і мільёнаў» (Ленін).

Гады контррэвалюцыі, гады сталыпінщчыны не маглі многаму не навучыць, не маглі не праясьніць клясавай сьвядомасьці шырокіх мас працоўнага сялянства, якія, ўсьвядоміўшы, хто іх сапраўдны саюзьнік, паварочваюць «у бок пралетарыяту, у бок бальшавіцкай партыі», пачынаюць ізноў падымацца пад кіраўніцтвам рабочае клясы на штурм самаўладзтва, на барацьбу за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне.

Уздым рэвалюцыйнага руху жыватворча ўплывае на творчасьць Коласа. Пісьменьнік што раз то часьцей пачынае даваць нам творы, у якіх ён становіцца на рэвалюцыйныя пазыцыі, і падымае свой гучны голас пратэсту супроць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, з новай сілай пачынае выяўляць рэвалюцыйныя настроі дэмакратычных мас сялянства.

Рэвалюцыйнае хваляваньне, рост нездаволеньня, клясавай сьвядомасьці і рэвалюцыйнай актыўнасьці сялянства, яго злоба, нянавісьць, магучы рэвалюцыйны гнеў «супроць улады і парадкаў»—знаходзіць сваё выяўленьне ў такіх творах Коласа гэтага пэрыяду, як «На дарозе», «Бунт», «Як і калісь» і інш.

Селянін у творах пісьменьніка ўжо ня ў сьлёзным тоне, а з пагрозай, адчуваючы сваю сілу, зьвяртаецца да панства і заяўляе аб сваіх правох:

„Ня крычы, пан: „прэч з дарогі“,
Што з таго, што я мужык?
А ўжо гнуцца, як убогі,
І я, бачыш ты, адвык“.

У творы «Як і калісь», выражаючы настроі рэвалюцыйных пластоў сялянства, аўтар дае нам вобраз загартованага барацьбітаселяніна, які пачынае «кусацца» і адчынена выступаць супроць тагачаснага дзяржаўнага ладу:

„Пачыкайце-ж калі гэтак!
То-ж я ня кусаўся!
Годзе крыўды! Досыпь зьдзеку!
Узяў, ды збунтаваўся
Супроць ўлады і парадкаў!"

Што раз, то часьцей у творах Коласа адчуваецца надзея на прыход новае вясны, аўтар пачынае «цьвёрда верыць у тое»,

„Што наш засеў у полі дзікім
Гневам вырасьце вялікім
І затопіць усё злое,
Усё няшчасьце векавое".

У творы «Будзь цьвёрды» Колас заклікае селяніна да цьвёрдасьці, арганізаванасьці і рашучасьці ў барацьбе супроць эксплёататараў за сваё вызваленьне:

„Ты ня гніся, брат, ніколі
Траўкаю пахілай:
Сам пружыны сваёй долі
Выкуй уласнай сілай".

Вайну на першых парах у сваіх творах Колас разглядае з пункту гледжаньня агульна-нацыянальных інтарэсаў роднай краіны. Вайна кваліфікуецца аўтарам у асобных творах, як: «крывавы пір», вар'яцтва ўсяго сьвету, найвялікшае зло і няшчасьце, бо яно нясе разбурэньне роднаму краю—

„Гора Белу Русь спаткала
У сьвет далёкі люд пагнала,
Цяжкі быў мінулы год".

Аўтар у сумных пэсымістычных малюнках занатоўвае тыя жахі і разбурэньне, якое прыносіць з сабою вайна для краіны ў цэлым і для селяніна ў прыватнасьці. Пасыўна аплаквае ахвяры вайны і ня бачыць у гэты час ніякага выйсьця з гэтага крывавага пекла:

„Ды рэчка заціхне і вецер засьне,
І ласкаю неба зірне,
І ўсё супачыне, спазнае час свой.
А людзям ці будзе спакой?"

У гэтых творах Коласа мы наглядаем яшчэ толькі глухое нездаволеньне, глухі пратэст, адмоўныя адносіны да вайны пісьменьніка—і ў гэтым прагрэсыўныя моманты вышэйпаказаных твораў. Але разам з гэтым у іх з усёю яскравасьцю выяўляецца неразуменьне Коласам клясавае сутнасьці імпэрыялістычнае вайны і тых рэвалюцыйных сродкаў, пры дапамозе якіх магчыма спыніць гэтае «крывавае пекла».

Але пазыцей паэта ўздымаецца да разуменьня клясавай прыроды вайны. Побач з такімі творамі як «Дзьве дарогі», «Вецер», «На лузе», «Новаму году», «На рэчцы», «На чужыне», дзе з усёю яскравасьцю пісьменьнік выявіў настраёвасьць дробнае буржуазіі, напалоханай вайной, мы маем і такія глыбока-рэвалюцыйныя творы, як «Ворагам», «Думкі салдата», у якіх Колас падымаецца да разуменьня клясавай прыроды вайны, паказвае сапраўдных віноўнікаў апошняй і з рэвалюцыйна-дэмакратычных пазыцый гучным голасам ад імя працоўных мас пратэстуе супроць вайны і выступае супроць «катаў», «што селі ўгары», якія сваё «самадурства гатовы купляць мільёнамі нашых галоў»—

„Вам не па сіле груз цяжэрны  
Вайны, што самі вы ўзьнялі,  
Зьнішчэньне, жах яе бязьмерны,  
Згінота цяжкая зямлі.  
Ня вы дасьце народам сьвята,  
Ня вам пажар вайны заліць.  
Дык рукі прэч, забойцы, каты!  
Ня вам аб згодзе гаварыць!“

Але нават і ў гэтых рэвалюцыйных творах пісьменьнік у моц абмяжаванасьці дробна-буржуазнага сьветапогляду не падняўся да разуменьня таго, «што ня можа быць і гутаркі пра сур'ёзнае змаганьне супроць вайны, пра зьнішчэньне войн і стварэньне моцнага міру без рэвалюцыйнай барацьбы кіруемых пралетарыятам мас кожнай краіны супроць сваіх урадаў, без зьвяржэньня буржуазнага панаваньня, без сацыялістычнага перавароту».

Такім чынам, на грунце вышэйзробленага аналізу творчасьці Коласа эпохі рэакцыі, мы маем права сьцьвярджаць, што ў творчасьці Коласа і гэтага (другога) пэрыяду мы маем рэвалюцыйныя, глыбока-дэмакратычныя элемэнты, якія яскрава сьведчаць, што пры ўсіх сваіх глыбокіх хістаньнях Колас і на гэтым этапе свайго творчага шляху не парывае з дэмакратычнымі масамі вёскі, не перастае выяўляць праз сваю творчасьць рэвалюцыйна-дэмакратычных патрабаваньняў, ідэалаў і настрояў шырокіх пластоў сялянства. Але тут-жа неабходна падкрэсьліць, што нават у творах, якія падымаюць Коласа на вышыню народнага паэты, у якіх пісьменьнік з рэвалюцыйна-дэмакратычных пазыцый выступае супроць царызму, выяўляе праз сваю творчасьць рэвалюцыйныя настроі дэмакратычных пластоў вёскі, нават і ў гэтых лепшых сваіх творах гэтага пэрыяду Колас не падымаецца да разуменьня гістарычнае ролі пралетарыяту і яго партыі, не падымаецца да ўсьведамленьня задач сацыялістычнае рэвалюцыі, якая толькі адна можа вызваліць працоўныя масы ад эксплёатацыі памешчыкаў, капіталістаў, кулакоў, якая толькі адна па-сапраўднаму можа вызваліць прыгнечаныя народы ад усялякага нацыянальнага ўціску. Нават і ў гэтых глыбока-дэмакратычных творах ідэалы, за якія змагаецца пісьменьнік, ня выходзяць за рамкі буржуазна-дэмакратычных задач, у чым яскрава дае сябе

адчуць абмяжованасьць сьветапогляду аўтара, як прадстаўніка дробнае буржуазіі.

Гаворачы-ж у цэлым пра творчасьць Якуба Коласа эпохі рэакцыі, трэба канстатаваць, што ў ёй выявіліся хістаньні пісьменьніка паміж буржуазіяй і працоўнымі масамі, у ёй выявіўся ўплыў на Коласа нацыянал-лібэралісцкай ідэалёгіі нашаніўства, якое часта спустошвала рэвалюцыйныя элемэнты з яго паасобных твораў і напаўняла іх містыкай, упадніцтвам і ярка выражаным буржуазным нацыяналізмам. Але ня толькі гэтымі момантамі характэрызуецца, абмяжоўваецца і вычэрпваецца творчасьць Коласа гэтае пары. Побач з творамі, прасякнутымі ідэалізмам, містыкай, «нашаніўствам», мы маем сапраўды рэвалюцыйныя, глыбока-дэмакратычныя творы Коласа, якія падымаюць яго на вышыню народнага паэты.

Вось гэтыя, сапраўды рэвалюцыйныя дэмакратычныя элемэнты ў літаратурна-мастацкай спадчыне Коласа пралетарыят бярэ, ствараючы пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі новую сацыялістычную зместам і нацыянальную формаю беларускую культуру, адкідаючы, бясспрэчна і бязумоўна, тыя рэакцыйныя элемэнты, якія ёсьць у творчасьці Коласа.

Уладзімер Кузьміч

# „ЖЫЦЬЦЁ КЛІМА САМГІНА“

Лепшаму пралетарскаму пісьменьніку Максіму Горкаму 16 сакавіка 1932 году споўнілася шэсьцьдзесят пяць год з дня нараджэньня. Ня так даўно савецкая грамадзкасьць урачыста праводзіла саракагадовы юбілей ягонай літаратурнай дзейнасьці. Зусім натуральна, што абедзьве гэтыя даты адзначаюцца новай хваляй грамадзкай увагі да творчасьці ды палітычнай дзейнасьці нашага пралетарскага пісьменьніка.

Варта толькі ўспомніць, што на працягу апошніх пяці год Горкі даў тры томы «Жыцьця Кліма Самгіна» з пяцітомнай эпапэі «Сорак год», над якою ён працуе далей і якая мае стаць адною з вяршынь яго ўласнае творчасьці і якая ўжо стала выдатным творам сусьветнай рэвалюцыйнай літаратуры. Ён напісаў п'есу пра нашу сучаснасьць «Ягор Булычоў і іншыя», якая ідзе цяпер у маскоўскіх тэатрах.

Творчая энэргія вялікага песьняра пралетарыяту не зьмяншаецца і з кожным годам твор за творам выходзіць з-пад пяра Максіма Горкага. Яна адначасна ідзе і па лініі выключнай палітычнай і грамадзкай дзейнасьці пісьменьніка, выяўляючыся ў ідэях стварэньня гісторыі грамадзянскай вайны, гісторыі фабрык ды заводаў. Яны, гэтыя гісторыі, маюць паказаць нашай савецкай моладзі, і сацыялістычным пакаленьням грандыёзную карціну пераможнага маршу пралетарскай рэвалюцыі па сацыялістычных рэспубліках Вялікага Савецкага Саюзу. Няма цяпер у сьвеце ніводнага пісьменьніка, які быў-бы гэтак шчыльна зьвязаны з грамадзка-палітычным жыцьцём, які-б гэтак моцна ўплываў на жыцьцё сваёй краіны, як гэта робіць наш Горкі.

Ідэя стварэньня гісторыі грамадзянскай вайны і гісторыі фабрык ды заводаў сьведчыць, што Горкі настолькі зросься з пралетарыятам Савецкага Саюзу, што амаль усюды ствараюцца ўдарныя брыгады імя Максіма Горкага нараўне з брыгадамі іншых пачэсных імён. Гэта тлумачыцца аўтарытэтам Горкага, як рэвалюцыянэра і пісьменьніка, які адыгрывае ў нашым сацыялістычным будаўніцтве асабліва выдатную ролю.

Тое, што поруч з томамі «Жыцьця Кліма Самгіна» з-пад пяра М. Горкага выходзяць высока-мастацкія публіцыстычныя артыкулы, вартыя аўтара «Буравесьніка», робіць яшчэ большы ўплыў на міжнародны пралетарыят, на працоўную інтэлігенцыю, б'ючы па ўлюбёных у сябе майстрох культуры, па мэханічных грамадзянах, па

імпэрыялістах, што прагнуць вырашыць сусьветны крызіс за кошт нашай сацыялістычнай бацькаўшчыны.

Не выпадкова саркастычныя памфлеты ды грамадзкія артыкулы нашага Горкага супадаюць з працаю над асноўным героем эпапэі «Сорак год»—над Клімам Самгіным. Такія артыкулы, як «З кім вы, майстры культуры»? ёсьць зьявішча таго-ж самага грамадзка-палітычнага парадку, што і томы, «Жыцьця Кліма Самгіна». Гэта-ж сьцьвярджае ідэйная накіраванасьць твораў абодвых гатункаў. Сапраўды:

Калі ў артыкулах, друкаваных у «Правде» ды «Известиях», Горкі громіць адкрытых і замаскаваных імпэрыялістаў па ўсіх ступенях сацыяльных усходак, дык у творы пра Кліма Самгіна наш пралетарскі пісьменьнік малюе цікавы шлях, па якім ідуць здраднікі рэвалюцыі, гнілыя інтэлігенты, будучыя шкоднікі, памоцнікі імпэрыялістычных захопаў. Даволі прыгледзецца да эвалюцыі ідэёвай і палітычнай, якую перажывае Клім Самгін ад свайго маленства аж да працэсу шкоднікаў тыпу Рамзіна і Суханава.

Хлопчык, што нарадзіўся ў сям'і Самгіных і атрымаў імя Кліма («простонародное имя, ни к чему не обязывает») выяўляе сабою кволае дзіця, якое пад уплывам атачэньня інтэлігенцкай сям'і вырастае сваеасаблівым эгаістам. Ён замкнуўся ў сабе і ўвесь час пра нешта думае. Клім у маленстве—гэта ня зухаваты хлопец на ўзор Віньнічэнкавага «Халамідніка». Кроў ня кіпіць у ім. Ён ня ўмее ствараць вакол сябе кіпучага жыцьця, якім поўніцца жыцьцё звычайнага дзіцяці. Яго ніхто не атачае гульнямі, ды ён і сам ня цікавіцца імі. Клім любіць прыслухоўвацца да размоў дарослых, сам мае нахіл да іхнага таварыства. Ва ўсіх пытаньнях дзіцячага жыцьця ён хоча паказаць сябе вельмі разумным. Ведаючы, што акуляры робяць твар тонкім і інтэлігентным, ён абдурвае матку, быццам у яго слабыя вочы. Вялікую групу дзяцей, што прышлі да яго, ён сустракае ў акулярах дымчастага колеру. Вось малюнак:

„... Борис, пожав руку Кліма и не выпуская ее из своих крэпких рук, насмешливо сказал:
— Смотрите: вот мартышка в старости.
Люба Самова жалостливо крыкнула:
— Ой, каким ты стал совеночком!!!

Клім дужа абражаецца, калі і Турабоеў і Лідыя, яго прыёмная сястра, ды Ігар насьміхаюцца з яго. Паступова ён выхоўвае ў сабе вялікае пачуцьцё абразы і, што-б ня здарылася з ім у далейшым, гэтае пачуцьцё ўсё часьцей апаноўвае яго. Клім прызвычайваецца пад уплывам атачэньня аналізаваць свае пачуцьці і нават пазьней, закахаўшыся ў Лідыю, пераконвае сябе:

„Может быть, я вовсе не влюблэн, а незаметно для себя поддался атмосфере влюбленности и выдумал все, что чувствую".

Клім лёгка падпадае пад уплыў атачэньня. Калі дзядзька Якаў вяртаецца з высылкі, пачынаюцца размовы пра рэвалюцыю. Айчым Кліма—Вараўка (постаць буржуазнага радыкала, напісана Горкім

надзвычай пуката і яскрава) дыспутуе з ім. У гэтым дыспуце бярупь удзел усе суседзі Варауўкі і сярод іх—пісьменьнік Кацін. Малады Клім радуецца, калі чуе афарызмы накшталт дзядзькавага:

— Рэвалюцыю ня робяць з антрактамі.

Падрастаючы больш, Клім робіцца тыповым рэзанэрам і для кожнага свайго ўчынку знаходзіць нейкае апраўданьне, нейкую ідэю, якая так ці інакш псуе яму ў дадзеным становішчы. Сустракаючыся са здаровымі людзьмі навакол якіх бурліць маладое кіпучае жыцьцё (Кутузаў, Тамілін), Самгін унікае іх і з большай ахвотай сустракаецца з тубэркулёзнай дзяўчынаю Няхаеваю, якая сваім падкрэсьленым рэзанэрствам нагадвае самога Кліма. Яна сьпяшаецца жыць і таму хоча ўзяць ад жыцьця як мага больш асалоды. У коле таварышоў Самгіна, гэтага будучага імпэрыяліста і рэнэгата, маюць моду размовы пра сэнс жыцьця, пра містыку і ў прыватнасьці пра творы Мэтэрлінка і Андрэева. Увага маладых студэнтаў не абмінае літаратурных фактаў свайго часу; яны не забываюцца нават на Бабарыкіна.

Увогуле свайго героя Горкі любіць паказваць ня толькі на фоне проста чалавецкіх прыгод (сямейных, любоўных і т. д.), а і на фоне ідэй дадзенае клясы, што плывуць і плывуць, як і само жыцьцё. Пісьменьнік атачае чытача сваяасаблівай атмасфэрай інтэлектуальнай культуры і таму перад чытачом мільгаюць імёны Талстога. Дастаеўскага, Салагуба, Брусава, нават малавядомага паэты Фофанава. які тады толькі пачаў сваю дзейнасьць.

Гэта характэрная рыса Горкага вымагае нашай увагі, калі мы хочам зразумець, чаму гэткі твор, як «Жыцьцё Кліма Самгіна» у мастацкім разуменьні апярэдзіў сусьветную рэвалюцыйную літаратуру на дзесяць год. На больш дасканалым аналізе гэтае рысы мы спынімся пазьней, а зараз зьвернемся да разгляду ідэёвага разьвіцьця Кліма Самгіна і яго таварышоў, асабліва—яго сацыяльнага атачэньня і сацыяльнай практыкі.

Ад свайго айчыма Клім навучаецца радыкалізму. Знаёмячыся далей з палітычным становішчам краіны, з асобнымі рэвалюцыянэрамі (народаволец дзядзька Якуб, будучы бальшавік Кутузаў, эсэры—Лютаў, Судакоў), стыкаючыся з таварышамі, якія ўключаюцца ў палітычную практыку тае ці іншае партыі, Клім не сьпяшаецца распачынаць уласную палітычную дзейнасьць. Гэта дае прычыну таварышом студэнтам лічыць яго за кансьпіратара, патаемнага рэвалюцыянэра, які, маючы асабліва адказнае заданьне, выконвае яго бяз лішняга шуму. Усе ўпэўнены ў тым, што ён—эсэр, а Марына Сьпівак аднаго разу прызнала, што яна лічыла Самгіна за бэка (бальшавіка).

Горкі не сьпяшаючы яскрава малюе кожны ідэёвы крок Кліма і яго дружбакоў. Тут мастацкія прыёмы пісьменьніка дужа разнастайныя і зьяўляюцца новым крокам у прыгожым пісьменстве. Кожная постаць мастацкі індывідуалізавана і выяўляе комплекс учынкаў, ідэй, атачэньня.

Пісьменьнік не малюе шаблённа рэчавы партрэт героя, а ў першую чаргу сочыць за яго ідэёвым ростам і калі кладзе рыску фізыч-

нага партрэту, дык гэтая рыска лажыцца трапна, ня губляючы псыхалёгічнага значэньня.

„Клим сидел у себя в комнате и слышал, как мать сказала как будто с радостью:
— Бог мой, у тебя начинается лысина!
Варавка ответил:
— А вот я не замечаю седых волос на твоих висках. У меня глаза вежливее“.

Майстэрства мастацкага пяра Горкага зьвяртае на сябе ўвагу і там, дзе пісьменьнік падае сьціслыя характарыстыкі сваіх герояў, або дзе ён у двох-трох словах дае яскравы вобраз:

„Она берегла свое тело, как дорогое платье“.
„Дом как будто пошатывался от мягких толчков воздуха, а на крыше точно снег шуршал, как шуршит он весною, подтаивая и скатываясь по железу. Пушки стреляли часто, не торопясь“.
„Пули щелкают, как ложки по лбу“...
„Это из пушек уговаривают народ“.

У разуменьні мастацкага майстэрства і ідэёвасьці між «Жыцьцём Кліма Самгіна» і «Жан-Крыштофам» Рамэна Роляна ёсьць багата супольнага. Калі першы твор насычаны ідэёвым жыцьцём інтэлігенцыі, якая цікавіцца рэвалюцыяй у перапынку між шклянкай гарбаты і літаратурнымі спрэчкамі, дык другі—поўны бурлівага жыцьця кампазытара-рэвалюцыянэра, што насупор Кліму шукае новага шляху і што самотна бунтуе дасягаючы вялікага эфэкту нават у гэтым анархічным бунце.

Клім Самгін—ня Жан-Крыштоф. Чорная жахлівая рэчаіснасьць царызму штурхае Самгіна толькі да гарачых думак, але яны ня выліваюцца ў рашучае дзеяньне, як гэта было з Крыштофам. Апошні ня мог папасьці ў кола сапраўдных рэвалюцыянэраў, хаця і марыў пра рэвалюцыйную музыку для працоўных мас, але ён дзейнічаў, і тая самотная дзейнасьць пакідала па сабе нязначны, але фізычна вымерны эфэкт. Самгін з прычыны вялікай вострасьці ягоных думак ня мог рабіць таго, што рабіў Кутузаў, рэвалюцыянэр рабочай клясы і Тамілін—яго тагачасны таварыш. Клім зьнясілены думамі, упарта разважаў над сучасным і будучым. Ён ахвотна прымае ўдзел ва ўсіх палітычных спрэчках, але нажаль—толькі ў слоўных.

Мы праз увесь час сустракаем на старонках гэтага твору глыбокія афарызмы, якімі перасычваецца Самгін:

„Классовая борьба—не утопия, если у одного—собственный дом, а у другого—только туберкулез“.

Клім ня прымае ўдзелу ў клясавай барацьбе пралетарыяту і, як мы далей убачым, сьвядома ўнікае яе, хоць заўсёды справа абарачаецца так, што яго залічваюць да байцоў за барыкаду, збудаваную ў сьнежні 1905 г. ў час маскоўскага паўстаньня ў яго ўласным двары. Ва ўмовах палітычных дыскусій Клім выхоўвае ў сабе здольнасьць міміктыі і прывучаецца прыстасоўвацца хоць да якога становішча. У гэтым і ёсьць сутнасьць рэзанэра—дробна-буржуазнага радыкала, памазанага звонку чырвонай фарбай. Ён-бы мог зрабіцца са-

праўдным рэволюцыянэрам, калі-б пайшоў сьледам за Кутузавым ды яго таварышамі, аджа-ж яны ня толькі гранілі палітыку лібэралізму ды падхалімства і дробнае культурніцтва дзеля народу.

Клім ня здольны нават часта ісьці шляхам лібэрала Вараўкі, які адкрыта вызнае:

„—В России живут два племени: люди одного могут думать и говорить только о прошлом, люди другого—только о будущем и непременно, очень отдаленном. Настоящее, завтрашний день никого не интересует".

Чаму навучаецца Клім, дык гэта—сусьветнасьці мысьленьня, разумоваму захапленьню ўсіх бакоў чалавечага жыцьця. Але гэта не дапамагае яму, бо наш бездапаможны герой баіцца ўсяго адкрытага, шчырага і вытрыманага да канца.

Ён адразу знаходзіць і добрыя і благія бакі жыцьцёвай рэчаіснасьці. Жаданьне натрапіць на ідэал утрымлівае яго ад зьліцьця з пэўнымі людзьмі, партыямі і нават геаграфічнай мясцовасьцю. Ён ня мае ні блізкага сябра, ні жонкі, якую-б ён кахаў доўга, магчыма да сьмерці, ня мае ён і ўлюбёнае мясцовасьці, дзе падабаў-бы жыць. Самгін прывучаецца лёгка зьмяняць месца дзейнасьці. Ён не шкадуе, калі і жанчына, якую ён толькі што кахаў, пакідае яго. Ён сам захацеў разлучыцца з ёю. Лідыя Вараўка, Няхаева Сарафіна, Маргарыта, Варвара—законная жонка, і нарэшце, Марына Сьпявак, па мужу—Зотава. Вось няпоўны сьпіс жанчын, якіх Клім пазнаваў сваёю халоднаю развагаю.

Як Горкі выкрывае карэньні гэткага зьявішча, як Клім Самгін?

На гэта мы знаходзім адказ у самой аповесьці. Асабліва ў томах непасрэдна за першым. Тут Клім выступае перад намі ўжо дарослым чалавекам, сфармаваным і фізычна і ідэёва. Выгнаны з унівэрсытэту, ён скончыў экстэрнам юрыдычны факультэт і стаў звычайным прысяжным павераным, адвакатам.

Калі першы том прысьвечаны ціхаму настарожанаму перадбур'ю і навальніцы, што надыходзіць, дык у другім і ў трэцім мы маем справу з узмоцненаю дынамікаю дзеі—з часам непасрэднай рэвалюцыі 1905 году. Праз рашучыя дзеяньні пралетарыяту ды бяднейшага сялянства Самгін мусіў выявіць сваё нутро і, натуральна, ня мог абмежавацца таемнай усьмешкаю, задуменным выглядам, маўклівасьцю. За Клімам лёгка сачыць. Яго ўчынкі ўжо самі за сябе гавораць, і ніякі рэзон ня выратуе яго, як гэта было ў час маленства ды юнасьці. Вялікая насычанасьць падзеямі абвастрае цікавасьць, і постаць Кліма паўстае перад намі на ўвесь рост.

Калі дасюль яму шчасьціла спасылацца на сваю асьцярожнасьць, дык у час барыкадных баёў гэтая асьцярожнасьць абарачаецца ў сваю процілегласьць. Цяпер кожны бачыць, што гэта—асьцярожнасьць абываталя, якога пужае размах рэвалюцыі і які, спачуваючы ўсёю душою бальшавіком ды рабочым, ня можа ўзьляцець за імі на прынцыповую вышыню ў барацьбе за сацыяльнае вызваленьне працоўных

Клім сустракаецца на гуртках з прадстаўнікамі рэвалюцыйнага пралетарыяту. Але ён ня змог іх палюбіць за грубасьць і някультурнасьць. Ён не паверыў, як Кутузаў, у іхнюю волю зьмяніць сацыяльны лад. Самгін толькі з асалодай сачыў, як працуюць гэтыя рабочыя (заводы ён ненавідзіць за бруд), як кавалі ўзносяць на звагіцу вялізны звон. Ён захапляецца толькі біялёгічнай прыгожасьцю працы, а не арганізавальным бокам яе.

Нават вострае глумленьне сапраўдных рэвалюцыянэраў над сумненьнямі Кліма Іванавіча ня можа выбіць Самгіна з каляіны дробнадумства і паставіць яго на цьвёрды і ясны шлях клясавай барацьбы.

Самгін упарта не разумее сэнсу падзей і таму нічога ня мог прыдбаць з палітычных дыскусій перадрэвалюцыйнага часу.

А тым часам падыходзяць вялікія падзеі, пачынаецца 1905 г. Самгін дапамагае рэвалюцыянэрам усіх кірункаў. Часам ён дапамагае і бальшавіком, выратоўваючы іх ад арышту, дапамагаючы грашыма і заслужваючы за гэта славу загартаванага чалавека, які, бясспрэчна, ня выдасьць таварышоў, калі сам пападзецца ў жандарскія кіпцї. Словам, вонкава Клім не правакатор, і гэта ўмацоўвае яго дачыненьне з таварышамі па школьнай лаве, па унівэрсытэту. Але гэтая загартованасьць хімерная і толькі знадворна-паказная.

Вось што ён гаворыць пра самога сябе:

„Мая няздатнасьць да моцных пачуцьцяў — прыродная, гэта ўласьцівасьць культурнага чалавека. Справа ў тым, што я не магу знайсьці пункту, які прыцягнуў-бы мяне цалкам“...

Клім, на ўласны погляд, ёсьць высока культурны чалавек, і таму ніхто з людзей ня можа зразумець яго асабістых перажываньняў. Клім апраўдвае сваю ідэёвую самотнасьць. Удумваючыся ў жыцьцёвы працэс ён знаходзіць, што навокал пануе цемра і што самыя вялікія духоўныя скарбы ён знойдзе выключна ў сабе. Таму ён яшчэ больш з'асяроджваецца ў сабе і апранае мантыю яшчэ большае маўклівасьці, шкадуючы, што нішто ў жыцьці не зацікавіла яго цалкам. Ні музыка, ні маляўнічае мастацтва, ні пэўныя навукі, ні сама рэвалюцыя не захапілі яго. Ён гэтак апраўдвае сябе:

„Гэта ўласьцівасьць людзей выключна хісткіх і таленавітых“.

Асабістыя таленты і ёсьць найбольшая каштоўнасьць у сьвеце, на думку Самгіна. Прасочым за Клімам: якія-ж таленты выявіў ён, калі рэвалюцыя 1905 году разгарнула сваё шырокае крыльле. Афіцыйна Клім ня ўступаў ні ў якую партыю. Расстрэлы 9-га студзеня адбыліся на яго вачох. Поўны злосьці і разьлютаваны, ён абавязвае сябе змагацца з царызмам, але адразу відаць, што гэтае абавязаньне больш вонкае, паказное, чымся глыбока адчутая жыцьцёвая патрэба.

Калі рабочыя пачынаюць сьнежаньскае паўстаньне ў Маскве, Клім дазваляе рабочым і рэвалюцыянэрам будаваць барыкаду на сваім двары. Асабіста ён сымпатызуе, але вінтоўкі ў рукі не бярэ.

Успомніўшы пра Кутузава, ён ня можа падумаць пра яго інакш, як з нянавісьцю:

„Конечно, он теперь где-нибудь разжигает страсти.
Тут Самгин почувствовал, что в нем точно нарыв лопнул и по всему телу разлились холодныя струйки...
— И прав! - мысленно закричал он.—Пускай вспыхнут страсти злобы, пусть все летит к чорту, все эти домики, квартирки, начиненныя заботниками о народе, начетчиками, критиками, аналитиками“...

Відавочна, Клім хоча, каб рэвалюцыя ахапіла агнём увесь сьвет, каб яна абудзіла запал у самым Самгіну, і (вос і новы талент), каб тады пайшлі да д'ябла ўсе будыначкі, якімі пачаў валодаць Клім Іванавіч, атрымаўшы іх ад жонкі Варвары.

На барыкадзе дзейнічаюць людзі. Яны актыўна ўплываюць на падзеі і ў хвіліны адпачынку жорстка дыспутуюць між сабою. Клім ахвотна выслухоўвае абаронцаў барыкады:

— Что-ж, Самгин,—революция у нас?—спросил Макаров, сдвинув брови глядя на дымный кончик своей папиросы.
— Очевидно!
— Ты рад?
— Революция—это трагедия,—не сразу ответил Клим.
— Ты не ответил!
— Трагедия не радует!
— Ты—большевик?
— Конечно, нет,—ответил Клим и тот час-же подумал, что слишком торопливо ответил.
— Значит, не революционер,—сказал Макаров тихо, но очень просто и уверенно. Он вообще держался и говорил по-новому, незнакомо Самгину и этим возбуждал какое-то опасение, заставлял насторожиться.
— Революционеры—это большевики!—сказал Макаров все так-же просто.— Они бьют прямо лбом о стену. Вероятно так и надо, но я, кажется, не люблю их. Я помогал им деньгами и вообще... Прятал кого-то и что-то... А ты помогал?
— Случалось,—осторожно ответил Клим.

Гэтыя «случалось» і «осторожно» даюць нам права адкрыта сказаць, што рэвалюцыя, як грамадзкая значны працэс ня цікавіла Кліма Іванавіча, што яна была толькі фонам для шуканьня і знаходжаньня новых талентаў, якіх у Самгіна амаль ня было.

Баявое атачэньне прыгнечвае нашага героя. Калі за барыкадаю нехта баруkaецца і ломіць абшыўку канапы, Самгіна ванітуе. Ён блукае вакол барыкады, як глядач. А падзеі разгортваюцца далей. У Маскве ствараецца савет рабочых дэпутатаў. З гэтага выдатнага факту радуецца нават Любаша Сомава, эсэрка, толькі Самгін абыякава ўспрыймае яго. Ня гледзячы на яскрава пэўную рэвалюцыйную сытуацыю, Клім не захапляецца рэвалюцыйным рухам і застаецца цалкам абыякавы, аднолькава халодны і да палітычных захапленьняў і да фізыялёгічных.

Адзін раз ён адчувае сябе на вышыні становішча. Пад час нападу салдатаў Самгін выскаквае на вуліцу. Яго «выбросило на улицу, точно он был привязан веревкой к дворнику»...

Але гэта толькі хвіліннае зьявішча. Хваля сышла, і Клім зноў займаецца аналізам сваіх таемных дум. Нават баявы запал перако-

нанага і дзейнага бальшавіка Каліціна, яго вострыя сарказмы ня могуць зьмяніць клімавых думак:

„Краткие ответы Калитина не очень поддерживали желание беседовать с ним, все таки Самгин, помалчав, спросил:

— Чего вы надеетесь добиться?

Калитин остановился и сказал:

— Ясно, свободы рабочему классу.

А вслед за тем, сам себя спросил, как будто с сожалением:

— Вы что-же, меншевичёк? За союз с кадетами? По. Плеханову: до Твери вместе?

Не по словам, а по тону Самгин понял, что этот человек знает, чего он хочет. Самгин решил возразить, поспорить и начал:

— Но неужели вы думаете?...

Но Калитин, остановясь и прислушиваясь, проворчал:

— Подождите-ка...

Каліцін не сказаў больш ніводнага слова, бо на пляц прывезьлі гармату, і пачаўся абстрэл барыкады. Самгін схаваўся ў сваім будынку, жадаючы, каб рабочыя хутчэй пакінулі барыкаду. Маўляў, ёсьць рэзон. З пісталетамі не баюцца супроць гармат. Паражэньне забясьпечана, дый апроч таго, пацерпяць будынкі і людзі. Каліцін з баявікамі, для якіх «вінтоўка ёсьць рабочы кіёк», ідзе патаемным завулкам на Прэсьню, каб там іх трэснуць, або самім луснуць, як яны гавораць, разьвітваючыся з гаспадаром.

Калі заціхла барыкада, Клім адчуў сябе страшэнна лішнім. Не спатрэбіўшыся рэвалюцыі, Клім змушаны уцякаць з Масквы, бо пра яго пайшлі чуткі, нібы ён быў на баку паўстанцаў.

Сапраўды, крыўднае становішча: не рэвалюцыянэр мае быць пакараны, як рэвалюцыянэр. Уцяканьне праходзіць шчасна. І Клім, які разлучыўся з сваёю жонкаю ў дні паўстаньня, застаецца цяпер зусім вольны як птах. Ён прыбывае ў правінцыяльны губэрнскі горад і пачынае цікавую з ідэёвага боку дружбу з Марынаю Зотавай, удавойкупчыхай, якая ў часе свайго дзявоцтва заглядала калісь у рэвалюцыйныя гурткі. І зноў зьмена, манумэнтальная постаць Марыны (яго калішняй таварышкі) крута зьмяніла ход ягоных думак. Ва ўмовах рэакцыі, якая з асаблівым разгулам панавала на правінцыі, Марына Сьпявак, цяпер Зотава, зрабілася рэлігійнаю жанчынаю. І гэта толькі паступова адкрываецца Кліму. Гэта сымпатычна. Інтэлігенцыя пасьля паражэньня рэвалюцыі 1905 году, кінулася ў містыку, у богашуканьні, у рэлігійныя эксцэсы.

Таму ацэньваючы (прынамсі ва ўспамінах) пройдзены шлях, Клім бачыць уночы няпрыемны кашмар.

... „Этот ночной парад воспоминаний превратился в тяжелый кошмар. С бурной быстротой, возможной только в сновидениях, Клим увидел себя на безлюдной, избитой дороге среди двух рядов старых берёз,—рядом с ним шагал еще один Клим Самгин. День был солнечный, солнце жарко грело спину, но ни сам Клим, ни его двойник, ни деревья не имели тени и это было тревожно. Двойник молчал, толкая Самгина плечом в ямы и ритвины дороги, толкая на деревья,—он так мешал итти, что Клим тоже толкнул его, тогда он свалился под ноги Клима, обнял их и дико закричал. Чувствуя, что он тоже падает, Самгин схватил спутника, поднял его и по-

чувствовал, что он как тень, не имеет веса, но он был одет также, как настоящий, жывой Клим и поэтому должен, должен был иметь какой нибудь вес. Самгин высоко поднял его и швырнул прочь на землю: он разбился на куски и тотчас-же вокруг Самгина размножились десятки фигур, совершенно подобных ему, они окружили его, стремительно побежали с ним вместе, и хотя все были невесомы, проницаемы, как тени, но страшно теснили его, толкали, сбивали с дороги, гнали вперед—их становилось все больше, все они были горячие и Самгин задыхался в их безмолвной, шумной толпе.

Он отбрасывал их от себя, мял, разрывал руками, люди лопались в его руках, как мыльные пузыри, на секунду видел Самгин себя победителем, а в следующую—двойники его бесчисленно увеличивались, снова окружали его и гнали по пространству, лишенному теней, к дымчатому небу: оно опиралось на землю плотной темно синей массой облаков, а в центре их пылало другое солнце, без лучей огромное, неправильной, сплющенной формы, похожее на жерло печи,—на этом солнце прыгали черненькие шарики".

Кашмар з двайніком Кліма Самгіна—малюнак надзвычай сымбалічны. Гэтым аўтар хоча падкрэсьліць, што «Клімаў Самгіных» надзвычайна багата і ў сталіцах Расіі і на правінцыі. І сапраўды, патрапіўшы ў Русьгорад, губэрнскі горад, Клім Самгін натрапляе на сваіх двайнікоў, на Таміліна, які з барыкад пераскочыў на чытаньне лекцыі пра містыку, на Бязьбедава «жыцьцярадаснага дзівака, прышчыповата галубятніка», на Марыну Зотаву і інш.

Што-ж рабіла інтэлігенцыя ў сябе на нізох—на правінцыі, дзе яна мела магчымасьць зьвязаць сапраўды кантакт з працоўнымі масамі,— Тамілін—калішні рэвалюцыянэр упадае ў транс і чытае лекцыі пра «Інтэлект і лёс». Тамілін даводзіць, што інтэлект ёсьць выразьнік фатуму і што таксама лёс ёсьць маска Шайтана-Прамэтэя. Маўляў, «Прамэтэй—гэта той, хто першы натхніў чалавека ў раі на знаньне, імкненьне да пазнаньня, і з таго часу душа богападобнага чалавека, якая прагне веры, згарае ў прамэтэевым агні; матэрыялізм—гэта шэры попел яе». Тамілін высьмейвае тонка арганізаваную асобу, крышталь, які быццам-бы здатны адлюстраваць усе жыцьцёвыя спэктры і які праз тое пазбаўлены сілы веры ў простую і адзіную мудрасьць сьвету, якая знаходзіцца ў таемным слове «бог».

Сама Марына Зотава адкрываецца Кліму. І наш герой дазнаецца, што Марына стала за старном сэктанцкага карабля, стала багародзіцаю—кіраўніцаю таемнай рэлігійнай групы, якая сабрала ў адзін кулак усіх неданоскаў рэвалюцыйнага руху.

У сэкце апынулася адна з першых каханак Самгіна—Няхаева Сафіна, чалавек гістэрычнай натуры, што падчас займаецца клікунствам і выклікае бога «О, Аодах'я, о непераможны». Няхаева ў цёмнай пячоры кружыцца ў вузкім коле навакол цэбру з вадою, сьпявае дзіўную песьню:

„Дхарма, Дхарма,
„О, цуда
„Сонечны птах!
„Полымя вечнае!"

У гэтай сэкце мантанаў, як яны называюць сябе, знайшлі прытулак і Захар і Вася, калішнія знаёмыя Кліма Самгіна. З асаблівай мастацкай сілай Горкі паказвае нам мярзоту рэлігійнай сэкты і ў надзвычай яскравых вобразах малюе паасобных герояў, блытаных інтэлігентаў.

Горкі, аб'ектыўны мастак, зьдзекуецца з іх. Думак пра дачыненьні аўтара да Самгіна ды яго двайнікоў ня можа быць.

Адсутнасьць магчымасьці праявіць свае сілы ў якой небудзь карыснай дзейнасьці прымушае інтэлігенцыю ва ўмовах рэакцыі адхіснуцца ад рэвалюцыі, ад адзінай партыі пралетарыяту—бальшавікоў, і стаць на шлях эсэраўскага тэрору, або ўсякіх рэлігійных шуканьняў ды найчарнейшай містыкі.

Сусед Самгіна—Бязьбедаў Валентын—агулам жывы працаздольны чалавек. Але загнаны ў цемру палітычнай рэакцыі і жандарскага разгулу, ён прынцыпова адмаўляецца ад якой-небудзь карыснай дзейнасьці і, не зважаючы на свой узрост, ганяе, што хлапчук, па дахах галубоў. Гэта ён робіць ад нуды. Ад нуды ён паліць уласны флігель і задушвае ў дыме сваіх улюбёных галубоў.

Бязьбедаў выбухае патэтычнымі тырадамі.

> — Р-р-россия, чорт ее возьми!—хрипел он, задыхаясь.—Везде воры и чиновники. Служащие! Кому они служат? Сатане, что ли? Сатана—тоже чиновник!

Бязьбедаў апраўдвае сябе.

З двайнікамі Самгіна мы сустракаемся ў постацях гімназыйнай моладзі, якая ад нуды заснавала гурток «обнаженцев».

Калішні народаволец Самойлаў (адна з рэдкіх пазытыўных фігур у аповесьці Горкага) просіць Кліма выратаваць свайго вучня, служку Кліма Іванавіча, надзейнага таленавітага хлапца з гэтае багны. Ён выкрывае ў габінэце Самгіна:

> — Можно ли было ожидать, а? Нет, вы скажите: можно ли было ожидать? Вчера—баррикады, а сегодня—пакости, а? А все эти поэты... с козами там... и „хочу быть смелым", как это „хочу одежды с тебя сорвать". Вообще, онанизм и свинство!"

Але Самгін няздатны змагацца з гуртком «обнаженцев». Ён занадта слабы для гэтага і гурток існуе надалей. З той толькі розьніцай, што з яго выбывае, пад уплывам Самойлава і Самгіна, малады сумленны хлапец Міша Локцяў.

Самгін ня можа палюбіць Локцева за яго шчырасьць, таленавітую натуру і галоўнае—упартасьць, асабліва за тое, што праз яго Самойлаў парушыў унутраны спакой Самгіна.

А наўкол Самгіна пануе гістэрычнасьць, падазроны пэсымізм «Тьмы», лунае дзэкі стогн наўкола і шырыцца прапазыцыя Леаніда Андрэева, песьняра рэакцыі, выпіць за тое, каб «загасьлі ўсе агні». Бязьнякай сарамлівасьці, ён прарэзьліва крычыць на ўсю Расію:

— Сорам быць добрым!

Самгіна апаноўвае нуда. Адзінае, што яго ратуе і затрымлівае на правінцыі ад ўцёку замежы—гэта сваясаблівае плятанічнае каханьне да Марыны Зотавай.

Тым часам ён робіць, як сапраўдны індывідуаліст, «восемдзесят тысяч вёрст навокал сябе самога». Ён хоча зрабіцца генадістам, каб мець асалоду шчасьця і дыспутуе пра сябе з другім Самгіным у душы:

„—Ты мог-бы не делать таких глупостей, как эта поездка сюда, ты исполняешь поручения группы людей, которые мечтают о социальной революции. Тебе, вообще, никаких рэволюций не нужно, и ты ли веришь в необходимость революции социальной? Что может быть нелепее, смешнее атеиста, который ходит в церковь и причащается?"

І таму зусім правільна Зотава вызначае Самгіна як рэвалюцыянэра... ад мэлянхоліі. Сапраўдная натура Самгіна—у тым, што ён дружыць з самім сабою і што яго найлепшы сябра—самота.

Выконваючы адвакацкія даручэньні ад таварышоў—рэвалюцыянэраў, ён закрэсьлівае і гэтую самоту.

Марына ўдакладняе сваё вызначэньне і, абагульняючы яго, кажа: «Большасьць інтэлігентаў—гэта тымчасовыя абавязаныя рэвалюцыянэры—да канстытуцыі, да рэспублікі».

Адным словам, сацыяльная практыка Самгіна страпэнна абмежаваная. І аўтар добра робіць, калі ён не пакідае ні на адну хвіліну свайго героя, прымушаючы чытача здагадвацца пра тое, што цяпер робяць бальшавікі і Макараў. Часам усплывае на памяць гэўнае слова Кутузава, і тады Клім думае пра яго.

Адзінае, што прызнае Самгін у жыцьці, гэта тое, што партыя Леніна працуе дзесь у падпольлі, што яна добра ведае, як «клясавая дзяржава рапаруе стары будынак гнілым дрэвам». Клім прызнае, што Ленін адзіны чалавек, якога не спалохала капіталістычна-фэўдальная рэакцыя. Таму часам здаецца, што Самгін належыць да той катэгорыі людзей, якія ўсё любяць да пэўнай мяжы. Гэтыя людзі даюць трошкі прошай і кажуць: «будзь ласкаў... зрабі мне рэвалюцыю... на сорак пяць рублёў».

Самгін гэта сусьветны нявыгойны разумнік, які ўмее зьдзеквацца з уласнай самоты, які не захапляецца ўласнымі, дужа нязначнымі талентамі, уласна талентам маўчаньня ды каньспірацыі. Яго не захапляе і актыўнасьць Судакова, які забівае губэрнатара Русьгораду і ўжо бясспрэчна ня цікавіць рэлігія Зотавай, якая творыцца на заводзе штучных мінэральных вод. Асноўнае Клімава пачуцьцё—гэта нуда.

Перад выездам замяжу ён ходзіць па горадзе і ўспамінае сваё маленства, сваё жыцьцё.

„—Ярмарка там,—напомнил себе Самгин, устало шагая, глядя на свою тень,—она скользила дергалась по разбитой, мягкой дороге, как бы стремясь зарыться в пыли, и легко превращалась в серую фигуру человека, подавленного изумлением и жалкого. Самгин чувствовал себя все хуже. Были в жизни его моменты, когда действительность унижала его, пыталась раздавить, он вспомнил ночь 9-ое января на темных улицах Петербурга

первыя дни Московского восстания, тот вечер, когда избили его и Любашу,— во всех этих случаях он подчинялся страху, который вызывал в нем естественное чувство самосохранения, а сегодня он подавлен тоже, конечно, чувством биологическим, но не только им. Сегодня он тоже испуган, но— чем? Это было непонятно"...

Поўны сумненьняў і ваганьняў Самгін выяжджае замежы. І шматзначна гучыць успамін Самгіна пра пахаваньне Баўмана. Таўстая жанчына спытала тады:

— Каго хаваюць?

— Рэвалюцыю, цётка,—адказалі ёй.

Але рэвалюцыя жыве, працуе і дзейнічае, хоць Самгін ня бачыць і няздатны ўбачыць яе.

Бышўшы ў цэнтры рэвалюцыйных падзей і маючы магчымасьць стаць у шэрагі рэвалюцыянэраў, Самгін сьвядома ўнікае гэтага і думае, што ён робіць разумна.

Мы, савецкія чытачы, ненавідзім Кліма Самгіна. Нашыя камсамольцы ня пойдуць па ягоных сьлядох, бо мярзотны буржуазны інтэлігент выклікае толькі злосьць і гнеў.

І, не зважаючы на гэта, «Жыцьцё Кліма Самгіна»—твор варты нашай эпохі. Таму варты, што Горкі, як аўтар выдатнага твору, паказвае, якім чынам можна ўзбагаціць пралетарскую літаратуру новымі якасьцямі. Ён паказвае, як можна спалучаць высокакаштоўную публіцыстычную дзейнасьць, пісаньне артыкулаў на ўзор «мэханічныя грамадзяне», ды «з кім вы, майстры культуры?» з тварэньнем высокаідэёвых мастацкіх твораў.

Няхай няма ў «Жыцьці Кліма Самгіна» патэтычнага разгону нашага бурлівага часу, Горкі заслугоўвае нашай пашаны і любасьці хоць-бы тым, што ён паказаў, як можна прасякнуць мастацкі твор філёзофіяй рэвалюцыйнага пралетарыяту.

Гэта—узор творчай працы, насычанай глыбокімі ідэямі з клясавай практыкі Кліма Самгіна. Тут варта прыгадаць вядомыя словы Ляфарга пра тое, што «пісьменьнік, які не філёзофствуе, ёсьць рамесьнік».

І вось у «Жыцьці Кліма Самгіна» Горкі паўстае перад намі, як пісьменьнік-філёзаф. Ён адкрыў новую старонку сусьветнай рэвалюцыйнай літаратуры і вучыць нас насьледваць яму, бо гэты твор—ня толькі твор сучаснасьці, але і твор сацыялістычнага заўтра. У будучым гэты твор будзе карыстацца значна большай папулярнасьцю і посьпехам сярод мас, ніж гэта ёсьць цяпер. Значная частка крытыкі ды і чытачоў, як гэта ня сорамна, не дарасла да правільнага разуменьня гэтай вялікай эпапэі.

А наш культурны чытач узрастае штодня, і, бясспрэчна, зразумее, што лепшымі мастацкімі творамі сацыялістычнай літаратуры будуць тыя творы, якія ў пэўнай меры ахопяць дасьведчаньне Аляксея Максімавіча асабліва—дасьведчаньне над тварэньнем эпапэі «Сорак год».

У эпапэі «Сорак год» Горкі карыстаўся дыялектычным мэтадам і паказваў, што бальшавізацыя яго творчасьці ідзе што раз глыбей.

Гэтым творам ён адкінуў прароцтва Пляханава пра тое, што, маўляў, Горкі ня можа стаць пралетарскім пісьменьнікам, пакуль будзе гаварыць мовай мастацкай і ня знацьме мовы лёгікі. Пляханаў мэханічна падзяляў спосабы мастацкага вобразнага мысьленьня і інтэлектуальнага і, як бачым, памыліўся.

У гэтай-жа эпапэі мы маем узор манумэнтальнага спалучэньня лёгічнай і мастацкай мовы. Кожны мастацкі вобраз—ёсьць вынік сацыяльна-клясавай лёгікі, бясспрэчна, Клім Самгін—ёсьць праўобраз тых рамзіных і суханавых, з якімі меў справу вярхоўны суд у 1930—31 г. Праца Горкага апошніх год даводзіць, на якую творчую вышыню можа падняцца палітычна-сьвядомы пісьменьнік. Разумеючы складанасьць творчага працэсу, ён упарта высоўвае ідэёвую насычанасьць на першы плян.

Эпапэю «Жыцьцё Кліма Самгіна» можна разглядаць з шмат якіх бакоў, бо яна згуртоўвае ў сабе ўсё, чым жыла, чым хвалявалася, пра што думала рэвалюцыйная дробна-буржуазная інтэлігенцыя ад 80 гадоў да 1930 г. Марксысцкая крытыка ў будучым шмат яшчэ будзе пісаць пра гэты твор, і тым, хто пакуль што адмахваецца ад яго, кажучы, што яго цяжка чытаць, што ён незразумелы для мас, варта зьмяніць свой погляд і, уважна прачытаўшы яго, засвоіць дасьведчаньне Горкага. Гэтая эпапэя—ня музэй васковых манэкенаў, а само жыцьцё, якое цячэ, зьмяняючы свае формы.

Гэты твор дапамагае на сёнешні дзень пралетарыяту Савецкага Саюзу і асабліва пралетарыяту капіталістычных краін. За межамі «Клімаў Самгіных» яшчэ дужа багата. І вось таму твор «Жыцьцё Кліма Самгіна» мае значэньне для ўсёй сусьветнай пралетарскай літаратуры і для мільёнаў рэвалюцыйных чытачоў, паколькі ён зрывае маску з вонкава-рэвалюцыйных буржуазных інтэлігентаў. Мы з вялікай цікавасьцю будзем чакаць далейшых томаў, дзе Горкі пакажа яшчэ паўней рэвалюцыйную і псэўда-рэвалюцыйную інтэлігенцыю, дзе ён далей будзе дэмаскаваць Самгіна і дзе пакажа, куды прыдуць нарэшце Маракуевы, Прэйсы, Зотава і г. д.

Бясспрэчна, работа бальшавіцкай партыі і бальшавіцкай інтэлігенцыі (у асобе Кутузава, Каліціна) знойдзе адпаведнае асьвятленьне ў наступных томах твору.

## ПА РЭСПУБЛІКАХ САЮЗУ

### СЯМІДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗЕ А. С. СЕРАФІМОВІЧА

У студзені месяцы пралетарскаму пісьменьніку Серафімовічу споўнілася 70 год.

А. С. Серафімовіч нарадзіўся ў станіцы Ніжня-Курмоярскай (калішняя вобласьць Войска Данскога) у рэакцыйнай казацкай сям'і, якая рыхтавала з яго вернага самаўладзтву служаку. Але ўжо ў 1887 годзе за напісаньне праклямацыі з прычыны замаху на цара Аляксандра III Серафімовіч, тады яшчэ студэнт апошняга курсу Пецярбурскага унівэрсытэту, быў высланы ў Архангельскую губэрню.

Высылка ў значнай меры вызначыла яго далейшы пісьменьніцкі шлях. Ужо ў Пінегах (месца высылкі) ён напісаў некалькі апавяданьняў, у якіх маляваў эксплёатацыю паморцаў, прымушаных за капеечны заробак працаваць без адхланьня і рызыкаваць жыцьцём.

Апавяданьні Серафімовіча пра рэвалюцыю 1905 г. паказваюць трагедыю мас пад уціскам паліцэйшчыны. У сваіх апавяданьнях «Живая тюрьма», «Сойка с крестами», «Оцененная голова» і інш. пісьменьнік даў галерэю рэвалюцыянэраў-падпольнікаў.

У час сусьветнай вайны Серафімовіч даў рад першаклясных батальных твораў, у якіх вайна малюецца як вар'яцкая разаніна.

Пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі, будучы ўжо ў шэрагах камуністычнай партыі, Серафімовіч паехаў карэспандэнтам ад «Правды» на фронт грамадзянскай вайны. Тут ён дапамагае пяром пісьменьніка арганізаваць перамогу. Так быў напісаны «Железный поток», які ёсьць у перакладзе і на беларускую мову. У гэтым творы з надзвычайна вялікай мастацкасьцю паказана героіка грамадзянскай вайны.

Сямідзесяцігодзьдзе Серафімовіча было адзначана ва ўсіх рэспубліках Савецкага Саюзу цэлым шэрагам урачыстых вечароў. Саюз Савецкіх Пісьменьнікаў БССР сумесна з Акадэміяй Навук і Менскім Гарпрафсаветам наладзіў вечар, прысьвечаны Серафімовічу, 29-га студзеня ў клюбе харчавікоў. На вечары з вялікім і падрабязным дакладам пра творчасьць Серафімовіча выступіў акадэмік І. І. Замоцін.

### ТРЫ МАСТАЦКІЯ ВЫСТАЎКІ

Нашы дасягненьні за 15 год на фронце мастацтва былі адзначаны цэлым шэрагам мастацкіх выставак.

У БССР была наладжана V Усебеларуская Выстаўка выяўленчага мастацтва, прысьвечаная XV гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі. Ужо

сам той факт, што за такі параўнальна кароткі час свайго існаваньня Савецкая Беларусь, якая раней амаль зусім ня мела сваіх мастакоў, здолела наладзіць пяць мастацкіх выставак, ужо сам гэты факт як найлепш сьцьвярджае, што эпоха сацыялізму зьяўляецца эпохай найбольшага росту нацыянальных культур—сацыялістычных зьместам і нацыянальных формай.

Пры першым поглядзе на мастацкую прадукцыю, прадстаўленую на V Усебеларускай выстаўцы, заўважаецца надзвычайна вялікі крок наперад у параўнаньні з папярэднімі выстаўкамі. Гэты крок характарызуецца і колькасным ростам мастацкіх сіл і якасным ростам мастацкай прадукцыі. На гэтай выстаўцы мы бачым шэраг імён, афармленых у пэўныя арыгінальныя мастацкія адзінкі. У гэтых дачыненьнях вылучаюцца Ахрэмчык, Пашкевіч, Семашкевіч, Бразэр, Грубэ, Азгур, Аксельрод і цэлы шэраг інш.

Вялікую ўвагу прыцягвае да сябе эскіз «2-гі зьезд РСДРП» мастака Ахрэмчыка. Таварыш Ахрэмчык разгортвае надзвычайна глыбокі гістарычны сюжэт, поўны вялікага напружаньня і багаты сацыяльнымі вобразамі. Складаны і цікавы паводле свайго замыслу і выкананьню эскіз паказвае нам тав. Ахрэмчыка, як здольнага мастака і спрактыкаванага майстра.

З работ мастака Пашкевіча вылучаецца карціна «Партызаны» і «На варце». Карціна «Партызаны» захапляе драматычнай сытуацыяй і яркімі характарамі. Трэба сказаць, што мастак умее досыць тонка ахарактарызаваць чалавека. Закругленасьць ліній рысунку, уласьцівая наогул для Пашкевічавага стылю, асабліва ярка выступае ў рысунках твараў, і гэтае пры досыць удалай кампаноўцы сьвятла і ценяў надае надзвычайна выпуклую, рэльефную выразнасьць людзкім абліччам. Работы Пашкевіча яркія, але ня ў сэнсе крыклівасьці фарбы, а ў сэнсе, калі можна так сказаць, яе густаты. Мастак накладвае фарбы мазаікай. У гэтым дачыненьні ён ідзе крыху ад Врубэля.

Мастак Семашкевіч—бязумоўна, і таленавіты і пладавіты. Ня так даўно ён ладзіў сваю ўласную выстаўку, а на гэтай таксама паказаў цэлы шэраг новых карцін. Трэба сказаць, што пры ўсіх уплывах тав. Семашкевіч мае ўсё-ж-такі сваю арыгінальную палітру. Цікавая тэматыка тав. Семашкевіча цярпіць часамі ад нядбайнай яе распрацоўкі мастаком. Вылучаецца карціна «Электраправодка». У гэтай карціне мастак здолеў даць дынаміку работы, шмат цяплыні і сьвятла. Наогул карціны тав. Семашкевіча ўражаюць сваёю пачуцьцёвасьцю, асабліва карціны пра Заходнюю Беларусь.

Надзвычайна цікавая работа мастака Грубэ—«Кастрычнік», работа тонкая і высока-мастацкая.

На выстаўцы былі паказаны работы мастакоў-самавучак, а таксама ўдарнікаў, заклікаmen на фронт выяўленчага мастацтва. Можна назваць імёны Шакевіча, Лапкоўскага, Зальцмана і інш.

З работ скульптурных вылучаецца бюст пісьменьніка Кузьмы Чорнага, зроблены Азгурам, і пісьменьніка Бэргельсона, зроблены скульптарам Бразэрам.

Трэба канстатаваць як надзвычайна дадатную зьяву рашучы паварот работнікаў выяўленчага мастацтва БССР да тэматыкі нашае сучаснасьці, вялікі ідэйны і творчы рост цэлага шэрагу мастакоў.

Мастакі РСФСР адзначылі свае дасягненьні выстаўкаю «Художники РСФСР за пятнадцать лет», наладжанаю ў Ленінградзе. Выстаўка займае вялізарную плошчу Рускага музэю—усяго 35 заль. Усіх экспанатаў каля двух тысяч. На выстаўцы прадстаўлены жывапісь, скульптура і графіка. Большасьць майстроў прадстаўлена досыць поўна. Сем мастакоў маюць асобныя пакоі, у якіх разьмешчаны пэрсанальныя выстаўкі—з іх дзьве пасьмяротныя: Галавіна і Кустадзіева. На выстаўцы дэманструюцца работы мастакоў, што выраслі і пачалі сваю працу ўжо пры савецкай уладзе. Гэта параўнальна больш маладое пакаленьне, якое расло, як мастакі, аднача сна з ростам сацыялізму ў нашай краіне.

Першая заля выстаўкі прысьвечана У. І. Леніну. Тут вісяць партрэты Леніна, работы розных мастакоў і разьмешчаны карціны, што адлюстроўваюць першыя крокі сацыялістычнага будаўніцтва. Далей ідуць залі, прысьвечаныя групіроўкам пэрыяду разгорнутага сацыялістычнага наступу. Глядач бачыць паступовую эвалюцыю груп мастакоў, што вядуць пачатак ад крайніх «левых» кірункаў эпохі ваеннага камунізму. Пасьля гэтага разьмешчаны залі, у якіх паказаны пераходныя стадыі ад дарэвалюцыйнага «мира искусства» да савецкай групіроўкі «Четыре искусства». Ідучы далей, глядач пападае ў залі, дзе паказаны карціны, што сыгралі рашальную ролю ў ажыцьцяўленьні лёзунгу, высунутага АХРР. У апошняй залі сабраны ўзоры апошніх дасягненьняў на тэму: «Індустрыялізацыя СССР», Днепрабуд, Магнітагорск і г. д.

На прыкладзе творчага шляху выдатных майстроў выяўленчага мастацтва, як у люстры адбіваюцца шляхі савецкай творчай інтэлігенцыі за пятнаццаць год: ад няпрызнаньня да апалітычнасьці, ад спачуваньня да актыўнага ўключэньня ў будаўніцтва сацыялізму. Ня голыя словы, не дэкларацыі, а творчыя дакумэнты, створаныя натхненьнем мастакоў, гавораць і пераканальна дэманструюць дачыненьні мастацкай інтэлігенцыі да будаўніцтва сацыялізму.

На Украіне была адкрыта таксама V Усеукраінская выстаўка выяўленчага мастацтва. На выстаўцы было прадстаўлена каля двух сот палоцен выдатных украінскіх мастакоў.

Характэрнаю адзнакаю гэтых работ зьяўляецца глыбіня тэматычнага ахапленьня; лейтматыў гэтых работ—сацыялістычнае будаўніцтва ў разнастайнасьці яго праяўленьня: ад індустрыялізацыі краіны да сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, ад мірнай працы да Чырвонай арміі на варце савецкіх меж. Дасягненьні сацыялістычнага будаўніцтва ў савецкай краіне падкрэсьліваюцца паказам крызісу за межамі. На выстаўцы прыцягваюць увагу карціны з рабочага побыту Данбасу Анатоля Пятрыцкага, сэрыя рысункаў на тэму сацыялістычнай перабудовы вёскі Івана Падалкі, калектывізацыя ў жывапісі Ляўка Крамарэнкі. Тэмы героікі сацыялістычнага будаў-

ніцтва распрацаваны ў Ю. Садыленкі і Зьмітра Шавыкіна. Васіль Сэдляр выставіў карціну «Дніпрэльстан», Шэхтман—«Стары местачковы і новы калгасны побыт яўрэяў», а Федар Крычэўскі—карціну на гістарычную тэму «Доўбуш». Заслугоўваюць увагі некалькі карцін Гардынскага (Заходняя Украіна, Львоў).

Скульптура прадстаўлена на выстаўцы трыма дзесяткамі закончаных твораў, выкананых пераважна ў цьвёрдым матар'яле. Адно з першых месц займае харкаўская група скульптараў у складзе: Л. Дарагана, І. Лявіцкага, М. Лысэнкі, Д. Страляева, таксама як і шчарбінаўская брыгада (Б. Кротка, З. Дзіндо, П. Ульянаў, Грыншпун).

Графіка прадстаўлена шэрагам (каля 70-ці) гравюр і каляровых рысункаў. Б. Бланк і М. Фрадкін выставілі сэрыі: «Яўрэі на зямлі» і «Рэлігія ў клясавым змаганьні». Софія Налятінская—Байчук падала «Сацыялістычнае сяло», О. Сахноўская—«Жанчына ў рэвалюцыйным змаганьні», Аляксандар Даўгаль паказаў сэрыю рысункаў.

Надзвычайна цікавы аддзел мастацкай керамікі, прадстаўлены такімі украінскімі майстрамі, як Бідасюк, Іваненка, Лапацінская, Мэгіт і інш.

V Усеукраінская мастацкая выстаўка робіць уражаньне магутнай дэманстрацыі дасягненьняў украінскай пралетарскай культуры.

Усе тры мастацкія выстаўкі, прысьвечаныя XV гадавіне Кастрычнікавай рэвалюцыі, надзвычайна выразна адлюстроўваюць у сваіх работах нашы вялізарныя дасягненьні наогул, а фактам сваім—нашы вялізарныя дасягненьні на фронце выяўленчага мастацтва, асабліва на фронце выяўленчага мастацтва БССР і Украіны, дзе да рэвалюцыі гэтае мастацтва было разьвіта вельмі слаба.

## ХАРКАЎСКІ ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЭЙ

У Харкаве ўрачыста адчынен Усеукраінскі Літаратурны Музэй і Шаўчэнская Карцінная Галерэя. Перад арганізацыяй музэю праводзілася сыстэматычнае зьбіраньне матар'ялу і шэраг выставак (1929, 1931 і 1932 г.). Інстытут імя Т. Г. Шаўчэнкі, пры якім адчынен музэй і галерэя, набыў нямала музэйных калекцый і паасобных твораў. З музэяў РСФСР атрымана каштоўная калекцыя Шаўчэнкавых карцін. Апрача таго, атрымана багата каштоўных экспанатаў з музэяў Палтавы, Міргараду і інш. месц.

Літаратурны Музэй разьмешчаны ў 9-ці залях і габінэтах. У першай залі згуртаваны матар'ялы па мэтадалёгічных пытаньнях і пытаньнях сувязі літаратуры з разьвіцьцём грамадзкага жыцьця. У далейшых двух залях экспанаваны матар'ялы пра разьвіцьцё украінскай літаратуры за пятнаццаць год Кастрычніка і ад часоў Катляроўскага да Кастрычнікаўскай рэвалюцыі. Асобнае мейсца ў гэтых залях адведзена для матар'ялаў, што паказваюць рух заклiку ўдарнікаў у літаратуру. У невялічкім габінэце згуртаваны матар'ялы па нацыянальнай палітыцы партыі і савецкай улады, а далей у асоб-

най залі паказана разьвіцьцё літаратуры нацыянальных меншасьцяй Украіны: малдаўскай, яўрэйскай, польскай, расійскай, нямецкай, грэцкай, балгарскай, татарскай і інш.

У асобным габінэце паказаны інтэрнацыянальны абмен найлепшымі літаратурнымі творамі. У вялізнай залі паказана творчасьць больш ста савецкіх пісьменьнікаў Украіны. Апрача таго, ёсьць вялікая галерэя партрэтаў і бюстаў пісьменьнікаў Украіны работы мастакоў Анатоля Пятрыцкага, Глушчанкі і інш.

Літаратурны Музэй Шаўчэнкаўскага інстытуту ёсьць першая спроба паказаць літаратурны працэс музэйным спосабам.

Галерэю Шаўчэнкаўскіх карцін разьмясьцілі ў двух залях і шырокім, зручным для экспазыцыі, калідоры, дзе паказана шэраг самых разнастайных партрэтаў Шаўчэнкі. Тут таксама паказана некальківі праэктаў помніка Шаўчэнку ў Харкаве, якія былі прэміяваны конкурснай камісіяй.

У першай з двух заль высьвятляюцца сацыяльна-эканамічныя ўзаемадачыненьні ў часы Шаўчэнкі і разьвіцьцё палітычнай і мастацкай дзейнасьці паэты. Тут ёсьць партрэт паэты Жукоўскага работы мастака Брулова. За здабытыя грошы ад прадажы гэтага партрэту была куплена Шаўчэнку воля. У гэтай залі ёсьць таксама частка твораў Шаўчэнкі і яго бюст работы скульптара Івана Сэвэры. Рэшта твораў карцін Шаўчэнкі паказана ў другой залі, дзе ёсьць таксама набыты нядаўна за кошт харкаўскага гарсавету бюст Шаўчэнкі работы акадэміка Б. Неклямішава. Галерэя зьяўляецца найбольшым зборам карцін Шаўчэнкі. Мастацкае афармленьне літаратурнага музэю рабіў мастак Васіль Ярмілаў, а карціннай галерэі— прафэсар Мікола Бурачок.

## ДВАЦЦАТЫЯ ЎГОДКІ КЛЯСЫКА УКРАІНСКАЙ МУЗЫКІ

Нядаўна споўнілася дваццаць год з дня сьмерці Міколы Лысэнкі, вялікага ўкраінскага кампазытара, заснавальніка ўкраінскай нацыянальнай музычнай школы. У гісторыі разьвіцьця ўкраінскай музычнай культуры дакастрычнікавага пэрыяду Лысэнка займае значнае месца. Творчая дзейнасьць Міколы Лысэнкі надзвычайна шматвобразная. У яго асобе злучаўся кампазытар, дырыжэр, пэдагог, піяністы, вучоны, грамадзкі дзеяч.

Вялікадзяржаўная палітыка царскага ўраду была скіравана на зьнішчэньне ўкраінскай культуры. Творчасьць украінскіх мастакоў была ўвесь час пад жорсткім прасьледваньнем. Імпэратарскае расійскае таварыства ігнаравала Лысэнку, замоўчвала яго ў сваім друку, рабіла перашкоды яго канцэртнай і пэдагагічнай дзейнасьці. Кіеўская паліцыя глядзела на яго, як на палітычна неблаганадзейнага «мазэпаўца». Але перадавікі расійскай музычнай грамадзкасьці (Чайкоўскі, Рымскі-Корсакаў і інш.) высока цанілі творчасьць кампазытара. Украінская-ж інтэлігенцыя ўсіх палітычных кірункаў прызнавала яго за нацыянальнага генія.

Дзейнасьць Міколы Лысэнкі прыпадае на другую палавіну XIX і пачатак XX стагодзьдзя, гэта значыць, на час капіталістычнага разьвіцьця Украіны, як калёніі расійскага канцэсыйнага капіталу.

Творчы шлях Лысэнкі цесна зьвязан з тымі шляхамі, якімі ішла ўкраінская нацыянальная буржуазія і дробна-буржуазная інтэлігенцыя. Лысэнка яшчэ ў гады студэнцтва становіцца ў шэрагі ўкраінафільскіх студэнцкіх гурткоў.

Пасьля звароту з лейпцыгскай кансэрваторыі, дзе Лысэнка вывучаў курс кампазыцыі фартап'яна ў праф. Рэйнэке і Рыхтэра, ён стаў актыўным супрацоўнікам «Старой Грамады» (орган групы ўкраінафільскай інтэлігенцыі, зьвязанай з аграрнаю і прамысловаю буржуазіяй).

Тут, працуючы поруч з Міхайлам Драгаманавым, Уладзімерам Антановічам і інш., ён пачынае вывучаць украінскі песенны фальклёр. Асаблівую ўвагу Лысэнка аддае песьням чумацкім, песьням рамесьнікаў, песьням паўстанцаў, г. з. тым песьням, што выражалі рэвалюцыйныя тэндэнцыі розных пластоў фэўдальнага грамадзтва. Ён намагаецца стварыць на грунце фальклёрнага матар'ялу вялікія опэрныя формы.

Росквіт творчасьці Лысэнкі прыпадае на апошняе дзесяцігодзьдзе XIX веку і пачатак 900-х гадоў, калі ўкраінская інтэлігенцыя пад уплывам нарастаньня рабочага руху дзеліцца на групіроўкі—з аднаго боку дробна-буржуазныя і сацыялістычныя, а з другога—рэакцыйныя. Лысенка застаецца на пазыцыях сярэдзіны. На гэты час прыпадае найбольшы твор Лысэнкі—опэра «Тарас Бульба», у якой ён ідэалізуе Запарожскую сеч і запарожскае казацтва ў духу нацыянальна-буржуазнай рамантыкі.

«Тарас Бульба»—манумэнтальны твор пабудованы на ўкраінскім песенным матар'яле. На гэты-ж пэрыяд прыпадае масава-агітацыйная работа Лысэнкі.

Рэвалюцыю 1905 году Лысэнка вітае песьняю «Вечны рэвалюцыянэр». Яна ўвайшла ў савецкі рэпэртуар як адна з лепшых рэвалюцыйных песянь мінулага. Пасьля рэвалюцыі 1905 году Лысэнка падзяляе лёс той часткі ўкраінскай буржуазнай інтэлігенцыі, што зьняверыўшыся ў рэвалюцыі, не пайшла за пралетарыятам. Ён паступова адыходзіць ад актыўнай грамадзкай дзейнасьці. Зьмяняецца і тэматыка кампазытара. Ён піша опэры «Энэіда», «Сафо», «Ноктурн».

Творчая спадчына Міколы Лысэнкі дужа вялікая—адзінаццаць опэр і опэрэт, дваццаць апрацовак народных песен для хору. дзьвесьце сорак—для солё-сьпеву.

З вялікаю ахвотаю Лысэнка пісаў музыку на словы Шаўчэнкі. Шэраг рамансаў напісаны ім на словы Гайнрыха Гайнэ, Лэсі Украінкі, Івана Франка і інш.

У першы пэрыяд творчасьць Лысэнкі па ідэйна-мастацкім узроўні надзвычайна высокая. У апошні пэрыяд яго творчасьць становіцца

менш самастойнаю, на яго творах заўважаецца вялікі ўплыў Шапэна і Ліста.

Опэры Лысэнкі ідуць на сцэнах усіх украінскіх тэатраў, а ў мінулым сэзоне яго «Тараса Бульбу» паставіла грузінская дзяржаўная опэра ў Тыфлісе. Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны распачало выданьне поўнага збору твораў Лысэнкі.

## ЗАДАЧЫ САВЕЦКАЙ КІНОМАТАГРАФІІ

Вытворча-тэхнічная база кіноматаграфіі пачала разьвівацца прыблізна з 1922-23 году. За восем год савецкая кінопрамысловасьць ня толькі выйшла з стану пэрыяду саматужніцтва, але ўжо мае цэлы шэраг новых вялікіх фабрык, пабудованых па апошняму слову тэхнікі (Кінофабрыка ў Маскве, украінскі «Голівуд» у Кіеве, у Грузіі, пабудова кінокамбінату ў нас у БССР). Калі ў 1923 годзе савецкія арганізацыі здолелі выпусьціць дзесяць-дванаццаць мастацкіх фільмаў, дык за мінулы год выпушчана ўжо 110, а з поўнаю нагрузкаю савецкія кінофабрыкі здолеюць даць 250—300 поўнамэтражных карцін. Створаны новыя фабрыкі кіноапаратуры, а за апошнія два гады з значным посьпехам ідзе змаганьне за стварэньне ўласнай сырцовай базы: прадукцыі кіноплясьцінкі.

Маем вялікі рост кіносеткі. За апошнія пяць год колькасьць стацыянарак і перасовак таксама ўзрасла з 7-мі тысяч да 30-ці тысяч, гэта значыць больш, як у чатыры разы, а прапускная здольнасьць усіх кінотэатраў СССР каля мільярду наведваньняў за год.

Гукавое кіно мае таксама значныя посьпехі.

Мастацка-ідэалёгічная якасьць прадукцыі кіно ня толькі залежыць ад стану тэхнікі, але і ад творчых кадраў, ад сацыяльна-палітычных і эканамічных працэсаў, што адбываюцца ў краіне. Кастрычнікавая рэвалюцыя, якая зруйнавала капіталізм, як сыстэму, натуральна, не магла з такою-ж хуткасьцю вырваць карэньні і спадчыну капіталізму ў сьвядомасьці людзей. Зразумела, што перабудова старых кінокадраў, прасякнутых дробна-буржуазнымі настроямі і традыцыямі, і выхаваньне новых кадраў—доўга-трывалы працэс.

Толькі з 25-26 году маем паступовы сур'ёзны ўзрост творчых кадраў кіно, пачынаюцца спробы засваеньня і паказу сучаснай савецкай рэчаіснасьці.

Тут вялікую ролю адыграла партыйная нарада (сакавік 1925 году) па кіно, што ня толькі выкрыла асноўныя ідэйна-палітычныя недахопы кіно, але і намеціла канкрэтныя задачы на бліжэйшы час: сацыялістычная рэканструкцыя савецкай кіноматаграфіі, ператварэньне кіно ў зброю камуністычнай асьветы і арганізацыі мас навокал лёзунгаў і задач партыі, на зброю культурнага адпачынку і забавы.

Вырашэньне гэтых задач вымагае грунтоўнай перабудовы ўсяе сыстэмы кіноматаграфіі ідэйна-палітычнай пераробкі творчых кадраў і перш за ўсё грунтоўнай зьмены ў мэтах мастацка-ідэалёгічнага кіраўніцтва кіно.

## ЗА МЕЖАМІ

### СУЧАСНАЯ ІТАЛЬЯНСКАЯ ПРОЗА

У той час калі ўсе эўрапейскія краіны маюць больш-менш выдатных прадстаўнікоў сялянскага і пралетарскага раману, у Італіі, дзяржаве, што ўступіла ў адзінаццатую гадавіну фашызму, спачувальныя адносіны да становішча прыгнечанай клясы могуць наклікаць непасрэднае прасьледваньне. Праз гэты жорсткі ражым чорнасарочнікаў італьянская літаратура адарвана ад жыцьця, салённасьць, насычанасьць прыгожымі апісаньнямі—вось зьмест сучаснай італьянскай літаратуры.

У Італіі супроцьлежна Францыі літаратурных школ ніколі ня было—вялікія імёны знамянуюць этапы разьвіцьця. Тое-ж самае маем і цяпер, не ўважаючы на наяўнасьць паасобных літаратурных груп. Характэрную адсутнасьць цікавасьці да італьянскай літаратуры адзначаюць ня толькі за кардонам; так, К. Говоні, каб прыпыніць перакладніцкую «інфляцыю» і ўпарадкаваць пытаньне, зьвязанае з літаратураю, прапануе стварыць адзіную фашыстоўскую асацыяцыю пісьменьнікаў. Праўда, выдатныя італьянскія пісьменьнікі, якія карыстаюцца эўрапейскаю славаю, працягваюць старую традыцыю але яны бясплённы, або «перакваліфікаваліся», як напрыклад, Луджы Пірандэло і Габрыэль д'Анунцыо. За апошнія гады не зьявілася выдатных фігур за выключэньнем Франчэска Пэры.

Францэско Пэры—аўтар раману «Эмігранты» (Francesko Perri—d'Emigrant). Гэты твор можна прызнаць за вельмі таленавітую спробу стварыць сацыяльны раман. Вельмі ўдала выбрана мейсца дзеі—Калабрыя, краіна нязвычайных багатых мажлівасьцяй і суцэльнага зьбядненьня сялянства. Аўтар, не шкадуючы фарб, падаў нявольніцкую працу калабрыйцаў, няўдалую спробу неарганізованага захапленьня зямлі, што падрыхтавала мясцовая інтэлігенцыя. Працэсія. Яна наладжана ўрачыста: усё сяло бярэ ўдзел. Захапленьне зямлі ператвараецца ў звычайнае рабаўніцтва, якое спыняюць карабінэры, пакліканыя памешчыкамі; сяляне ня шукаюць тых, што прывялі да няўдачы, хоць яны і не ўцяклі, а жывуць сабе далей у вёсцы: арышты не абураюць насельніцтва, толькі пераконваюць у тым, што трэба эміграваць; цаною разлукі з жонкамі і дзецьмі ўдзельнікі няўдалага паўстаньня прагнуць палепшыць сваё становішча. Жыцьцё эміграцыі пададзена ня так ужо яскрава і сацыяльна загострана.

Апрача праблемы зямельнага нявольніцтва Франчэска Пэры закранае і праблему рэлігіі; яму зноў шэнціць даць надзвычайна цікавы малюнак царкоўнага сьвята ў кляштары, сьляпую веру сялян, дабрабыт і фальш манахаў, надзею на дапамогу неба, сумную рэчаіснасьць нявыгойнасьці хворых. Але пастаўленыя Францэска Пэры праблемы не знаходзяць належнага вырашэньня. Аўтар ня здолеў зрабіць выснову, што для вызваленьня з няволі сялянства трэба зьнішчыць існуючы дзяржаўны лад і клясавыя супярэчнасьці. Спакойная пакора долі і дзяржаўнай уладзе—вось асноўнае ўражаньне ад раману. І ўсёж-такі італьянская крытыка, што спачатку сустрэла раман прыхільна, потым стала абвінавачваць аўтара ў правінцыялізьме і фрагментарызьме. Гэта пасьля таго, як раман быў прэміяваны (прысуджана прэмія прозы Акадэміі Мондадоры) і вытрымаў адразу некалькі выданьняў за першы-ж год.

Гэтыя асаблівасьці раману Францэска Пэры «Эмігрант» яшчэ яскравей і выгадней выглядаюць, калі параўняць яго з раманам Грацыі Дэледа «Аналена Більзыні» (Grazia Deledda-Annalena Bils n), дзе цяжкае эканамічнае становішча сардэнскіх сялян тлумачыцца пераходам зямлі ад сэньёраў да буржуазіі.

Большае разьвіцьцё атрымаў у Італіі правінцыяльны раман, у якім выкарыстоўваецца пабытовы матар'ял пэўнай краіны, вобласьці, нават мястэчка; цэлы шэраг пісьменьнікаў: Грацыя Дэледа-Сардэнія, Матыльда Сэрао-Напалі, Габрыэль д'Анунцыо-Абруцы, Франчэска Квэза—Паўночная Лёмбардыя—пішуць таксама такога-ж гатунку раманы. Найвыдатнейшы з гэтых раманаў—«Старыя і маладыя» Грацыі Дэледа, дзе бяз сацыяльнай загостранасьці пададзена прыгожае палатно з жыцьця пастухоў Сардэніі. Аўтар валодае вялікім дасьведчаньнем у сэнсе падбору фарб, дасканала ведае сваю бацькаўшчыну і гэта дае яму мажлівасьць падаваць чытачу прыгожыя ўрыўкі гэтага хімернай і дзікай сярэдня-морскай выспы. Нажаль жыцьцё і побыт сардэнцаў мае ў асобе Грацыі Дэледы толькі таленавітага мастака, а між тым Сардэнія ня менш ад Калабрыі і Сыцыліі дае матар'ялаў для крытычнай ацэнкі становішча сялянства.

За правінцыяльнымі раманамі, у сэнсе ўдзельнай вагі ў сучаснай італьянскай літаратуры, ідуць раманы падарожжаў і альпіністыкі, колькасьць якіх значна ўзрастае штогод.

З вялікай колькасьці твораў гэтага гатунку заслугоўваюць увагі раманы: М. Фіумі пра Гішпанію—«Чарадзейка» (M. Fiumi-L'Encantadora, visioni di* spagna Fireuze Beuporad). Л. Фіумі—«Падарожжа ў Галяндыю» (L. Fiumi—Un Olande fre duorasi ritarno via Bruges) Але ў гэтых раманах можна знайсьці толькі прыгожыя апісаньні, цікавы сюжэт—і ўсё.

Дзесяткі назваў штомесячна выпускаюць у сьвет італьянскія выдавецтвы: раманы даўно вядомых у Эўропе пісьменьнікаў і маладых, што ўпяршыню ўзяліся за пяро, з інтрыгуючымі назвамі. Але тэматыка ўсё тая-ж. Нават вайсковы раман, што атрымаў такое шырокае распаўсюджаньне ў Францыі і Нямеччыне, у Італіі вельмі незначны.

Сярод патоку раманаў, прыцягваюць увагу раманы: Масымо Бонтэмпэлі—«Сын двух матак» (Masimo Bontempelli—jl fagio die due madre. Roma. Sopienza)., у якім аўтару ўдалося зацікавіць чытача як нязвычайнасьцю сюжэту, так і «канцом» без канца; і Франчэска Томбары "Tu ta Frusaglia „(Francesko Tumbari—Tu ta Frusaglia. Tirenze Vallechi). Апошні—малады пісьменьнік—палоніць чытача цудоўнаю моваю і таленавітасьцю апавяданьня.

Апрача пісьменьнікаў, пра якіх вышэй згадалі, у Італіі ёсьць яшчэ і іншыя кадры пісьменьнікаў. Гэта таленавітыя пісьменьнікі, што сваю долю і творчасьць зьвязалі з доляю і клясавым змаганьнем рэвалюцыйнага пралетарыяту краіны. Частка з іх жыве ў Італіі, гартуецца ў клясавых бойках і з прычыны сучаснага сацыяльнага ладу вымушана маўчаць, але пры першай мажлівасьці гатова стаць да шырокай актыўнай пісьменьніцкай работы; і другая частка вымушана жыць і працаваць за межамі Італіі; сярод апошніх маем такіх пісьменьнікаў, як А. Кароты, Джованьні Джэрманэто і інш. «Алавяная шапка», «На сонечнай высьце»—А. Кароты, «Запіскі цырульніка»—Джованьні Джэрманэто, што выйшлі ў СССР, пакуль што ня могуць быць выдадзены ў Італіі, але недалёк той час, калі італьянцам стануць даступны творы іх аўтараў, што цяпер жывуць за кардонам.

## КРЫЗІС ТЭАТРАЎ У НЯМЕЧЧЫНЕ

Першая вялікая хваля культурнага заняпаду прайшла ў Нямеччыне ў мінулую восень. Цяпер за ею пачалася другая. У Гамбургу вымушаны быў зачыніцца вядомы тэатр Карла Шульца, што існаваў з 1860 г. Тэатры Рэйнскай вобласьці з вялікімі цяжкасьцямі змагаюцца за існаваньне. Міністр фінансаў Турынгіі папярэдзіў, што ўсе тэатры і аркестры давядзецца зачыніць у зьвязку з нарастаньнем дэфіцытнасьці дзяржаўнага бюджэту. У Бэрліне зачынен бэрлінскі сымфанічны аркестр, што існаваў дваццаць пяць год. Бэрлінскі муніцыпалітэт заявіў, што ён ня мае сродкаў утрымліваць больш, як адзін аркестр і таму застаецца толькі аркестр філармоніі. Нават тады, калі частка музык сымфанічнага аркестру будзе прынята ў філармонію, дык і то значная колькасьць музык высокай кваліфікацыі застанецца без заробку. Разам з гэтым трэба адзначыць, што бэрлінскія тэатры маюць думку зусім адмовіцца ад аркестраў і замяніць іх рэпрадукцыйнаю апаратураю гукавога кіно. Пачатак гэтага ўжо ёсьць «Новы мастацкі тэатр» (у заможнай заходняй часьціне Бэрліну), які суправодзіць пастаноўку «Фауста» грамафоннымі пласьцінкамі.

У краінах завостранага крызісу усё больш укараняецца звычай здаваць тэатры ў арэнду амаль не з таргоў. Дырэктары тэатраў і рэжысэры, вядомыя ў галіне мастацтва, паступова мусяць устапаць мейсца «дзялком», што зацікаўлены адно толькі ў прыбытках, таму, што сур'ёзны тэатр даўно стаў у Нямеччыне дэфіцытным прадпрыемствам, і тэатры ператвараюцца ў руках арандатараў ва ўстановы,

мэта якіх толькі забаўляць публіку. Арандаваныя такім чынам тэатры пераходзяць з рук у рукі нібы рэстараны. Але хваля зруйнаваньня і занападу дакацілася нарэшце да вядомага на цэлым сьвеце дзеяча Макса Райнгарта, што пачаў сваю кар'еру гадоў трыццаць пяць таму і стварыў у Бэрліне мастацкую традыцыю. Райнгарт вырашыў спыніць антрэпрызу ва ўсіх бэрлінскіх тэатрах. «Камэрны тэатр», калісьці ўлюбёны тэатр Райнгарта зусім не працаваў. У студзені Райнгарт спыніў антрэпрызу ў тэатрах «Комэдыя», «Курфюрстэндам» і «Гросшчаушпільгаўс», якія здадзены ў арэнду пад Рэўю. На сяганьня Райнгарт спыніў антрэпрызу ў найбольшым з сваіх тэатраў «Нямецкім тэатры». Наведаць гэты тэатр намагаўся кожны, хто быў у Бэрліне хоць праездам. Райнгарт так запазычыўся, што ня здолеў плаціць высокую арэндную плату, якую запрапанаваў яму антрапрэнэр Бэр, што і змусіла яго зрабіць ліквідацыю тэатраў, не зважаючы на пратэст нямецкай грамадзкасьці.

Катастрафічны занепад тэатральнай справы мае для актораў найцяжэйшыя вынікі. Становішча нямецкага актора надзвычайна цяжкое. На канфэрэнцыі работнікаў сцэны ў Дусэльдорфе зазначалася, што з дзесяці тысяч членаў гэтага саюзу—шэсьць тысяч ня маюць работы. Справаздача рэфармісцкага праўленьня саюзу гаворыць, што ўжо да 1930 году было зачынена пяць сталых тэатраў і пяць вандроўных, што мелі датацыю ад дзяржавы, а рэшта шэсьць тэатраў, што таксама карысталіся датацыяй, скарацілі сэзон на адну трэцюю частку. У 1930-31 годзе было ліквідавана яшчэ сем сталых тэатраў і некалькі вандроўных.

На сяганьня акторы Нямеччыны, больш як палова якіх зарабляе менш за трыста марак на месяц і то ня цэлы год, вытрымліваюць новы націск з боку саюзу антрапрэнэраў. Антрапрэнэры скасавалі тарыфную ўмову для ўсіх катэгорый, за выключэньнем тэатраў Рэўю. Паводле новай умовы акторам дазволена працаваць па сумяшчэньню (кіно, кабарэ, радыё) толькі па згодзе антрапрэнэра, апошні мае права адмовіць актору ў працы без вытлумачэньня прычыны. Апрача таго, антрапрэнэры маюць намер забараніць акторам выступаць па радыё і для грамафону ў тых ролях, на якія яны законтрактаваны. Новая ўмова значна пагоршвае ўмовы аплаты актораў у выпадку хваробы, цяжарнасьці і г. д. Актрысы, якія пажаніліся, звальняюцца.

Над нямецкімі акторамі павісла пагроза нявольніцкай залежнасьці ад антрэпрызы.

---

Адказны рэдактар *П. ГАЛАВАЧ*

Рэдкалегія: *Бацюшкоў, Броныштэйн, Галавач, Гальперына, Жылуновіч, Залатухін, Клімковіч, Колас, Крапіва, Лынькоў, Платун, Чорны.*

Выдавец: *Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.*

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 59, Дз. В. Б., „Полымя Рэвалюцыі".

## ЗЬМЕСТ








